# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3-4 ( 39-40 ) ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2007 г.



**Уладзімір Васько. Паэт, г. Ліда.**
**20 снежня 2007 г. прыняты ў**
**Саюз беларускіх пісьменнікаў.**



**Алесь Стадуб. Паэт, г. Ліда.**
**20 снежня 2007 г. прыняты ў**
**Саюз беларускіх пісьменнікаў.**



**Пятро Макарэвіч. Паэт, г. Ліда.**
**20 снежня 2007 г. прыняты ў**
**Саюз беларускіх пісьменнікаў.**

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3-4 ( 39-40 ) ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2007 г.

## У НУМАРЫ:



***На першай старонцы вокладкі здымак Лілеі Лапшыной.***





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1342 ад 27.03.2007 г.**

**ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ**
**Валеры Сліўкін,**
**старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук**

**РЭДАКТАР**
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н,
в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 350 асобнікаў**
**13,5 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 11**
**Часопіс падпісаны да друку 30. 12. 2007 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 1740 руб.**
**індывід. 6 мес.- 3480 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# *Бісерам і словам*

З Божае скрыні ў шчырым жаданні падзяліцца з намі, чытачамі, дастала Ганна Серэхан запаветную жменьку найлепшых сваіх карункаў-вобразаў, сплеценых з пяшчотных і ўзрушлівых пачуццяў, трапных назіранняў і праніклівых думак. Аправіла іх у арнамент гожых слоўцаў, дапоўніла бісернымі фантазіямі. І адчыніла дзівосны свет свайго ўяўлення, дзе кожная кветка і кропелька расы ззяюць хараством запаветнай таямніцы, дзе душа адгукаецца ў прыродзе, а прырода адкрывае сябе ў душы. Такое адчуванне, што Ганна вышывае свае думкі і пачуцці бісерам і словамі проста ў нябёсах, тчэ з травінак і красак, з хвойнай іглiцы і струменяў дажджу свае радочкі-пялёсткі, і ўсё ззяе хараством дасканаласці, напоўнена любоўю, чаруе зрок і будзіць уяўленне, распаляе фантазію. Калі чытаеш і бачыш зробленае Ганнай, не знікае здзіўленне — як жа можна вось гэтак убачыць і выказаць мудрую спрадвечнасць прыроды, якая адкрывае сваю кнігу для чытання зусім юнай дзяўчыне? Хіба што прырода ведае, каму адчыніць свае патаемныя сховы, хто будзе абярэжна і цнатліва ўбіраць у сябе яе хараство і дзяліцца ім з бліжнімі. Голас паэткі чысты і пранікнёны, задушэўна-лірычны і таямніча-ўзрушлівы. Культура верша гаворыць пра глыбокае ўвабранне ў свой унутраны свет багаццяў нашай класічнай паэтычнай спадчыны, і ў той жа час нічога другаснага, няўмела запазычанага не знойдзем у гэтай кніжцы - тут усё спявана са свайго голасу, узгадаванага Наднёманскім краем, дзе ў саміх лясах, рэках, азёрах чутны тоны паэзіі вялікага Адама Міцкевіча. Ганнін паэтычны голас адтуль, дзе празрыстая Дзітва коціць свае лагодныя воды каля старажытнай, авеянай легендамі Ліды. Гэта край былых шляхецкіх падворкаў, уквечаных бэзам і шыпшынай, дзе заўжды гартаваўся нязломны і вольны беларускі дух, моцны сваёй вераю ў карані, у заступніцтва продкаў, у бязмерную і заўсёдную Боскую апеку над тымі, хто не здраджвае гэтаму духу ні ў колішнім часе, ні сёння. Па вытанчанасці лірычнага пачуцця, праяўленага ў прыродаапісальнай лірыцы, вершы Ганны можна параўнаць з ранняй, віленскай, лірыкай Наталлі Арсенневай, а лёгкасць і майстэрства, з якімі Ганна валодае класічнымі формамі верша - санетам, рандо ды іншымі, - злучаюць яе талент з Максімам Багдановічам. Ды і відаць, што гэта менавіта Максім спрычыніўся да Ганнінага натхнення, бо ў кнізе ёсць



*Ганна Серэхан нарадзілася ў 1984 годзе на Шчучыншчыне, але ў хуткім часе сям'я пераехала ў Лідскі раён, вёску Ганчары. Тут дзяўчына правяла маленства, скончыла школу. Таму сваёй радзімай і лічыць менавіта гэтыя мясціны. Сёлета скончыла БДУ, дзе вучылася на філалагічным факультэце. Зараз Ганна працуе ў выдавецтве "Про Хрысто", якое ўзначальвае другая лідзянка - Хрысціна Лялько. Адначасова Ганна працягвае навучанне ў магістратуры.*




*Перша кніга вершаў Ганны Серэхан "Запаветная жменька". Выдавец І.П. Логвінаў. Менск, 2007.*



*Ганна Серэхан выступае ў Лідскім каледжы*

## ЗАПАВЕТНАЯ ЖМЕНЬКА

*По сплеценай са сцежак павуціне,*
*Заблытаўшыся ў безлічы дарог,*
*Шукаю неспазнаных далячыняў*
*І ў будучыню светлую парог.*

*Што ўзяць туды з сабой? Гарыць пытанне…*
*Што здолее насуперак дажджам*
*Хоць крышку зберагчы ў душы світанне*
*І даць адпор бандытам-павукам?*

*Вазьму святло ліхтарыка ў кішэню,*
*Таго, што ў вокны школы зазірнуў;*
*Чаромхі сціплы пошум, спеў у жменю*
*Пяшчотна, акуратненька згарну.*

*Як прыйдзе момант мне расправіць крылы,*
*З якіх я хоць пяро пакіну тут,*
*Надасць жывая жменька болей сілы,*
*Каб помніць у палёце мілы кут.*

*Яна мне нагадае пра былое,*
*Расказваючы казку мудрых дрэў,*
*Якія шапатліваю гульнёю*
*Ствараюць устрывожаны напеў.*

*Хутчэй жа раскрываю я далоні*
*Для памятнага дзён маіх зліцця -*
*З чаромхі і з дзяцінства лёгка сёння*
*Ліецца ў іх мелодыя жыцця.*

***Ганна Серэхан.***







***Работы бісерам Ганны Серэхан***

прысвечаны яму верш з сімвалічным заклікам-просьбай: "Максім, не давай нам "чужынцамі быць!".

Праз размаітае люстра твораў Ганны Серэхан глядзіцца сама прырода, чаруючыся рукатворнасцю красы, на стварэнне якой паклікаў нерукатворны парыў духу. Паэтка і мастачка запрашае нас у дзівосную краіну свайго ўнутранага свету, збудаванага з хараства і любові, а гасцінец туды яна выткала адмысловымі карункамі з бісеру і словаў. Дык хадзем, калі ласка!

***Ірына Багдановіч.***

# КРОНІКА ЛІДЫ

***(Здымкі Лілеі Лапшынай, Станіслава Судніка, Уладзіміра Хрышчановіча)***




У 2007 годзе ў Лідзе выйшла кніга лідскага краязнаўца і журналіста Лявона Лаўрэша "Генерал Кіпрыян Кандратовіч".





З 1 па 3 ліпеня ў Лідзе прайшла міжнародная выстава "Ліда-рэгіён - 2007".









Да 125-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы Лідская цэнтральная раённая бібліятэка імя Янкі Купалы выдала краязнаўчы бібліядайджэст "Янка Купала і Лідчына", у які ўвайшлі артыкул пра наведванне Я. Купалам Ліды, 14 вершаў, прысвечаных Я. Купалу 12-ці лідскіх аўтараў, лідская купалаўская бібліяграфія.





***Дырэктар магазіна № 1 "Дом гандлю" Аліпатава С.К.***

28 ліпеня лідскі магазін № 1 "Дом гандлю" павынікахконкурсу "Бронзавы Меркурый" прызнаны лепшым сярод прадпрыемтваў гандлю краіны ў намінацыі "Магазін змешанагапрофілю".






14 жніўня 2007 г. пасля капітальнага рамонту адкрылася АЗС па вуліцы Энгельса.

20 жніўня 2007 г. споўнілася 100 гадоў лідзянцы Марыі Антонаўне Стэцкай.





***А. Махала, А. Худык, С. Шапавалаў***

У жніўні 2007 года на Міжнароднай алімпіядзе па матэматыцы ва Ўетнаме Станіслаў Шапавалаў з Лідскай гімназіі (настаўнік Альфрэд Ладыка) заваяваў бронзавы медаль.

У жніўні 2007 года лідзянка Алена Махала стала бронзавым прызёрам на міжнароднай рэгаце ў Шатландыі (трэнер Людміла Скоблікава).





Летам 2007 года Вытворчасць водаправоднай і каналізацыйнай гаспадаркі Лідскай ЖКГ правяла дэкаратыўнае аздабленне дзвюх водакалонак (па вул Кірава і на вуглу вуліц Горкага і Камуністычнай).

16 верасня 2007 г. ў Лідзе адкрыўся новы Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі па вул. 8 сакавіка.





У верасні Лідская метэастанцыя прызнаная лепшай у краіне сярод 49 падобных арганізацый.



***Начальнік Лідскай метэастанцыя Святлана Лакцевіч***







26 верасня 2007 г. прайшла прэзентацыя кнігі Ігара Пешахонава "Краявіды Лідчыны".



*Анатоль Крупа*




У пачатку кастрычніка выйшла кніга Анатоля Крупы “Пакінуць след на зямлі”. У кнізе сабраны краязнаўчыя матэрыялы пра вёску Бердаўка Лідскага раёна.






***Дошку адкрываюць найстарэйшыя жыхары вёскі Бердаўкі***

6 кастрычніка на палацы Дамбавецкіх у Бердаўцы была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар апошняга ўладальніка маёнтка, магілёўскага генерал-губернатара, сенатара і беларускага краязнаўца Аляксандра Дамбавецкага. На дошцы надпіс: *“Маёнткам Бердаўка ў 1864-1914 валодаў Дамбавецкі Аляксандр Станіслававіч (1840-1914), беларускі краязнавец, дзяржаўны і грамадскі дзеяч.* Дошку зрабіў выпускнік Бердаўскай школы, вядомы лідскі мастак і скульптар Рычард Груша.

6 кастрычніка 2007 г. у Лідзе адкрыўся гандлёва-сэрвісны цэнтр “Кантынент”.



На “Дзяды” 2007 г. на лідскіх праваслаўных могілках па вул. Савецкай асвечаны новы помнік на магілах беларускіх нацыянальных дзеячаў часоў 2-й Сусветнай вайны Юльяна Саковіча, Леаніда Маракова, Валянціна Ваўчка.





***П. Свідэрскі, І.М. Васерын, Н. Рубцэвіч***

У канцы лістапада лідскія гімназісты Павел Свідэрскіі Надзея Рубцэвіч занялі 3-е мейсца на Ўсерасійскай алімпіядзе па інфарматыцы ў Санкт-Пецярбургу. Выкладчык Ігар Мікалаевіч Васерын.

22 снежня ў Лідзе адкрыты помнік воінам-інтэрнацыяналістам. Аўтар Юрый Бірукоў. Жураўлі работы лідскага скульптара Вадзіма Вераб’ёва.







# Трэцяя рэгіянальная выстава “Ліда-рэгіён-2007”

Дні 3 і 4 ліпеня 2007 года ўвойдуць у гісторыю Ліды як знакавыя. У якія часы да нас ехала такая маса дэлегацый з замежных дзяржаў дзеля дзелавога супрацоўніцтва, а то і проста пераняць досвед, павучыцца добрым справам? Зараз едуць, а аўтарытэт Ліды прызнаны далёка за межамі Рэспублікі Беларусь.

У гэтым можна было пераканацца на прыкладзе двух дзён, якія ўвабралі ў сябе масу цікавых сустрэч, знаёмстваў, наладжванне дзелавых адносін. Усё гэта адбывалася ў рамках трэцяй рэгіянальнай выставы “Ліда-рэгіён-2007”, а таксама міжнароднага эканамічнага форума “Устойлівае эканамічнае развіццё асобных тэрыторый: новыя магчымасці для бізнэсу і інвестыцый”.

**3 ліпеня** адкрылася выстава “Ліда-рэгіён-2007”. Летась у такім мерапрыемстве прынялі ўдзел 60 афіцыйных асоб. Сёлета толькі афіцыйных дэлегацый Ліда прыняла з 21 дзяржавы: Расіі, Казахстана, Літвы, ЗША, Кітая, Польшчы, Латвіі, Украіны, Азербайджана і іншых краін. А усяго паўдзельнічаць у выставе і міжнародным эканамічным форуме прыехала каля 200 афіцыйных і дзелавых прадстаўнікоў, таксама госці з раёна Паўночнае Ізмайлава горада Масквы, гарадоў-пабрацімаў Дзімітраўграда, Кашаліна, Екабпілса, а таксама з літоўскага Алітуса, азербайджанскага Геакчая, расійскага Нёмана (Калінінградскай вобласці), украінскага Камянец-Падольскага і іншых гарадоў.



У Ліды неблагія сумесныя напрацоўкі з замежнымі фундатарамі. У горадзе і раёне маецца каля 60 прадпрыемстваў з доляй замежнага капіталу, высокі знешнегандлёвы абарот.

Цікавасць да прадукцыі лідзян падчас выставы вялікая. Запатрабаваныя глебаапрацоўныя агрэгаты, сеялкі, тэхніка, фарбы. З цікавасцю шматлікія госці прыглядаліся на выставе да новага абутку, малочнай прадукцыі, вырабаў з дрэва і бетону. А два прадпрыемствы: ААТ “Лідскі малочна-кансервавы камбінат” і



ААТ “Лідскі завод электравырабаў” падпісалі вельмі выгадныя кантракты. Завод электравырабаў паставіць у г. Алітус свяцілень на агульную суму 100 тысяч еўра. Вялікая партыя сухога малака пайдзе ў Санкт-Пецярбург і Польшчу.

Асоба ўрачыста праходзіла падпісанне дамоў аб супрацоўніцтве паміж гарадамі Нёман Калінінградскай вобласці, украінскім Камянец-Падольскім і Лідай. Кіраўнікі дэлегацый гэтых гарадоў, а таксама старшыня Лідскага райвыканкаму Андрэй Худык адзначылі, што дадзеныя дамоўленасці аб супрацоўніцтве дазваляюць не толькі ўзаемавыгадна гандляваць, але і пашыраць культурныя сувязі паміж расійскім, украінскім і беларускім народамі. А кіраўнік Нёманскай акругі



Аляксандр Мельнікаў вобразна сказаў: праз тры дзяржавы цячэ вялікая рака Нёман, яе берагі павінны гуртаваць народы, і добры ўсім ім прыклад падае Лідчына, цэментуючы вакол сябе прыхільнікаў узаемавыгаднага супрацоўніцтва.

**4 ліпеня** ў Лідзе прайшоў міжнародны эканамічны форум “Устойлівае эканамічнае развіццё асобных тэрыторый: новыя магчымасці для бізнэсу і











інвестыцый”. Яго арганізатарамі сталі Гарадзенскі абласны выканаўчы камітэт, Лідскі раённы выканаўчы камітэт, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Менскі сталічны саюз прадпрымальнікаў і працадаўцаў, РУП “Нацыянальны цэнтр маркетынгу і кан’юнктуры коштаў”, рэдакцыя газеты “Рэспубліка”.

Удзел у мерапрыемстве, аналагаў якому няма ў Беларусі, прынялі прадстаўнікі 21 дзяржавы. У рамках форума прайшла пленарная сесія, адбылося паседжанне інфармацыйных працоўных груп. Акрамя агляду прадукцыі, якая дэманструецца на выставе “Ліда-рэгіён-2007”, удзельнікі форуму пабывалі на шэрагу прадпрыемстваў.

Якая асноўная ідэя форума? Яна наступная. Раз у год у Ліду прыязджаюць прадстаўнікі рэгіёнаў шматлікіх замежных дзяржаў: Расіі, Украіны, Нямеччыны, Славакіі, Польшчы, Літвы і г. д. Прыязджаюць людзі, зацікаўленыя ў пасоўванні сваіх інвестыцый, якія маюць жаданне адкрыць вытворчасць на размешчаных у Лідзе плошчах. Вольныя зносіны, вывучэнне магчымасцяў рэгіёна, прысутнасць на форуме прадстаўнікоў выканаўчай улады самога высокага ўзроўню, навукоўцаў, юрыстаў, бізнэсмэнаў дазваляе не толькі падымаць праблемы супрацоўніцтва, але і аператыўна іх вырашаць.

Відавочны поспех прайшоўшага 4 ліпеня ў Лідзе міжнароднага эканамічнага форума ў тым, што на ім выразна агаворваліся шматлікія важныя пытанні дзелавога супрацоўніцтва і прыводзіліся асобныя прыклады, як не трэба паступаць.

Шмат пра што гаворыць спіс аўтарытэтных асоб, хто 3 і 4 ліпеня пабываў у Лідзе, удзельнічаў у працы выставы і міжнароднага форума, дзяліўся сваімі меркаваннямі. Гэта Пётр Віцязь, першы намеснік старшыні прэзідыюма Нацыянальнай акадэміі навук, Ёзэф Мравік, дарадца амбасады Славакіі, Уладзімір






Аўгустынскі, кіраўнік прадстаўніцтва нямецкай эканомікі ў Рэспубліцы Беларусь, Гузін Байар, гандлёвы дарадца амбасады Турцыі ў нашай краіне, Уладзімір Адашкевіч, намеснік міністра эканомікі, Мікалай Кавалёў, намеснік старшыні Гарадзенскага аблвыканкама, кіраўнікі шматлікіх замежных кампаній. Па іх меркаванні, горад Ліда стаў пляцоўкай не толькі для абмену дзелавой інфармацыяй і напрацоўкі адносін, алеі заключэння выгодных дамоў. У дні працы выставы і міжнароднага форума сур'ёзныя кантракты, акрамя



малочна-кансервававага завода і завода электравырабаў, падпісаў завод "Оптык". Вызначылі гарызонты супрацоўніцтва з замежнымі суседзямі завод "Нёман" у Лідзе, ААТ "Лакафарба", шэраг індывідуальных прадпрымальнікаў. Намеснік старшыні райвыканкама Іван Клімовіч звярнуўся да замежных прадпрымальнікаў з цэлым пакетам дзелавых прапаноў у рамках супрацоўніцтва з Лідскім рэгіёнам. Як пазней заўважыў амбасадар Туркменістана Ілля Вельджанаў, прапановы вельмі цікавыя, частка з іх можа быць рэалізаваная і з удзелам дзелавых колаў Туркменістана.

Вельмі карыснымі на форуме былі зносіны яго ўдзельнікаў з аташэ па пытаннях эканомікі амбасады Нямеччыны ў Рэспубліцы Беларусь Гансам Свенам. Спадар Свен быў адкрыты, нават крытычны. Дыпламат заўважыў, што ў нас маюцца дасведчаныя кадры, вольныя плошчы, нядрэнныя магістралі. Чаго бракуе - дык гэтае ўменне пераконваць патэнцыйнага партнёра. Многія такія сустрэчы праходзяць прыхапкам, без дастатковага прадстаўлення эканамічнага і юрыдычнага бакоў справы. А бывае і так. Быццам бы дамовіліся, а далей беларускі бок заяўляе: мы вас знайшлі, далей дакументы афармляйце самі. І... усё. Пахабная чахарда




паравалок, узгадненняў. Здараецца, што ад трапіўшага ў палон бюракратыі заходняга бізнэсмэна пачынаюць патрабаваць якіх-небудзь паслуг. Так было, напрыклад, шэсць гадоў назад, калі меркавалася ў Менску адчыніць на ўзроўні сталіцы міжнародны эканамічны форум. Але нічога не выйшла, добрую ідэю сталічныя горадакіраўнікі "зарэзалі".

Праўда, час усё расставіў па сваіх месцах: не выйшла ў Менску - усё вельмі добра атрымалася ў Лідве.

Ёзаф Мравік, дарадца амбасады Славацкай Рэспублікі, начальнік гандлёва-эканамічнага аддзела






сказаў, што прыемна бачыць беларускі народ гатовым да супрацоўніцтва. Галоўны вынік выставы - гэта вольныя зносіны, якія дапамагаюць адчыніць адзін аднаму дзверы для супрацоўніцтва…

Іван Арбузаў, прэзідэнт кампаніі "Sibir Optiks INC" (ЗША) адзначыў, што хаця Беларусь і Злучаныя Штаты Амерыкі вельмі розныя краіны ў плане і палітычным, і эканамічным, але гэта не значыць, што мы не можам знайсці агульную мову. Ужо каля дзесяці гадоў, як кампанія займаецца ў Лідзе бізнэсам, маючы прадпрыемства "Белтэкс-Оптык", і думае рабіць гэты бізнэс тут яшчэ вельмі доўга. Што датычыцца мясцовых людзей, яны вельмі добра падрыхтаваныя, перспектыўныя. Яны вельмі творчыя людзі. Ім трэба толькі дапамагчы зарыентавацца ў рынку. У нас ёсць прадпрыемствы і ў іншых краінах, але 70 адсоткаў усёй прадукцыі выпускаецца менавіта ў Лідзе і рэалізуецца пад гандлёвай маркай "Юкон" ва ўсіх дзяржавах свету. Гэта прыборы начнога бачання, біноклі, прыцэлы. Пажаданне патэнцыйным фундатарам такое: пераступіце цераз праблемы і адчыняйце тут сваю справу. У гэтым горадзе вас зразумеюць і падтрымаюць…

Уладзімір Аўгустынскі, кіраўнік прадстаўніцтва нямецкай эканомікі ў Рэспубліцы Беларусь заўважыў, што ў гэтыя дні ў Лідзе адбылося сапраўднае эканамічнае свята. Трэба сказаць, што нямецкія вытворцы прадстаўлены ў Лідзе сумеснай вытворчасцю сельгастэхнікі, ёсць напрацоўкі па светлатэхніцы, і галоўнае - вялікі патэнцыял. Прыцягвае кваліфікаваная працоўная сіла, выгоднае геаграфічнае становішча, наяўнасць мытнага саюза з Расійскай Федэрацыяй, развіты навукова-даследчы патэнцыял. Гэта досыць шырокае поле для будучага супрацоўніцтва…

Валерыя Фадзеева, заслужанага юрыста Рэспублікі Беларусь, міжнароднага дарадцу Міжнароднай фінансавай карпарацыі ўразіў размах праводзімых на раённым узроўні мерапрыемстваў. Пры такім падыходзе да справы бізнэс у горадзе Лідзе будзе развівацца вельмі пазітыўна. Праўда, для прыцягнення інвестыцый неабходна ўдасканальваць заканадаўства, спрасціць адміністрацыйныя працэдуры і працэс рэгістрацыі, зменшыць колькасць праверак і кантроль. Гэта, вядома, справа дзяржаўных службоўцаў, але нават на мясцовым







узроўні можна прымаць важныя рашэнні для прыцягнення фундатараў. А галоўнае - іх трэба любіць, дапамагаць наладзіць сваю справу на нашай тэрыторыі, і ўсё абавязкова атрымаецца...

Пётр Віцязь, першы намеснік старшыні прэзідыюма Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь прызнаў, што форум арганізаваны на высокім узроўні. Досыць паглядзець спіс яго ўдзельнікаў - гэта прадстаўнікі розных краін, адмыслоўцы-маркетолагі, прафесары, навукоўцы. Усё правільна: навука павінна быць асноўнай вытворчай сілай. Вельмі прыемна, што кіраўнікі лідскіх прадпрыемстваў гэта разумеюць. Практычна ўсё супрацоўнічаюць па сваіх галінах з рознымі інстытутамі Нацыянальнай акадэміі навук, усё выдатна ведаюць, чаго жадаюць, успрымальныя да інавацыйных працэсаў. А працэсы гэтыя сёння прасоўваюцца ў вытворчасць вельмі хутка з дапамогай новых тэхналогій. Калі раней ад распрацоўкі да ўкаранення праходзілі гады, то зараз - месяцы... Мы ўжо супрацоўнічаем з шэрагам калектываў Лідчыны, а ў перспектыве плануецца цэлы пілотны праект з прыцягненнем шматлікіх навукова-даследчых інстытутаў.

Арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні выставы "Ліда-рэгіён-2007" заснаваў шэраг



намінацый. У намінацыі "За актыўную працу па засваенні новых відаў прадукцыі" былі названыя пераможцамі: ААТ "Лідаграпраммаш" (дырэктар У. Круглы), ААТ "Лідсельмаш" (дырэктар Ю. Вашкевіч), ВРУП "Доследны завод "Нёман" (дырэктар С. Руткоўскі) і ДП "Мінойтаўскі рамонтны завод" (дырэктар А. Дзякевіч).

У намінацыі "За арыгінальную арганізацыю рэкламы ўласнай прадукцыі" пераможцамі сталі: ААТ "Лідахлебапрадукт" (в.а. дырэктара М. Гарадко), ААТ "Лідскае піва" (генеральны дырэктар У. Юфа), хлебазавод (дырэктар І. Чарняк).

У намінацыі "За лепшую дызайнерскую мадэль пры афармленні выставачных экспанатаў" прызнаныя пераможцамі: ААТ "Гандлёвы дом "Лідсельмаш" (дырэктар Г. Скачкоўскі), ЗАТ "Каскад" (дырэктар І. Ус), ААТ "Шклозавод "Нёман" (дырэктар І. Бацян). Акрамя таго, шэраг прадпрыемстваў, арганізацый, індывідуальных прадпрымальнікаў за актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні прамысловай выставы "Ліда-рэгіён-2007" быў узнагароджаны дыпломамі і памятнымі знакамі.

Па агульным меркаванні гасцей, лідзяне годна арганізавалі выставу прамысловай прадукцыі і правядзенне міжнароднага эканамічнага форума. Маецца шэраг складнікаў гэтага поспеху. Вялікая заслуга калектываў, якія ўдзельнічалі ў найважным мерапрыемстве. Практычна ўсе суб'екты гаспадарання шырока



і ўмела прадставілі сваю прадукцыю, прыцягнулі да яе ўвагу прадстаўнікоў шматлікіх замежных краін. Лідзяне яшчэ раз давялі: яны ўмеюць нетолькі добра працаваць, але і на высокім узроўні праводзіць мерапрыемствы, якія спрыяюць актыўнаму прасоўванню рэгіёна на міжнародны рынак.

*Скампанавана па матэрыялах лідскага друку.*

***Здымкі Лілеі Лапшынай.***

# Наперадзе “Ліда-рэгіён-2008”

Лідскі раённы выканаўчы камітэт Гарадзенскай вобласці, Рэспублікі Беларусь, ГА “Мінскі сталічны саюз прадпрымальнікаў і працадаўцаў” і Саюз юрыдычных асоб “Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальніцтва”, Прадстаўніцтва нямецкай эканомікі ў Рэспубліцы Беларусь ў рамках традыцыйных “Дзён эканомікі” Лідскага рэгіёна праводзяць ў г. Лідзе (Беларусь, Гарадзенская вобл.) 27-28 чэрвеня 2008 года Другі Міжнародны эканамічны форум “Устойлівае эканамічнае развіццё асобных тэрыторый: глабалізацыя і субкантрактацыя” і IV Рэгіянальную прэзентацыю-выставу “Ліда-рэгіён-2008”. На выставе будзе прэзентаваны ўвесь прамысловы комплекс Лідскага раёна, а таксама прапанаваны інвестыцыйныя праекты, у якіх зацікаўлены раён.

Мерапрыемствы праводзяцца пры садзейнічанні Міністэрствы замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканскага прадпрыемства “Нацыянальны цэнтр маркетынгу”, рэдакцыі газеты “Рэспубліка”.

## *Буйнейшыя прамысловыя прадпрыемствы Лідскага раёна*

1. **ААТ “Лідаграпраммаш”** (1100 чалавек).
Дырэктар - КРУГЛЫ Віктар Віктаравіч.
231300, г. Ліда, вул. Ігнатава, 52.
Выпускаецца звыш 25 найменняў і тыпапамераў сельскагаспадарчых машын, многія з якіх не маюць аналагаў у краінах СНД. На прадпрыемстве дзейнічае сістэма якасці СТБ ІСО 9001-2001, а таксама выконваюцца патрабаванні стандартаў Нямеччыны (D1N).
Асноўныя віды прадукцыі:
камбайн Ліда-1300;
сеялка СЗТМ-3;
сеялка СКС-2;
сеялка СПУ;
сеялка ўгнаенняў СУ-12;
сеялка СТВ;
бульбакапалка СП-2;
пасяўны комплекс АПП-6А;
прычэп г/п 14 тн.




***Буклет, які рэпрэзентуе эканоміку Лідскага раёна. Версія 6. 2007 г.***

2. **ААТ “Лідсельмаш”** (800 чалавек).
Генеральны дырэктар - ВАШКЕВІЧ Юры Эдвардавіч.
231300, г. Ліда, вул. Савецкая, 70.
Выпускаецца звыш 45 найменняў сельгасмашын і камунальнай тэхнікі: глебаапрацоўныя машыны; пасадачна-пасяўныя машыны; уборачныя машыны; лесатэхнічныя машыны; камунальная тэхніка.

3. **УПВП “Інструментальнік”** (65 чалавек).
Дырэктар - ЛІПСКІ Уладзімір Станіслававіч.
231300, г. Ліда, вул. Савецкая, 70.
Прапаноўвае:
тэхналагічнае абсталяванне: штампы, формы літныя, нестандартнае абсталяванне;
механічную апрацоўку: фрэзерныя і такарныя работы;
дзверы ўваходныя, сталёвыя ў жылыя і грамадскія будынкі і памяшканні;
дэкаратыўныя мастацкія вырабы: каваная мэбля, зэдлі (паркавыя, садовыя, дачныя), а таксама краты, агароджы, вароты, платы, казыркі;
мангалы, шампуры.

4. **ВРУП “Доследны завод “Нёман”** (675 чалавек).
Дырэктар - РУТКОЎСКІ Станіслаў Станіслававіч.
231300. г. Ліда, вул. маршала Жукава, 3.
Ажыццяўляе выпуск аўтобусаў:
аўтобус Нёман-5201 (вялікі гарадскі);
аўтобус Нёман-52012 (прыгарадны);
аўтобус Нёман-52012 (прыгарадны павышанай камфартабельнасці з устаноўкай мяккіх сядзенняў на подыюмах)

5. **ДП “Мінойтаўскі рамонтны завод”** (300 чалавек).
Дырэктар - ДЗЯКЕВІЧ Антон Паўлавіч.
231311, Лідскі р-н, в. Мінойты.

Выпускае:

паўнавясныя адваротныя 4-х, 5-і, 7-і і 8-і карпусныя плугі з рабочымі органамі і рысорнай аховай фірмы "Квернеланд" ППО-4-40, ППО-5-40, ППО-7-40К, ППО-8-40К;

агрэгат камбінаваны шыроказахопны АКШ-6-рыхленне, выраўноўванне і прыкачванне глебы, рабочая стойка - італьянскай фірмы "Bianchi";

агрэгат глебаапрацоўчы пасяўны АПП-4-выконвае за адзін праход рыхленне, выраўноўванне, прыкачванне глебы і непасрэдна саму сяўбу.

6. **ВТАА "Тэхмаш"** (220 чалавек).

Дырэктар - ЦЫРКУНОЎ Пётр Іванавіч.

231300, г. Ліда, зав. Фурманава, 16.

Вытворчасць і рэалізацыя прычэпнай і навясной сельскагаспадарчай тэхнікі і запасных частак да яе.

**7. ЗАТ "Аграпрамсельмаш".**

Нам. дырэктары па камерцыйных пытаннях - ДУБЯГА Станіслаў Аляксандравіч.

231300, г. Ліда, вул. Качана, 19.

Вытворчасць і рэалізацыя бульбакапалак і запасных частак да сельскагаспадарчай тэхнікі.

8. **ААТ "Лідскі ліцейна-механічны завод"** (420 чалавек).

Дырэктар - ШКЕТ Сяргей Мікалаевіч.

231300 г. Ліда, вул. Качана, 4.

Выраб адлівак і нарыхтовак гільз блока цыліндраў і ліцця з шэрага і высокатрывалага чыгуну.

9. **РУП "Завод "ОПТЫК"** (1100 чалавек).

Дырэктар - ГАЛАВАЧ Тадэвуш Юзафавіч.

231300, г. Ліда, вул. Машэрава, 10.

Вытворчасць акулярных лінз, аптычнага шкла, аптычных дэталяў да прыбораў рознага прызначэння, валаконнай оптыкі.

10. **ЗПВУП "Белтэкс-Оптык"** (620 чалавек).

Дырэктар - РАБІНЧУК Валерый Сяргеевіч.

231300, г. Ліда, вул. Машэрава, 10.

Вырабляе аптычныя і электронна-аптычныя прыборы цывільнага прызначэння:

бінoклі;

глядзельныя трубы;

бінoклі, монакуляры і акуляры начнога бачання;

паляўнічыя прыцэлы начнога бачання;

аксэсуары.

11. **ААТ "Лідскі завод электравырабаў"** (900 чалавек).

Дырэктар - ІВАНЬКО Леанід Уладзіміравіч.

231300, г. Ліда, вул. Фабрычная, 4.

Прапаноўвае больш за 60 найменняў вырабаў:

вулічныя антывандальныя для асвятлення вуліц, пляцаў, дарог і паркаў;

энергазахавальныя люмінесцэнтныя;

з электроннымі або электрамагнітнымі пуска-рэгулявальнымі апаратамі для грамадскіх і вытворчых памяшканняў;

падвясную светлавую лінію з рэгуляваннем светлавога струменя для вучэбных устаноў;

для асвятлення вучэбнай дошкі;

з ахоўнай рашоткай для ўсталёўкі ў спартовых залах;

аварыйнага асвятлення;

свяцільні тыпу ЖВП для асвятлення прамысловых і вытворчых памяшканняў.

12. **ЗАТ "Каскад"** (100 чалавек).

Дырэктар -УС Іван Іванавіч.

231300, г. Ліда, вул. Кірава, 27.

Выпуск светлатэхнікі:

праектаванне і выраб буйнагабарытных жырандоляў і святлотэхнічных кампазіцый;

абсталяванне святлотэхнічнымі вырабамі адміністрацыйных будынкаў, аб'ектаў сацкультбыту, культавых будынкаў;

жырандолі і бра індывідуальнага праектавання;

пастаўкаў рэгіёны блізкага і далёкага замежжа;

мантаж і шэф-мантаж.

Выпуск вырабаў для добраўпарадкавання:

урны вулічныя;

кантэйнеры для бытавых адыходаў, кантэйнеры для паасобнага збору адыходаў;

апоры вулічнага асвятлення;

лавы паркавыя.

13. **ААТ "Лакафарба"** (1700 чалавек).

Дырэктар - СІДАРАЎ Іван Пятровіч

231300, г. Ліда, вул. Ігнатава, 71.

Асноўныя віды прадукцыі:

лакафарбавыя матэрыялы для будаўніцтва: фасадныя фарбы, эмалі і грунты па метале, дрэву, бетону; водна-дысперсійныя фарбы; шырокі асартымент лакаў; дрэваахоўны састаў;

лакафарбавыя матэрыялы для машына-, авія-, прыборабудавання;

лакафарбавыя матэрыялы адмысловага прызначэння: эмалі, лакі, грунты для аховы абсталявання, трубаправодаў, бетонных і жалезабетонных канструкцый;

фталевы ангідрыд;

дысперсія ПВА;

паўфабрыкатны лак ПФ-060;

фарба для разметкі дарог "Штоль-рефлекс Д-1163".

14. **СЗАТ "Ліпласт-СПб"** (400 чалавек).

Дырэктар - РЫШКЕВІЧ Ігар Міхайлавіч.

231300, г. Ліда, вул. Качана, 54 Б.

Сумеснае беларуска-расійскае прадпрыемства, выпускае вырабы з шклопластыку. Асноўныя віды прадукцыі:

дэталі ўнутранага і вонкавага аздаблення трактароў МТЗ, аўтамабіляў МАЗ, пагрузчыкаў "Амкадор", аўтобусаў, тралейбусаў;

дэталі ўнутранага і вонкавага аздаблення міжабласных і прыгарадных чыгуначных вагонаў;

дзіцячыя пляцоўкі, урны, скрыні, зэдлі паркавыя, прыпынкавы комплекс;

басейны і водныя горкі, лодкі;

цокалі для апор вулічнага асвятлення;

конусы раздзяляльныя дарожныя;

паўкабіны таксафонаў (2-ух відаў: вонкавыя і ўнутраныя - інтэр'ерныя);

крэслы для трыбун стадыёнаў і іншых відовішчных будынкаў, пачакальняў.

15. **СТАА "Бел-Пласт Інтэрнэшнл".**

Генеральны дырэктар - ВЯЛІКІ Анатоль Леанідавіч.

231300, г. Ліда -11, а/я 36.

СТАА "Бел-Пласт Інтэрнэшнл" уваходзіць у групу "Rosinski i S-ka" створаную ў 1999 годзе, якая з'яўляецца адным з найбуйных у Еўропе вытворцаў паліэтыленавай паліпрапіленавай тары для бытавой хіміі, касметыкі і харчовай прамысловасці. Прадпрыемства выпускае больш за 100 найменняў пластмасавай упакоўкі для бытавой хіміі, клеяў, касметыкі і харчовых прадуктаў. Прадукцыя прадпрыемства рэалізуецца як на тэрыторыі краін СНД, так і ў краінах блізкага і далёкага замежжа. СТАА "Бел-Пласт Інтэрнэшнл" выпускае ўпакоўку для такіх вядомых гандлёвых марак, як: "Vanish", "Vanish OXI", "Dosia", "Cillit Bang", "Fratty", "Kleo", "Aqualon", "Volton", "Solis", "Kondor", "Iris", "Bel Kosmex", "Містэр Х", "Вясёлка", "Deny", "Viksan", "Памакс", "Залатая кропля", "Лана", "БРК", "Бархім", "Барбытхім", "Санфор", "Жэмчуг" і інш.

16. **ААТ "Шклозавод "Нёман"** (3800 чалавек).

Дырэктар - БАЦЯН Ігар Міхайлавіч.

231306, Лідскі раён, г. Бярозаўка, вул. Карзюка, 8.

Завод выпрабляе шырокі асартымент прадукцыі з каляровага і бясколернага шкла, крышталю:

посуд і дэкаратыўныя вырабы з натрый-кальцыйсілікатнага шкла і крышталю;

рассейвальнікі для свяцілень;

падсвечнікі для неэлектрычных свечак;

флаконы шкляныя.

17. **ЗПВУП "ШКЛОМАДЭРН"**

Дырэктар - ІВУЦЬ Фрэд Іванавіч.

231293, Лідскі раён, в. Даліна.

Віды дзейнасці:

апрацоўка ліставога шкла і люстэркаў па замовах прадпрыемстваў мэблевай галіны;

выраб камплектаў шкловырабаў для офіснай і бытавой мэблі;

вытворчасць металашкляной мэблі культурна-бытавога прызначэння.

18. **СЗАТ "Белеўратара"** (130 чалавек)

Дырэктар - ГОРБАЧ Алег Васільевіч.

231300, г. Ліда, вул. Машэрава, 10.

Спецыялізуецца на вытворчасці бутэлек для лікёра-гарэлачных вырабаў з абязколеранага шкла. За дзесяць гадоў вытворчасці асвоена 23 найменні бутэлек. З іх 12 відаў - бутэлькі эксклюзіўныя, якія вырабляюцца для пэўнага спажыўца. Аб'ем выпусканай прадукцыі 45 млн. штук у год (умоўна 0,5-літровых бутэлек).

19. **ААТ "Лідскае піва"** (800 чалавек).

Генеральны дырэктар - ЮФА Уладзімір Якаўлевіч.

231300, г. Ліда, вул. Міцкевіча, 32.

Прадпрыемства вырабляе піва ў шкляной бутэльцы 0,5 л., у ПЭТ бутэльках 0,75 і 1,5 л., у кегах. Акрамя асноўнага прадукта - піва - завод вырабляе таксама напоі безалкагольныя на цукры і фруктозе, сокаўтрымальныя напоі з 10%-ым утрыманнем натуральнага соку, квасы на квасным сусле, ваду пітную і слабаалкагольныя напоі. ААТ "Лідскае піва", адзін з найстарэйшых піўзаводаў рэспублікі, адзначылаў 2006 годзе свой 130-ты юбілей.

20. **ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат"** (480 чалавек).

Дырэктар - БЛАГАВЕШЧЫК Уладзімір Іванавіч.

231300, г. Ліда, вул. Энгельса, 116.

Вырабляе: сухое суцэльнае малако 25% тлустасці, сухое абястлушчанае малако 1,5% тлустасці, сухія вяршкі 42% тлустасці, тварог замарожаны, натуральнамалочную прадукцыі, заменнікі суцэльнага малака для корму цялятаў і парасятаў, маянэз, масла каровінае вагавое і фасаванае, згушчанае абястлушчанае малако.

21. **АУП "Лідскі мясакамбінат"** (460 чалавек).

Дырэктар - ЯДЖАК Павел Міхайлавіч.

У цяперашні час на прадпрыемстве вырабляецца больш за 200 найменняў прадукцыі харчовага і тэхнічнага прызначэння:

мяса і мясныя субпрадукты;

каўбасныя вырабы (каўбасы вараныя, паўвэнджаныя, варана-вэнджаныя, ліверныя, вэнджаніна);

мясныя паўфабрыкаты;

харчовыя топленыя тлушчы (ялавічны, свіны);

тэхнічны і кармавы тлушч;

сухія жывёльныя кармы;

гарбарная сыравіна;

кішачная сыравіна і інш.

22. **ААТ "Лідахарчканцэнтраты"** (320 чалавек)

Генеральны дырэктар - ПЯКАРСКІ Мікалай Мікалаевіч.

231300, г. Ліда, вул. Тавлая, 11.

Вытворчасць харчовых канцэнтратаў:

кісялі і жэле;

супы і кашы;

заправы і прыправы;

віны пладовыя і вінаматэрыялы;

сухія сняданкі і крупяныя камякі;

паслугі па вытворчасці і расфасоўцы сыпкіх прадуктаў.

Сярэднемесячны аб'ём вытворчасці першых і другіх абедзенных страў складае 120 тн., салодкіх страў - 70 тн, запраў і прыправаў - 15 тн, сухіх сняданкаў - 15 тн, крупяных камякоў - 80 тн, віна пладовага - 20 тыс. дол.

23. РУВП "Гроднахлебпрам". Філіял **"Лідскі хлебазавод"** (260 чалавек).

Дырэктар - ЧАРНЯК Іосіф Станіслававіч.

231300, г. Ліда, вул. Шубіна, 14.

Вытворчасць хлебабулачных і кандытарскіх вырабаў.

24. **ААТ "Лідахлебапрадукт"** (730 чалавек).

Генеральны дырэктар - ЯСЬКОЎ Валянцін Іванавіч.

231300, г. Ліда, вул. Булата, 1.

Вырабляецца:

мука пшанічная пякарная вышэйшага, першага і другога гатункаў, крупы манная, камякі пшанічныя зародкавыя, вотрубы пшанічныя пякарныя, крупы пшанічныя вышэйшага гатунку;

мука пшанічная пякарная, узбагачаная фітададабаўкамі;

харчовыя канцэнтраты: "Піца звычайная", "Піца дражджавая", "Блінцы. Рэцэптура 1, 2, 3";

камбікармы для адкорму свіней, курэй, буйнарагатай жывёлы, прэміксы, БВМД, кормасумесь, вотрубы пшанічныя.

25. **СТАА "Энарг"**.

Намеснік дырэктара - ЛІТВІНЕНКА Юрый Аляксеевіч.

231300, г. Ліда, вул. Неўскага.

Вытворчасць марожанага.

26. **ААТ "Лідская абутковая фабрыка"** (1100 чалавек).

Дырэктар - ЧЫЖЫК Уладзімір Уладзіміравіч.

231300, г. Ліда, вул. Фабрычная, 6.

Вытворчасць хатняга, прагулачнага, спартовага абутку з верхам з тэкстыльных і камбінаваных матэрыялаў для ўсіх полаўзроставых груп, выпуск абутку для працаўнікоў лёгкай і тэкстыльнай прамысловасці, абутку з ільняной тканіны "Green Line", праца на ўмовах давальніцкай сыравіны.

27. **ААТ "Лідлён"** (150 чалавек).

Дырэктар - ГАРАГЛЯД Мікалай Мікалаевіч.

231304, Лідскі раён, в. Даржы.

Робіць першасную перапрацоўку льнотрасты, вырошчвае лён на арандаваных землях сіламі механізаванага атрада з мэтай атрымання льносыравіны і льносем'я.

28. **ГАУП "Ветсанутылызавод"** (40 чалавек).

Дырэктар - ШАГУН Часлаў Янавіч.

231304, Лідскі раён, в. Даржы.

Займаецца зборам і ўтылізацыяй трупаў, жывёл, канфіскатаў і адходаў мясаперапрацоўчых цэхаў з мэтай атрымання абагачальніка кармоў бялкова-тлушчавага (мука ОКБЖ), а таксама ветэрынарна-санітарнага дабрабыту і парадку ў абслугоўванай зоне.

29. **КУП "Лідская мэблевая фабрыка"** (300 чалавек).

Дырэктар - КУРМАН Іван Іванавіч.

Асноўныя віды прадукцыі:

наборы карпуснай мэблі;

наборы мэблі для спальні;

наборы офіснай мэблі;

наборы мэблі для пярэдняга пакоя;

сталы пісьмовыя, кампутарныя, часопісныя;

камоды і тумбы для бялізны, тумбы;

ложкі 1,5 спальныя і 2-х спальныя;

мэбля з масіву драўніны: праграма "Вікінг"; праграма "Правінцыя".

30. **ААТ "Лідабудматэрыялы"** (400 чалавек).

Дырэктар - БІРЫЧ Сяргей Уладзіміравіч.

231300, г. Ліда, вул. Прытыцкага, 22.

Вытворчасць сталярных вырабаў з драўніны (вокны, дзверы - высокая ступень ізаляцыі), паркет.

31. **ДП "Лідабудканструкцыя"**, (250 чалавек).

Дырэктар - БУТРЫМ Іван Альфрэдавіч.

Прадпрыемства вырабляе:

шырокі спектр жалезабетонных вырабаў для жыллёвага і прамысловага будаўніцтва: пліты перакрыцця, блокі бетонавыя для сценаў скляпоў, пліты дарожныя, панэлі плота, вырабы для круглых студняў, пліты істужачных падмуркаў і інш.

бетонавыя вібрапрасованыя вырабы: плітку тратуарную, бардзюрны камень, блокі сценавыя бетонавыя і керамзітабетонавыя.

Новыя віды вырабаў:

поўны камплект жалезабетонных канструкцый для будаўніцтва жывёлагадоўчых комплексаў;

дэкаратыўныя панэлі агародж;

блокі сценавыя колатыя;

плітка тратуарная "Крэта".

32. **Рэспубліканскае ўнітарнае вытворчае прадпрыемства "Завод Ізатрон"** (100 чалавек).

Дырэктар - ДУБІНЧЫК Зміцер Аляксандравіч. 231300, г. Ліда, вул. Качана, 19.

Фармацэўтычнае прадпрыемства.

Асноўныя віды прадукцыі:

раствор перакісу вадароду 3% у расфасоўцы;

раствор з масавай доляю вадароду пераксіду 6%;

раствор хлоргексідыну біглюканату 0,05%;

магнію сульфат, стрэптацыд парашок;

кветкі рамонка, трава сардэчніка:

спецвопратка (10 відаў мадэляў).

33. **ЛРСУП "Мажэйкава".**

Дырэктар - РАХАТКА Казімір Уладзіслававіч.

231325, Лідскі раён, в. Мажэйкава.

Асноўнымі вытворчымі кірункамі прадпрыемства з'яўляюцца: вытворчасць збожжа і гародніны; вытворчасць мясной і малочнай прадукцыі; вытворчасць спірту і лікёра-гарэлачнай прадукцыі.

Працуе завод па вытворчасці спірту з гадавой прадукцыйнасцю 100 тыс. дэкалітраў. У чэрвені 1996 года ўведзены ў дзеянне лікёра-гарэлачны завод. У цяперашні час прадпрыемства вырабляе дзесяць відаў

гарэлак: “Панскі дом”, Лідская арыгінальная”, “Беларуская новая”, “Дамская”, “Мірская крышталёвая”, “Смак перамогі”, “Мажэйкаўская”, “Мажэйкаўская чорная парэчка”, “Мажэйкаўская цытрына”, “Джын Кардынал”, тры віды лікёраў: “Шакаладна-арэхавы”, “Шэры-брэндзі”, “Кава на каньяку”, два віды вінаградных вінаў: “Лідзія” і “Земфіра”, брэндзі “Святочны”.

Высокая якасць прадукцыі неаднаразова адзначалася на міжнародных дэгустацыйных конкурсах і выставах.

34. **ГАУПП “Лідская друкарня”** (30 чалавек).
Дырэктар - ЛУЧКО Сцяпан Рыгоравіч.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.

Гарадзенскае абласное ўнітарнае паліграфічнае прадпрыемства “Лідская друкарня” выпускае бланачную, кніжна-часопісную, этыкетачную, газетную прадукцыю. Сярэднемесячны аб’ём вытворчасці 66,0 млн. руб.

35. **ГЛУГ “Лідскі лясгас”.**
Дырэктар - ПАМЯРАНЦАЎ Аляксей Аляксандравіч.
231300, г. Ліда.

У склад лясгаса ўваходзіць 8 лясніцтваў.

Асноўная задача лясгаса - ахова лясоў ад пажараў, абарона ад хвароб, догляд злесу і аднаўленне лясоў пасля суцэльных высечак.

Для аднаўлення лясоў у лясгасе нарыхтоўваюцца жалуды дубу, насенне хвоі, елкі, бярозы і іншых парodaў.

36. **УП “Лідскае”.**
Дырэктар - ТЫРАНАЎ Віктар Васільевіч.
231300, Лідскі раён, пас. Першамайскі, вул. Леніна, 3.

Прадпрыемства выпускае паліўныя брыкеты: на аснове торфу БТ-6 і БТ-7; на аснове сумесі торфу і льнокастрыцы БТК; на аснове сумесі торфу і драўнянага пілавіння БТД-1; на аснове сумесі торфу і мякіны БТП.

Прадпрыемства выпускае тару з гофракардону, любых памераў па жаданні заказчыка.

Можа праводзіцца фасоўка брыкетаў у паліпрапіленавыя мяшкі вагой 40-45 кг, у кардонную тару вагой -8 кг.

37. **ВРУТ “Дзітва”**.
Дырэктар - БАСЬКО Аркадзь Мікалаевіч
231300, Лідскі раён, пас. Дзітва.
Вырабляе:
паліўныя брыкеты;
угнаенне “Біягумус”;
драўняны вугаль.

## *Інвестыцыйны патэнцыял Лідскага раёна*

Укладанне інвестыцый у эканоміку г. Ліды і Лідскага раёна прывабна для бізнэсу краін свету.

Існая заканадаўчая база ў сферы інвестыцый дазваляе паспяхова працаваць замежным партнёрам у Беларусі, забяспечвае роўныя ўмовы для бізнэсу і поўнасцю абараняе камерцыйныя інтарэсы фундатараў.

З 395 прадпрыемстваў, якія працуюць на тэрыторыі Лідскага раёна, 42 з замежным капіталам.

Кадравы патэнцыял рэгіёна дазваляе поўнасцю задаволіць патрэбнасць любога будучага вытворцу ў адмыслоўцах і рабочых.

У горадзе маецца тэхнічны каледж і 3 вучэльні па падрыхтоўцы асноўнага вытворчага персаналу ў сферы метала- і дрэваапрацоўкі, машынабудавання, оптыкі, шкловарэння, аўтасэрвісу і да т.п.

Інжынерна-тэхнічныя кадры рыхтуюцца ў вышэйшых навучальных установах краіны.

Лідскі раён знаходзіцца на перакрыжаванні найважных аўтамабільных і чыгуначных дарог, авіяліній.

Станцыя Ліда Беларускай чыгункі прымае да перавозкі грузы ў унутрарэспубліканскіх, міжнародных, прамых і змешаных зносінах, прапануе рацыянальны варыянт перавозкі грузаў.

На тэрыторыі раёна маецца аэрапорт, здольны прыняць вялікагрузныя самалёты.

Выгоднае геаграфічнае становішча і развітая прамысловая інфраструктура Лідскага раёна найболей прывабныя, з эканамічнага пункта погляду, для ўкладання інвестыцый.

Менавіта таму ўжо сёння замежныя фундатары выяўляюць цікавасць да наяўных на тэрыторыі Лідскага раёна вольных вытворчых плошчаў для будаўніцтва новых заводаў.

Латышскаму прадпрыемству прададзены завод па вытворчасці керамзітавага жвіру.

Вытворчыя карпусы РУВП “Завод “Ізатрон” набытыя кампаніяй з літоўскім капіталам.

Вытворчыя плошчы ААТ “Лідатрансаўта” набытыя латышска-нямецкай фірмай.

На вытворчых плошчах ААТ “Лідская абутковая фабрыка” размешчана швейная вытворчасць літоўскімі фундатарамі.

Пры зацікаўленасці фундатар можа, як набыць ва ўласнасць, так і арандаваць вольныя вытворчыя плошчы, пабудаваць новыя будынкі.

Прывабныя ўмовы для размяшчэння на тэрыторыі г. Ліды аўтамабільнага завода магутнасцю 20-30 тысяч аўтамабіляў у год. Магчымым сузаснавальнікам сумеснага прадпрыемства выступіць Доследны завод “Нёман”, які выклікае прыхільнасць неабходнай вытворчай базай, інжынернай інфраструктурай, наяўнасцю вольных плошчаў і падрыхтаванага персаналу для арганізацыі зборачнай вытворчасці легкавых аўтамабіляў.

Эканамічна выгадна ўкладанне інвестыцый у будаўніцтва жылля і арганізацыю вытворчасці будаўнічых матэрыялаў. Для задавальнення існай на сённяшні дзень у Лідскім раёне патрэбнасці ў жыллі неабходна пабудаваць не меней 340,0 тыс. м2 жылля. Таму вельмі перспектыўным з’яўляецца стварэнне домабудаўнічага сумеснага

прадпрыемства з арганізацыяй высокатэхналагічнай вытворчасці будматэрыялаў.

Велізарны патэнцыял для ўкладання інвестыцый маецца ў сферы турызму, у прыватнасці ў развіцці экалагічнага турызму на базе конефермы ў вёсцы Дворышча.

Актуальнымі праектамі могуць стаць: будаўніцтва аквапарка, прыватнай гасцініцы, арганізацыя прыдарожнага сэрвісу. Патрабуецца рэстаўрацыя гістарычна-архітэктурнага помніка XIV стагоддзя - Лідскага замка і ў далейшым выкарыстанне аб'екта, як турыстычнага і культурнага цэнтра.

Зямля пад будаўніцтва спартовых будынкаў у г. Лідзе выдзяляецца бясплатна.

Прыярытэт.

Арганізацыя вытворчасці з выкарыстаннем жаночай працы з заработнай платай у эквіваленце не меней 150 дол. ЗША.

## *Найважныя інвестыцыйныя праекты*

1. Будаўніцтва завода па вытворчасці легкавых аўтамабіляў.
2. Арганізацыя вытворчасці спажывецкіх тавараў з ільновалакна (вытворчасць ільняной тканіны, сувенірнай прадукцыі і дат.п.).
3. Арганізацыя вытворчасці светладыёдаў.
4. Стварэнне домабудаўнічага прадпрыемства з арганізацыяй высокатэхналагічнай вытворчасці будматэрыялаў.

## *Важныя інвестыцыйныя праекты прадпрыемстваў раёна*

1. Арганізацыя вытворчасці пліт пустотнага насцілу метадам безапалубачнага фармавання.
2. Пашырэнне радовішча пяшчана-жвіровай сумесі (ПЖС) кар'ера "Чэхаўцы".
3. Арганізацыя вытворчасці няздымнай палістырольной апалубкі і будаўніцтва будынкаў з яе ўжываннем.
4. Стварэнне вытворчасці абліцовачнага штучнага каменю для аздаблення вонкавых і ўнутраных сценаў і падлог.
5. Вытворчасць сценавых блокаў з цепласупрацівам не менейза 3,5 вт/кв.м.
6. Арганізацыя вытворчасці па выпуску жалезабетонных паль і бэлек асвятляльных слупоў.
7. Будаўніцтва міні-завода па вырабе бетону і рошчынаў для будаўніцтва дамоў сядзібнага тыпу.
8. Арганізацыя вытворчасці харчовых канцэнтратаў, запраў, сушанай гародніны, садавіны, ягад, зеляніны.
9. Будаўніцтва ветэрынарна-санітарнага ўтылізацыйнага завода з устаноўкай лініі для перапрацоўкі біялагічных адыходаў.
10. Арганізацыя тэхналагічнай лініі па выпуску шчыта з масіву драўніны для вытворчасці мэблі.
11. Арганізацыя вытворчасці мэблевай фурнітуры - пліт МДФ.
12. Арганізацыя вытворчасці абутку еўрапейскай якасці.
13. Будаўніцтва лёдавага палаца з крытым гульнявым манежам і аквапаркам.
14. Рэстаўрацыя гістарычна-архітэктурнага помніка XIV ст. "Замак г. Ліды".
15. Арганізацыя вытворчасці шкло-мікрашарыкаў.
16. Арганізацыя вытворчасці свяцілень вулічнага асвятлення і люмінесцэнтных свяцілень.
17. Пашырэнне магутнасцяў па выпуску збожжаўборачных камбайнаў.
18. Арганізацыя вытворчасці пшанічнай клейкавіны і пшанічнага крухмалу.
19. Арганізацыя вытворчасці рассейвальнікаў святла фар.
20. Арганізацыя зборачнай вытворчасці легкавых аўтамабіляў класа "пазадарожнік" на ДЗ "Нёман".
21. Арганізацыя вытворчасці прадукцыі з сухога суцэльнага малака.

## *Інвестыцыйныя праекты прадпрыемстваў малога бізнэсу*

1. Будаўніцтва цяплічнага модуля для вырошчвання садавіна-гароднінавай прадукцыі.
2. Арганізацыя аўтасэрвісу легкавых імпартных аўтамабіляў.
3. Арганізацыя вытворчасці аўтамабільнага біядызельнага паліва з рапсу.
4. Арганізацыя дрэваапрацоўчай вытворчасці.
5. Арганізацыя вытворчасці мясных натуральных прадуктаў.
6. Арганізацыя вытворчасці шкляной бутэлькі.
7. Арганізацыя вытворчасці этыкетачна-пакавальнай і ўлёткава-выяўленчай прадукцыі высокай якасці з ужываннем сучаснага паліграфічнага абсталявання.
8. Будаўніцтва бізнэс-цэнтра.

***Матэрыял падрыхтаваны па інфармацыі, прадстаўленай Лідскім райвыканкамам.***

**Кантактныя тэлефоны:**
(+375 1561)3-40-02 - намеснік старшыні райвыканкама па эканоміцы Клімовіч Іван Анатольевіч.
(+375 1561)3-40-10 - начальнік кіравання эканомікі Клебан Тамара Міхайлаўна.
**E-mail:** offce@mail.lida.by.
**Сайт у Internet:** www.lida.by.

# Кроніка айкумены

## Лідскі гістарычны каляндар

## ліпень - снежань

**1377 год, 24-25 снежня.** Наезд крыжакоў на замак **Беліцу** (першае згадванне).

**1387 год, 17 ліпеня.** Кароль Уладзіслаў Ягайла падпісаў у Лідскім замку прывілей на пабудову ў Лідзе прыходскага касцёла.

**1397 год.** Паход войскаў ВКЛ пад камандаваннем Вялікага князя Вітаўта пад Азоў. Рассяленне палонных татараў на Лідчыне.

**1397-1398 (1399) гады.** Лідчына ў трыманні ў былога хана Кіпчакскай, Блакітнай і Залатой Ордаў Тахтамыша. Тахтамыш з гарэмам, мурзамі і ваярамі жыве ў Лідзе.

Пабудова ў Лідзе новага касцёла. Пасяленне пры ім францысканцаў, дзякуючы старанням віленскага біскупа Андрэя Васіла.

**1407 год.** Пабудова капліцы Вітаўта на месцы сучаснай Маламажэйкаўскай царквы.

**1507 год.** У Рыме выдадзена карта Сярэдняй Еўропы М. Беневентана і Б. Вапоўскага, на якой упершыню пазначаная Ліда.

*500 гадоў таму назад, у 1507 годзе, у Рыме была выдадзеная невялікая карта памерам 54х38 см пад назвай "Tabula moderna Polonie,Ungarie,Boemie,Germanie, Russie, Lithuanie" ("Карта сучаснай Польшчы, Вугоршчыны, Багеміі, Нямеччыны, Pacii, Літвы"). На гэтай карце ўпершыню ў сусветнай гісторыі быў паказаны горад Ліда (у напісанні LYDA). Карта прыкладалася да рымскіх выданняў геаграфіі Пталамея.*

*Польскія картографы ўстанавілі, што аўтарам гэтай карты 1507 года быў італьянскі навуковец, манах-бенедыктынец Марка Беневентана (к.1465-1524), а ў аснову пакладзена карта Сярэдняй Еўропы, якую склаў матэматык, кардынал Мікалай з Кузы (1401-1464). Сярод адмыслоўцаў існуюць рознагалоссі па пытанні, хто дапамагаў Марка Беневентана картаваць тэрыторыю Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. Лічыцца, што гэта былі Бярнард Вапоўскіі Мікалай Капернік, яны вучыліся ў Італіі ў 1496 - 1503 гадах, але не выключана, што гэта мог быць Ян Длугаш, які быў у Рыме ў 1449-1450 гг.*




*На гэтай карце Ліда паказаная ля паднож жа міфічнага горнага ланцуга з назвай Горы Рыскія (Montes Rissei). Горы на поўначы пераходзяць у міфічныя Герцынскія лясы (Silva Hircinia). На мяжы горі лясоў паказана Масква. На захад ад Ліды знаходзіцца Гародня, на паўночны захад - Трокі, на поўнач - Вільня, апаміж Лідай і Вільняй нейкае Bilde, якое можа быць як Беняконямі, так і Шальчынінкаем. На поўдзень ад Ліды на краі горнага ланцуга, побач Наваградкам пазначаны Востраў (Ostrof). На ўсход ад Ліды гарадоў няма, там раскінулася Белая Русь або Масковія (Rvssia alba sive Moskovia). На карце паказаныя таксама Крэва, Коўна ,*

*Кіеў, Полацак, Меднікі, Барысаў, Брэст, Драгічын, Смаленск. Трэба заўважыць, што ўчастак карты вакол Ліды праўдзіва адлюстроўвае рэчаіснасць, больш таго, правільна паказаная даўгата Ліды - 43 градусы, затое па шыраце памылка склала 10 градусаў, і Ліда апынулася амаль на адной шыраце з Кіевам.*

**1567 год, лета.** Попіс войскаў ВКЛ па Лідскім павеце.

**1587 год, 28 снежня.** Каранацыя караля Жыгімонта Вазы (-1632).

**1657 год, восень-1658 год, зіма.** Маравая язва на Лідчыне.

**1667 год.** Марыя Соф'я Адахоўская [Абахоўская] пабудавала ў Ельні драўляны касцёл і пры ім пасяліла дамініканцаў, ахвяраваўшы ім фальваркі Фалькаўшчына і Ельня.

**1667 год.** У Лідскім павеце жылі 71,2 тыс. чалавек, налічвалася 9621 дым.

**1717 год, жнівень.** Складзены тарыфны спіс маёнткаў Лідскага павету. Улічана 5030 дымоў - гэта каля 50 тысяч насельніцтва, менш чым у сярэдзіне залатога 16-га стагоддзя. У Лідскай парафіі 664 дымы, ксёндз Кастусь Пржастоўскі - віленскі біскуп з маёнткам Дуброўняй, з кавярнямі і млынамі -75 дымоў, ксёндз Станіслаў Вісмант - дэкан і плябан лідскі - 12 дымоў, ксёндз Ян Франц Кірцэвіч - рэктар віленскага калегіюма з Дворышчам -51 дым, Аляксандр Ян Масевіч -ваявода мсціслаўскі з Бердаўкай, з корчмамі і млынамі - 41 дым.

Сойм улічваючы бядотнае становішча горада Ліды пацвердзіў канстытуцыю 1676 г. і дэкрэты Скарбовага Трыбунала.

**1777 год.** У Белагрудскай парафіяльной школе вучылася 20 школьнікаў.

**1787 год.** Генерал Ігнацы Мураўскі пабудаваў у Беліцы касцёл Святога Юрыя.

**1797 год.** Па новым Гарадзенскім гасцінцы праз Ліду правезлі у Пецярбургу карэце пад канвоем апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

**1817 год.** У Лідзе ў 292 дамах, з іх 4 мураваных, пражываюць 770 жыхароў, з іх 567 габрэяў.

У Беліцы адчыненая паштовая станцыя на гасцінцы Ліда-Слонім.

У Лідскім павеце 11 школ, 11 настаўнікаў, 138 вучняў: 118 мужч., 20 жаноч.. Прыходскія школы ў Беліцы, Беляковічах, Дзембраве, Эйшышках, Ляцку, Няцечы, Новым Двары, Радуні, Жырмунах, Шайбак-полі. Знаходзіліся пры касцёлах пад веданнем Віленскага ўніверсітэта.

**1827 год, 2 снежня.** Указ аб высяленні габрэяў з усіх вёсак Гарадзенскай губерні ў гарады і мястэчкі.

**1837 год, 22 снежня.** Прадстаўленне лідскім гараднічым рапарта гарадзенскаму губернатару Р.Г. Допельмайеру аб Лідскім замку.

**1837 год.** У Лідзе ў 324 дамах пражываюць 1366 жыхароў.

**1847 год.** Шляхціц Ян Андрушкевіч ахвяраваў фарнаму касцёлу абраз Божай Маці Вастрабрамскай намалёваны жывапісцам Азямблоўскім на дубовай дошцы.

**1867 год.** Завершанае будаўніцтва Дакудаўскай царквы Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы.

**1877 год, 21 лістапада.** На Панямонскіх могілках селянін Міхась Восіпавіч Урбановіч пабудаваў магільны склеп у імя Архістраціга Божыя Міхаіла.



***Царква ў Дакудаве***

**1887 год.** Адчыненыя школы пісьменства ў Дроздаве ад Ганчарскага і ў Парэччы ад Зблянскага прыходаў.

**1887 год, 30 снежня.** Уведзеная ў дзеянне чыгунка Роўна - Лунінец - Вільня праз Ліду.

**1897 год.** У Голдаве і Ганчарах з'явіліся аднакласныя царкоўна-прыходскія школы.

У Дзітрыках і Ямантах ад Беліцкага, у Кір'янаўцах ад Жыжамскага, у Канюшанах ад Голдаўскага, у Агародніках ад Ганчарскага прыходаў адчыненыя школы пісьменства.

**1897 год.** У Лідзе створаны саюз працоўных-рамеснікаў.

Адбыўся штрайк сталяроў. Арыштавана 9 чалавек, 6 з іх прызнаныя вінаватымі ўагітацыі і арганізацыі штрайку і адпраўленыя ў ссылку ў Сібір.

**1897 год, лістапад.** У часопісе "Работнік", які выдаваўся "Саюзам за вызваленне рабочага класа" у № 3 - 4 апублікаваная нататка аб штрайку ў Лідзе.

**1907 год.** Для жаночай прагімназіі Навіцкіх пабудаваны мураваны двухпавярховы дом.

Паміж піўнымі заводамі спадчыннікаў Ю. Папірмейстара і Н. Пупко пракладзеная першая тэлефонная лінія.

**1907 год, восень.** Адчыненая габрэйская жаночая прыватная прагімназія спадарыні Цыпкінай на 45 вучаніц.

**1907 год, 10 кастрычніка.** А. Блок быўшы праездам з С-Пецярбурга на Палессе з Ліды даў тэлеграму.

**1907 год.** У газеце "Наша Ніва" апублікаваны шэраг допісаў з Лідскага павету.

**1907 год.** Адчыненая прыватная бібліятэка і банк дробнага крэдыту.

Адчыненая кнігарня Марыі Шкоп.

**1907 год.** Уведзеная ў дзеянне чыгунка Балагое - Сядлец праз Маладзечна, Ліду, Масты, Ваўкавыск з адгалінаваннем з Мастоў на Гародню. Ліда стала вузлавою станцыяй.

**1917 год, 17 ліпеня.** У Лідзе створаная гарадская бальшавіцкая партыйная арганізацыя. Абраны камітэт з 8 чалавек пад старшынствам рабочага-медніка Лясоты.

**1927 год.** Пры піярскім кляштары створаны інтэрнат і элементарная школа.

**1927 год.** У Лідзе адбыўся павятовы з'езд ТБШ Старшынём абраны Кастусь Міхайлавіч Чайкоўскі. Лідская павятовая арганізацыя аб'ядноўвала каля 20 арганізацый ТБШ у сельскай мясцовасці.

**1927 год.** У Лідзе 24 саматужныя і паўсаматужныя майстэрні і прадпрыемствы, працавалі 14.

На заводзе сельгасмашын і на млыне "Аўтамат" працавалі па 49 чалавек, у двух цагляных майстэрнях - 29, на двух піўзаводах - 22, на гарадской электрастанцыі - 17 чалавек. Усяго ў лідскай прамысловасці было занята 338 чалавек.

У Лідскім павеце 5 саматужных майстэрняў і гута "Нёман".

**1927 год.** Фабрыкант Саламон Мелуп атрымаў дазвол на будаўніцтва фабрыкі "Ардаль".

**1937 год.** Пры піярскім касцёле пабудаваны цагляны двухпавярховы будынак (цяпер Савецкая, 32) з гімнастычнай залай на першым паверсе, класамі і аўдыторыямі - на другім.

Зачынены ўсе школы на беларускай мове.

**1937 год.** Лідскі аэрадром з інспектарскай праверкай наведаў і прыняў парад войскаў Галоўнакамандуючы Войска Польскага маршал Эдвард Рыдз-Сміглы.

**1937 год.** Скончана будаўніцтва інфекцыйнага аддзялення на 22 ложкі.

**1947 год, жнівень.** Дырэктарам Лідскага цвіковага завода працаваў будучы вядомы беларускі байкапісец Корбан. Завод выконваў план на 50 %. Міністр мясцовай прамысловасці БССР Коган Я.Н. абавязаў дырэктара завода сельгасмашын № 1 Д.М. Шапіру аказаць дапамога маладому дырэктару.

**15 жніўня.** З Віцебска на Лідскую электрастанцыю прыбыў энергацягнік магутнасцю 1000 квт.

**1947 год, 22 кастрычніка.** Загадам № 250 па Міністэрстве саўгасаў БССР створаны саўгас "Тарнова".

**1947 год, снежань.** На заводзе сельскагаспадарчых машын выкананы план: малатарань выпусцілі 113,7%, сеялак 116,3%, конных прывадаў 203,3%, плугоў 100,1%.

**1947 год.** Нямецкія ваеннапалонныя пабудавалі вакзал, дом паравозных брыгад, пункт тэхнічнага агляду.

**1957 год, 12 жніўня.** Лідскі індустрыяльны тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі рэарганізаваны ў

Лідскі сельскагаспадарчы тэхнікум па падрыхтоўцы бухгалтараў.

**1957 год, 1 верасня.** У горадзе 8 школ, 101 клас, 3250 вучняў.

**1957 год, 6 верасня.** Прынята рашэнне аб адкрыцці рускай пачатковай школы пры торфапрадпрыемстве "Дакудава".

**1957 год, 15 лістапада.** Лідскі завод "Металашырспажыў" пераназваны ў Завод электравырабаў. На заводзе знялі апошні драцяны стан і цвікавы станок.

**1957 год.** Паслугі хуткай медыцынскай дапамогі распаўсюджаныя на раён.

Першы тэлевізар набыла дыстанцыя сувязі. Усталявалі 40 м. антэну, каб прымаць сігнал з Менска.

**1967 год, 6 верасня.** На будынку міліцыі па вул. Перамогі ўсталяваная мемарыяльная дошка з прозвішчамі супрацоўнікаў аддзела, якія загінулі на тэрыторыі Лідскага раёна ў 1944 - 1950 гг.

**1967 год, 9 верасня.** Пастановай калегіі Міністэрства культуры БССР драматычнаму калектыву Лідскага ГДК прысвоена найменне Народны тэатр.

**1967 год, 4 лістапада.** У в. Далекія адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка землякам, якія загінулі ў ВАВ.

**5 лістапада.** Каля Кургана Неўміручасці ўсталяваны макет кулямёта "Максім".

**1967 год, лістапад.** Праведзеныя шматлікія ўрачыстыя зборы ў сувязі з 50-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі

**1967 год.** Уведзена ў эксплуатацыю 10 650 кв. метраў жылля.

На 2-й Рэспубліканскай дэкадзе мастацтва БССР выступаў хор в. Збляны.

На будынку чыгуначнага вакзала ўсталяваныя дзве мемарыяльных дошкі з нагоды першага суботніка і наведвання Ліды Ф.Э. Дзяржынскім.

У Дроздаве збудаваная вертыкальная стэла ў памяць аб падпольшчыках гэтай вёскі.

Адкрыты 6-ты аўтобусны маршрут.



***Хор вёскі Збляны***

**1977 год, 1 ліпеня.** Сярэдняя заработная плата па горадзе перавысіла 150 рублёў.

**1977 год, 28 жніўня.** У горадзе праведзены Свята працы. Сцяг паднялі абуўшчыца С. Жоль, чыгуначнік А. Драздоў, хімік У. Пятроў, машынабудаўнік І.Чайкоўскі. Былі названы 29 лепшых па прафесіі: токар "Лідсельмаша" Клімашэўскі, слесар аўтарэмзавода Ч. Казак, электраманцёр мясакамбіната І.Барташэвіч, электраслесар лакафарбавага завода М. Каранюк, маляр БУ-175 У. Станкуць, электразваршчык ДБР-24 У. Круповіч, работніца абутковай фабрыкі Л. Бутэнка, краўчыха райбыткамбіната Я. Івуць, рабочы піўзавода Ў. Карповіч. і інш.

Адбылося тэатралізаванае прадстаўленне на аўтамашынах.

**1977 год, лістапад.** Праведзеныя шматлікія ўрачыстыя зборы ў сувязі з 60-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

**1977 год.** Дзеразенка Пётр Іванавіч рабочы камбіната харчканцэнтратаў першым атрымаў медаль "Ветэран працы".

**1977 год, снежань.** 18 гарадскі злёт брыгад і ўдарнікаў камуністычнага стаўлення да працы.

**1987 год.** У Ваверцы адбылася эксгумацыя парэштках легендарнага камандзіра VII батальёна АК паручніка Яна Піўніка "Панурага", парэшткі перавезены ў Польшчу.

**1987 год, 25 кастрычніка.** Фэст савецкай моладзевай песні ў клубе па вул. Савецкая - 9.

**1987год, 13 снежня.** Афіцыйна зарэгістраваны клуб аматараў польскай культуры імя А. Міцкевіча - першая польская легальная арганізацыя на тэрыторыі СССР.

**1997 год, жнівень.** Выйшаў першы нумар часопіса "Лідскі летапісец"


Лідскі Летапісец

*Першы нумар часопіса*

**1997 год, 30 жніўня.** Адчынены Дом Паляка. На ўрачыстасцях прысутнічалі амбасадар Польшчы Эва Спыхальская, консул Польшчы ў Гародні, дэлегацыі польскіх гарадоў Кашалін і Сакулка, старшыня Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуш Гавін і інш.

**1997 год, 1 верасня.** Школа-гімназія № 7 пераўтвораная ў гімназію № 1.

**6 верасня.** На выставе - кірмашы ў Маскве ўсе 6 марак піва Лідскага піўзавода атрымалі залатыя медалі

**24-28 верасня.** У Лідзе гасцявала фігурка Маці Божай Фацімскай.

**1997 год, 3 кастрычніка.** Ля Фарнага касцёла ўстаноўлены помнік ксяндзу-дэкану Станіславу Каласанты Роеку.

**1997 год, 19 лістапада.** На праваслаўных могілках па вул. Савецкай адбылося перапахаванне 12 салдат Чырвонай Арміі, расстраляных немцамі на тэрыторыі канцлагера ў Паўночным гарадку.

**1997 год, 21 лістапада.** На званіцы Свята-Міхайлаўскага сабора зазваніў звон.

# Лідскія юбіляры 2007 года

**МАНЬКОЎСКІ** Міхаіл Міхайлавіч (1877- 20(21).09.1933). Нарадзіўся ў в. Малашкі Маладзечанскага р-на ў сялянскай сям'і. Разам з жонкай Вольгай Казіміраўнай (1887-) удзельнічалі ў лютаўскай рэвалюцыі 1917 г., удзельнік Грамадзянскай вайны, чыгуначны службовец, прыехаў у Селец у 1921-1922 гг, у 1926 г арганізаваў падпольную ячэйку КПЗБ, адзін з арганізатараў ТБШ на Лідчыне, у 1933 г разам з сястрой Паўлінай Міхайлаўнай, якая жыла каля Маладзечна, прысуджаны да смяротнай кары праз павешанне, прысуд ажыццёўлены ў Лідскай турме (цяпер друкарня), цела аддалі жонцы Вользе Казіміраўне, нараджэнцы в. Сялец. Некалькі разоў пераходзіў мяжу з Савецкай Расіяй. У сястры пад Маладзечна існавала явачная кватэра. Вёў выведвальную працу на карысць СССР. Пахаваны на могілках ў в. Селец. У 1965 г. на магіле пастаўленая стэла.

Сын - Міхаіл Міхайлавіч памёр у 1935 г, яго цяжка хворага адмовіліся лячыць у лякарні.



*МАНЬКОЎСКІ М. М.*



*Галіцкі К.М.*

**ГАЛІЦКІ** Кузьма Мікітавіч (12.10.1897- 14.03.1973). Нарадзіўся ў Таганрозе. У арміі з 1917 г. - шараговец, малодшы ўнтэр-афіцэр, у ЧА з жніўня 1918 г. Чалец партыі з 1918 г. Удзельнік грамадзянскай вайны, камандаваў звязам, ротай, батальёнам, памочнік начальніка штаба брыгады на Ўкраінскім, Паўднёвым і Паўднёва-Заходнім франтах. Скончыў Вышэйшую стралкова-тактычную школу (1922), Ваенную акадэмію ім. Фрунзе (1927). Камандаваў дывізіяй у савецка-фінскай вайне. З чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Поўночна-Заходнім, Калінінскім, 1 Прыбалтыйскім, 3-ім Беларускім франтах: камандзір 24 дывізіі, карпуса, нам камандуючага, камандуючы 3-яй Ударнай, 11 гвардзейскай арміі. Удзельнік абароны Ліды, Гомеля, бітвы пад Масквой, Вялікалукскай, Гомельскай, Гарадокскай, Беларускай, Усходне - Прускай аперацый. Герой Савецкага Саюза (1945). Пасля вайны камандуючы Асобай Прыкарпацкай, Адэскай, Закаўказскай вайсковымі акругамі, Паўночнай групай савецкіх войскаў у Польшчы. Генерал арміі (1955). УСА да 1962 г. Старшыня Ваеннанавуковага таварыства пры ЦДСА. Дэпутат ВС СССР (1946-62). Ганаровы грамадзянін горада Ліды. Яго імем названыя вуліцы ў Гарадку, Лідзе, Маладзечне.


*Радзецкі М.Р.*

**РАДЗЕЦКІ** Міхаіл Раманавіч (1907-1942). Нарадзіўся ў Пецярбурзе. У Пудзіна прывезлі ў 1921 г., сям'я вярнулася на радзіму. У Пецярбурзе вучыўся ў гімназіі. У 1926 г. пераходзіў савецкую мяжу, пры вяртанні быў арыштаваны і асуджаны. У 1929 г. з'ехаў у Францыю. Жыў у Ліёне, дзе і ўступіў у Французскую кампартыю. Вярнуўся на радзіму ў 1935 г. Кіраваў ячэйкай КПЗБ. У 1938 г. асуджаны, сядзеў у Картуз-Бярозе. У 1939 г. ізноў асуджаны, выйшаў з Картуз-Бярозы ў верасні 1939 г. Дэпутат Народнага сходу Заходняй Беларусі, чалец камісіі па выпрацоўцы дэкларацыі. Старшыня Дакудаўскага сельсавета (1940-41), загадчык аддзела сацзабеспячэння Лідскага райвыканкама са студзеня па чэрвень 1941, камісар партызанскай групы.


*Шаўчэнка М.Ц.*

**ШАЎЧЭНКА** Міхаіл Цімафеевіч (5.12.1907-1979). Нарадзіўся ў сяле Ліпцы Харкаўскай губерні, украінец. Скончыў 6 класаў Ліпцкай школы (1920), у 1929 г. прызваны ў Чырвоную Армію. Скончыў школу малодшага камскладу. Камандзір палка 4 мехкорпуса (06.1940 -04.41), начальнік штаба 19 матацыклетнага палка 16 мехкорпуса (04 -08.41). Камандзір 142 кав. палка 34 кавалерыйскай дывізіі (12.41 -10.42), камандзір 17 гв. кав. палка 5 гв. кав. дывізіі (10.42 - 03.46). Слухач курсаў удасканалення камандзіраў палкоў пры Ваеннай Акадэміі імя Фрунзе (03.46-05.47). Камандзір 37 гв. каз. кп 5 асоб. гвард. каз. кд (05.47-02.53). Камандзір 18 кп 7 асоб. кав. Хінганскай дывізіі (02-07.53). Камандзір 152 сп 94 сд (07.53-11.54). Палкоўнік у адстаўцы. Жыў у Навачаркаску і Менску. У 1963-71 гг. працаваў у пазаведамаснай ахове Ленінскага раёна г. Менска. У красавіку 1971 г. выйшаў на пенсію. Член КПСС са жніўня 1943 г. Узнагароджаны ордэнам Леніна, пяцццю ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнам Суворава Ш ст., ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі. Ганаровы грамадзянін горада Ліды.


*КУЛІКОЎ Б. М.*

**КУЛІКОЎ** Барыс Мікалаевіч (24.07.1917 - травень 1979). Нарадзіўся ў в. Шунга Кастрамскога раёна Кастрамской вобласці. Скончыў пачатковую школу і школу ФЗА (1934). Электраматарыст Кастрамскога льнокамбіната (1936-38). У 1938 г. прызваны ў ЧА. Скончыў школу малодшых авіяспецыялістаў у Магілёве (1939). З ліпеня 1941 г. механік у частках і злучэннях Заходняга, Паўднёва-Заходняга і Сталінградскага франтоў. З траўня 1943 г. і да канца вайны матарыст 136-га авіяцыйнага гвардзейскага штурмавога палка 1-й гвардзейскай шад на 4-м Украінскім і 3-м Беларускім франтах. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і медалямі. У 1947 г. уступіў у партыю. У пасляваенныя гады гвардыі старшына, служыў авіяцыйным тэхнікам. У 1970 г. выйшаў на пенсію. Вёў вялікую грамадскую працу па выхаванні падрастаючага пакалення. Ганаровы грамадзянін горада Ліды.


*ДзямідаўВ.А.*

**ДЗЯМІДАЎ** Валянцін Аляксеевіч (14.12.1917-15.04.2005). Нарадзіўся ў с. Чарамушнае Арлоўскай вобласці ў шматдзетнай сям'і - 9 братоў, 2 сястры. Скончыў ПСШу в. Мурамцава. Затым вучыўся ў школе с. Абярэц. Скончыў школу ФЗА пры першай аўтабазе Массавета (1934), аўтаслесар у Падольскім трэсце сталовых (1934-36). З траўня 1936 г. у Чырвонай Арміі. Скончыў Звенігародскую стралкова-кулямётную вучэльню (1938-40). Камандзір вучэбнага звяза палкавой школы ў 463 сп, камандзір автавучэбнага звяза 663 аўтабатальёна (кастрычнік 40 - травень 41), з траўня 41 - памочнік камандзіра 463 аўтабатальёна па тэхнічнай частцы. На беразе Чудскага возера быў кантужаны і трапіў у палон. Сядзеў у афіцэрскім лагеры ў Лебенродзе ва Ўсходняй Прусіі. Уцёк. З красавіка па лістапад 1942 камандзір групы з 13 чалавек у Воранаўскім раёне. Камандзір роты атрада "Іскра" (люты - травень 1943), начальнік штаба атрада "Іскра" (травень - жнівень 1943), начальнік выведкі штаба брыгады імя Кірава (жнівень 1943 - ліпень 1944), старэйшы апер аддзялення па барацьбе з бандытызмам (1944-47), начальнік аддзялення крымінальнага вышуку КДБ (1947-50), старшыня калгаса "Радзіма" (1953-64), начальнік аддзела кадраў лакафарбавага завода (1964-77). Персанальны пенсіянер. Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга (1949), Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны, медалямі. Чалец райкаму, дэпутат раённага Савета.

**САСНОЎСКАЯ** (Цэцыноўская) Аляксандра Мікалаеўна (1917 - 1997). Нарадзілася на ст. Шыманоўская Амурскай вобл. Скончыла Варонежскі педінстытут па спецыяльнасці геаграфія (1948). Інспектар Лідскага гарана (1947-48), завуч, выкладчык геаграфіі, гісторыі і канстытуцыі СССР у 5-7 класах НСШ № 3 (1948-54), загадчыца

метадычным кабінетам (1954-55), настаўнік геаграфіі СШ № 8. "Заслужаны настаўнік БССР" (1967).

**СТУДЗЯНІЧНІК** (Агурцова) Яўгенія Міхайлаўна. Нарадзілася ў 1927 на хут. Надоўбінскім на Браншчыне. Скончыла фізіка-матэматычны факультэт Берасцейскага педінстытута (1961). Выкладчык матэматыкі СПТВ -196 у 1977-92. "Заслужаны працаўнік народнай адукацыі" (1990).



*Студзянічнік Я.М.*

**БІЧЭЛЬ** (Бічэль-Загнетава) Данута Янаўна. Нарадзілася 3.12.1937 у сялянскай сям'і ў в. Біскупцы Лідскага павету. Скончыла Карнілаўскую сямігадовую школу, паступіла ў Лідскую педвучэльню, праз тры гады яна была расфармавана, 4 курс закончвала ў Навагрудскай педвучэльні (1957). Скончыла Гарадзенскі педінстытут (1962) -аддзяленне беларускай мовы, літаратуры і гісторыі, выкладала беларускую мову і літаратуру ў школах Гародні. Супрацоўнік Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея (1982-95), дырэктар музея ім. М. Багдано-віча ў Гародні (1995-99). Старшыня Гарадзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі (да 2003 г.). Друкуецца з 1958 г. Выдала зборнікі вершаў "Дзявочае сэрца" (1961), "Нёман ідзе" (1964), "Запаляна" (1967), "Перапёлка" (1968, дзіц.), "Грыбпарасон" (1969), "Дзічка" (1971, дзіц.), "Рудая палянка" (1971, дзіц.) "Доля" (1972), "Дагані на кані" (1973, дзіц.), "Ты - гэта ты" (1976), "Браткі" (1979), "Лузанцы" (1972, дзіц.), "Дзе ходзяць басанож" (1983), "Загасцінец (1985), "Габрынька і Габрусь" (1985, дзіц.), "Даўняе сонца" (1987), "А на Палессі" (1990), "Гараднічанка" (1993), "Божа, мой Божа" (1993), "Снапок" (1999) "Нядзелька" (1999), "На белых аблоках сноў" (2002), "Ойча наш" (2007) і інш. Друкавалася ў лідскіх газетах у 1959-80 гг. Сябар Саюза пісьменнікаў СССР (1964). Адзначана дзяржаўнай прэміяй імя Янкі Купалы (1984) за зборнік "Дзе ходзяць басанож". Узнагароджана медалём.



*Бічэль Д.Я.*



*Сасноўская А.М.*

*ЛАРЫСА ГЕНІЮШ*

## Дануце Бічэль

*Добры дзень, дарагая, харошая,*
*маладзенькі праменьчык наш,*
*заварожана разам з Каложаю,*
*ганаровая Нёмнава страж.*

*Ноччу цьмянаю зоранька светлая*
*тым, хто ў цемры, ў бяспуцці — маяк,*
*беларуская, тысячалетняя,*
*ў кожнай песні, бы Нёман, свая.*

*Ві з праменняў сваю недавітую —*
*з хвойным пахам жывучай смалы —*
*залатую, пасажную ніточку*
*на падарак каханай зямлі.*

*Кінь месяцу Нёман па зорачцы,*
*потым выбежыць сам на папас.*
*Хай прадзецца табе, няхай творыцца —*
*яшчэ скрыні не поўныя ў нас...*
*1965.*

**СКОБЛІКАЎ** Яўген Аляксандравіч. Нарадзіўся 10.11.1947 г. Майстар спорту, прызёр чэмпіянатаў СССР, чэмпіён Узброеных Сіл СССР, неаднаразовы чэмпіён РБ. Трэнер вышэйшай катэгорыі па акадэмічным веславанні, арганізаваў дзіцяча-юнацкую школу па акадэмічным веславанні, выхаваў мсмк Паўла Шурмея. Старшыня спартовага камітэта Лідскага райвыканкаму.



*Скоблікаў Я.А.*

**КАЗЛОВА** (Новікава ў замустве) Наталля Генадзеўна. Нарадзілася ў Лідзе ў 5 снежня 1967 г. Мама Соф'я Андрэеўна - дэлегат XXVI з'езду КПСС, старэйшы майстар хлебнага цэха хлебазавода, бацька -Генадзь Іванавіч - слесар газавай службы на аўтарэмзаводзе. Вучылася ў СШ № 3 да 9 класа, трэніравалася ў А.С. Цецярука (1977-81). З 1981 г. вучылася ў Менскай школе - інтэрнаце спартовага профілю, адначасова гуляла за валейбольную каманду "Камунальнік". Скончыла БДзІФК (1989). Чэмпіёнка БССР сярод школьнікаў (1982), 5 -кратная чэмпіёнка БССР, чэмпіёнка СССР (1984), бронзавы прызёр першынства СССР у складзе каманды "Камунальнік" Менск (1985), 2-кратная чэмпіёнка Еўропы ў складзе моладзевай зборнай СССР (1984 і 1986). Майстар спорту міжнароднага класа. Чэмпіёнка Францыі.



*Казлова Н.Г.*

***60 год з дня нараджэння Віктара Кузьміцкага***

# Атамная падводная лодка К-3 “Ленінскі камсамол”

***К-3 “Ленінскі камсамол”. 08.09.67. Нарвежскаемора.*** *Камандзір - капітан 2-га рангу Юрый Сцяпанаў. Падчас вяртання падводнай лодкі К-3 “Ленінскі камсамол” з баявой службы, у першым адсеку адбылося ўзгаранне гідраўлікі. Пры пераходзе асабовага складу ў другі адсек, пажар праз адчыненыя пераборачныя дзверы перакінуўся далей. Вылучэнне чаднага газу было настолькі інтэнсіўным, што ў трэці адсек паспела выскачыць толькі два чалавекі з 40. Капітан-лейтэнант Маляр А.А. знутры задраіў 2-гі адсек і ўжо праз некалькі хвілін асабовы склад першага і другога адсекаў перастаў адказваць на запыты цэнтральнага паста. Кароткачасовае адкрыццё пераборочных дзвярэй з трэцяга адсека ў другі для правядзення выведкі прывяло да загазоўвання і трэцяга адсека, дзе асабовы склад таксама пачаў губляць прытомнасць. Камандзір карабля даў каманду на ўсплыцце. Лодка ўсплыла ў надводнае становішча. Камандзір сам пачаў адкрываць люк, не выраўняўшы ціску, атрымаў моцны ўдар і страціў прытомнасць. Побач знаходзіўся памочнік камандзіра капітан-лейтэнант Аляксандр Ляскоў. На дапамогу падаспеў механік Юрый Някрасаў з разлікам 8-га адсека. Яны ўключылі вентыляцыю трэцяга і чацвёртага адсекаў і пачалі выносіць афіцэраў і матросаў наверх. Медыкі рабілі ўсё магчымае, але матроса, якога вынеслі апошнім, не адкачалі. Такім чынам да 38 чалавек, якія засталіся ў 1-м і 2-м адсеках дадаўся яшчэ адзін загінулы. На дапамогу падышоў крэйсер “Мурманск” са зменным экіпажам. Лодка ў надводным становішчы з загерметызаванымі першым і другім адсекамі чацвёра сутак ішла ў базу. У выніку аварыі загінула 39 чалавек. Сярод іх у адным з загермітазаваных адсекаў застаўся лідзянін* ***Віктар Кузьміцкі.***

*На лодку з’явілася праверка. Яна ацаніла дзеянні экіпажа. Пяць чалавек былі прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза, астатнія да ордэнаў і медаляў, 39 - пасмяротна. Аднак следам з’явілася яшчэ адна праверка начале з Галоўнакамандуючым Ваенна-Марскога Флоту СССР, адміралам флоту СССР Гаршковым. Камісія знайшла ў адным з адсекаў разабраную запальнічку. Гаршкоў абвініў экіпаж у аварыі, быццам з-за гэтай запальнічкі ўзнік пажар. Усе прадстаўленні да ўзнагародаў былі ануляваныя. Гаршкоў пры ўсіх аварыях віну ўскладваў на асабовы склад. Нават афіцэр, які цаной свайго жыцця выратаваў К-119, атрымаў званне Героя савецкага Саюза толькі пасля таго, як пра гэтую лодку знялі фільм амерыканцы.* ***Такім чынам без узнагароды застаўся і Віктар Кузьміцкі.***



***Атамная падводная лодка праекту 627-А. Фота Леаніда Якуціна.***

К-3 “Ленінскі камсамол” 1958/1991С. 3 ліпеня 1958 лодка, якая атрымала тактычны нумар К-3, выйшла на ходавыя выпрабаванні, што праходзілі ў Белым моры. 4 ліпеня 1958 г. у 10 гадзін 3 хвіліны ўпершыню ў гісторыі айчыннага флоту для руху карабля была выкарыстаная атамная энергія. Выпрабаванні завяршыліся 1 снежня 1958 г. Падчас іх магутнасць энергетычнай устаноўкі была абмежаваная 60% ад намінальнай. Пры гэтым была дасягнутая хуткасць 23,3 вузла, што на 3 вузлы перавысіла разліковую велічыню. У студзені 1959 г. К-3 была перададзеная ВМФ для доследнай эксплуатацыі, якая завяршылася ў 1962 г., пасля чаго АПЛ стала “паўнавартасным” баявым караблём Паўночнага флоту.

У 1959 г. К-3 пад камандаваннем капітана 1 рангу Л.Г. Асіпенкі прайшла падарктычнымі льдамі 260 міль. 17 ліпеня 1962 г. гэтая АПЛ выканала пераход да Паўночнага полюсу, аднак усплыць на паверхню перашкодзіў шчыльны лёдавы полаг, таўшчыня якога дасягала 12 м. Неўзабаве пасля арктычнага паходу падводнай лодцы К-3 было прысвоена назва “Ленінскі камсамол”. У далейшым К-3 прайшла мадэрнізацыю, якая складалася ў правядзенні шэрагу дапрацовак, павысіўшых надзейнасць парапрадукцыйнай устаноўкі, замене некаторага абсталявання, устаноўцы новай сістэмы тарпеднай стральбы, удасканаленні радыёэлектроннага абсталявання. Антэну ГАС “Арктыка-М” перанеслі з агароджы рубкі ў насавы адсек лодкі, дзе былі сфармаваны выступаўшы за абводы корпуса наплыў, а над тарпеднымі апаратамі была размешчаная антэна новай шумапеленгатарнай станцыі МГ-10.

Эксплуатацыя АПЛ “Ленінскі камсамол” працягвалася да 1991 г., пры гэтым лодка несла службу нароўні з іншымі атамаходамі. Пасля спісання “Ленінскага камсамолу” існавалі планы пераабсталявання яго ў карабель-музей (адпаведны праект быў распрацаваны КБ “Малахіт”).

Яшчэ жывуць многія ўдзельнікі паходу 1967 года. Адзін з іх дэпутат Дзяржаўнай думу Расіі, мінулага склікання Сітноў Віктар Уладзіміравіч, доктор права, член Пятроўскай Акадэміі панавуцы і культуры, эканамічны дарадца Расійскай Інжынернай Акадэміі.

*З успамінаў*
*Юрыя Анатольевіча Трафімава,*
*былога падводніка,*
*жыхара Санкт-Пецярбурга*

# Суровы марскі закон

8 верасня 1967 года каля дзвюх гадзін ночы на першынцы атамнага флота Савецкага Саюза "К-3", які знаходзіўся ў Нарвежскім моры, адбыўся пажар. Ішлі 56-я суткі плавання ў падводным становішчы, лодка вярталася ў базу, да яе заставалася 1700 міль.

Пажар пачаўся ў першым адсеку ад небяспечнай канцэнтрацыі пароў гідраўлікі (у той час у гэтай сістэме скарыстоўвалася гаручанебяспечная вадкасць), выкліканай працёкамі ў гідраўлічнай сістэме, і ўзнікненнем іскры. Пры пераходзе асабовага складу ў другі адсек, пажар праз адчыненыя пераборачныя дзверы перакінуўся далей. Выдзяленне чаднага газу было настолькі інтэнсіўным, што ўжо праз некалькі хвілін асабовы склад першага і другога адсекаў стаў недзеяздольным (не адказваў на запыты цэнтральнага паста), кароткачасовае адкрыццё пераборачных дзвярэй з трэцяга адсека ў другі для правядзення выведкі прывяло да загазоўвання і трэцяга адсека, дзе асабовы склад (а гэта цэнтральны пост, гэта значыць галоўны камандны пункт падводнай лодкі) таксама пачаў губляць прытомнасць. Аварыйная партыя чацвёртага адсека пачала выводзіць асабовы склад з трэцяга, лодка ўсплыла ў надводнае становішча, правентылявала трэці і чацвёртыя адсекі пускам дызель-генератараў на працягу некалькіх гадзін, і ў надводным становішчы з загерметызаванымі першым і другім адсекамі чацвёра сутак ішла ў базу. Лодка выратаваная, але 39 маракоў загінулі, зачыненыя ў двух адсеках - такі суровы закон падводнікаў.

На сціплым помніку, усталяваным калегамі ў Запаляр'і, надпіс: "Падводнікам, загінулым у акіяне 08.09.67 г." і маленькі якар.

*З кнігі "Атамная падводная эпапея".*





***Пахаванне загінулых на К-3 "Ленінскі камсамол"***

**Падводнікі, якія загінулі на атамнай лодцы "Ленінскі камсамол" 8 верасня 1967 г.**

Капитан 2 ранга Горшков Сергей Фёдорович, 1932 г.р.
Капитан 3 ранга Коморкин Лев Фёдорович, 1936 г.р.
Капитан-л-нт Ганин Геннадий Иванович, 1937 г.р.
Капитан-л-нт Маляр Анатолий Алексеевич, 1937 г.р.
Капитан-л-нт Смирнов Валентин Николаевич, 1938 г.р.
Лейтенант Гурин Виктор Михайлович. 1942 г.р.
Лейтенант Петреченко Александр Иванович, 1947 г.р.
Мичман Буторин Алексей Алексеевич, 1942 г.р.
Главный старшина Романцев Борис Митрофанович, 1944 г.р.
Старшина 2 статьи Зацепин Николай Михайлович
Старшина 1 статьи Таранов Владимир Георгиевич, 1944 г.р.
Старшина 1 статьи Богачев Николай Михайлович.
Ст. матрос Лаврушкин Владимир Петрович, 1945 г.р.
Ст. матрос Соболев Николай Петрович. 1947 г.р.
Ст. матрос Тарабан Виктор Иванович, 1945 г.р.
Ст. матрос Ярошевич Владимир Николаевич, 1946 г.р.
Матрос Богачев Владимир Михайлович, 1947 г.р.
Матрос Осипчук Александр Степанович, 1947 г.р.
Матрос Посталатий Виктор Фёдорович, 1947 г.р.
Ст. 2 статьи Гурьев Николай Николаевич, 1944 г.р.
Ст. 2 статьи Иванов Анатолий Иванович, 1945 г.р.
Ст. 2 статьи Гарагонич Юрий Иванович, 1945 г.р.
Ст. 2 статьи Розанов Валерий Николаевич, 1944 г.р.
Ст. 2 статьи Слугин Михаил Иванович,
Ст. 2 статьи Кисловский Геннадий Иванович, 1945 г.р.
Ст. 2 статьи Пузевич Константин Николаевич, 1944 г.р.
Ст. 2 статьи Юзефович Пётр Иосифович, 1944 г.р.
Ст. матрос Богалев Сергей Фёдорович, 1946 г.р.
Ст. 2 статьи Вечерин Игорь Васильевич, 1945 г.р.
Ст. 2 статьи Гайдай Сергей Николаевич, 1943 г.р.
Ст. матрос Воробьев Александр Васильевич, 1946 г.р.
Матрос Кузьмицкий Виктор Антонович, 1947 г.р.
Матрос Кужепов Анатолий Александрович, 1947 г.р.
Мичман Мусатов Владимир Иванович, 1935 г.р.
Гл. старшина Михнин Владимир Яковлевич, 1943 г.р.
Матрос Клеменчук Владимир Николаевич, 1947 г.р.
Матрос Коровин Александр Васильевич, 1947 г.р.
Матрос Романов Владимир Николаевич, 1946 г.р.
Матрос Гайвас Аркадий Константинович, 1946 г.р.

*(Спіс падводнікаў пададзены на мове арыгіналу, каб не дапусціць скажэнняў небеларускіх прозвішчаў.)*

*З успамінаў*
*Віктара Станіслававіча Дабраловіча,*
*былога падводніка, жыхара г. Ліды*

# Цесная Поўнач

Атамная падводная лодка К-3 (гэта першая атамная лодка) была перададзеная ВМФ для баявой эксплуатацыі ў 30 ліпеня 1958 г. У гэтым жа годзе К-3 прайшла пад арктычнымі льдамі, а ў 1962 годзе здзейсніла пераход да Паўночнага полюсу, але не ўсплыла. Пасля апошняга паходу лодцы была прысвоена назва "Ленінскі камсамол".

У верасні 1967 года экіпаж АПЛ К-181, бартавы нумар 147 на якой служыў я, быў падняты па трывозе з загадам сабрацца на пірсе дзе швартаваліся падводныя караблі. АПЛ К-181 праекту 627А была некалькі больш дасканалая, больш новая, на ёй было ўсталявана больш сучаснае абсталяванне: даўжыня лодкі 107 метраў, шырыня 7,9 метра, хуткасць ходу 30 вузлоў, экіпаж больш за сто чалавек. У той час гэта быў лепшы экіпаж Паўночнага флоту.

Прыбыўшы на пірс, у тэрміновым парадку размясціліся на хуткаходных кацерах і поўнымі хадамі пайшлі ў адкрытае мора. У Баранцавым моры нас чакаў крэйсер "Мурманск", і поўнымі хадамі пайшлі ў Нарвежскае мора. Праз некалькі сутак мы ўбачылі АПЛ К-3 у надводным становішчы. На крэйсеры нас сабраў камандзір і паставіў баявую задачу. К-3 знаходзіцца ў аварыйным стане, мы павінны памяняць экіпаж, прывесці АПЛ у магчымы нармалёвы стан і адшвартавацца ў Заходняй Ліцы. На К-3 узнік пажар у першым адсеку, выгаралі цалкам першы і другі адсекі разам з асабовым складам і аварыйна-выратавальнымі групамі, якія аказвалі дапамогу ў тушэнні пажару.

Для павелічэння запасу жывучасці і забеспячэння надзейнай жыццядзейнасці карабля АПЛ дзеліцца пераборкамі на адсекі, кожны адсек задрайваецца вадзін ад другога на крэмарары і замкі. Паводле наяўнага настаўлення па барацьбе за жывучасць карабля, усе адсекі задрайваюцца і экіпаж дзейнічае па баявой трывозе ў аварыйнай сітуацыі. Так было зроблена і на К-3. Аднак асабовы склад двух адсекаў і аварыйна-выратавальныя групы з іншых адсекаў дзейнічаючы ў тых умовах, якія склаліся, выйці з аварыйных адсекаў не змаглі.

На крэйсеры "Мурманск" былі прыведзеныя ў баявы стан усе наяўныя плаўсродкі для спуску на ваду. Мы былі гатовыя на шлюпках рушыць у чатырохбальнае хваляванне мора да аварыйнага карабля. Прааналізаваўшы сітуацыю, якая склалася і перамовіўшыся з камандзірам аварыйнай АПЛ, было прынята рашэнне памяняць экіпаж, як толькі ўвойдзем у зону спакою, што і было зроблена. Паводле штатнага раскладу К-181 я, адмысловец БЧ-5, старшына 8-га адсека, павінен быў прыняць і абслугоўваць 8-мы адсек і аказваць дапамогу аварыйна-выратавальнай службе флоту - аддрайваць верхнія люкі адсекаў: першага - уваходны і тарпедапагрузачны, восьмага - уваходны. Як толькі мы выйшлі на аварыйную лодку адразу было відаць што экіпаж дзейнічаў і змагаўся за жывучасць карабля і асабовага складу ў найскладаных умовах, у адсеках усе сродкі жывучасці і пажаратушэння былі прыведзеныя ў баявы стан і гатовыя да ўжывання.

К-3 мы абслугоўвалі да поўнага спынення рэактараў, неслі службу па баявым раскладзе. Падчас аварыі на лодцы К-3 загінулі 39 чалавек. На лодках 627-га праекту першы адсек тарпедны з боекамплектам 20 тарпед і восем тарпедных апаратаў з магчымасцю стральбы на глыбінях да 100 м.

Геранчныя дзеянні асабовага складу К-3, а ў прыватнасці аварыйных адсекаў не далі магчымасці ў полымі пажару падарвацца ні адной тарпедзе. А калі б адбыўся выбух адной, здэтанавалі б усе астатнія, а неабходна ўлічыць на АПЛ К-3 былі ўсталяваныя 2 атамныя рэактары, і К-3 вярталася з баявой службы з поўным боекамплектам.

Сёння мы можам сабе ўявіць, што б было тады, калі б адбыўся выбух. Менавіта дакладныя, суладныя дзеянні асабовага складу, бездакорнае выкананне настаўлення па барацьбе за жывучасць, не шкадуючы свайго жыцця не дапусцілі выбуху тарпедаў і рэактараў і тым самым выратавалі К-3. Пасля рамонту эксплуатацыя АПЛ "Ленінскі камсамол" працягвалася да 1991 года, пры гэтым лодка несла службу нароўні з іншымі атамаходамі.

*Так двое лідзян аказаліся ў адзін час на адной лодцы. Кузьміцкі, зачынены ў аварыйным адсеку, а Дабраловіч у складзе зменнага экіпажу.*



***Атамная падводная лодка***




КОМИТЕТУ КОМСОМОЛА ЗАВОДА «ЛИДСЕЛЬМАШ», Г. ЛИДА, ГРОДНЕНСКОЙ ОБЛАСТИ ОТ ЗАМЕСТИТЕЛя КОМАНДИРА ПО ПОЛИТИчЕСКОЙ чАСТИ В/ч 09990

УВАЖАЕМЫЙ ТОВАРИЩ СЕКРЕТАРЬ!
УВАЖАЕМЫЕ ТОВАРИЩИ!

Виктор Антонович Кузьмицкий действительно служил в нашей части с октября 1966 года по июнь 1967 года, после чего убыл на действующий флот.

В первые дни своей службы он был избран секретарём комсомольской организации своего подразделения. На этой работе проявил себя, как хороший организатор и отзывчивый товарищ. В жизни подразделений был инициативным и непримиримым к недостаткам.

В овладении специальностью показал себя трудолюбивым и настойчивым. Был переведён из нашей части с отличными показателями в боевой и политической подготовке.

Нам известно, что Виктор Кузьмицкий погиб при выполнении правительственного задания.

Подробностей о его подвиге мы не знаем, поэтому советуем обратиться Вам по следующему адресу:

Г. Североморск-7, Мурманской области.

В/ч 95155. Начальнику политотдела.

С уважением

Заместитель командира по политчасти в/ч 09990.

---

Войсковая часть
39061

« 8 » мая 1968 г.

г. Североморск-6

г. Лида, Гродненской области,
ул. Советская, дом -70,
завод “Лидсельмаш”.
Секретарю комитета ВЛКСМ

На Ваш запрос №-45 от 5 апреля 1968 года сообщаю, что подробностей героической гибели комсомольца матроса Виктора КУЗЬМИЦКОГО сообщить Вам не имею права, т.к. это является военной тайной.

Могу только охарактеризовать его службу в учебном отряде города Кронштадта (в/ч 09990-11) и на соединении - на подводной лодке “Ленинский комсомол”. За период учебы и службы Виктор зарекомендовал себя дисциплинированным, трудолюбивым, исполнительным и инициативным моряком. Во время учёбы он был назначен командиром отделения в смене. Неоднократно поощрялся. командованием за старательность. Комсомольцы учебного отряда избрали его членом комсомольского бюро роты. Большое участие принимал КУЗЬМИЦКИЙ в оборудовании классов и учебных кабинетов.

Всё это позволило ему окончить учебный отряд с отличием, а на подводной лодке - одним из первых сдать на самостоятельное управление боевым постом.

На корабле Виктор пользовался авторитетом среди командования и товарищей, имел целый ряд поощрений. При выполнении боевого задания он проявил мужество и героизм, выполнил свой долг до конца.

Память о боевом друге и товарище сохранится навсегда в сердцах комсомольцев объединения.

Похоронен Виктор здесь, в Североморске - 7. Посмертно он занесён в “Книгу Почёта комсомольцев Краснознамённого Северного Флота”.

ПОМОЩНИК НАЧАЛЬНИКА ПОЛИТОТДЕЛА ПО
КОМСОМОЛЬСКОЙ РАБОТЕ В/ЧАСТИ 39061
ИНЖЕНЕР-КАПИТАН 3 РАНГА: /ЗАЙЦЕВ П.И./
8 мая 1968 года.

# ВІКТАР КУЗЬМІЦКІ



*Віктар у дзяцінстве*

Віктар Кузьміцкі нарадзіўся 24 жніўня 1947 года ў вёсцы Гута Драгічынскага раёна, Берасцейскай вобласці. Неўзабаве сям'я пераязджае ў пасёлак Масты Гарадзенскай вобласці.

У 1951 годзе сям'я пераязджае з Мастоў у г. Ваўкавыск, дзе Віктар ідзе ў школу. Адсюль у 1954 годзе ён пераязджае да сваякоў бацькі ў г. Драгічын, дзе працягвае вучыцца. Тутака ж ён уступае ў шэрагі Ўсесаюзнай піянерскай арганізацыі, абіраецца старшынём савета атрада.

У 1958 годзе Віктар вяртаецца ў г. Ваўкавыск да бацькі, вучыцца ў школе № 1. Віктар захапляецца тэхнікай, займаецца ў школьным тэхнічным гуртку. Любіць маляваць, чарціць, прымаў удзел у афармленні насценгазет, святочных калон. З 1962 года з'яўляецца членам ВЛКСМ.

У 1962 годзе сям'я Віктара пераязджае ў гор. Ліду. Тут ён паступае вучыцца ў 9 клас школы № 11. Падчас вучобы ў 10 класе школы № 11, быў абраны ў склад камітэта камсамолу, вёў працу ў камсамольскім спартовым сектары.

За ўдзел у грамадскім жыцці школы мае шэраг падзяк ад дырэкцыі школы і ГК ЛКСМБ. З 1964 года Віктар - камандзір гарадскога камсамольскага штаба школьнікаў.

Віктар захапляўся спортам, меў другі спартовы разрад па лёгкай атлетыцы. Удзельнічаў у абласной



*Сям'я Кузьміцкіх*

спартакіядзе школьнікаў, дзе паказаў выдатныя вынікі ў бар'ерным бегу.

***Кузьміцкі Антон**, бацька: "Я па прафесіі будаўнік, таму часта знаходзіўся ў раз'ездах. Дзяцей бачыў рэдка. У нас іх было двое: Віктар і Наташа. Віця ў дзяцінстве вельмі любіў ляпіць розныя фігуркі з гліны, лавіць рыбу. Часта мы з ім ездзілі на рыбалку. У першы клас пайшоў Віктар у 1954 годзе. Школа была далёка, але Віця заўсёды хадзіў пешшу. Вучыўся добра. Дома дапамагаў маце-ры. Пасля пераезду ў Ліду Віктар пачаў вучыцца ў 11-й школе.*

*У школе яго выбралі ў камітэт камсамолу. Падабалася яму гэтая праца. Бывала прыйдзе і распавядае, як у іх прайшоў збор. Або як яны рыхтаваліся да агляду. Часта Віця гаварыў: "Шукай і знаходзь. Знойдучы дабрае, аддай людзям".*



**На паседжанні камітэту камсамолу**

***Кузьміцкая Зоя Аляксандраўна,** маці: "У дзяцінстве Віця рос ціхім хлопчыкам. Пачаў вучыцца ў школе. Хадзіў у школу за 5 км лесам. Ён баяўся ваўкоў, аднойчы прыйшоў дадому і гаворыць: "Мама. Сёння нас сустрэў воўк і сказаў, што я вас з'ем". Вучыўся Віця добра, прыгожа пісаў, любіў маляваць, выпілоўваць. Быў ён вучнем акуратным, добрасумленным. У школе быў членам камітэту камсамолу. Заўсёды абараняў гонар класа і школы."*

***Кузовіна Ганна Міхайлаўна,** настаўніца: "У класе Віця сядзеў на другой парце ля акна. Быў вельмі дапытлівым. Добра разбіраўся ў палітыцы. З яго дапамогай і пры яго актыўным удзеле частая арганізоўваліся сустрэчы з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны. Віктар карыстаўся велізарным аўтарытэтам сярод таварышаў. паважалі і любілі Віцю. Вось які аднойчы здарыўся выпадак. Рыхтаваўся агляд мастацкай самадзейнасці. Трэба было падрыхтаваць танцы. Хлопцы ж не хацелі танцаваць. Я не ведала, што з імі рабіць. Як раз да мяне ў гэты час падышоў Віця, і я яму распавяла, што здарылася. Уважліва выслухаўшы мяне, ён сказаў: "Хлопцы будуць танцаваць" на наступны дзень, праходзячы міма класа, я чула гукі мелодыі - ішла рэпетыцыя."*

***Ушко Пётр**, аднакласнік Віктара Кузьміцкага: "З Віктарам Кузьміцкім я займаўся з 9-га па 11-ты класы. З першых дзён Віктар прыцягнуў нас да сабе, мы з ім пасябравалі. Віця добра займаўся, быў добрым спартоўцам. Дзякуючы яго высілкам была створана добрая школьная каманда па лёгкай атлетыцы. Віктар сам быў чэмпіёнам вобласці ў бар'ерным бегу на 110 м. Хлопцы малодшых класаў знайшлі ў Віктару добрага старэйшага таварыша. Цягнуліся да яго."*

У 1965 годзе Віктар Кузьміцкі скончыў школу №11. У жніўні месяцы паступіў на працу на завод "Лідсельмаш" у кавальска-прэсавы цэх вучнем штампоўшчыка. У кастрычніку гэтага ж месяца яму прысвойваюць 1 разрад штампоўшчыка. У сакавіку месяцы 1966 года яму прысвойваюць званне "Ўдарніка Камуністычнай працы".

У 1965 годзе Віктар абіраецца членам камітэту камсамолу і вядзе працу ў спартовым сектары. Абіраецца дэлегатам на гарадскую камсамольскую канферэнцыю. На канферэнцыі абіраецца ў склад рэвізійнай камісіі ГК ЛКСМБ. Віктар прымаў актыўны ўдзел у афармленні завода і святочных калон.

**Ю. Арцэвіч,** *сакратар камітэту камсамолу*



**У заводскім калектыве**

*завода "Лідсельмаш": "Віктар Кузьміцкі прыйшоў да нас на завод у 1965 годзе. Неяк адразу і неўзаметку ўліўся ў калектыў. Ён працаваў у кавальскім цэху штампоўшчыкам. Спачатку яго паставілі вучнем да станка, аднак літаральна праз некалькі дзён ён асвоіў сваю прафесію і пачаў працаваць самастойна. Неўзабаве ён здаў на разрад, а праз пяць месяцаў яму прысвоілі званне "Ўдарніка камуністычнай працы".*

*Віктар вельмі ўважліва ставіўся да таварышаў. Іза гэта хлопцы шанавалі яго. Нездарма Віктара абралі членам завадскога камітэту камсамолу. Ён вельмі любіў камсамольскую працу, стараўся натхніць сваім запалам моладзь. І гэта яму ўдавалася. Хлопцы паважалі Віктара, вельмі ўважліва прыслухваліся да яго парадаў. Ён добра маляваў плакаты. Афармляў газеты. І усё гэта ён рабіў з задавальненнем."*

У жніўні 1966 года Віктар прызыаецца на вайсковую службу. Зарэкамендаваў сябе дысцыплінаваным, працавітым, выканаўчым і ініцыятыўным мараком. Падчас вучобы быў прызначаны камандзірам аддзялення ў змене. Неаднаразова заахвочваўся камандаваннем за стараннасць. Камсамольцы вучэбнага атрада абралі яго членам камсамольскага бюро роты. Віктар скончыў вучэбны атрад з адзнакай, а на падводнай лодцы адным з першых стаў самастойна кіраваць баявым пастом.

Пры выкананні баявога задання Віктар выявіў мужнасць і гераічнасць, выканаў свой абавязак да канца.

***Ушко Пётр**, аднакласнік Віктара Кузьміцкага: "Пасля канца школы мы часта сустракаліся з Віктарам. Ён працаваў на заводзе. Мы вучыліся ў інстытуце. Кожнае свята мы праводзілі разам. Віктар дзяліўся з ўсімі сваімі ўражаннямі, марыў паступіць у інстытут, але не прайшоў па конкурсе. Затым пайшоў служыць у войска. Патрапіў на самы цяжкі ўчастак - Ваенна-Марскі флот. Мы з ім часта перапісваліся. Па яго ініцыятыве мы арганізоўвалі сустрэчу выпускнікоў праз пяць гадоў. Гэтая сустрэча павінна была адбыцца ўлетку 1970 года.*

*Сустрэча адбылася ў роднай школе ля твайго партрэта, Віктар. Але ты будзеш заўсёды сярод нас, памяць аб табе застанецца назаўжды ў сэрцах сяброў."*

***Ю. Арцэвіч,** сакратар камітэту камсамолу завода "Лідсельмаш": "У верасні мы праводзілі Віктара ў войска. Ён становіцца выдатнікам баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Як аднаго з лепшых камсамольцаў яго пасылаюць служыць на падводную лодку "Ленінскі камсамол".*

*... Іх хавалі 13 верасня недалёка ад Североморска. Я разам з бацькам Віктара ездзіў на пахаванне. У гэты дзень тысячы маракоў прайшлі каля брацкай магілы, каб у апошні раз развітацца са сваімі таварышамі.*

*... У нас на заводзе не забылі Віктара. Мы афармілі альбом аб ім, зрабілі куток памяці. У кавальскім цэху, дзе працаваў Віктар, хлопцы адпрацоўваюць за яго змену. Камсамольская арганізацыя завода змагаецца за права насіць імя Віктара Кузьміцкага."*



***Першы вайсковы здымак***

Пасмяротна Віктар занесены ў “Кнігу Пашаны” камсамольцаў Чырванасцяжнага Паўночнага Флоту”.



ВЫПИСКА

***ВЫПІСКА***
***з Кнігі Пашаны камсамольцаў і моладзі флоту***

*За мужнасць, гераізм і выключна высокія маральна-палітычныя якасці выяўленыя пры выкананні спецыяльнага задання камандавання матрос Кузьміцкі Віктар Антонавіч рашэннем члена Вайсковага Савета - начальніка Палітычнага ўпраўлення ЧПФ ад 13 ліпеня 1968 года пасмяротна занесены ў Кнігу Пашаны камсамольцаў і моладзі Чырванасцяжнага Паўночнага флоту.*

*ВА Начальніка Палітупраўлення Чырвонасцяжнага Паўночнага флоту па камсамольскай працы*

*капітан 3 рангу У. ПАПОЎ.*

*8 ліпеня 1968 г.*

***Аляксейчык Ніна Аляксандраўна**, настаўніца: “... У дзень 50-годдзя Ленінскага камсамолу (1968 г.) ў нашай школе была адкрыта мемарыяльная дошка, як сімвал глыбокай пашаны да нашага маладога героя.”*

У 1988 годзе мемарыяльная дошка Віктара Кузьміцкага была заменена на мемарыяльную дошку памяці двух выпускнікоў 11-й школы, якія загінулі пры выкананні воінскага абавязку: Віктара Кузьміцкага і Валерыя Карчагіна. *(Памяць. Ліда. Лідскі раён. Мінск. “Беларусь”. 2004)*

У школе №11 ужо каля 40 год існуе мемарыяльны куток Віктара Кузьміцкага, праводзяцца экскурсіі, урокі памяці.

У Лідзе на працягу 25 гадоў праводзіцца міжнародны турнір па валейболу памяці Віктара Кузьміцкага.

***Матэрыял скампанаваў***
***Станіслаў Суднік.***



***Адкрыццё мемарыяльнай дошкі памяці Віктара Кузьміцкага на школе № 11 у 1968 г.***



***Адкрыццё мемарыяльнай дошкі памяці Віктара Кузьміцкага і Валерыя Карчагіна на школе № 11 у 1988 г.***




***Мемарыяльная дошка памяці Віктара Кузьміцкага і Валерыя Карчагіна на школе № 11***



***Мемарыяльная куток Віктара Кузьміцкага***

# ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ

## Дакументальны нарыс

**Віктар Кузьміцкі...**

Ні разу я не пацісную яго рукі, нават не перакінуўся ні словам. Тым не менш ён цяпер мой самы лепшы сябра, таварыш і, спадзяюся, стане таксама тваім, дарагі чытач! Яму толькі дваццаць. Таму не зрабіў нават сотай долі задуманага. Але зробленага дастаткова, каб сцвярджаць: добра пражытае жыццё. Праўда, да болю кароткае. Ды ці ва ўзросце справа? Спрадвеку жыццё цанілася і будзе цаніцца не за даўжыню, а за змест. Ён заваяваў права на павагу і жыццё сярод людзей перапоўненасцю справамі, учынкамі, справядлівымі адносінамі да ўсяго жывога на зямлі, напружанасцю маральных пошукаў. Дык паглядзім бліжэй на юнака вачыма родных, таварышаў, знаёмых, прачытаем яго ўласныя радкі з запісной кніжкі, шматлікіх пісьмаў і іншых дакументаў, з якімі даверліва пазнаёмілі мяне яго малодшая сястра Наташа, брат Андрэй, бацькі...

### НА ПАРОЗЕ СТАЛАСЦІ

Без пяці хвілін выпускнікі СШ № 11, яны ўцяклі з заняткаў. Дакладней, дэманстратыўна пакінулі ўрок працы і, узбуджаныя, падаліся ў гарадскі парк. Далёка не ідэальная, але ўпаўне апраўданая форма рэагавання на «прапанову» настаўніка разгрузіць для яго брыкет.

Першым падняўся з парты прызнаны важак — Віктар, па скарочанаму прозвішчу «Кузьма», як яго называлі аднакласнікі. Следам за ім «высыпаў» з памяшкання ўвесь тузін хлопцаў: неразлучны сябра Леанід Ліпскі — у будучым навуковы супрацоўнік аднаго з менскіх навукова-даследчых інстытутаў АН БССР, Пятрусь Ушко — выкладчык індустрыяльнага тэхнікума, Юра Трафімаў — кадравы афіцэр Ваенна-Марскога Флоту, усіх не пералічыш.

Назаўтра іх чакаў педсавет, які, разабраўшыся, гнеў змяніў на літасць. А пакуль што — залітыя майскім сонейкам, ахопленыя з усіх бакоў зялёнай пяшчотай лістоты, уцекачы забылі пра крыўду рвача-педагога, заадно пра апошні ўрокі «дурэлі» да знямогі на дзіцячай пляцоўцы: каталіся на крузе, на арэлях... Тут жа фатаграфаваліся: здымкі атрымаліся на славу. Найбольшы разгон дастаўся Віктару: «Член камітэта камсамола школы, камандзір агульнагарадскога камсамольскага штаба старшакласнікаў «Мара»: “Як ты і г. д...»

Калі на Віктара павышалі голас, з яго не выціскалі ні кроплі: паважаў у сабеі іншых чалавечую годнасць.

Паміж яго словам і справай не было шчыліны. І гаварыў, што думаў, і думаў, што гаварыў.

«Аднойчы я паведамляю Віцю, — расказвала настаўніца Ганна Міхайлаўна Кузовіна. — Удзельнікі мастацкай самадзейнасці, «забаставалі»: не хочуць развучваць танец. Выслухаўшы мяне, адказвае: «Будуць танцаваць». На наступны дзень я пачула з залы гукі мелодыі: дзеці развучвалі танец».

А вось яскравыя піянерскія ўспаміны Святланы Сялевіч: «ён быў на пяць гадоў старэйшы за нас, пяцікласнікаў, але вельмі любіў бавіцца з дзецьмі... У «майстэрні» Дзеда Мароза ідзе падрыхтоўка да Новага года. Хлопцы ў фарбе, запэцканыя. Адзін небарака пад вокам Дзеда Мароза пасадзіў кляксу і засумаваў, ледзь не плача. Да яго падыходзіць стройны хлопец і кажа: «Нічога, браток, не хвалюйся. Хай высахне, замажам бяліламі, і ўсё будзе ў парадку».

Аднойчы ён рабіў карту-схему СССР. Мы падносілі фарбу, мянялі ваду. Тройчы шчаслівы быў той, каму Віця даваў патрымаць свой пэндзлік з сінім наканечнікам. Заўсёды выконваў абяцанне. А як толькі празвініць званок на перапынак, — дзеці ляцяць да яго ў клас, як пчолы на мёд.

Развітальны школьны баль гудзе без яго: паехаў на XIX абласную спартакіяду ў складзе зборнай юнакоў нашага горада. У моры музыкі, весялосці раптам раздаецца голас: «Братва, айда на вакзал, «Кузьма» едзе!» Імгненна апусцела зала. Усім класам, прыбраныя, узнёслыя хлопцы і дзяўчаты кінуліся на перон. У руках — букеты кветак. Ад нечаканасці разгублена ўсміхаецца Віктар — новенькі чэмпіён вобласці. Яго трафеем у той шчаслівы дзень 25 траўня 1965 года стала таксама Грамата абласнога аддзела народнай адукацыі за другое месца ў бегу на 200 метраў. І ніхто не здагадваўся, якая цана была заплачана за гэтыя спартыўныя вышыні.

...У абдымках і поціску сяброўскіх рук ён бачыць сябе пяцігадовым хлапчуком, які коўзаецца па вуліцы на тоўстай лучыне з прымацаваным дротам, адпаліраваным да гладкага бляску. І вось над плітой сохнуць чаравікі з прыкручанымі да іх бліскучымі заводскімі канькамі. Дачакаўся нарэшце моманту, калі адхіліліся старэйшыя браты, і пацягнуўся па мару, забыўшы пра вогненную небяспеку. Нешта балюча-балюча кальнула ў босую ножку, пераступіў на другую і захлынуўся ў моцным плачы. Выхапіла з пліты хлапчука маці... Апёкі страшэнныя, тэмпература. Некалькі месяцаў насілі на руках. Не ўставаў. Думалі, не выжыве. ці застанецца калекаю. Вучыўся хадзіць нанава. І вось — чэмпіён. За год да гэтага заваяваў першае месца ў горадзе па скачках у даўжыню.

Моцны характар гартаваў у барацьбе з перашкодамі, якія ён не толькі не абыходзіў, а, наадварот, ставіў перад сабою (той жа бег з бар’ерамі) і бліскуча пераадольваў. Шмат чытаў і рабіў выпісак. У запісной кніжцы, да якой мы не раз яшчэ звернемся, ёсць адно выказванне В. Бялінскага: «Так, усё спасцігнуць духам, усё абняць пачуццём, усім запанаваць і нічаму выключна не пакарыцца — вось жыццё!» Праграмнае.

**"ЛІДСЕЛЬМАШ". АЗАРТ РАБОТЫ.**

Здзіўляліся настаўнікі, пацiскалі плячыма таварышы: такі здольны выпускнік і раптам -- вучань штампоўшчыка ў кавальска-прэсавым цэху завода з незайздроснай славай. Урэшце, ёсць жа ў горадзе перадавыя прадпрыемствы, а ў атэстаце сталасці запіс аб атрыманай у школе спецыяльнасці слесара-аўтарамонтніка другога разраду. Асабліва балюча было слухаць хатнія папрокі, маўляў, старэйшыя браты, Барыс і Іван, як людзі, адразу паступілі ў інстытуты... «Затоеяны не паспыталі рабочага жыцця, а я хачу ўсё прайсці і выпрабаваць сам», — адрэзаў Віктар.

І пабеглі імклівa працоўныя будні, пафарбаваныя навізною першага ўспрымання, узмоцненага прыходам непаўторнай пары вялікага кахання. 3 каханай дзяўчынай яго размежавалі сотні кіламетраў (Марына паступіла ў Магілёўскі педінстытут). Але ім здавалася, што адлегласці гэтай не існуе: ляцелі паштоўкі адна за другою амаль штодзённа. Тоўстыя канверты па некалькі аркушаў расказвалі пра кожны крок.

Віктар жыў на ўскраіне горада па вуліцы Паўліка Марозава, таму ездзіў у перапоўненым транспарце. Вось радкі аб гэтым, адрасаваныя каханай: «Каб я папрацаваў месяц у першую змену, з мяне зрабілі б «цвічок» у аўтобусным «прэсе». І далей: «Мілы мой інтэлігент з банцікам! Я зноў схадзіў у бібліятэку і набраў кіпу кніг... Па-ранейшаму вельмі падабаецца работа. Немудроная справа — націскаць нагою на педаль. А ты паспрабуй знайсці новае, палепшыць якасць, прадукцыйнасць, дасягні эканоміі ў часе і метале. Гэта ўжо іншае. А часам зменіш вугал нахілу дэталі ці месца размяшчэння нарыхтоўкі, і ўвачавідкі работа пайшла хутчэй. Ад гэтага на душы становіцца хораша. Адзіная мая ўцеха — работа. На заводзе я адчуваю сябе сапраўдным чалавекам». Тут поўны адказ, чаму ўжо праз тыдзень Віктар працаваў самастойна, праз месяц атрымаў другі разрад, а праз пяць — званне ўдарніка камуністычнай працы.

Выводзіў кожную літарку, акуратна, старанна, як жанчына. Звароты Ты, Табе, з Табою, адрасаваныя Марыне, пісаў з вялікай літары. Адкуль такая пяшчота, ласкавасць, павага? Вытокі — вялікае сэрца, чулая душа.

І зноў пра заводскія справы: «Марынка! Мяне, паверыш Ты, ледзь не перавялі на іншы ўчастак. Чаму? За спартыўны азарт у рабоце. У пятніцу я выпускаў дэталь, так званы сальнік. Штамп трапіўся выдатны, і я задаўся мэтай вырабіць 50 штук за мінуту (звычайна іх робяць 25-30). Адна справа пажадаць, іншая — ажыццявіць. Перад гэтым я шмат назіраў за рабочымі. Наогул, калі хочаш зрабіць што-небудзь людскае, лепш і хутчэй за іншых — дасканала абагуль і вывучы свае прыёмы і вопыт таварышаў. Усё было ўлічана, я прыступіў, але... На дзве гадзіны (да канца змены) майстар адхіліў мяне ад работы.

Усё ішло спачатку добра. У азарце я ўзнімціў тэмп яшчэ больш і. забыўся пра тэхніку бяспекі. Мой учынак не пагражаў жыццю, у горшым выпадку я сапсаваў бы толькі штамп. Галоўнае, усе дэталі — вышэйшага гатунку! Але... мая работа не спадабалася «старым»: маўляў, калі так будзем працаваць, то панізяць нам расцэнкі. Зноў узніклі трэнні, хоць да гэтага адносіны былі амаль наладжаны. Ну і хай сярдуюць. Буду працаваць так, як трэба. Праўда, на маім баку майстар. Ен, як і я, заўзяты рыбалоў, і не трэба шмат моцы, каб схіліць яго ў адпаведны бок. Ты не хвалюйся, Маша, усё будзе добра. Моцна-моцна цалую цябе — Віктар».

Мажліва, канфлікт са «старымі» зноў перажываў Віктар, калі ў запісной кніжцы выводзіў пякучыя сумленне радкі рэвалюцыянера-дэмакрата М. Г. Чарнышэўскага: «Хто гладзіць па шэрсці ўсіх і ўсё, той, акрамя сябе, не любіць нікога і нішто; кім задаволены ўсе, той не робіць нічога добрага, таму што дабро немагчыма без знявагі зла. Каго ніхто не ненавідзіць, таму ніхто не абавязаны».

17 мая 1966 года, у першы дзень работы XV з'езда ВЛКСМ, Віктар, як і ўся моладзь, прыйшоў на мітынг, прысвечаны адкрыццю помніка героям-падпольшчыкам, якіх фашысцкія захопнікі расстралялі за пяць дзён да вызвалення горада ад акупантаў.

Гэты момант запомніўся сакратару цэхавай партарганізацыі лакафарбавага завода Генадзю Капялевічу, аднагодку, суседу і сябру Кузьміцкага, асабліва размовай па дарозе дадому.

«Тады мы зрабілі шмат фотаздымкаў, — ён паказвае мне каштоўныя кадры плёнак, дзесяткі здымкаў. — Віця, звычайна такі гаваркі і вясёлы, доўга маўчаў. Раптам кажа ні то сабе, ні то мне. Гэтае разважанне ўслых я запомніў амаль даслоўна: «На подзвіг здольны толькі той, хто глыбока адчуў і асэнсаваў, што такое сумленне, гонар, абавязак. Прыстасаванец, кар'ерыст, лісліва перад начальствам і грубы з падначаленымі, ніколі не кінецца на кулямёт, як яны (тут сябра павярнуўся назад і паказаў рукой на белы абеліск у абдымках зялёных соснаў), а ў наш час на зло, несправядлівасць, гвалтоўніцтва. Я ўпэўнены, што і ў мірныя дні заўсёды ёсць месца подзвігу. Не абавязкова для здзяйснення яго патрэбен пажар ці тапелец. Паўсядзённае жыццё стварае часам абставіны, якія патрабуюць не меншага гераізму, храбрасці і мужнасці, чым ва ўмовах вайны...»

Колькі трэба было перадумаць, перажыць і адчуць, каб ўзняцца да разумення гэтага подзвігу грамадзянскага, вяршыню якога Генеральны сакратар ЦК КПСС у дакладзе на XXV з'ездзе партыі так выразна акрэсліў трыма словамі — актыўная жыццёвая пазіцыя. Віктар займаў яе заўжды як сапраўдны баец.

Такога хлопца нельга было не прыкмеціць. На справаздачна - выбарнай камсамольскай канферэнцыі моладзь завода выбірае Кузьміцкага членам камітэта камсамола (спартыўны сектар) і дэлегатам на гарадскую канферэнцыю, на якой ён уваходзіць у састаў рэвізійнай камісіі ГК ЛКСМБ. Яшчэ больш ушчыльніў свае суткі. Часта вяртаўся дамоў позна, каб не трывожыць маці, загадзя дамаўляўся з малодшай сястрычкай Наташай.

Раз-другі кіне каменьчыкам у шыбіну, і тая адчыняе акно, зразумела, не заўсёды ветліва. Па лесвіцы, (жылі на другім паверсе) ціхенька ўзбіраецца

кладзецца спаць, не турбуючы бацькоў, якія адпачывалі ў прахадным пакоі.

**МАРАК — ПАДВОДНІК**

У працоўнай кніжцы Віктара з'явіўся запіс: звольнены ў сувязі з прызывам у рады Савецкай Арміі. А праз тыдзень бацькі ўжо трымалі ў руках фотакартку. Бесказырку сына абводзіць на стужцы надпіс «Чырванасцяжны Балтыйскі Флот». Цёмныя бровы навісаюць над такімі ж вачыма, валявымі, разумнымі. Блакітнабелыя хвалі бягуць па цяльняшцы, блішчыць камсамольскі значок. Гэты прыгожы здымак, размножаны і павялічаны ў некалькі разоў, разляціцца па заводу і школе, дзе вучыўся і працаваў па залах лідскага музея і пакоях баявой славы. А пакуль на адваротным баку карткі прыгожа і лёгка, бы тыя чайкі над морам, лунаюць літары адрасата, складаючы аптымістычную надзею: «Мама, не хвалюйся. Са мною нічога не здарыцца!»

Паштоўкі да Наташы слаў больш адкрытыя і падрабязныя: «Трапіў у вучэбны атрад падводнага плавання. Пра гэта я не пісаў маме, бацьку, і ты не расказвай, бо яны і так, мабыць, перажываюць. Я назначаны камандзірам аддзялення. Мяне выбралі членам камсамольскага бюро роты. Часта за падначаленых дастаецца. За сабою даводзіцца сачыць удвая больш...»

Здзіўляюць шчырасцю радкі пра непаразуменні і службовыя непрыемнасці ў першыя тыдні службы. Яму, чалавеку з незалежным, гордым характарам, знаходліваму і востраму на язык — нездарма ўзначальваў клуб КВЗ у школе — цяжка было ўстрымацца, каб не выказаць сваё меркаванне, параду ці прапанову. А калі адрасуецца старэйшаму па званню — гэта дзеянне ваенны статут кваліфікуе як спрэчку, парушэнне дысцыпліны. Пачытаем лепш прызнанні самога марака: «Наташа! Я маю процьму ўдзячнасцяў і не менш спагнанняў». У наступным паведамляў так: «Я не навучыўся яшчэ стрымліваць сябе. Вось і пракручваюць твайго брацiка. Кожны дзень на вахту за яго рэзкія меркаванні. Праўда, ад мяне ўжо амаль адчапіліся, бо нарады выконваю кожны раз так, што пасля начальству даводзіцца заахвочваць мяне».

Былі непрыемнасці і з падначаленымі: «Інструктар не жадаў і не дазваляў звальняць на бераг дваіх з аддзялення. А ў мяне, ты ж ведаеш, сэрца мяккае — пашкадаваў. Давялося хлопцаў цягнуць з горада на гарбу. Перакрэслена праца калектыву за цэлы месяц! У сувязі з экзаменам і з гэтым «ЧП» звальненні спынілі. Бязглуздзіца. Калі раней хлопцаў яны стрымлівалі, то зараз парушэнняў прыбавілася, а падрыхтоўка ад гэтага наўрадці палепшылася…»

Паступова Віктар падкручваў гайкі сабе і падначаленым: служба ёсць служба. Вось урывак з пісьма марака: «Хлопцы пагражалі прыкончыць мяне за тое, што шмат патрабаваў ад іх. Затое пасля агляду заваявалі першае месца ў падраздзяленні, і яны выказвалі мне ўдзячнасць. Заўтра прымаем прысягу, правёў камсамольскі сход (я сакратар ужо). Прысягу, як пераможцы спаборніцтва, мы прымаем першыя і ў Ленінскай зале.




***Віктар Кузьміцкі ў вучэбным атрадзе***

Ужо зараз паветра напоўнена нейкай урачыстасцю».

…Я трымаю ў руках чырвонае пасведчанне Кузьміцкага, які закончыў вучэбны атрад па спецыяльнасці машыніста-трумнага на выдатна, па першаму разраду. Усе пяцёркі: па тэорыі, практыцы, ваеннамарской і агульнавайсковай падрыхтоўцы, па дысцыпліне, палітычнай і фізічнай падрыхтоўцы. Яго накіроўваюць служыць на падводную лодку. У пісьме

гэта гучыць так: «Даравалі мы ўсе адзін другому памылкі, перагіны і раз'ехаліся па ўсяму свету. Я трапіў на баявы карабель. Экіпаж выдатны. Хлопцы вясёлыя, усе як адзін спадабаліся. Кубрык прасторны, светлы, выдатна афармлены. Тэлевізар, штанга, брусы. Для нармальнага адпачынку ёсць усё».

Тут ён, камсорг, адзін з першых атрымаў права на самастойнае ўпраўленне баявым пастом. Стала больш вольнага часу, і ён просіць сястрычку даслаць нямецка-рускі і руска-нямецкі даведнікі, некаторыя падручнікі за сярэднюю школу, каб рыхтавацца да паступлення ў ВНУ (архітэктурны ці будаўнічы інстытуты).

Служба пераваліла на другі год. Усё часцей Віктар дзяліўся марамі і планамі. І раптам... чужая вестка: «Ваш сын загінуў пры выкананні баявога задання, ахвяраваўшы ўласнае жыццё за выратаванне таварышаў...»

Прывядзем выпіску з Кнігі Пашаны камсамольцаў і моладзі Чырванасцяжнага Паўночнага Флоту:

«За мужнасць, гераізм і выключна высокія маральна-палітычныя якасці, праяўлевыя пры выкананні спецыяльнага заданяя камандавання, матрос Куэьміцкі Віктар Антонавіч пасмяротна занесены ў Кнігу Пашаны».

**АЛЕЯ КУЗЬМІЦКАГА КЛІЧА**

— Далёка ад родных мясцін Беларусі, паблізу горада Севераморска, на скупым і суровым схіле з імшыстых ды лішайнікавых скал узвышаецца абеліск, пад якім ляжыць шчодры і размашысты чалавек — «матрос Кузьміцкі Віктар Антонавіч (1947—1967 гг.)», сведчыць выбіты на мармуры надпіс. На жалобным мітынгу сярод маракоў пры развітанні з ім знаходзіліся бацькі і дэлегацыя лідскіх камсамольцаў на чале з сакратарам камітэта камсамолу завода «Лідсельмаш» Юрыем Арцэвічам.

Сцяну класа на другім паверсе СШ № 11, у якім вучыўся і сядзеў ля акна Віктар, — любіў прастору, далягляд! — ператварылі ў разгорнуты куток героя з вялікім партрэтам сярод экспазіцыі. Тут праходзяць урачыстасці, сходы, зборы. Гучыць яго любімая песня «Камунарскі сонечны круг».

Хай заўжды будуць зоры,
Хай заўжды будуць споры,
Хай заўжды будуць стрэчы...

і рапарты камсамольскіх і піянерскіх атрадаў «Вперед смотрящий» и «Непаседы» з дыялогамі, як тады: «Настрой? — «Бадзёры!» — «Курс?» — «Наперад». — «Ныцікаў — за борт!» Юныя вусны нашчадкаў паўтараюць яго любімы дэвіз «Ні на што не варты той, хто варты толькі для сябе».

31 жніўня, у традыцыйны дзень мужнасці, ля мемарыяльнай дошкі пры ўваходзе ў школу ставіцца стол з партрэтам Кузьміцкага. Ганаровую варту нясуць юныя піянеры. Перад першакласнікамі, якія прыходзяць на лінейку, выступае член лектарскай групы, звычайна выдатнік-дзесяцікласнік. Сёлета дзецям упершыню расказала пра мужнага выпускніка вучаніца восьмага класа выдатніца Іра Тыркіна. А потым слова даецца бацьку, камуністу Антону Іванавічу і маці, Зоі Аляксандраўне, якая заўжды плача... Ужо закончылі школу члены піянерскага атрада імя Віктара Кузьміцкага. У бягучым годзе гэту эстафету прадоўжыць 3-а: па ўмовах спаборніцтва ён атрымаў права насіць ганаровае імя. У піянерскім пакоі прыгожа афармлены альбом «Мы не забудзем цябе, Віця!» У ім — успаміны вучняў, настаўнікаў, бацькоў, сяброў, блізкіх. І фотаздымкі. Вось ён яшчэ зусім маленькі, набераэе ракі, трымае ў ручцы вялізнага рака. А праз некалькі старонак — аднакласнікі ля матроскага партрэта таварыша. Віктар марыў сустрэцца праз пяць гадоў, летам 1970-га. Сустрэча адбылася... без яго.

«Вярнуўся» Кузьміцкі і на «Лідсельмаш». Заводская камсамольская арганізацыя па рашэнню бюро ГК ЛКСМБ атрымала яго імя. У тым, што завод сёння стаў адным з перадавых прадпрыемстваў горада і займае прызавыя месцы нават ва ўсесаюзным сацыялістычным спаборніцтве, ёсць і яго заслуга, уклад 625 юнакоў і дзяўчат — кожны чацвёрты з агульнага ліку працуючых — да 30-гадовага ўзросту. Значнае месца адведзена Віктару ў заводскім музеі: там захоўваецца яго бесказырка, пояс і іншыя рэчы, якія даслалі таварышы па




***Стэла на магіле падводнікаў К-3***
***(У праграме "Ваенная тайна" быў паказаны іншы помнік падводнікам К-3)***




гладзіць: «Замерзла, мая прыгажуня...» І вось камсамольцы завода высаджваюць сотні дрэўцаў, тысячы кустарнікаў. Па вуліцы Свярдлова зялянееалея імя Віктара Кузьміцкага: бярозкі, клёны, таполі..!

12-гадовы рубеж раздзяляе ўжо апошні школьны званок аднакласнікаў Віктара, але пры размове аб ім святлеюць твары, вочы напаўняюцца нейкім шчаслівым бляскам за далучэнне да напоўненага жыцця сябра. Успамінаецца камсамолец так, быццам развіталіся з ім учора. Дзеясловы ўжываюцца ў цяперашнім часе.

*Прозвішча В.А. Кузьміцкага на пліце Алеі Славы ў Севераморску*

службе. Мне здаецца. варта было б папоўніць гэту экспазіцыю (або ў гарадскім краязнаўчым музеі) каштоўнымі дакументамі і ўласнымі рэчамі героя, якія знаходзяцца ў бацькоў і сястры Наташы: чырвоным пасведчаннем выдатніка-выпускніка вучэбнага атрада, атэстатам сталасці, некаторымі пісьмамі, выпіскамі з чарнавога запіснога блакнота (запісная кніжка з афарызмамі і выпіскамі недзе згубілася).

19 сакавіка 1976 года 31 член камсамольска-маладзёжнай брыгады элеватарнага ўчастка зборачнага цэха на агульным сходзе рашылі залічыць у свой спіс Віктара Кузьміцкага, сістэматычна выконваць за яго дзённую норму выпрацоўкі, а таксама прасіць гарваенкамат накіроўваць хлопцаў для праходжання службы ў часць, дзе служыў гэты пасланец завода.

У прасторных і светлых «Ікарусах» едуць сёння на работу на перадавое прадпрыемства хлопцы і перавыконваюць нормы за героя. Побач са стэндам «Працуем за сябе і за Віктара Кузьміцкага» - рабочае месца земляка, якое займае юнак з найлепшымі працоўнымі паказчыкамі. Нядаўна, у дзень Усесаюзнага камуністычнага суботніка, усе, як адзін, члены камсамольска - маладзёжнай — нават прыйшлі тыя, хто знаходзіўся у водпуску на чале з брыгадзірам Іосіфам Смаляком, дасягнулі найвышэйшай прадукцыйнасці працы і сабралі 10 звышпланавых элеватараў да бульбаўборачных камбайнаў. Летась камсамольцы зрабілі машыну «Віктар Кузьміцкі», якая працуе на бульбяных палетках падшэфнага калгаса «Зара».

На традыцыйных спартакіядах і спаборніцтвах моладзь завода змагаецца за прызы імя Кузьміцкага, які ва ўсім любіў ставіць рэкорды. На прадпрыемстве сёння дзесяткі майстроў, кандыдатаў у майстры спорту і першаразраднікаў.

Віктар любіў нашу прыроду, асабліва дрэвы. У час лыжных прагулак за горад спыніцца ля бярозкі і

Завод называе Віктара сваім сынам, школа — сваім, камсамол лічыць сваім.

«Мой сын, — гаворыць і настаўніца Кузьміцкага Надзея Іванаўна Папова, цяпер сакратар гаркама партыі. — Яго я блытала разам са сваім: такі ж чарнагаловы, рухавы і росту аднолькавага...» Але такога сына хацела б мець кожная маці. І тройчы ганарыцца тая, якая нарадзіла і выхавала яго — Зоя Аляксандраўна. У сэрцы і памяці жанчыны ён жыве такі ж маленькі, як гэты ўнучак Віктар, сын перадапошняга сына Андрэя. Уяўляе клубочкам, які коціцца па лесе ў школу за 5 кіламетраў (жылі тады на хутары), а пасля прыціснецца да яе (не дзічок, як старэйшыя, а ласкавы) і кажа, што вельмі баіцца ваўкоў. Або бачыць, як той бегае з сястрычкай, бы матылёк, па лужку па расе перад сном, лянуючыся мыць ногі. Гэтыя малюнкі ажыўляе ў памяці часцей за ўсё ўнучак, якому ў верасні споўніцца сем гадоў. Яны неразлучныя: поўдуць ва ўнівермаг да цёці Наташы, і той паказвае пальчыкам на цацку, часцей за ўсё караблік. А яго жаданне для бабулі — закон. Толькі заслязяцца бабуліны вочы, па шчацэ пакоцяцца буйныя гарошыны.

— Чато ты плачаш, бабуля? — спытае ён.

-- Я не плачу, унучак, гэта вочы мае баляць старыя, — адкажа яна. Не разумее дзіця жаночага гора. А тут яшчэ навучыўся маляваць адны караблікі ды лодкі. «Буду як дзядзька Віця, мараком», — гаворыць услых. А сэрца бабулі зноў сцісне балючым болем гэты напамінак…

Вось яны ідуць удваіх па алеі Кузьміцкага, залітыя сонечнымі промнямі і цёплым ласкавым ветрыкам.

*Гэты нарыс напісаны карэспандэнтам лідскай газеты "Уперад" Пятром Макарэвічам прыблізна ў 1977 годзе. Напісаны так, як пісалі ў тыя гады. Але сам стыль нарыса таксама частка нашай гісторыі.*

# Гісторыя будынка, якому споўнілася 100 гадоў

Гэты двухпавярховы цагляны будынак з жалезным дахам, вялікімі вокнамі, васьмю светлымі пакоямі на паўднёвым баку, прасторнымі калідорамі, невялікім драўляным тамбурам пры ўваходзе, быў пабудавана ў 1907 г. на сродкі Марыі Канстанцінаўны Навіцкай і яе мужа Хведара Людвікавіча Навіцкага.

Абыйшоўся гэты будынак Навіцкім у 26 тысяч рублёў, прычым 15 тысяч яны ўзялі ў доўг. Уявіць якія гэта тады былі грошы можна з параўнання: месячная зарплата кваліфікаванага рабочага складала 10-15 руб, майстра і наглядчыка - да 50 руб.

Будынак быў пабудаваны для прыватнай жаночай прагімназіі, якая да гэтага размяшчалася ў маленькай драўлянай аднапавярховай хаце з васьмі пакояў на вул. Каменскай. У 1910 г. прагімназія была пераўтвораная ў гімназію. Да 1918 г. у будынку авалодвалі прамудрасцямі сярэдняй адукацыі дочкі лідскіх мяшчан і багатых сялян. Колькасць гімназістак у лепшыя гады перавышала дзве сотні. Плата за навучанне складала ад 60 да 110 рублёў у год. Вучыліся і пры кайзераўскіх немцах, Першая Сусветная вайна не пазбавіла бацькоў надзей і неабходных сродкаў.

Але, калі Сусветная вайна плаўна перайшла ў рэвалюцыю, надзеі згаслі, а сродкі скончыліся.

Да шчасця для гараджан чырвоныя толькі двойчы па сто дзён валодалі горадам, абабраць лідзян да ніткі не паспелі.

У 1921 г. будынак перайшоў ва ўласнасць польскай дзяржавы, у ім ізноў з'явіліся гімназісткі разам з гімназістамі, і ўсе загаварылі на польскай. Адзінаццаць гадоў у будынку размяшчалася польская дзяржаўная гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча. Да цаглянага будынка была прыбудавана драўляная аднапавярховая спартзала. Вучыліся ў гімназіі галоўным чынам дзеці вайскоўцаў, дзяржаўных службоўцаў і багатых габрэяў, штогод за сваіх дзяцей яны плацілі 220 злотых. Падручнікі каштавалі да 8 злотых. Да таго ж гімназісты павінны былі глядзець вызначаныя п'есы і фільмы, каб абмяркоўваць іх на ўроках польскай мовы.

Пасля пераводу гімназіі ў новы шыкоўны будынак на вул. Школьнай (цяпер Кірава), у будынку на некаторы час размясціўся суд. Паседжанні суда адбываліся ў драўлянай прыбудове. Затым у будынак заехала габрэйская школа. На якой мове размаўлялі ў гэты час у класах - наідыш або іўрыце, дакладна адказаць цяжка, габрэйскія школы ў Лідзе былі дваякія, адны з іх рыхтавалі пасяленцаў для Ізраіля, іншыя - для мясцовага жыцця. Вядома, што вучыліся дзеці заможных бацькоў - школьныя формы ў іх былі накрухмаленыя.

Уз'яднанне прынесла ў школу беларускую мову, у 1939-41 гг. у будынку размяшчалася бясплатная беларуская НСШ № 3.

У ліпені 1941 г. немцы ў будынку і на прылеглай тэрыторыі арганізавалі лагер, які праіснаваў да 1944 г. Ён быў нейкі адмысловы. У ім былі сабраныя сем'і з дзецьмі з Ленінградскай вобласці. Там былі і маладыя людзі. У глыбіні двара размяшчаліся казармы, лазарэт,



***Польская гімназія імя К. Хадкевіча. Справа відна спартзала.***



***Аўтэнтычная частка гімназіі ў наш час.***



***Агульны выгляд ліцэя.***

медпункт, клуб быў, ладзілі танцы. Лагер ахоўваўся. Але не вельмі, дзеці з Маладварцовай вуліцы хадзілі туды ў любы час. Па суботах прыязджалі немцы - давалі лагерным дзецям цукеркі і здымалі на фота і кінакамеры.

У верасні 1944 г. у будынку адчынілася польская няпоўная сярэдняя школа № 3 з унікальным выкладчыцкім складам: дырэктар - былы супрацоўнік гебітскамісарыята і чырвоны падпольшчык, завуч і выкладчыца польскай мовы - белыя падпольшчыцы, французскай мове навучала выкладчыца даваеннай гімназіі. Вучні былі рознаўзроставыя. У класах было холадна, вучыліся, не здымаючы верхняй вопраткі. Працягвалася гэта нядоўга, настаўнікі і вучні польскага паходжання выехалі ў Польшчу, і з 1 верасня 1945 г. школа стала называцца рускай няпоўнай сярэдняй школай № 3. У класах ізноў загучала руская мова. У 1951 г. школа становіцца з 9 класам, а затым і сярэдняй.

У 1958 г. з усходняга боку была збудаваная двухпавярховая прыбудова са спартовай залай на першым паверсе і класнымі пакоямі на другім. У лютым 1964 г. здарыўся пажар, будынак хутка адрамантавалі, была збудаваная другая заходняя прыбудова, там размясцілі другую лесвіцу, якая злучала першы і другі паверхі, і туды ж зрушылі ўваход.

Многія выдатныя людзі выйшлі з сценаў гэтага будынка. Сапраўды ведаю, што выпускніца жаночай гімназіі Яўгенія Барташэвіч была студэнткай Вышэйшых жаночых курсаў у Петраградзе. У польскай гімназіі вучыліся пісьменнік Ежы Путрамент, знакаміты лётчык Стэфан Вітажэнец, вядомы тэнар Эдвард Якуць.

У лагеры жыла дзіцем і скончыла з залатым медалём 3-ю школу адна з лепшых лідскіх выкладчыцаў фізікі Тамара Вінаградава. 3-ю школу скончылі дактары навук Эдуард Вальчук, Барыс Слука, Тацяна Валынец, лётчык-выпрабавальнік Генадзь Сівец. Тут вучыліся майстры спорту міжнароднага класу Наталля Казлова і Ігар Міхальчук, дзесяткі кандыдатаў навук, лекараў, педагогаў, інжынераў, бізнэсмэнаў

Зараз у будынку ліцэй № 1. Хвалебныя дасягненні ліцэістаў яшчэ наперадзе. На ліцэі вісіць мемарыяльная дошка, надпіс абвяшчае: *"100 гадоў таму назад 7 кастрычніка 1901 года ў гэтым будынку была адчынена прыватная жаночая пачатковая школа Марыі Навіцкай. Р.Б. Груша. 2001".* Рычард Баляслававіч паспяшаўся, дошку прыйдзецца перарабляць. Таго маленькага драўлянага будынка, у якім была адчынена прыватная жаночая вучэльня, а не школа, даўно няма.




***Дошка пра адкрыццё гімназіі.***

Разам з тым, будынак варты занясення ў рэестр гісторыка-культурных каштоўнасцяў Лідскага раёна і праца па яго рэгістрацыі ў Дэпартаменце аховы помнікаў пачалася. Неўзабаве на будынку, спадзяёмся, з'явіцца памятны знак "Помнік 20-га стагоддзя. Ахоўваецца дзяржавай".

***Валеры Сліўкін,***
***таксама выпускнік СШ №3.***

# Святло ў “Еўропе”

Увосень 2007 года ў самым цэнтры Менска, на скрыжаванні вуліц Леніна і Інтэрнацыянальнай, адчыніўся першы беларускі пяцізоркавы гатэль “Еўропа”. Уласна, будынак проста вярнуўся на сваё гістарычнае месца. Гатэль з аднайменнай назвай знаходзіўся на вуглу Губернатарскай вуліцы і Саборнага пляца ў Менску з канца XIX стагоддзя. Пасля правядзення рэканструкцыі ў 1906-1908 гг. гатэль “Еўропа” набыў яўныя рысы мадэрну і быў адным з самых



***Стары гатэль “Еўропа”***



***Новы гатэль “Еўропа”***


*Банкетная зала*


*Рэстаран*


*Рэстаран*

буйных цывільных будынкаў у Менску. Тут размяшчаўся знакаміты рэстаран Саўлевіча, жаночая і мужчынская цырульні, кнігарня, бібліятэка. Аб узроўні гатэля можна меркаваць толькі па тым факту, што ў кожным нумары быў усталяваны тэлефон, працаваў ліфт, а для пастаяльцаў да ўваходу падаваліся аўтамабілі і павозкі.

Пасля рэвалюцыі некалі бліскучы гатэль паступова прыйшоў у заняпад і ўяўляў сабой даволі маркотнае відовішча.

У гады Другой Сусветнай вайны будынак быў цалкам разбураны.

Пасля прыняцця рашэння аб аднаўленні гатэля новыя фасады "Еўропы" па задуме праектыроўнікаў і архітэктараў павінны былі адпавядаць знешняму абліччу гасцініцы пачатку дваццатага стагоддзя.

Трэба адзначыць, што з пастаўленай задачай цяперашнія архітэктары, будаўнікі і дызайнеры справіліся бліскуча. Ды і ўсе неабходныя атрыбуты элітнага "пяцізоркавага" гатэля цалкам адпавядаюць сусветным стандартам, пачынаючы з наяўнасці ля ўваходу швейцара і заканчваючы магчымасцю працы ў Інтэрнэце ў рэжыме Wi-Fi у любым пункце будынка.

Натуральна, што святлотэхнічныя рашэнні сыгралі далёка не апошнюю ролю ў архітэктурна-мастацкім рашэнні інтэр'ераў. У чарговы раз працаўнікі закрытага акцыянернага таварыства "Каскад" з г. Ліды прадэманстравалі высокі клас выканання рознага роду таршэраў і свяцілень, якія нічым не саступаюць па сваіх характарыстыках заходнім.

У холе гасцініцы ўсталяваны вялікі 11-лямпавы таршэр са шклянымі матавымі шарамі белага колеру. Асновай таршэра служыць калона, аздобленая гранітам і дэкаратыўнымі латуневымі элементамі.

Для асвятлення рэстарана, банкетнай залы, шэрагу VIP-нумароў былі выкарыстаныя свяцільні розных стыляў з улікам мастацкага рашэння інтэр'еру, ад мадэрну да класічных мадэляў з крыштальнымі падвескамі.

Аднак сапраўдным гонарам лідскіх інжынераў і канструктараў стала так званая "светлавая лінія". Яна праходзіць па перыметры ўсіх паверхаў і з'яўляецца досыць складанай электратэхнічнай прыладай, кіраванай камп'ютарам. Дагэтуль адпаведныя аналагі



Нумар класа "President"



Таршэр у холе



Светлавая лінія

меліся толькі ў знакамітай кампаніі "Цумтобель". Галоўнай асаблівасцю "светлавой лініі" - у дапаўненне да прамой задачы асвятляць абшар - з'яўляецца тое, што яна аўтаматычна ўключаецца пры выхадзе чалавека з ліфта або нумара. Пры ўсёй бачнай прастаце спатрэбілася нямала высілкаў, каб знайсці вытанчанае інжынернае рашэнне, якое дазваляе ў абмежаванай столевай прасторы размясціць апорную алюміневую канструкцыю, начыненую люмінесцэнтнымі лямпамі і пускарэгулявальнымі прыладамі. Агульная працягласць "светлавой лініі" склала больш за 330 метраў.

Пастаянны ўдзел ЗАТ "Каскад" у святлотэхнічных работах падчас рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры і гістарычных будынкаў становіцца адным з асноўных кірункаў дзейнасці прадпрыемства. "Каскад" асвятліў ужо многія гістарычныя аб'екты. І сёння тут поўным ходам вядуцца работы, на гэты раз па вырабе і рэстаўрацыі свяцілень для Нацыянальнага Акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, які знаходзіцца ў стадыі рэканструкцыі.

*Сяргей Герасімовіч.*

# Лідчына ў кнізе П.М. Бацюшкава “Белоруссия и Литва”




*Кніга расейскага дзяржаўнага і царкоўнага дзеяча Пампея Мікалаевіча Бацюшкава “Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края” выдадзеная ў 1890 годзе доўгі час лічылася адной з фундаментальных працаў, прысвечанай царкоўнай, ваеннай і палітычнай гісторыі Беларусі з найстаражытнейшых часоў да XIX стагоддзя.*

*Кніга на рускай мове перавыдадзена ў Беларусі ў 2004 г. У ёй побач з асноўным тэкстам змешчаны шэраг артыкулаў, прысвечаных помнікам гісторыі і культуры Беларусі. Сярод іх два артыкулы, якія тычацца Лідчыны, а менавіта Лідскага замка і Маламажэйкаўскай царквы.*

*Не аналізуючы змест артыкулаў, прыводзім іх у перакладзе на беларускую мову, як узор таго, што пісалі і што ведалі пра нашую гісторыю ў XIX стагоддзі. Многія палажэнні гэтых артыкулаў да гэтага часу скарыстоўваюцца беларускімі гісторыкамі, як бясспрэчныя факты, хаця на самай справе яны далёкія ад рэальнасці. Аднак яны ёсць здабытак гістарыяграфіі, і з гэтага сыходзім.*

## РАЗВАЛІНЫ ЛІДСКАГА ЗАМКА



Павятовы горад Ліда Віленскай губерні, некалі сталіца ўдзельнага княства, складае найстаражытнае літоўскае селішча, узніклае на мяжы Літвы і Дайноўскага княства, якое спыніла сваё існаванне ў XII ст. Умацоўваючы свае межы, Гедзімін збудаваў у 1323 г. у Лідзе вялікі замак, разваліны якога намаляваныя на нашым малюнку.

Замак пабудаваны на гары да 4 сажняў вышыні, акружаны з трох бакоў вадой, а з чацвёртай - глыбокім ровам. Ён мае квадратную форму; кожная сцяна даходзіць да 32 сажняў даўжыні, 2 сажняў таўшчыні і падмурка больш за 5 сажняў вышыні. Дзякуючы таму, што замак падтрымліваўся да 1794 г., сцены яго добра захаваліся; ацалелі таксама разваліны двух вежаў, у адной з якіх у старажытнасці знаходзілася царква. Замак быў выбудаваны палоннымі валынянамі пад наглядам выпісаных з Кіева майстроў будаўнічай справы.

У 1380 г. Ягайла падарыў Ліду свайму ўлюбёнцу і сваяку Вайдыле, але ў наступным годзе Кейстут узяў Ліду, а Вайдылу павесіў. Праз тры гады пасля таго замак падвергнуўся разрабаванню з боку крыжакоў.

У княжанне Вітаўта ў Лідзе меў знаходжанне ўцякач з сваёй радзімы хан Кіпчакскай арды Тахтамыш, які жыў у адмысловым доме, што доўга зваўся Тахтамышавым дваром. Іншы хан той жа арды, Хаджы-Гірэй, у 1434 г. быў прызначаны ў Ліду старастам і займаў гэтае месца да 1443 г., калі па просьбе крымскіх татараў яму было вернута ханства. Падчас вайны 1655 г., калі князь Хаванскі ўзяў замак, горад быў спустошаны і спалены. У пачатку XVIII ст., падчас вайны са шведамі, Ліда і замак падвергнуліся новаму спусташэнню, прычым старажытны архіў быў узяты з замка і перавезены ў Смаленск, дзе і згарэў у 1812 г.

Стан росквіту горада адносіцца да часоў Казіміра, калі насельніцтва Ліды даходзіла да 15 000 чалавек. Зараз у ім меней за 4000 жыхароў.

## МАЛАМАЖЭЙКАЎСКАЯ ЦАРКВА ЛІДСКАГА ПАВЕТА ВІЛЕНСКАЙ ГУБЕРНІ

Маламажэйкаўская царква збудаваная ў 1407 г. падканюшым віленскім, дзяржаўцам ушпольскім, пенянскім і радуньскім панам Шымкам Мацкевічам-Шклёнскім. Характэрная архітэктура яе, якая нагадвае сярэднявечныя замкавыя будынкі, наводзіць на думку, што храм гэты быў не толькі домам малітвы, але і абаронай і сховішчам людскога скарбу ў былы час спусташальных войнаў і рабаванняў. Сцены царквы,

складзенай з моцнай, як жалеза, цэглы, - у сажань таўшчыні; па вуглах яе ўладкованыя спічастыя вежы, у якія былі праведзеныя з царквы спіральнымі каменнымі лесвіцамі адмысловыя хады, знішчаныя ў 1817 г. разам з патаемным ходам і такімі ж адтулінамі у сценах; пад царквой былі ўладкованы два склепы; уваход у царкву абараняўся цяжкавагавымі жалезнымі дзвярамі, якія апускаліся на ланцугах з нішы, зробленай у сцяне; нажаль, гэтыя дзверы незахаваліся, быўшы самавольна прысвоеныя "патронам" цэрквы, мясцовым абшарнікам Казімірам Кастравіцкім. Па аповядах старажылаў, шведы бамбардзіравалі царкву падчас стаянкі Карла XII лагерам у мястэчку Жалудку.

Гістарычныя лёсы Маламажэйкаўскай царквы мала вядомыя. Старажытныя дакументы аб ёй былі спаленыя абшарнікам Кастравіцкім у XVIII ст.; засталіся толькі больш познія дакументы і мясцовае паданне. Паводле гэтых звестак аказваецца, што з абнародаваннем уніі Маламажэйкаўская царква была захопленая ўніятамі і з таго часу падпала пад скажэнні лацінскімі новаўвядзеннямі, пазбавілася большасці вернікаў, якія перайшлі ў каталіцызм, і прыйшла ў спусташэнне і жабрацкі стан. Як царква ўніяцкая яна не пазбавілася ад нападу і спусташэння з боку казакоў. Паны-патроны і самі базыляне замест захоўвання святыні і павелічэння яе дабрабыту абрабавалі царкву ў рухомай і нерухомай маёмасці. Асабліва абуральныя былі ўчынкі згаданага вышэй "патрона", абшарніка Кастравіцкага. Пачуўшы, што настаяцель Пётр Афанасевіч знайшоў у дамавіне заснавальніка царквы Шымкі Мацкевіча шмат золата, Кастравіцкі з лютасцю прыступіў да святара, жадаючы прысвоіць сабе ўяўны скарб; але сустрэўшы адмову, ён пачаў катаваць жонку святара, якая, па адных звесткам, памерла ад катавання, па іншых - была задушаная служкаю пана; калі ж муж памерлай адправіўся да пана прасіць літасці сабе і сваім дзецям, то Кастравіцкі пад выглядам пачастунка напаіў святара дап'яна, адвёў на стайню і, пасадзіўшы яго на ланцуг, загадаў яму вучыць казла спяваць так, як спяваюць у царкве. Абуральная сцэна працягвалася цэлую ноч. Тым часам гаспадарка святара падвергнулася рабаванню панскай чэлядзі. Няшчасны айцец Пётр не вытрымаў і, прахварэўшы некаторы час, сканаў 19 красавіка 1794 г. ад голаду і холаду.

Пасля смерці святара Афанасевіча "патрон" Маламажэйкаўскай царквы Кастравіцкі пачаў адносіцца да падапечнага яму храма па-свойму. Паставіўшы ў царкве арган, ён запрасіў кармелітаў і прымусіў іх прапаведаваць, што веры праваслаўнай няма ва ўсім свеце, што унія паглынутая лацінствам, што толькі рымская царква і кіраўнік яе могуць адчыніць дзверы ў Царства Нябеснае. Потым ён выбудаваў супраць цэрквы велічны касцёл для прынады ў яго сялян, але апошнія не вырашаліся пакінуць свой храм і славянскую абраднасць богаслужэння.

Падчас праезду імператара Аляксандра Паўлавіча з Вільні ў Гародню гасудар заўважыў убаку царкву і пажадаў агледзець яе. Гэта была Маламажэйкаўская царква, якая глыбока ўразіла цара сваім маркотным і жабрацкім станам. Васпан загадаў неадкладна рамантаваць царкву і нагляд за гэтым даручыў слонімскаму абшарніку Юндзілу. Наказ гэты застаўся, аднак, не выкананым, і пакуль збіраліся і надумваліся прыгатаваць матэрыялы, царкоўны дах абрынуўся ад выту маланкі ў алтарную частку. Гэта было ў 1805 г.; толькі праз пяць гадоў паправілі дах, але ўнутранасць царквы засталася без усякіх выпраўленняў, і нават рамы ў вокны не былі ўстаўленыя.



Поўнае аднаўленне старажытнага Маламажэйкаўскага храма і прыстасаванне яго пад звычаі праваслаўнай царквы належыць ужо бліжэйшаму да нас часу. Адрамантаваная з вонкавага боку і ўсярэдзіне, яна асвечаная 21 студзеня 1873 г. У іканастасе яе ў ліку абразоў знаходзіцца старажытны абраз Божай Маці, гісторыя якога характарызуе адносіны палякаў да рускіх святынь.

У сяле Воўчынках знаходзілася драўляная царква з трыма валокамі зямлі, якія належаць да яе. Самога прыходу ўжо не існуе, а зямля прысвоеная мясцовым абшарнікам. Настаяцель Маламажэйкаўскай царквы айцец Леў Савіцкі з дакументаў даведаўся, што ў Воўчынскай царкве знахадзіўся, між іншым, абраз Божай Маці ў срэбнай рызе з малюнкам месяцавага паўкола ў падножжы, а адна жанчына яму сказала, што абраз знаходзіцца ў мясцовага абшарніка, "у цёмным і смуродным месцы". Жадаючы выбавіць праваслаўную святыню з ганебнага становішча, святар адправіўся да абшарніка, але той адказваў, што абраза ў яго няма. Калі ж маёнтак быў здадзены ў арэнду шляхціцу, і апошні задумаў прадаць некаторыя будынкі, то святар паслаў двух сваіх вернікаў з той мэтай, каб яны, пад выглядам куплі будынкаў, пашукалі абраз. Вынік атрымаўся самы спрыяльны: абраз знайшоўся ў свіране. З гонарам ён быў ўзяты і перанесены ў Маламажэйкаўскую царкву. Гэта адбывалася ў 1868 г.

Не лішне дадаць, што царква ў Воўчынках прададзена за нікчэмную суму габрэям на лазню і перавезена імі ў мястэчка Васілішкі, а цвінтар царкоўны аддадзены пад каталіцкія могілкі.

***Пошукі і знаходкі***

# Невядомыя здымкі Валянціна Таўлая

Вялікакракоцкая сельская бібліятэка імя Янкі Купалы Слонімскага раёна адзначыла сваё 80-годдзе. З мінулага года бібліятэка ў вёсцы Вялікая Кракотка набыла новы статус: яна стала называцца бібліятэкай-музеем імя Янкі Купалы.

У свой час з бібліятэкай сябравалі многія беларускія пісьменнікі. Свае кнігі з аўтографамі дасылалі ў бібліятэку Якуб Колас, Максім Танк, Пятрусь Броўка, Янка Брыль, Іван Шамякін і іншыя пісьменнікі. У суседняй вёсцы Рудаўка прайшло дзяцінства Валянціна Таўлая, які таксама шмат дапамагаў бібліятэцы.

Пасля вайны загадчыкам гэтай культурнай установы быў Аляксандр Жыткевіч. Многія пісьменнікі дарылі кнігі з аўтографамі асабіста яму як чалавеку, які любіў сваю справу і шырока прапагандаваў родную літаратуру і культуру. Гэтыя кнігі Аляксандр Іванавіч Жыткевіч пакідаў у бібліятэцы, каб чыталі вяскоўцы. Яны ёсць і сёння. “Дарагому Аляксандру Іванавічу Жыткевічу і вялікаму сябру кнігі з сардэчнай павагай Мікола Арочка”, — аўтограф земляка на кнізе “Крылатае семя”. Пілiп Пестрак на сваёй кнізе “Неспадзяванак” зычыў “Жыткевічу Аляксандру — ад шчырага сэрца”.

Вялікую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Менску, яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957 годзе прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі.

Дзесьці ў 1950-х гадах Аляксандр Жыткевіч аформіў альбом, прысвечаны Валянціну Таўлаю. У ім былі вельмі рэдкія фотаздымкі паэта, фотаздымкі іншых беларускіх пісьменнікаў, а таксама рукапісы вершаў Валянціна Таўлая. Гэты альбом знаходзіўся ў Вялікакракоцкай бібліятэцы і на яго мала хто звяртаў асаблівую ўвагу. А нядаўна альбом вырашылі перадаць у музей беларускай кнігі, які дзейнічае пры Слонімскай раённай цэнтральнай бібліятэцы імя Якуба Коласа. Альбом вырашылі аднавіць, дапоўніць, удакладніць подпісы пад здымкамі.

Нядаўна метадыст бібліятэкі Лідзія Будзько паказала мне гэты альбом і я быў здзіўлены: у ім налічыў 39 рэдкіх аматарскіх фотаздымкаў Валянціна Таўлая, многія з іх нідзе не друкаваліся. Побач са здымкамі ў альбоме захоўваліся рукапісы “Лукішкіх вершаў”, якія Таўлай напісаў у турме ў 1935 годзе, а таксама рукапісы іншых паэтычных твораў і яго аўтабіяграфіі. Гэтыя фотаздымкі і рукапісы некалі Аляксандру Жыткевічу ў бібліятэку перадала жонка Валянціна Таўлая – Лідзія Сяргееўна.

Прапаную чытачам некалькіх рэдкіх, раней невядомых здымкаў з гэтага альбома.

***Сяргей Чыгрын****, г. Слонім.*



**Павел Дзям’янавіч Таўлай – бацька паэта.**



**Валянцін Таўлай з братам Сашам, 1920 г.(?).**




**Эскіз вокладкі першага зборніка Валянціна Таўлая, які меўся выйсці пры жыцці паэта. Выйшаў пасля смерці пад загалоўкам “Выбранае”.**



**Валянцін Таўлай у час працы ў газеце “Звязда”, 1932 г.**



**Піліп Пестрак, Алеся Аляксандровіч – супрацоўніца музея Янкі Купалы, Валянцін Таўлай, Уладзіслава Францаўна Луцэвіч – жонка Янкі Купалы, Янка Брыль, Лідзія Таўлай – жонка Валянціна Таўлая, Алесь Бачыла. Фота зроблена ў час адкрыцця філіяла музея Янкі Купалы ў Вязынцы, 1945 г.**



**Валянцін Таўлай з жонкаю Лідзіяй Сяргееўнай, 1945 г.**



**У першым радзе: Валянцін Таўлай, Алеся Александровіч, Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, Пятро Глебка з жыхарамі Ліды ў дзень прысваення Лідскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы, 17 верасня 1946 г.**

***М. Ф. Герасімовіч***

# ШКЛОЗАВОД “НЁМАН”

## Кароткі агляд станаўлення і развіцця

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Ішоў час. Адгрымелі баі. Сціхла грамадзянская вайна. Паступова ўсё ўляглося. У кастрычніку 1920 года з Польшчай была падпісана дамова аб перамір’і, а ў сакавіку 1921 года заключана мірная дамова, па якой да яе адышлі заходнія вобласці Беларусі, і завод “Нёман” апынуўся на польскай тэрыторыі.

Столе Ю.А. пачынае работы па аднаўленні завода ў Бярозаўцы. Разбурэнні ж на Новай гуце аказаліся такімі значнымі, што пытанне аб яе аднаўленні з-за недахопу сродкаў і ў сітуацыі, якая моцна змянілася, было адкладзена на пазнейшы час, які так ніколі і не наступіў.

У 1921 годзе пачала працаваць адна шкловарная печ на 12 гаршкоў. Асноўная прадукцыя - лямпавае шкло, гатунковы і аптэкарскі посуд. Працуюць два ручныя прэсы.

У 1922 годзе на заводзе была пабудаваная першая ванная шкловарная печ, якая ў 1924 годзе была рэканструяваная з прымяненнем падвеснага скляпення і сценаў, што давала магчымасць захаваць іх поўнасцю або часткова пры правядзенні халоднага рамонту басейна, калі яны былі ў добрым стане, яшчэ на адзін тэрмін эксплуатацыі. Пры гэтым прыкметна зніжаліся выдаткі матэрыялаў на рамонт, а таксама скарачаўся час яго правядзення. Работамі па рэканструкцыі печы кіраваў **Герман Шаль**.

З яго імем звязаны амаль 50-гадовы перыяд працы завода.

З’яўляючыся пляменнікам Юліюса Столе (сын сястры Ю. Столе - Іяаны), ён з малых гадоў прылучаўся да шкляной вытворчасці.

Асноўныя спазнанні ў вобласці гутніцтва Герман Шаль атрымаў, працуючы з 1906 года на працягу 6 гадоў памочнікам галоўнага інжынера заводаў “Нёман -А” і “Нёман-Б” чэха Іягана Халіка, стараючыся пераняць пабольш ведаў і досведу ад свайго настаўніка. Прыродная дапытлівасць і працавітасць дазволілі яму ў дасканаласці авалодаць шырокім комплексам пытанняў, звязаных з вытворчасцю вырабаў з шкла: саставы гатункаў шкла, працэсы іх варэння, афарбоўванні і абясколерванні; канструкцыі шкловарных печаў, іх будаўніцтва і рамонт; праектаванне металаформаў і мастацкае канструяванне вырабаў; падрыхтоўка фарбаў для вонкавага дэкаравання і інш.

У 1912 годзе ён быў прызначаны галоўным інжынерам завода, і з невялікімі перапынкамі, звязанымі з Першай Сусветнай вайной, рэвалюцыяй, грамадзянскай і польска-савецкай вайной, займаў гэтую пасаду да канца 30-х гадоў.

Побач з укараненнем шэрагу навінак у вобласці шкловарэння, ён распрацаваў і ўкараніў тэхналогію вырабу камбінаваных вырабаў кілішкавай групы з выдзіманай чарай і прасаванай ножкай з бескаляровага і каляровага шкла.

З 1944 па 1952 год, да сыходу на пенсію, займаўся, у асноўным, варэннем, афарбоўваннем і абясколерваннем шкла, а таксама будаўніцтвам і рамонтам шкловарных і іншых печаў, з’яўляючыся бясспрэчным аўтарытэтам у гэтых пытаннях.

У 1957 годзе разам з сям’ёй Герман Шаль выехаў у Польшчу.

Але вернемся ў 20-я гады.

У 1923 годзе сыны Столе Ю.А., **Браніслаў** і **Фелікс**, становяцца кампаньёнамі фірмы, і яна ўжо называецца **“Столе Ю.А. і сыны”**.

У 1924 годзе гаспадары фірмы заканчваюць афармленне дакументаў на лясныя ўгоддзі, якія належаць ім, і прадстаўляюць “План уладкавання лясной гаспадаркі шклозавода “Нёман” на разгляд камісіі па ахове лясоў Наваградскага ваяводства, якая на сваім паседжанні 25.IX.1924 года пастанавіла:

1)план лясной гаспадаркі шклозавода “Нёман” зацвердзіць;

2)дазволіць высечку на працягу першых пяці гадоў трыма роўнымі часткамі штогод паводле Палажэння і Пастановы аб лясных падатках па зацверджаным


PLAN
URZADZENIA GOSPODARSTWA LESNEGO

плане лясной гаспадаркі; пункт першы гэтай Пастановы ўступае ў сілу пасля трох месяцаў з 25.XII. 1924 г.

Уся плошча лясных масіваў была разбітая на тры ўчасткі, на кожным з якіх у роўных мерах і павінна была адбывацца высечка.

Ізноў у поўнай меры раскрываюцца арганізатарскія і творчыя здольнасці кіраўніцтва фірмы.

У 1926 годзе была пабудаваная ванная печ перыядычнага дзеяння і агульны здым шкломасы склаў больш за 2000 тон; колькасць працоўных дасягнула 760 чалавек; магутнасць усталяваных рухавікоў - 110 к.с. усё шклоапрацоўнае абсталяванне працавала на трансмісійнай перадачы.

Але асноўную ролю ў дэкараванні вырабаў яшчэ выконвае цэх мастацкай размалёўкі, у якім працуюць умелыя майстры. Асабліва эфектна выглядалі распісныя вырабы, выкананыя ў спалучэнні бескаляровага і малочнага шкла. Нараўне з выкарыстаннем сілікатных фарбаў, скарыстоўваецца дыфузійнае афарбоўванне з дапамогай пастаў, якія змяшчаюць злучэння срэбра і медзі, а таксама хімічнае траўленне і матаванне.

У гэтым жа годзе споўнілася 35 гадоў з дня пачатку працы Столе Ю.А. у гэтай мясцовасці. На "Нёмане" у Бярозаўцы яшчэ працавала шмат гутнікаў, якія пачыналі свой працоўны шлях на Старой і Новай гутах. І было прынята рашэнне ўрачыста адзначыць гэты 35-гадовы юбілей. Гэта было неабходна, каб паказаць, што і ў новым становішчы завод паспяхова працягвае свае традыцыі, пашырае вытворчасць, заваёўвае новыя рынкі збыту.

Былі замоўленыя і вырабленыя памятныя юбілейныя знакі і каштоўныя падарункі, якімі былі адзначаныя лепшыя працаўнікі і ветэраны завода. Сцэна ўручэння ўзнагарод захаваная невядомым фатографам.

Дзеянне адбываецца на заводскім двары ў прысутнасці шматлікіх прадстаўнікоў змены, якая ў той час працавала. На фатаграфіі відаць, што гэта адбывалася цёплым сонечным днём.

Гэтым фактам фірма як бы падводзіла вынікі сваёй працы па аднаўленні завода пасля спусташальных гадоў вайны і выхад на новы ўзровень развіцця.

Шмат увагі надаецца забеспячэнню стабільнай якасці працы на ўсіх участках вытворчасці.

У прыватнасці, адмысловцамі завода праводзяцца пошукавыя працы па павышэнні якасці гаршкоў і падаўжэнні тэрміну іх службы. Заўсёды ў практыцы працы гаршковых печаў асноўныя непрыемнасці прыносіла з'яўленне расколін у дне.

Калі фармаванне гаршка і наступную сушку праводзіць на суцэльным паддоне, то ў працэсе сушкі перамяшчэнне часцінак масы, якія судакранаюцца непасрэдна з паверхняй паддона, пад уздзеяннем вагі гаршка абцяжарана ў параўнанні з верхнімі пластамі, а таму і ўсаджванне ніжніх пластоў будзе значна меншым, чым у верхніх. Як вынік - з'яўленне расколін. Для папярэджання гэтай непрыемнай з'явы было знойдзена простае рашэнне. Паддон пачалі выраблять з рэек, пазбіваных адна з другой у выглядзе рашоткі з адтулінамі парадку 5-7 см. На такі рашэцісты паддон укладвалася шчыльная папера, на якую раўнамерным пластом таўшчынёй 1,5-2,0 см насыпалі буйназярністы шамотны парашок (дыяметр зерняў да 2 мм). У гэтым выпадку ніжнія пласты дна гаршка, якія судакраналіся з зернямі буйназярністага шамоту, вольна перамяшчаліся разам



***Узнагароджанне лепшых працаўнікоў і ветэранаў завода***




***Ю.А. Столе з сынамі Браніславам і Феліксам***

з імі пры сушцы, і верагоднасць з'яўлення расколін у дне практычна ўхіляецца. Калі знойдзенае рашэнне шматкроць апрабавана і атрыманыя добрыя вынікі, то ўсё здаецца вельмі простым. Але да гэтага простага трэба было дайсці, спалучаючы тэарэтычныя перадумовы з практычнымі мерапрыемствамі па іх рэалізацыі. Адмыслоўцы фірмы паспяхова вырашылі гэтую задачу.

У пачатку 20-х гадоў фірма атрымала вялікую замову на выраб ізалятараў ад Міністэрства пошт і тэлеграфаў і польскіх чыгунак (да 1 млн. штук штогод).

Да гэтага часу на заводзе была добра развітая тэхналогія прэсавання як вырабаў гатункавага посуду, так і іншага асартыменту, што з'яўлялася добрай перадумовай для паспяховага выканання замовы і спрыяльна адбілася на фінансавым становішчы фірмы.

У 1927 годзе ў веку 72 гадоў памёр Ю.А. Столе.

Пайшоў з жыцця дасведчаны прадпрымальнік, дзякуючы розуму, ініцыятыве, творчым здольнасцям якога і сталай нацэленасці на ўкараненне сучасных тэхналогій і навінак у вобласці практычнага гутніцтва створаная ім фірма паспяхова працавала, а выпусканая прадукцыя была высока канкурэнтаздольнай на рынках збыту.

Нарадзіўшыся ў Паўночнай Чэхіі ў сям'і патомных мастакоў па шкле, ён у 1879 годзе, у веку 24 гадоў, пераехаў на Дзяцькаўскі крыштальны завод, дзе пачаў працаваць разрысоўшчыкам па шкле, а неўзабаве стаў кіраўніком мастацкай майстэрні, дзе і працаваў да 1891 года, г.зн. да пераезду ў Лідскі павет і арэнды завода З.А. Ленскага сумесна з У.А.Краеўскім.

Ю.А. Столе быў добра знаёмы з сусветна вядомай чэшскай школай гутніцтва і паспяхова пераносіў яе тэхнічныя правілы і прыёмы, арганізацыйныя прынцыпы і элементы дызайну ў практыку працы свайго прадпрыемства. У прынёманскіх месцах ён правёў палову жыцця, стараючыся стварыць прадпрыемства, вядомае сваімі вырабамі далёка за межамі дадзенай мясцовасці. І гэта яму ўдалося.

Пасля смерці кіраўніка фірмы яе ўзначалілі яго сыны: Бранiслаў - генеральны дырэктар і Фелікс - загадчык вытворчасці.

У 1928 годзе з'ём шкломасы ў параўнанні з 1926 годам узрос больш чым на 57% і дасягнуў 3150 тон, аб'ём вытворчасці валавой прадукцыі склаў 2205 тыс. злотых. Павелічэнне адбылося за кошт інтэнсіфікацыі працэсаў шкловарэння, пашырэння працоўнай зоны размяшчэння брыгад і ўдасканалення прыёмаў фармавання.

Фірма працягвае традыцыі па ўкладанні сродкаў у выгадныя перспектыўныя праекты. У дадзеным выпадку гэта датычыцца яе ўдзелу ў будаўніцтве драўлянага моста цераз раку Нёман, якое пачалося ў 1929 годзе. Фірма "Столе і сыны" фінансуе 50% яго кошту за дазвол пракласці па мосце вузкакалейную чыгунку і тым самым пазбавіцца ад паромнай пераправы і звязаных з гэтым перагрузак прадукцыі і іншых матэрыялаў. Гэта было добрае рашэнне па ўдасканаленні вытворчай інфраструктуры. Работы па будаўніцтве былі скончаныя ў 1931 годзе.

Фірма адчыняе гандлёвыя прадстаўніцтвы ў Варшаве і іншых гарадах Польшчы, а праз пасярэднікаў гандлюе з Францыяй і яе калоніямі, Англіяй, Аўстрыяй і краінамі Блізкага Ўсходу, а таксама з Канадай і Злучанымі Штатамі Амерыкі. У 1930-1932 гг. аб'ём вытворчасці фірмы "Нёман" складаў 2,94 - 3,9% усёй шкляной прамысловасці Польшчы, а ў экспартных пастаўках яе доля раўнялася: 1930 г. - 21%, 1931 г. -20% і 1932 г. - 19,7%.

Фірма ў сваёй вобласці займала дамінантнае становішча ў краіне. Гэта забяспечвалася за лік:

- сталай працы па аператыўным абнаўленні форм і дэкораў выпусканай прадукцыі на аснове вывучэння патрэбнасцяў рынку;
- высокай прафесійнай кваліфікацыі арганізатараў вытворчасці, майстроў і рабочых;
- валодання складанымі тэхналогіямі варэння шкла і дэкаравання вырабаў.

У сувязі з гэтым асабліва неабходна адзначыць вытворчасць вырабаў з залатога лалу і дэкараванне паверхні метадам дыфузійнага афарбоўвання, у прыватнасці, медную пратраву. Паколькі ўжо доўгі час гэтыя тэхналогіі па розных прычынах на заводзе не прымяняюцца, хачу сказаць пра іх больш падрабязна, аддаючы доўг памяці былым працаўнікам, якія свабодна імі валодалі.

Як піша М.М. Качалаў у сваёй манаграфіі



***З асартыменту прадукцыі фірмы "Стале і сыны": а) вазы для садавіны, цукерак, кветак; б) прыбор для ўзвару; в) прыбор для напояў***

"Шкло", тэхналогіяй вырабу залатога лалу ў дасканаласці валодаў нямецкі шклотэхнік-алхімік Іяган Кункель і трымаў яе ў строгім сакрэце. Перад смерцю ён напісаў: "Паколькі гэты сакрэт каштаваў мне вялікай працы, старанняў і клопатаў, то хай ніхто не палічыць дрэнным, што я не раблю яго зараз здабыткам усіх".

Пасля гэтую тэхналогію ў Расіі распрацаваў М.В. Ламаносаў.

Гэтае навочнае сведчанне складанасці тэхналогіі атрымання залатога лалу і высокай кваліфікацыі персаналу, звязанага з яго вытворчасцю. Фарбавальнікам тут служыць металічнае золата, а атрымоўваны пурпурны колер з рознымі адценнямі па сваёй мяккасці і напоўненасці ў спалучэнні з пасняхова выдзеленай формай вырабу не можа быць атрыманы з дапамогай іншых фарбавальнікаў.

Металічнае золата да выкарыстання рыхтавалася наступным чынам. Бралі тры аб'ёмы канцэнтраванай салянай кіслаты, змешвалі з адным аб'ёмам канцэнтраванай азотнай і атрымлівалі "царскую гарэлку", у якой рашчынялі некалькі залатнікоў да атрымання 10%-най рошчыны золата. Пры гэтым золата пераходзіла ў AuCl3. Атрыманая рошчына захоўвалася ў зачыненай шкляной бутлі з прыцёртым коркам у прыцемненым месцы і выкарыстоўвалася па меры патрэбы. Каб забяспечыць раўнамернае размеркаванне золата пры падрыхтоўцы шыхты, неабходная колькасць рошчыны папярэдне ўлівалі ў 0,5 кг сухога пяску, дбайна перамешвалі і высушвалі. Пры падрыхтоўцы шыхты ў падрыхтаваную такім чынам навеску пяску дадавалі двухвокіс волава і вокіс сурмы з разліку адпаведна 0,03-0,04% і 0,01-0,02%, дбайна перамешвалі і ўводзілі ў змяшальнік разам з іншымі кампанентамі. У якасці зыходнага выкарыстоўваліся, як свінцовы крышталь, так і простае шкло. Колькасць уводзімага золата мянялася ў залежнасці ад віду шкла і таўшчыні сценак фармаваных вырабаў. Пры вырабе таўстасценных вырабаў (5-10 мм) дастатковым аказвалася 0,01% металічнага золата, а для танкасценных (2 мм) патрабавалася 0,015-0,02%. Пры афарбоўванні свінцовага крышталю колькасць уводзімага золата зніжалася на 10-15%.у параўнанні з афарбоўваннем простага шкла.

Варэнне праводзіцца толькі ў акісляльным асяроддзі.

Зваранае шкло бескаляровае і празрыстае, бо тэмпература плаўлення золата складае 1063°, што ніжэй за тэмпературу пачатку выпрацоўкі, і крышталікі, якія выпалі, вельмі малыя. Афарбоўка выяўляецца пры паўторным разаграванні ўжо гатовых вырабаў у працэсе адпалу, калі адбываецца рост крышталікаў. Колер, які атрымоўваецца ў выніку гэтага моцна залежыць ад тэмпературы і працягласці тэрмаапрацоўкі, якая складала па адпрацаваным на заводзе рэжыме двое сутак у асобным апечку. Праводзіў яго адмысловы працаўнік па добра яму вядомым графіку. Улічваючы слабую забяспечанасць сродкамі кантролю тэмператур, яму трэба было літаральна адчуваць гэты працэс, каб вынік быў добрым. У гэтым і выяўляўся галоўны сакрэт атрымання сапраўднага "Залатога лалу".

Насычаны лалавы колер на заводзе атрымлівалі і метадам дыфузійнага афарбоўвання з выкарыстаннем злучэнняў медзі - так званая медная пратрава. Афарбоўванне адбывалася ў вельмі тонкім павярхоўным пласце (да 0,1 мм), па якім выконваліся гравіравальныя работы.

Для афарбоўвання выкарыстоўвалася адмыслова прыгатаваная паста. У шаравы млын з неметалічнымі шарамі змяшчалі 500 г бязводнай сернакіслай медзі і 250 г парашковай гліны, дадавалі дэкстрын і ваду і здрабнялі на працягу паўтара сутак. Гэта прыводзіла да добрых вынікаў пры яе выкарыстанні, бо забяспечвалася не толькі хімічная, але і зерневая аднастайнасць.

Прыгатаваная паста пэндзлем наносілася на чыстую паверхню вырабаў таўшчынёй пласта прыкладна 0,5 мм і высушвалася. Пасля гэтага праводзіўся

агляд для выяўлення магчымых дэфектаў - адслаенне пасты, з'яўленне расколін, нераўнамернае нанясенне і інш. Вырабы, адпаведныя па якасці прад'яўляным патрабаванням, устанаўліваліся ў печ, не дапускаючы дотыку паверхнямі, і праводзіўся першы абпал нанесенай пасты ў акісляльным асяроддзі з вытрымкай пры максімальна дапушчальнай тэмпературы, якая не прыводзіць да дэфармацыі вырабаў, на працягу гадзіны і наступным адпалам.

Пасля астуджэння вырабы вымаліся з печы, і ў гарачай вадзе скарынка пасты размочвалася, а затым выдалялася з паверхні пры дапамозе шчотак.

У выніку першага абпалу паверхня афарбоўвалася ў жоўты колер.

Вырабы правяраліся на раўнамернасць афарбоўкі і чысціню паверхні і ўстанаўліваліся ў печ на адлегласці 1-2 см адзін ад другога для правядзення другога абпалу ў аднаўленчым (чадным) асяроддзі. Для гэтага на адмысловых бляхах размяшчалі ў вызначаных месцах пода печы драўляны вугаль.

Усе няшчыльнасці абмазваліся глінай.

Вытрымка пры максімальнай тэмпературы на працягу 1,0-1,5 гадзін. Гэта найболей адказны этап, бо залішні аднаўляльнік прыводзіў да з'яўлення на паверхні непразрыстай або напаўпразрыстай плёнкі металічнай медзі, а яго недахоп - да атрымання не чорнага, а зялёнага колеру, які ўжо нельга было перавесці ў чырвоны, а толькі ў цёмна-жоўты або памяранцавы.

Вынікам правільна праведзенага другога абпалу быў чорны колер. Для яго пераходу ў чырвоны праводзіўся трэці абпал у акісляльным асяроддзі. Афарбоўка ў вінна-чырвоны колер адбываецца за кошт калоіднага агрэгатавання металічнай медзі ў часціцы памерам 10-100 мкм.

Пры падрыхтоўцы пасты ў яе часам дадавалі закіс медзі, охру і цукар.

Высокая працаёмкасць і хутчэй інтуітыўны прафесіяналізм, чым інструментальны кантроль, пры правядзенні трохразовага абпалу, не дазвалялі шырока выкарыстаць на заводзе атрыманне меднай пратравы ў практычнай працы, але яна служыла мерай дасягнутага спазнання адмыслоўцамі тонкасцяў шкляной тэхналогіі.

У 30-ыя гады працягваюцца работы па тэхнічным удасканаленні вытворчасці. Яркім прыкладам гэтага служыць пачатак пераходу ад паравых рухавікоў да рухавікоў унутранага згарання, якое паклала пачатак вытворчасці і выкарыстанню ўласнай электраэнергіі для прываду тэхналагічнага абсталявання.

Для гэтага быў набыты і зманціраваны газавы рухавік фірмы "Крэйслер", які працуе на генератарным газе, а таксама механічны газагенератар для газіфікацыі сілезскага каменнага вугалю. У парадку падрыхтоўкі генератарнага газу да выкарыстання ён асушваўся ад вільгаці і чысціўся ад смалы.

Патрэбнасць у такой мадэрнізацыі вызначалася неабходнасцю павелічэння ўдзельнай вагі вырабаў, дэкараваных алмазнай і шырокай гранню ў агульным аб'ёме вытворчасці за лік скарачэння жывапісу, якое праглядаецца на працягу ўсіх 30-х гадоў.

У гэты ж час будуецца новы цэх апрацоўкі (новая шліфоўня) які размяшчаўся ў раёне цяперашняга рамонтна-механічнага цэха, што добра відаць на прыкладзеным сітуацыйным плане.

Далейшае развіццё атрымлівае тэхналогія прасавання. Па распрацоўцы Германа Шаля выраблецца ручны прэс для фармавання ножкі чарак. З яго выкарыстаннем брыгада з двух чалавек (наборшчык і прасоўшчык) забяспечвала адпрасаванымі ножкамі дзве брыгады, якія фармавалі чару вырабу, што дазваляла трымаць патрабны тэмп працы і павысіць яе прадукцыйнасць.

Фармаванне ножкі метадам прасавання дазваляла ўнесці вялікую разнастайнасць у яе канструктыўныя рашэнні, як па вышыні і дыяметру, так і па канфігурацыі. Гэта была першая спроба аб'яднаць у адным вырабе дзве тэхналогіі - выдзіманне і прасаванне - і тым самым стварыць умовы для большай разнастайнасці выраблянай прадукцыі.

Фірма пастаянна вяла будаўнічыя работы.

У 1925 годзе было скончана будаўніцтва двухпавярховага будынка завадской канторы, які з'яўляўся



***Кантора "Столе і сыны"***



***Сямігадовая школа***



***Пажарная дружына завода (фота 3 траўня 1928 г.)***

Шпацыровая, Спартовая, Спакойная, Прага, Новая, Фабрычная, Ясная і іншыя.

У 20-ыя і 30-ыя гады завод не абыйшлі бокам штрайкі і стачкі. У розныя гады яны праходзілі пад рознымі патрабаваннямі, але асноўнымі з іх былі:

- падвысіць заработную плату і забяспечыць яе двухразовую выдачу ў месяц;
- прызнаць прафсаюз;
- арганізаваць касу ўзаемадапамогі, сацыяльнага страхавання і выдачу страхавых у выпадку калецтва на вытворчасці;
- забяспечваць усіх працоўных бясплатным палівам і іншыя.

Апошні штрайк праходзіў улетку 1936 года і працягваўся больш за тры месяцы. Для яго задушэння спатрэбілася ўмяшанне паліцыі. Актыўныя ўдзельнікі штрайку былі асуджаныя ў турмы на розныя тэрміны.

Нейкія патрабаванні штрайкоўцаў выконваліся, іншыя - не, але, увогуле, гэта спрыяла рашэнню пытанняў па паляпшэнні ўмоў працы і побыту працаўнікоў завода.

свайго роду вонкавым прадстаўніцтвам фірмы і сваім знешнім выглядам павінен быў выклікаць давер і павагу да яе. Гэта тым больш было неабходна, бо ён размяшчаўся непасрэдна каля ажыўленага гасцінца Наваградак-Ліда, і кожны, хто праязджаў міма, міжвольна звяртаў на яго ўвага, незалежна ад таго, знаходзіўся ён з фірмай у дзелавых адносінах або не.

У наступныя гады былі пабудаваныя дом апекі маці і дзіцяці, памяшканне пажарнай часткі, касцёл і сямігадовая школа.

Ішла актыўная забудова вуліц пасёлка. Ужо вызначыліся такія вуліцы як Ўяздовая, Маставая,

У верасні 1939 года Нямеччына напала на Польшчу. Пачалася Другая Сусветная вайна. Дзеяннямі Чырвонай Арміі заходнія вобласці Беларусі былі злучаны з усходнімі, і амаль на год і дзевяць месяцаў была адтэрмінаваная акупацыя гэтай мясцовасці немцамі.

У 1939 годзе аб'ём выробленай заводам прадукцыі склаў 1600 тыс. злотых. Выпускаўся выдзіманы і прасованы гатункавы посуд, а таксама лямпавае шкло, ізалятары, аптэкарскі, гаспадарчы і лабараторны посуд. Каля 30% увагульным аб'ёме займаў крышталь.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Валеры Сліўкін***

# Гісторыя партызанскага атрада "Іскра"
## *напісаная па успамінах партызан і жыхароў Лідскага раёна*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

### 13. Група А.І. Матросава

У матэрыялах Нацыянальнага архіву згадваецца група нейкага А.І.(М.) Матросава. *"У чэрвені-ліпені 1942 г. у Лідскім раёне з'явіўся атрад А.І. Матросава. 22 чэрвеня 1942 г. атрад А.І. Матросава арганізаваў засаду на шашы Ліда-Баранавічы* (няма такой шашы) *на нямецкія аўтамашыны. Забіта 8 фашыстаў, паранена 14, узята 245 патронаў, вінтоўка, 3 шкураныя падсумкі, 40 літраў бензіну."* Там жа паведамляецца, што А.І. Матросаў загінуў 8 ліпеня 1942 г. у баі з немцамі на дарозе Навагрудак-Баранавічы. Тутэйшыя жыхары гэтую групу не памятаюць.

### 14. Група Феакцістава

Увесну 1942 г. **Іван Феакцістаў** арганізаваў сваю групу. У групу ўвайшлі: Уладзімір Бурнос, Уладзімір Елкін, Васіль Ялпашаў, Хведар Рыбак. Да пачатку жніўня група Феакцістава забіла 5 фашыстаў, вызваліла двух настаўніц, спаліла драўляны мост цераз Дзітву, падарвала цыстэрну з палівам, перапілавала тэлеграфныя слупы. *"У сакавіку 1942 г. я першы ў Лідскім раёне са зброяй у руках пачаў бязлітасную барацьбу з фашысцкім зверам і ўзяўся за арганізацыю партызанскага атрада".*



***Феакціcтаў Іван Аляксеевіч*** *па мянушцы "Шарашка" 1919 г.н. Нарадзіўся ў с. Паляна Жалезніца Холмскага р-на Калінінскай вобласці. Адукацыя 5 класаў, калгаснік. У Чырвонай Арміі з 1939 г., сяржант.*

*"У пачатку 1942 года ён збег з фашысцкага палону і воляй лёсу аказаўся ў Дакудаве. Мой стрыечны брат Аляксей* (Буйніцкі з хутара Пятры) *знайшоў для яго прытулак. Так на нелегальным становішчы і жыў Іван, пакуль не пазнаёміўся з трыма адстаўшымі франтавікамі. Сховішча зрабілі пад сціртай у гумне." (У. Буйніцкі. Першае хрышчэнне.//Уперад, 6 ліпеня 1968 г.)*

**Пётр Якаўлевіч Сляткоў** - нараджэнец Тамбоўскай вобласці, чырвонаармеец 213 палка, акружэнец, з сярэдзіны жніўня па 2 траўня 1942 г. жыў у в. Гімбуты, у сярэдзіне жніўня далучыўся да групы Феакцістава. Ён напісаў самыя яркія ўспаміны пра з'яўленне і пра пачатковы перыяд існавання партызанскага атрада "Іскра".

*"У сярэдзіне жніўня 1942 г мы з Панічам Андрэем з наступленнем цемры ішлі да вёскі Сяглы. На дарозе пачулася групавая гутарка, мы пачалі прыслухвацца да прыбліжаўшайся гутаркі. Калі група падышла бліжэй, мы пераканаліся, што гэта рускія. Рускай мовы мы даўно не чулі, ды яшчэ з мацярком. Алехто яны гэтыя людзі? - партызаны або казакі, што знаходзяцца на службе ў немцаў? Што рабіць: ісці насустрач або зайсці ў схованку? Вырашылі ісці насустрач - што будзе, тое і будзе. Калі падышлі зусім блізка было відаць, узброеныя людзі, апранутыя хто як - хто ў вайсковай форме, хто ў цывільнай вопратцы, хто ў марской - мабыць партызаны. Калі мы праціснуліся паміж імі шчыльным радам і пачалі разыходзіцца, нам стала так шкада і неяк крыўдна, хоць хто б з іх спытаў нас, куды ідзём і хто такія. Тады я спыніўся і ўслед крыкнуў ім на польскай мове: "Доконт ідзеце хлопакі?" Польскай мовай да таго часу я ўжо добра валодаў. Пачуўшы недарэчнае пытанне, яны, як адзін спыніліся і крычаць: "Стой!". Мы спыніліся, яны падыходзяць.*

*- Куды ідзяце?*

*- У Сяглы.*

*- Чаго?*

*- Убіраць ураджай. Хтосьці з групы загадаў: "Абшукаць іх!". Да мяне падышлі двое і пачалі абшукваць, высыпалі з мяшочка прадукты, запалкі, бялізну, памацалі па кішэнях і супакоіліся. Андрэя абшуквалі больш дбайна, раптам знаходзяць у яго абрэз. Як толькі знайшлі абрэз, закрычалі: "Шпіёны! Шпіёны! Рукі ўверх!".*

*Тады я ім гавару: "Няўжо шпіёны ходзяць з такой зброяй ?*

*- А хто вы ?*

*- Мы рускія. Чырвонаармейцы.*

*- Дзе служылі ?*

*- У 213 стралковым палку 56 дывізіі.*

*Падыходзіць да мяне адзін і пытае:*

*- Хто камандзір палка ?*

*- Маёр Якаўлеў.*

*- А камісар ?*

*- Батальённы камісар Чарных.*

*- Хто начальнік штаба ?*

*- Капітан Царанок.*

*- Праўда, хлопцы з нашага палка. - Гэта быў Васіль Ялпашаў.*

*- Куды ідзеце з граблямі?*

*- Хочам яшчэ шчасця паспрабаваць, перайсці лінію фронту*

*- Не пройдзеце, дарма спрабуеце, ваяваць і тут можна. Кідайце граблі, пайшлі з намі, шкада, што дзве вінтоўкі сапсавалі на абрэзы.*

*У складзе гэтай групы мы пайшлі ў кірунку в. Плябанцы. У дарозе разбіліся на дзве групы: адна пайшла ў бок аэрадрома, другая, у тым ліку і мы, пайшла ў Плябанцы на збор прадуктаў. Не прайшло і гадзіны, як убаку аэрадрома пакалася зарыва пажару. Гарэў мост. Гэты мост не меў статэгічнага значэння, але для партызан ён быў небяспечны тым, што пры большасці ўсіх нападаў нямецкія аўтамашыны праходзілі цераз яго, вось было і вырашана знішчыць мост".*

Да пачатку верасня ў групе Феакцістава было 16 чалавек: лейтэнант Елкін Уладзімір, малодшы палітрук Ярмолаў Анатоль Хведаравіч, сяржанты Феакцістаў Іван Аляксеевіч і Васільеў Мікалай, 1918 г.н., палітрук Зямскоў Хведар Аляксеевіч, 1915 г.н, чырвонаармейцы Глухароў Аляксей Ціханавіч, 1920 г.н., Ялпашаў Васіль Хведаравіч, 1921 г.н., Сляткоў Пётр Якаўлевіч, Паніч Андрэй, Дубаграй Мікалай, Карэлін Даніл, Трафімовіч, Фралоў Георг, чырванафлоцец Пралыгін Іван, 1917 г.н., мясцовыя камсамольцы Уладзімір Бурнос і Хведар Рыбак, ды 40-гадовы з крымінальным мінулым Цімафей які называў сябе Цімашэнка. Камандаваў групай сяржант Іван Феакцістаў.

Да красавіцкага складу - Феакцістаў, Бурнос, Елкін, Ялпашаў, Рыбак - у пачатку лета далучыліся Дубаграй, Ярмолаў, Фралоў і "Цімашэнка". Васільеў, Карэлін, Зямскоў і Глухароў збеглі з цягніка, які ішоў на захад, і з групай Феакцістава сустрэліся ля в. Боркі 10 жніўня. Іван Пралыгін, па сцвярджэнні Гарбачэўскага і Пянькоўскага - аўтараў кнігі "Атрад зваўся "Балтыец"(Мінск, 1991) далучыўся да групы паміж вёскамі Мелегава і Бурносы 25 жніўня. Сустрэча Сляткова і Паніча з групай Феакцістава адбылася пасля 25 жніўня. Большасць гэтых 20 - 27гадовых хлопцаў пабывала ў палоне, і яны гатовыя былі пераносіць любыя цяжкасці, толькі не палон.



**Ялпашаў В. Х.**

***Ялпашаў Васіль Хведаравіч**, 1921 г.н. З Кіраўскай вобласці, трактарыст. У Чырвонай Арміі з 1940 г., камандзір аддзялення 6 батальёна 213 сп. У групе Феакцістава з красавіка 1942 г.*

## 15. Ліквідацыя марадзёраў

**Сляткоў П.Я.:***"Сярод партызан былі бандыты, рэцыдывісты, марадзёры і алкаголікі, яны сваімі дзеяннямі прычынялі непапраўную шкоду партызанскаму руху, які пачынаўся. Спачатку я не заўважаў, а калі ўрос поўнасцю ў групу, то зразумеў, што ў групе маюцца вялікія рознагалоссі, якія даходзяць да агалення зброі адзін на другога, а тым часам група станавілася ўсё большай і большай. Неяк зайшлі мы, чалавек шэсць у в. Біскупцы. Цімафей, мужчына гадоў сарака, зваў сябе Цімашэнка, паставіў бутлю самагонкі на стол, наліў усім па шклянцы і прапанаваў выпіць, некаторыя паспрабавалі выпіць не ўсю шклянку, тады Цімафей браў шклянку з недапітай самагонкай і выліваў за каўнер таму, хто не дапіў, а хто зусім не жадаў піць, ён ставіў рэвальвер на баявы ўзвод і загадваў піць. Адны яго баяліся, іншыя ненавідзелі, а трэція былі ім задаволеныя. У групе з'явіўся раскол. У Цімафея, на мой погляд, быў чыста анархічны характар. Ён хацеў стварыць безначалле, безладдзе, што вядома з'яўлялася падрывам арганізаванай барацьбы супраць фашысцкіх акупантаў. Цімафей даказваў: "Мы жывём адным днём. Сёння жывыя, заўтра нас няма. Чаго нам саромецца, каго шкадаваць? Пі, бі, еш, усё, што жадаеш, дзень ды наш!". Бачачы небяспечнае становішча, Хведар Зямскоў пачаў даказваць у першую чаргу партызанам, што наша перамога непазбежная, мы павінны весці непрымірымую барацьбу з фашысцкімі акупантамі, мы з'яўляемся адзінымі і законнымі прадстаўнікамі Савецкай улады. Мы павінны наблізіць народ да сябе і разам з ім весці барацьбу супраць фашызму. Калі Зямскоў выкрыў дзеянні Цімафея, асноўная маса пайшла за Феакціставым і Зямсковым.*

*Зямскоў да таго часу меў вышэйшую адукацыю, палітычна пісьменны камуніст. Я ў войска пайшоў чальцом пленума гаркама камсамолу. Мы, камсамольцы, Васільеў, Глухароў, Елкін, Бурнос з'ядналіся і павялі барацьбу супраць нездаровай з'явы. Мы папярэдзілі Цімафея і яго сяброў - паводзіць сябе сярод насельніцтва як належыць савецкаму партызану, не рабаваць і не збіваць. У адну з начэй са сваімі спадарожнікамі Цімафей запрог нашага каня, узяў адзіны, што быў у той час у нас, кулямёт і ўцёк.*

*Група пад кіраўніцтвам Цімафея пачала бясчынстваваць сярод насельніцтва, раз'язджаючы па вёсках Бурносы, Біскупцы, Мелегава, Пятры, Лучкі, Сяглы, Філонаўцы, Боркі, Скаменны Бор, ён нагнаў на народ жах. Ён абкладаў насельніцтва падаткам, асобы, якія мелі сабак - 50 марак, у начны час, хто доўга не адчыняе дзверы - 20 марак або страляў у дзверы. Бачачы падрыўныя дзеянні з боку Цімафея намі было праведзена некалькі сходаў сярод насельніцтва. Насельніцтву растлумачылі, што Цімафей зусім не Цімашэнка, ён будзе злоўлены і прыцягнуты да*

адказнасці. Мала хто з насельніцтва верыў, што Цімашэнку будуць лавіць, бо ён галоўны партызан. Неаднаразова Цімафею прапаноўвалі вярнуцца і спыніць бандытызм, але ён адмаўляўся. Тады агульным сходам вырашылі злавіць групу Цімафея, у выпадку супраціву з іх боку, расстраляць. Насельніцтва прасілі пры з'яўленні Цімафея ў населены пункт паведаміць нам.

Мы пачалі рабіць на яго засады, высочваць яго паходы, але не так лёгка было яго злавіць. Аднойчы днём на сваёй тачанцы ён прыехаў у в. Пятры. Адзін жыхар адважыўся, прыбег да нас і паведаміў, што Цімафей у Пятрах. Мы хутка разбіліся на некалькі груп і зрабілі засады, і вось на адным з кірункаў на засаду едзе банда. Мы ведалі, што Цімафей жорсткі, ён не пашкадуе, трэба браць яго ўмела. Калі яны ехалі па вёсцы мы атачылі тачанку і закамандавалі "Кідай зброю! Рукі ўверх". Спадарожнікі яго саскочылі з тачанкі і леглі на дарозе. Сам Цімафей схапіў кулямёт і хацеў адкрыць па нас агонь, але не паспеў - быў тут жа паранены і забіты. Сябры Цімафея здаліся, мы іх судзілі, далі ім зразумець, што іх чакае такая ж доля, як і іх верхаводу. Прызнаўшы свае памылкі, яны пачалі прасіць аб памілаванні.

Такіх як Цімафей было яшчэ шмат, але мы, ужо моцныя і спаяныя, ідэйна і маральна, разлажыўшыхся асобаў не шкадавалі, мы выносілі ім справядлівы прысуд на вачах насельніцтва, там дзе здзейснена злачынства. Толькі тады, калі мы навялі парадак сярод партызан, насельніцтва нам пачало верыць і пайшло з намі."

**Клімянтына Жук** згадвае пра двух такіх жа марадзёраў, якія рабавалі насельніцтва паблізу в. Дворышча:

*"Салаўёў і Мельнікаў не пайшлі ў партызаны, займаліся ўсякім рабаваннем сялян. Партызаны вырашылі іх знайсці, неяк раз яны замовілі ў Дворышчы ў млыне 100 пудоў мукі. Калі яны выслалі людзей па муку з Юльянава, партызаны адабралі гэтую муку. Ні Мельнікаў Мікалай, ні Салаўёў не паказаліся."*

## 16. Арганізацыя партызанскага атрада "Іскра"

У канцы жніўня 1942 года частка групы Феакцістава перайшла ў Тракельскую гміну, тут сялянскія гаспадаркі мелі па 15-20 гектараў зямлі і адрозніваліся грунтоўнай заможнасцю.

**Сляткоў П.Я.**: *"Прыйшла восень. Думка аб будучай зіме не выходзіла з галавы кожнага. Што рабіць узімку? Як весці барацьбу? Дзе ратавацца? Як жыць? Адны раілі ісці на ўсход, іншыя - сыходзіць у лясы і там зімаваць. Мы думалі: прыйдзе зіма, фашысты кінуць карныя атрады і будуць праследваць нас пакуль не знішчаць. Пазналі, што на хутары Юравічы у хаце Клімянтыны Жук на нелегальным становішчы пражывае адна вокі капітан Чырвонай Арміі Грыгор'еў Аляксандр. Многія з нас узрадаваліся: маўляў, вось нам камандзір, у яго вялікі ваенны досвед. Быў праведзены сход, на якім вырашылі: паслаць да капітана прадстаўнікоў з просьбай прыняць на сябе камандаванне нашай групай. Капітана хутка знайшлі, але капітан катэгарычна адмовіўся прыняць на сябе камандаванне. "Аднаму мне хавацца лягчэй, чым з такой групай", - заявіў ён. Такая заява выклікала злаславую нянавісць групы: каб савецкі капітан, відаць член партыі, і раптам адмаўляўся прыняць камандаванне. На наступны дзень рашэннем рады была пасланая яшчэ адна група, якая павінна папярэдзіць яго аб тым, што калі ён не ўступіць у нашу групу, то ад нас яму не схавацца. Расправа будзе справядлівай. Бачачы бязвыхаднае становішча, капітан Грыгор'еў просіць трохдзённага роздуму. Вядома, такая магчымасць яму была прадстаўленая. Праз тры дні наша дэлегацыя прывяла капітана ў групу.*

*З прыходам капітана сабралі сход, які праводзіў на хутары Грабліса. На павестцы дня стаялі тры пытанні.*

*1. Аб стварэнні з партызанскай групы партызанскага атрада і прысваенні назвы будучаму атраду. Шмат было розных прапаноў, але большасцю галасоў было прынята прапанова Ярмолава і Зямскова - назваць атрад "Іскра".*

*2. Выбар камандзіра атрада "Іскра". Камандзірам партызанскага атрада Іскра" быў выбраны капітан Грыгор'еў.*

*3. Абмеркаванне будучых дзеянняў партызанскага атрада. Новы камандзір прапанаваў на зіму сыйсці ў больш надзейныя лясы, стварыць там партызанскі лагер, пабудаваць лінію абароны, пракапаць некалькі падземных хадоў на выпадак змушанага адыходу. Так і вырашылі - ісці на захад - у Аўгустоўскія лясы".*

**Жук К.М.** пацвярджае аповяд П. Сляткова. *"Па яго прыйшлі двое партызан, хутка яны пайшлі на Цвермскіе хутары, і ў доме, які зваўся "Белы сабачка", абралі Сашу камандзірам атрада "Іскра".*

**Зямскоў Х.А.**: *"У верасні 1942 года на базе групы Феакціства быў створаны партызанскі атрад "Іскра". На агульным партызанскім сходзе мяне абралі начальнікам штаба"..*



***Зямскоў Хведар Аляксеевіч** 1915 гр. з Разанскай вобл. Скончыў Саратаўскі крэдытна-эканамічны інстытут (1941). У пачатку вайны палітрук роты, патрапіў у акружэнне і ў палон, 1942 г. у групе Феакціства з жніўня 1942 г. З верасня 1942 г. па травень 1943 г. - начальнік штаба атрад "Іскра".*

Будучы камандзір атрада **Коннаў А.А.**, зрушвае падзеі на кастрычнік і сцвярджае, што касцяк атрада быў сфармаваны з яго групы: *"У пачатку верасня 1942 г. я з групай партызан у колькасці 15 чалавек, маючы на ўзбраенні 2 руч-*

*ныя кулямёты, 14 вінтовак, асабістую зброю і гранаты, прыбыў у Лідскі раён, маючы намер рухацца далей на ўсход да фронту. Тут, у раёне Дакудава мы сустрэлі двух узброеных людзей, гэта былі лейтэнант Андрэй Сяргееў і старшына Рыгор. Яны нас пазнаёмілі з мясцовай партызанскай групай у 19 чалавек, камандаваў групай сяржант РККА Іван Феакціставў. Пры сустрэчы на агульным сходзе было вырашана, аб'яднацца двум групам для сумесных дзеянняў супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў і іх прыхвасняў - паліцыянтаў і дзейнічаць на месцы, г.зн. у Лідскім раёне. Для агульнага кіраўніцтва быў запрошаны капітан тав. Грыгор'еў Аляксандр. Першага кастрычніка 1942 г. на хутары Станіслава Грабліса каля в. Юравічы агульным сходам партызан было вырашана назваць групу партызанскі атрад "Іскра". Камандзірам абралі капітана Аляксандра Грыгор'ева, начальнікам штаба Хведара Зямскова. Новае камандаванне вырашыла адвесці атрад у Белавежскую пушчу і адтуль пачаць актыўную барацьбу супраць акупантаў.*

*Атрад быў арганізаваны ў асноўным з групы партызан, якую я прывёў з Рыбацкага лесу - гэта паміж мястэчкамі Рось і Луна* (Лунна) *на беразе р. Нёман".*

## 17. Бой ля в. Гярвенікі

Спроба сыйсці ў Аўгустоўскія лясы або Белавежскую пушчу не ўдалася.

**Зямскоў Х.А.:** *"У пачатку верасня 11 партызан каля в. Гярвенікі былі акружаныя немцамі, прыбыўшымі на некалькіх аўтамашынах па даносе. Завязаўся няроўны бой. У выніку партызаны пабілі частку немцаў і паліцыянтаў, спалілі аўтамашыну, астатнія ў паніцы адступілі. А партызаны чыстым полем цэлымі адышлі ў раён дыслакацыі атрада. У гэтым баі ўся група партызан дзейнічала рашуча. З веданнем справы дзейнічалі тав. Глухароў Аляксей, Сляткоў Пётр, Васільеў Мікалай, Феакціставў Іван, Грыгор'еў Аляксандр, Паніч Андрэй, Пралыгін Іван."*

У баі ўдзельнічалі таксама Жорж Подлясек, Апанас Рэпнікаў, Генадзь Шут і Хведар Зямскоў.

Партызан **Пётр Сляткоў** пакінуў выдатнае апісанне гэтага бою, не без перабольшванняў вядома:

*"Мы прыйшлі ў Гярвенікі, далей ісці было нельга, вырашылі дняваць у Гярвеніках. Нашы прадстаўнікі пайшлі да старасты вёскі (солтыса) Лявона Седака, папрасілі яго сабраць з насельніцтва прадуктаў для нас. Солтыс паставіўся да нас на першы погляд нядрэнна, замест малака і хлеба расстараўся барана. Пасля сняданку мы вырашылі перайсці ў іншае месца, бо спачатку размясціліся ў школе. Прыдатным месцам абралі хутар Іосіфа Кудаша, дзе і размясціліся на адпачынак у гумне. Раней Кудаш меў з намі сувязь. Прызначыўшы варту, усё спакойна адпачывалі.*

*Але нямецкі паслугач Лявон Сядак накіраваўся ў Жырмуны да свайго сябра Адольфа Якубоўскага, які служыў у гміне. Той адвёў Сядака ў залогу да немцаў. Як на споведзі Сядак распавёў немцам колькі партызан, як яны ўзброеныя. У другой палове дня нас акружылі, дакладна ведаючы нашу колькасць і зброю. Фашыст падкраўся да нашага вартавога і зрабіў у яго стрэл з аўтамата. Паранены вартавы з крыкам: "Хлопцы, мы акружаныя!" убег у гумно. Немцы адкрылі ўраганны агонь у адчыненыя вароты, з трэскам ля гумна рваліся гранаты. Частка нашых хлопцаў паспрабавала выскачыць у заднія вароты, але немцы таго і чакалі. Як толькі ледзь хіснуліся вароты, ад іх паляцелі трэскі, там была засада.*

*Нягледзячы на нечаканасць, ураганны агонь і выбухі гранат усе сябе трымалі спакойна, без панікі, і незрабілі яшчэ ніводнага стрэлу ў адказ. Так доўжылася хвіліны 4-5. Немцы пачалі сціскаць кольца. Пад градам куль мы ляжым і глядзім адзін на аднаго, пагля-дам пытаем адзін другога, што рабіць? Немцы чамусьці спынілі моцны агонь, відаць, задумалі нешта распачаць. Раптам як токам падкінула ўверх Хведара Зямскова, ён ускоквае і кідае ў фашыстаў адну і другую гранату Ф-1. Сляткоў па яго прыкладу, таксама выскачыў з гумна і пачаў кідаць гранаты. Гэты нечаканы контрвыт зламаў волю фашыстаў, і яны пабеглі ад варот гумна. Наш былы камандзір Іван Феакціставў з гумна дае тры цудоўныя доўгія чаргі з ППД. Гэтыя чэргі нам запомніліся таму, што аўтамат быў няспраўны і страляў ад выпадку да выпадку. Глухароў Аляксей выбягае з ручным кулямётам і застрачыў па сабраўшыхся ў кучу фашыстах. Да ручнога кулямёта не было дыскаў, дыскі ў яго былі ад танкавага кулямёта, значна меншыя дыяметрам, і мы прыстасаваліся падвязваць дыск электрапровадам, з-за чаго наш кулямёт часта адмаўляў. Усе павыскоквалі з гумна, займаючы пазіцыі, пачалі біць немцаў. Знаходзіліся мы яшчэ ў коле, але ў нас аказалася выгадная пазіцыя. Хутар стаяў на ўзлеску. Імклівым рыўком мы занялі гэты ўзлесак. Частка нашай групы, заняўшы добрыя пазіцыі ў двары, пачала знішчаць немцаў. Бачачы дрэнную пазіцыю на адкрытай мясцовасці і вялікія страты, немцы ганебна ўцяклі па полі.*

*Раптам невядомая сіла павярнула немцаў, і яны з крыкам бягуць на нас. Аказваецца, яны заўважылі, што па ўзлеску імчыць бронемашына, а за ёй бяжыць падмацаванне. Фашысты ў бронемашыне сходу адкрылі па нас агонь. Мэта бронемашыны, відаць, была адрэзаць нас ад лесу, а затым дзвюма групамі атакаваць нас з двух бакоў. Тады самы малады партызан - камсамолец Шут Генадзь па кустах паралельна дарозе пабег насустрач машыне. Генадзь гранатамі вывеў машыну з ладу, машына далей ісці не магла, але працягвала весці агонь, які ніякай шкоды нам не прычыняў, бо машына стаяла ў лагчыне. Феакціставў закамандаваў: "За мной!". Капітан Грыгор'еў камандаваць быў не ў стане, ён быў паранены. Імгненна ўсе ўскочылі і пабеглі ў лес. Страляніна з боку немцаў працягвалася. Адарваўшыся ад немцаў, мы па лесе развілі прыдатную хуткасць. Прабегшы з кіламетр, пачалі хуткасць бегу змяншаць, сёй-той на бягу пачаў размаўляць. І раптам, насустрач нам бягуць немцы - другое падмацаванне. Фашысты нашае адступленне прынялі за лютае контрнаступленне і маментальна кінуліся на ўцёкі без адзінага стрэлу.*

*Калі завязаўся бой гаспадар хутара Іосіф Кудаш схапіў сваіх дваіх дзяцей - гэта былі два хлопчыкі гадоў 4-6 і пабег у лес, стараючыся выратаваць жыццё дзецям і сябе. Пасля бою фашысты ў парыве гневу расстралялі Іосіфа і яго дзяцей. Нягледзячы на лікава пераўзыходзячыя сілы супраціўніка, наш атрад не страціўні аднаго чалавека забітым, чатыры партызаны атрымалі лёгкія раненні, тады як фашысты страцілі больш за 20 забітымі і шмат параненымі. Прыйшлося вярнуцца ў месцы, дзе знаходзіліся раней".*

**Жук К.М**. *"Яны ішлі на Літву, у кірунку на Радунь, з абеду дзень быў гарачы, ад нас да трох км у Гярвеніках раздаўся залп стрэлаў і бесперапынна цвыркаў кулямёт. Пацягнуў чорны дым пажару, у мяне замерла душа. Уначы вярнуўся Саша, паранены ў нагу і распавёў мне, што яны біліся з немцамі, немцы напалі на іх сонных і распранутых у адрыне, яны там зарэзалі барана на абед, і гэты ж гаспадар заявіў немцам, а яны пасля абеду вырашылі адпачыць на ноч. І вось іх вартавы неяк слаба сачыў, яны ўсе ў адрыне, а немцы і паліцаі на вуліцы. Вось тут-то Саша і прыкрываў агнём кулямёта, пакуль усе выйшлі з адрыны. Усе выйшлі шчасліва, толькі Саша і яшчэ адзін былі параненыя, але не моцна, а немцаў было вельмі шмат. Забіта было 5 паліцаяў і 7 немцаў і 5 параненых."*

**Рэпнікаў А.М**. таксама як і Жук К., вынік бою ацэньваў больш сціплымі лічбамі: забіта 5 паліцаяў і 7 немцаў.

А вось як гэты бой запомніўся кіраўніку "млячарні" у Дворышчы **Ежы Гульпоўскаму-Шульцу**. *"Пасля поўдня нечакана пачулася кананада і над суседнім лесам падняўся дым. Праз некалькі гадзін уначы партызаны вярнуліся, пастукалі ў акно, прасілі, каб ім вярнулі пакінутыя ў папярэдні дзень боты. Распавядалі, што напала на іх нямецкая жандармерыя на самаходах. Дзіўлюся, як яны далі сябе заспець знянацку ў такой сітуацыі, мабыць не выставілі вартавых. Да шчасця абыйшлося без страт. Мелі шчасце, было гэта на краі лесу, здолелі ўцячы, а немцы не гналіся, толькі некаторыя страцілі боты, як звычайна салдат на пастоі, калі можа, здымае боты. Калі б немцы тады зайшлі з боку лесу, не мелі б шанцу.*

*Аб гэтай "бітве" распавядаў мне пазней Грайдэк, які быў камендантам паліцэйскага ўчастка ў Тракелях. З Ліды выехала пад камандаваннем нямецкага лейтэнанта экспедыцыя матарызаванай жандармерыі ў кірунку вёсак, размешчаных паміж Жырмунамі і Тракелямі, ім данеслі, што ў Мар'янаве або Гурынах на нейкім з хутароў спыніўся партызанскі атрад. Набліжаўся вечар, партызаны спалі, альбо распранутыя снаўдаліся па падворку. Хутар размяшчаўся поруч невялікага ляска. Нямецкі лейтэнант папросту сапсаваў справу (а можа збаяўся), замест таго, каб увайсці ў гэты невялікі лес і партызан выгнаць на поле, атакаваў іх з поля. Партызаны, хоць і былі захопленыя знянацку, хутка ачомаліся і хутка адступілі ў лес. Гаспадар і двое яго дзяцей загінулі, маці толькі ацалела, была далёка ў полі. Нямецкі лейтэнант задаволены вярнуўся ў Ліду, здаецца, аднак, меў страты. Пасля такой навукі партызаны сталі больш асцярожнымі, было гэта першае сутыкненне гэтага атрада з немцамі. Гэтая сутычка, смерць гаспадара і яго дзяцей нагнала на насі сялян страху. Пазней я даведаўся ад бацькі, што гэта Вазняк апавясціў жандараў аб пераходзе партызан".*

Пасля бою ля Гярвенікаў **Іван Пралыгін** пакінуў групу, свой сыход ён тлумачыць наступным чынам: *"Фашысцкія вылюдкі, бачачы сваю ізаляванасць у карных дзеяннях, вырашылі правесці ў 1942 г. аблаву на партызан з поўнай прачоскай вёсак і лясоў. У аблаве павінна было ўдзельнічаць каля 42 тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў. Ведаючы аб гэтай задуме ворага, партызанскія групы пачалі аб'ядноўвацца ў атрады, брыгады і злучэнні. Я прапанаваў камандзіру партызанскага атрада "Іскра" А. Коннаву перабазавацца на час аблавы ў Ліпічанскую пушчу і адтуль дзейнічаць разам з іншымі групамі і атрадамі, але А. Коннаў адхіліў маю прапанову, сказаўшы: "Я аблаву перажыву са сваімі хлопцамі сярод сялян навакольных сёлаў і вёсак, яны нас схаваюць, а ты як хочаш". Тады мы, параіўшыся са сваімі хлопцамі, вырашылі сыйсці ў Ліпічанскую пушчу і ўліцца часова ў партызанскі атрад імя Варашылава, камандзірам якога быў Пётр Макараў. У атрад мы прыбылі ў жніўні 1942 года."*

Каментары тут лішнія. Падобнымі сказаннямі Івана Пралыгіна насычана кніга І.І. Гарбачэўскага і І.К. Пянькоўскага "Отряд назывался "Балтиец", Мінск, 1991 таксама, як інаступны яе варыянт *(И.И.Горбачевский «Лидская партизанская зона». Мінск, 2004)*. Мае спробы узяць адтуль праўдзівыя факты аказаліся безвыніковымі.

**Жук К.М.:** *"Калі рана зажыла трохі, Саша ізноў пайшоў. Праз некаторы час прыйшоў дадому і даў мне цыдулку, каб я схадзіла ў Тракелі па пашпарты да каменданта паліцыі Грайдака, каб лепш хадзіць у выведку. Адтуль я прынесла 7 пашпартоў на ўсякія прыдуманыя прозвішчы. Саша ўжо не хаваўся, толькі пераапрануўся ў мужыцкую вопратку".*

## 18. Перамовы з камендантам паліцэйскага ўчастка ў Жырмунах

Пра сустрэчу польскіх паліцыянтаў і чырвоных камандзіраў у доме жырмунскага ксендза пакінуў успаміны ўдзельнік перамоваў **Пётр Сляткоў**: *"Пачатак бою ў Гярвеніках праходзіў на даволі блізкай дыстанцыі. Наш партызан Жорж Падлясек, капітан польскага войска, сярод немцаў і паліцаяў, якія наступалі, пазнаў свайго лепшага сябра па даваеннай службе ў польскім войску. Сябар Жоржа аказаўся камендантам паліцэйскага ўчастка, які размяшчаўся ў маёнтку Жырмуны. Падлясек праз сувязнога Стэфана Варону пасылае яму ліст, у якім называе яго ворагам польскага народа. У сваім адказе камендант не апраўдваўся і не лаяў Падлясека, ён напісаў: "Калі б мы сустрэліся, тады даведаліся б хто сябар польскага народа, а хто вораг". Паміж камендантам паліцыі і*

*Жоржам завязалася перапіска. У сваім лісце Жорж прасіў камендантa аб сустрэчы, той быў не супраць, але сустрэцца згаджаўся толькі ў мястэчку Жырмуны. Пасля доўгіх перамоваў праз вельмі асцярожнага і разумнага сувязнога Стэфана Варону (Яна Сташкевіча - у газетнай публікацыі) было вырашана ісці на сустрэчу ў Жырмуны.*

*На гэтую рызыкоўную сустрэчу пайшлі камандзір атрада Грыгор'еў, начальнік штаба Зямскоў, Падлясек і я. З наступленнем цемры ва ўмоўленым месцы па ўстаноўленым паролі дэлегацыю сустрэў сувязны каменданта. У дакладна абгавораны час ён павёў нас на перамовы. Узброіўшыся пісталетамі, гранатамі і нажамі, мы па адным у інтэрвале бачнасці пайшлі за сувязным. Кожны ведаў, што ідзём у логава ворага і варажылі - гэта пастка або перамовы ў сапраўднасці адбудуцца? Увайшлі ў Жырмуны, то тут, то там сустракаюцца немцы і паліцаі. На любую нечаканасць мы гатовыя адказаць і дзейнічаць за адно. Падышлі да брамкі высокай агароджы, брамка адчынілася, там стаяў другі сувязны. Па адным прайшлі праз брамку да хаты. На ганку чакаў ксёндз, ён запрасіў нас у хату. Трымаючы ў кішэнях напагатове пісталеты трое пайшлі ў хату, а я застаўся ў двары выконваць ролю вартавога. Па ўсім перыметры агароджы густы хмызняк бэзу, трэба было неадкладна праверыць хмызняк, ці няма там засады. Трэба прыслухвацца да хаты - не ці ідзе там барацьба ? Пакуль усё ціха.*

*Хвіліны праз 3-4 на ганку з'явіўся ксёндз і запрасіў мяне ўвайсці ў хату. Я падзякаваў ксендза за запрашэнне і адмовіўся. Ксёндз пайшоў у хату. Выходзіць Зямскоў і гаворыць: "Заходзь". Ну зараз справа іншая. Зала, дзе праходзіла сустрэча, была добра асветлена, вокны завешаны, пасярод стаяў вялікі стол, добра накрыты. Там былі віны і розныя закускі. Пры маім з'яўленні паліцыянты ўсталі і працягнулі рукі. Я не жадаў падаваць руку, але магчыма мае сябры ўжо абмяняліся поціскам рукі? Гаспадары наліваюць у чаркі віна, прапаноўваюць тост - мы трымаем чаркі, але не п'ём. Гаспадары зразумелі нашу стрыманасць і выпілі першымі, мы рушылі ўслед іх прыкладу- выпілі. Ужо былі ўпэўненыя, што ўсё абыдзецца шчасліва, палякі не павінны падвесці ксяндза, не павінна адбыцца кровапраліцце ў кватэры ксяндза. Ад другой чаркі мы адмовіліся.*

*- Піць у нас няма часу, давайце пагаворым адкрыта, мы прыйшлі да вас па зброю, каб весці барацьбу супраць акупантаў. У вас ёсць, у нас бракуе.*

*- Так, зброя ў нас ёсць, у асноўным вінтоўкі - гаворыць камендант, - мы чакаем навабранцаў, тут будзе вучэбны пункт.*

*- Калі вы сапраўдныя палякі, вы павінны аддаць гэтую зброю нам - сказаў Жорж Падлясек.*

*- А як аддаць? Зброя знаходзіцца ў маёнтку за тры кіламетры ад Жырмун, маёнтак моцна ахоўваецца.*

*- А так. Заўтра мы падашлём да вашай казармы невялікую групу хлопцаў, яны трохі пастраляюць, а ты арганізуй за імі пагоню, а мы тым часам нападзём на маёнтак. Бо з усімі то нам з вамі не справіцца.*

*- Добра. Высылайце заўтра групу, абстрэльвайце нас, а мы пастараемся ўзяць больш паліцыянтаў і пойдзем праследваць вашых хлопцаў. Ды вось што. Заўтра, калі вы будзеце наступаць на маёнтак у гэты час паедуць на раварах двое нашых паліцыянтаў, яны вам могуць перашкодзіць. Вы іх затрымайце, але не забівайце, яны нашы людзі. Так і вырашылі".*

Факт сустрэчы пацвярджае **А.А. Коннаў**: *"Падлясек узначаліў перамовы з камендантам жырмунскай паліцыі. У перамовах удзельнічалі 4 паліцыянты, у тым ліку і камендант. З нашага боку: капітан Грыгор'еў, капітан Падлясек, начштаба Зямскоў і выведнік Сляткоў. Перамовы праходзілі ў хаце Жырмунскага ксяндза."*

## 19. Напад на маёнтак Жырмуны

У кастрычніку 1942 г. група партызанаў атрада "Іскра" пад камандаваннем лейтэнанта Аляксандра Коннава здзейсніла напад на маёнтак Жырмуны.

**Коннаў А.А.:** *"З групай у 12 чалавек я разбіў маёнтак Жырмуны, спалілі валасное кіраванне (гміну), забіты 2 фашысты, узялі ў палон 4 паліцыянтаў, якіх адпусцілі пад чэснае слова, не падымаць зброі супраць свайго народа, астатнія паліцыянты паразбягаліся, у маёнтку ўзялі вялікую колькасць харчу, быдла і коней, коні былі патрэбныя як транспарт і для коннай выведкі."*

**Сляткоў П.Я.:** *"Па вузкай сцяжынцы сярод рэдкага невялікага хмызнячку едуць два паліцыянты на раварах. Нашы хлопцы з засады накінуліся на іх і раззброілі, яны так папалохаліся - не маглі гаварыць. Двое нашых партызан Мікалай Васільеў і Уладзімір Бурнос* (у другім варыянце Глухароў і Шут) *перапрануліся ў паліцэйскую форму, селі на паліцэйскія ровары і паехалі ў размяшчэнне казармаў. Пад'ехалі да маёнтка, паліцыі і немцаў у двары няма, на другім паверсе на вокнах сядзяць немцы. Перапранутыя партызаны робяць выгляд, што нясуць вартавую службу.*

*На падыходзе да казармы атрад разбіўся на дзве групы. Адна нападае на казарму, другая ўзломвае дзверы склада, берэ зброю. Марудзіць няма калі: могуць вярнуцца асноўныя сілы. "Давай, наперад!". Паўзком, перабежкамі разасяродзіліся за надворнымі пабудовамі. Першая група пайшла на казарму не выяўленая немцамі. Пакуль ціха. Адчынілі ўваходныя дзверы, двое нашых хлопцаў у паліцэйскай форме ішлі наперадзе, за імі ўся чарада ідзе па лесвіцы ўверх. Адчынілі дзверы калідора другога паверху - па калідоры ішла з падносам афіцыянтка, несла немцам вячэру. Пры сустрэчы з партызанамі ў паліцэйскай форме ветла ім пакланілася, але калі ўбачыла, што ў дзверы ўваходзяць узброеныя людзі і апранутыя хто ў што, не па форме, у яе ад жаху зваліўся паднос. Справа горш. Яна можа крыкнуць. Тады мы кінуліся ў адны, у другія дзверы, а ў трэціх спакойна сядзелі немцы, чакалі вячэру. Як толькі нашы хлопцы ўбачылі немцаў у адзін голас крыкнулі: "Рукі ўверх!" Большасць паднялі, а хто паспрабаваў ужыць зброю - не паспеў.*

*З ліку палонных мы ўстанавілі па дакументах хто фашыст, а хто нямецкі салдат. Фашыстаў мы ўзялі з сабой, немцаў з наказам пакінулі. Зброю ўзялі спаўна, што было на складзе і тое, што знаходзілася ў казарме."*

**Жук К.М.:** *"Партызаны ў маёнтку разбілі ўсё нямецкае дабро і спалілі. Шмат там забілі немцаў і нямецкіх службоўцаў, забралі ўсіх коней."*

Устанавіць усіх удзельнікаў нападу на маёнтак Жырмуны не ўдалося, з вялікай ступенню ўпэўненасці можна гаварыць, што ў гэтай аперацыі ўдзельнічалі: Коннаў А., Васільеў М., Сляткоў П., Глухароў, Шут Г., Бурнюс В., Падлясек Ж.

## 20. Тракельска-Дворышчаўская аперацыя

**Сляткоў П.Я.:** *"У Тракелях знаходзіўся буйны пункт па вырабе сметанковага масла і збору яйкаў для нямецкіх войскаў. У маёнтку Дворышча быў пункт па вырабе сметанковага масла і збору яйкаў. У Дворышчы знаходзіўся млын, а ў панскіх адрынах - ссыпны пункт збожжа для немцаў. Акрамя таго, немцы арганізавалі ў Дворышчы нарыхтоўку торфу, які прызначаўся для апалу нямецкіх устаноў і вайсковых шпіталяў. Насельніцтва Тракельскай гміны было моцна закабалена немцамі, немцы абавязвалі насельніцтва бясплатна працаваць на торфараспрацоўках і адвозіць на конях торф у Ліду.*

*У Дворышчы прыехаў Вазняк - зяць былога ўладальніка маёнтка Амберга. Вазняк прыехаў з жонкай - дачкой Амберга, з аселым намерам і прыступіў да аднаўлення маёнтка свайго цесця. Перш за ўсё ён узяўся за аднаўленне 4-павярховай вежы пад кватэру. Вежа мела прыкладна 10 м кв. у аснове, чатыры паверхі, 4 памяшканні - на першы выпадак гэта маладога пана цалкам задавальняла. Старажылы гаварылі, што некалі з гэтай вежы пан Амберг вёў назіранні за палявымі работамі яго парабкаў. Вазняк даў згоду працаваць на партызан, ён перадаў нам некалькі пісталетаў, дапамагаў даставаць боепрыпасы. Пасля яго жонка працавала ў Лідзе і забяспечвала нас чыстымі бланкамі пашпартоў з адбіткамі пячаткі, нам лёгка было выпісаць любой асобе пашпарт і іншыя дакументы.*

*Мы стварылі бачнасць, што Тракелі акружаныя партызанамі з усіх бакоў. Мы з'яўляліся ўсюды, і скоўвалі паліцыю. Паліцыянты сядзелі ў Тракелях, баючыся высунуць нос. Мы напісалі некалькі лістоў на польскай і рускай мове на імя паліцаяў - фольксдойча Федаля, Наркуна і Браніцкага. У сваіх лістах мы выказвалі шкадаванне, што ў савецкім крымінальным кодэксе няма артыкула аб ужыванні прысуду праз павешанне - добра б было павесіць вас на вачах народа, якому так шмат вы прычынілі бед. Ну што ж, калі так, прыйдзецца вас расстраляць, як сабак. Што датычыцца Вялічкі, Петрусевіча, Ворача і іншых - уцякайце хутчэй, пакуль яшчэ ёсць магчымасць. Асобы Федаля, Наркуна і Браніцкага я добра запомніў. Мне яны запомніліся ў студзені 1942 г., калі па-зверску забілі гумовымі палкамі савецкага лейтэнанта па імені Пётр на хутары Гімбуты ў доме Бубеля Браніслава. Нам важна было ўзяць гэтых злачынцаў жыўцом.*

*Мы разграмілі ў Тракелях маслапункт, разбілі апаратуру, знішчылі вялікую колькасць яйкаў, забралі спісы абложаных, не даўшы паліцыі апамятацца, уначы ў Тракелях адшукалі пад печчу ў адной жанчыны Наркуна і расстралялі яго як здрадніка і злачынца. Паліцыя на чале з войтам Навіцкім уцякла ў Ліду. Насельніцтва нас прывітала: яно ўбачыла ў нас абаронцаў і таму аказвала нам дапамогу.*

*Вазняк нібы таксама ўцёк у Ліду. Перад уцёкам ён зрабіў вялікую справу: не адправіў у Ліду некалькі сот тон збожжа. Пад вечар я разаслаў партызан па вёсках Гімбуты Казённыя і Панскія, па ўсіх хутарах, прылеглых да гэтых вёсак, а таксама ў Мергінцы, Дворыща і Юравічы. Была пастаўлена задача - мабілізаваць сялян з фурманкамі, кожная фурманка павінна мець не меней дзесяці пустых мяшкоў, прычым трэба дабіцца 100% яўкі фурманак, усе абозы павінны сабрацца ў маёнтку Дворышча. Сяляне не ведалі навошта, па парожніх мяшках, здагадваліся, што па збожжа. Аднак, куды збожжа везці, яны пакуль не ведалі. Сам я з Федзям Ляпёхіным прыйшоў на млын, дзе было чалавек 15 з памолам. Мы ўсіх сабралі і папярэдзілі: млын акружаны, хто выйдзе з млына, будзе расстраляны без папярэджання. Мельнікам Капчынскаму і Калясінскаму загадана працу не перапыняць. Хвілін праз 20 з'явіўся першы абоз, затым з іншага боку другі і г. д. Я сабраў усіх сялян - возьнікаў і таксама папярэдзіў, што Дворышча акружана партызанамі, калі хто паспрабуе ўцячы ўпотай, то будзе расстраляны. Будзе зроблены ўзлом дзвярэй адрын. Кожны павінен насыпаць у свае мяшкі збожжа і павезці дадому. Падчас працы бяспека гарантавана, усё вывезенае збожжа будзе ваша. "Партызаны, узламаць дзверы! Усім прыступіць да пагрузкі!" Спачатку мужыкі нехаця тапталіся на месцы, але калі ўбачылі шмат збожжа, яны накінуліся і дружна пачалі грузіць. Хто бліжэй жыў здолеў 2-3 разы прыехаць. На працягу ночы ўсё збожжа сплыло з засекаў акупантаў.*

*Раён дзеянняў нашага атрада значна пашырэў, ад Дакудава да Тракеляў, ад Тракеляў да Воранаўскага і Радуньскага раёнаў. Тракелі вызвалены ад паліцыі, знішчаны два пункты па вырабу сметанковага масла і збору яйкаў. Насельніцтва вызвалена ад паставак і падаткаў, нарыхтоўкі торфу і гужпавіннасцяў. У Дворышчы поўнасцю спынена нарыхтоўка і вывазка торфу. Узята некалькі сот тон збожжа. Насельніцтва гэтых раёнаў пачало рэгулярна атрымліваць свежыя зводкі Саўінфармбюро".*

## 21. Пячатка Сляткова

**Зямскоў Х.А.:** *"Увосень 1942 года Слятковым была выраблена круглая пячатка з зоркай усярэдзіне абадка. Усе сельгаспрадукты, якія накіроўваліся з вёсак для фашысцкага войска ў горад Ліду, партызанскім атрадам вярталіся сялянам, а ім выдаваўся*

## 39. Падрыў электрастанцыі

У ноч на 14 сакавіка 1943 г. Роберт Сасноўскі і Сямён Паўлаў падарвалі электрастанцыю на чыгуначнай станцыі. Падрабязнасці гэтай аперацыі апісаныя ў кнізе Смірнова і Ампілава "У маленькім горадзе Лідзе…". Кніга ў перакладзе на беларускую мову публікавалася ў "Лідскім летапісцы" ў 1997-2000 гадах, у №№ з 1 па 10.



**Сасноўскі Р.Ю.**

*"Акт ад 14 сакавіка 1943 г.*

*У 2 гадзіны 30 хвілін па мясцовым часе была падарваная двума пакетамі толу (12 кг) чыгуначная электрастанцыя ў г. Лідзе. У выніку выбуху 2 машыны ўзляцелі ў паветра, а трэцяя выведзеная з ладу, акрамя таго, ўзнік вялікі пажар і ўсё, што знаходзілася ў дадзеным памяшканні, згарэла. Для выканання гэтай аперацыі быў пасланы партызан Жукаў Пётр Васільевіч, які прыцягнуў групу ваеннапалонных, што працавалі на гэтай электрастанцыі. Усю падрыхтоўчую працу, дастаўку матэрыялаў, інструктаж праводзіў камісар Дзеяў А.І., начальнік штаба Зямскоў Х.А. з атрада "Іскра", камандзір (камісар) атрада "Кастрычнік" Бязлюдаў Г.І.*

*Непасрэдна ўдзельнічалі з групы ваеннапалонных: Сасноўскі Р.Ю., Паўлаў С.П. Саўчанка Ў.П., Багмут А. А, Тэртычны К.М.*

*Камандзір атрада "Іскра" Коннаў.*
*Камісар Дзеяў.*
*Дакладна: нач. штаба Зямскоў."*

60 чалавек ваеннапалонных з 72, якія працавалі ў дэпо, ўцяклі да партызанаў, у атрад "Іскра" прыйшло каля 20 чалавек, у тым ліку Паўлаў, Рэксцін, Саўчанка, Тэртычны, Туруткін, Сасноўскі, Багмут, Бахмутаў, Дабралежа, Левін, Гудоха.

## 40. Паліцыянты ўцякаюць у партызаны

**Коннаў А.А.:** *"У сакавіку 1943 г. у атрад прыйшлі 4 чалавекі. Яны мелі праз нашых сувязных з намі сувязь, ахоўвалі мост на чыгунцы каля станцыі Гутна, але іх хацелі перакінуць на іншае месца. Не губляючы часу, забілі 2-х немцаў, забралі зброю і боепрыпасы, узялі аднаго немца з сабой, нагрузілі яго боепрыпасамі і ў якасці насільшчыка прывялі ў в. Граблі (Пруткі), мясцовае насельніцтва паведаміла Лазавому і Нікіфараву, якія вярталіся з задання, што ў гэтай хаце немцы, але гавораць па-руску. З прыбылымі партызанамі акружылі хату, увайшлі і загадалі здаць зброю. Людзям у нямецкай форме гэта і было трэба: як высвятлілася, яны ішлі да нас. Гэта былі: Гаўрыленка Павел, Алейнік Рыгор, Мядзведзеў Міхась і яшчэ адзін, а пяты быў немец - "насільшчык". Хлопцаў прывялі ў атрад, ваявалі яны добра. Гаўрыленка быў улюбёнцам атрада, адкупляў віну перад Радзімай і таварышамі."*

## 41. Вясеннія падрывы

**Лазавы С.Т.:** *"20.03.43 г. Кудла Уладзімір, Курылаў Хведар, Селівонаў, Арлюк, Тыгр, Белазёраў, Лучко, Кісілеўскі, Кудзі Саша, Кудзі Жэня падарвалі цягнік у раёне чыг. станцыі Агароднікі каля Нёмана".*

**Лазавы С.Т.:** *"30.03.43 г. Лазавы, Лупашчанка, Дзёмушкін, Нічыпараў, Дудараў, Жук Яўген (пазней аказаўся здраднікам і быў расстраляны) і інш. падарвалі цягнік паміж ст. Ліда - Жырмуны".*



***Лазавы Сільвестр Трафімавіч*** *"Сенька" 1919 г.н. з Кіеўскай вобласці. Скончыў 8 класаў (1935), школу ФЗН пры Кіеўскім паравоза-вагона-рамонтным заводзе (1936), працаваў слесарам на Кіеўскім трамвайна-тралейбусным заводзе. У 1939 г. прызваны ў Чырвоную Армію, скончыў палкавую школу, удзельнік фінскай вайны ў складзе 107 сп 55 сд. У пачатку ВАВ старшына 106 авіябазы (камандзір звяза), якая абслугоўвала 13 бамбардзіравальны полк 9 зад у м. Рось Ваўкавыскага раёна. Запалонены 29 чэрвеня ў Менску, збег у жніўні з калоны паміж Суботнікамі і Ліпнішкамі, хаваўся ў в. Урцішкі ў Палітэвіча Аўгустына Антонавіча. У студзені 1943 года далучыўся да партызанаў атрада "Іскра".*

Успамінае камандзір атрада **Коннаў А.А.:** *"Красавік 1943 г. Немцы асабліва ўзмацнілі ахову чыгунак. Засады, патруляванне - усё гэта абцяжарвала дыверсіі на чыгунках, а гэта была асноўная праца атрада. Я узяў з сабой групу 12 чал. і выйшаў на чыгунку Ліда-Маладзечна ў кірунку ст. Гаўя. Першая спроба аказалася няўдалай, калі мінёр-падрыўнік Яншын Пётр пачаў закладваць пакет, нас абстралялі з засады, пад нашым агнём Яншын паспяхова зняў пакет і мы адышлі, на наступны дзень мы падышлі да чыгункі метраў на 800 і арганізавалі дбайнае назіранне за ўсім, што адбывалася на чыгунцы. З наступленнем цемры наблізіліся да чыгункі, выслаўшы левае і правае ахоўванне. Затым прыступілі да мініравання, скончылася ўсё добра, ахоўванне і мы адышлі і вось тут убачылі парны патруль, які ішоў у кірунку лініі і ў гэты ж час пачулі гук цягніка, немцы нічога не*

*заўважылі, прайшлі. Вось і варожы цягнік, які ідзе на ўсход, уся ўвага на чыгунку, рывок шнура і гэтыя 3-5 секунд здаюцца гадзінамі, нарэшце грукат выбуху і полымя, скрыгат і грукат працягваецца, калі мы ўжо адышлі ад месца выбуху км на 2, толькі тады адкрылі страляніну ў цёмную ноч фашысты, а мы рухаліся да свайго атрада ў в. Альхоўка. Выведка далажыла, у выніку выбуху разбіты паравоз і 6 вагонаў, 4 пашкоджана і сышлі з рэйкаў. Цягнік ішоў да лініі фронту з баявой тэхнікай і боепрыпасамі.*

*10 красавіка 1943 г. партызанская група атрада "Іскра" у колькасці 60 чалавек выйшла на заданне на чыгунку Ліда-Маладзечна, паміж Іўем і Суботнікамі. Пераадолеўшы адлегласць 60 км, не даязджаючы да пераезду, спыніліся ў ляску, выслалі наперад выведку, якая праз некаторы час вярнулася і далажыла: усё ў парадку, назіральнікі выстаўлены, можна дзейнічаць. Пакінулі каля фурманак ездавых, рушылі да чыгункі: наперадзе за некалькі метраў выведка, за ёй неслі на плашч-палатках 2, па 100 кг кожная, авіябомбы, па баках рухаліся групы ахоўвання, ззаду група прыкрыцця і яна ж падчас аперацый павінна быць атакуючай. Групу ахоўвання з боку ст. Гаўя ўзначальваў сяржант Васільеў Мікалай. Групу ахоўвання з боку станцыі Юрацішкі ўзначальваў мал. л-нт Дзямідаў Валянцін. Першая група мінёраў - Яншын Пётр, Лазавы Сільвестр і Дзёмушкін Мікалай, другая група мінёраў - Белазёраў Максім, Глухароў Аляксей і Нікіфараў Міхаіл.*

*Першую па руху цягніка на шнур /вуду/, другую на шомпал. Адлегласць паміж бомбамі 50-60 метраў, Толькі замініравалі, як пачулі шум цягніка, які ішоў на ўсход. Міна пастаўленая на шомпал не спрацавала, цягнік дайшоў сярэдзінай да бомбы пастаўленай на шнур /вуда/, рывок - другая не падвяла: бліснула маланка і стукнуў гром, у паветра паляцелі кавалкі шпал і дошак ад вагонаў. Адразу ж група Дзямідава адкрыла агонь па паравозе, а група Васільева Колі - па заднім вагоне, дзе звычайна знаходзілася ахова. А затым пайшлі ў атаку групы аховы з флангаў, а атакуючая група каля 40 чалавек проста на цягнік, уся ахова цягніка была знішчана, не паспела аказаць супраціву. Цягнік складаўся ў большасці з леднікоў, калі іх адчынілі, то там аказаліся тушы свініны, ялавічыны, цукар і іншыя прадукты, неадкладна была арганізаваная пагрузка на фурманкі, паведамілі ў бліжкія вёскі, каб хутчэй бралі, што жадаюць з прадуктаў і хавалі, нагрузілі ў абоз і адправілі, а пакінутыя прадукты разам з вагонамі падпалілі. Так партызаны "Іскры" забяспечылі сябе прадуктамі больш чым на 2 м-цы."*

**Лазавы С.Т.:***"10.04.43 г. Лазавы, Курыла, Сяржа* (жыхар в. Анацкі -загінуў), *Кушаль Валодзя падарвалі чыг. мост паміж ст. Ліда-Агароднікі ў раёне цагельні ў самім горадзе Лідзе."*

Відавочна, што С. Лазавы не мог быць 10 красавіка пад Лідай і пад Іўем адначасова. Нехта з іх, ці Коннаў, ці Лазавы памыляюцца.

## 42. Падпал фанернай фабрыкі на ст. Сялец

Успамінае **Багатыроў М.М.**:*"У красавіку 1943 г. кіраўніцтвам атрада наш звяз у колькасці 20 чалавек быў накіраваны да фанернай фабрыкі і склада, якія знаходзіліся на ст. Нёман пад аховай фашыстаў. Перад намі стаяла задача: зрабіць выведку, высвятліць, як ахоўваецца фанерная фабрыка і склад і знішчыць іх, зрабіўшы падпал. Старшым групы быў прызначаны Пётр Сляткоў. Партызаны: парторг Багатыроў Н., камандзір звязу Васільеў М., Лазавы С., Хіжняк П., Гінсберг, Карых С., Лернер У., Шубін У., Паніч А. і Кудлаў. Была зробленая выведка, пасля чаго асцярона падкраўшыся, акружылі аб'екты, перарэзалі тэлефонную і тэлеграфную сувязь і пракраліся ўнутр фабрыкі і ў склад. Асцярожна знялі вартавых, падпалілі склад і фабрыку з усіх бакоў. Полымя пажару асвятліла ўсё неба, і было відаць далёка вакол. Фашыстаў заспелі знянацку, яны не маглі зразумець - як гэта магло здарыцца, стралялі ўсю ноч па нябачных партызанах, якія паспелі адысці ў прызначанае месца. Там нас ужо чакала кіраўніцтва атрада. Старшы групы Сляткоў далажыў аб выкананні баявога задання. Кіраўніцтва атрада абвясціла падзяку ўсёй групе. На другі дзень быў пасланы сувязіст, які ўстанавіў страту спаленай фабрыкі. Яна складала 20 млн. руб., на што быў складзены дыверсійны акт, падпісаны кіраўніцтвам партызанскага атрада".*

## 43. Гібель Васіля Лапіна

**Сільвестр Лазавы** ўспамінае: *"З в. Альхоўка, дзе стаяў атрад, мы выйшлі на выкананне баявога задання па падрыву чыгуначных цягнікоў.*

*21 красавіка 1943 г. ля в. Бурносы мы разбіліся на дзве групы: адну ўзначаліў Рыгор Цімафееў, які пайшоў пад Шчучын, другую групу ў колькасці 8 байцоў узначаліў я. З в. Пятры пайшлі на ўсход, у раён чыг. станцыі Юрацішкі да в. Урцішкі. Мы перасеклі гасцінец і дасягнулі вёскі, паглыбіліся ў лес бліжэй да чыгункі, і вось пераезд Дайліды-Суботнікі. Пакінуўшы 6 байцоў ззаду сябе, мы з Васілём Лапіным пайшлі ў выведку - пераканацца ці няма блізка ад пераезду засады. Не дайшлі да пераезду метраў 30, як раптам успыхнулі ракеты, а ўслед пасыпаўся шквальны агонь з кулямётаў і аўтаматаў, паразіўшы на смерць Лапіна. Я быў цяжка паранены - трыма кулямі разбіла лапатку перадплечча левай рукі і закранула правы край лёгкіх. У гэты час я знясілеў, сам забраць труп Лапіна пад моцным агнём супраціўніка не змог. Калі я падаў у мяне выпаў з рук аўтамат, ён ляжаў метраў за 5-8 ад мяне. Калі я пачаў паўзці, каб забраць зброю, немцы ўзмацнілі агонь па мне, адразаючы шлях да баявой зброі. Метраў за 5-6 ляжаў забіты варожым агнём У. Лапін, астатнія байцы разгубіліся і ўрассыпную адышлі, кінуўшы мяне і Лапіна на самаўпраўнасць лёсу. Я прыкінуўся забітым і не падаваў прыкмет жыцця. Узвілася чарговая серыя ракет, фрыцы пераканаліся ў тым,*

*што мы забітыя, падышлі і забралі труп Лапіна і вярталіся ізноў, каб забраць мой труп. Левае рука ў мяне поўнасцю адмовіла - я не мог перазарадзіць свой пісталет ТТ, сціснуўшы зубы з дапамогай правай я перазарадзіў пісталет і калі немцы падышлі да мяне ўшчыльную я разрадзіў свой пісталет ва ўпор і забіў двух фрыцаў. Скарыстаўшыся тым, што немцы не адкрывалі агонь, я ўскочыў у кювет і пачаў адпаўзаць пад полагам ночы і лесу. Мне ўдалося выслізнуць ад ворага, дабраўся да в. Урцішкі, дзе мне аказалі першую дапамогу Кудзі Уладзімір Сільвестравіч і Каравай Іван Канстанцінавіч. На другі дзень Кудзі У.С. перавёз мяне на возе за 30 км, рызыкуючы не толькі сваім жыццём, але жыццём сваёй сям'і. Прывёз мяне цяжка-параненага ўв. Бурносы і здаў камісару атрада Цімафееву. Лекар атрада тав. Гордзін аказаў мне медыцынскую дапамогу і быў маім лекарам да поўнага акрыяння. Цяжка хворым я быў 2 месяцы.*

*Труп Васіля Лапіна немцы даставілі ў в. Вігушкі, дзе яны размяшчаліся ў школе, і пахавалі на тэрыторыі школьнага двара. Баявы быў таварыш, кулямётчык, хадзіў некалькі раз на выкананне баявых аперацый па падрыву цягнікоў".*

Група Цімафеева ў ноч на 24 красавіка 1943 г. падарвала цягнік паміж станцыямі Шчучын - Ліда, які ішоў на ўсходні фронт з жывой сілай і боепрыпасамі.

### 44. Выведнікі

Партызаны ў выведцы шырока выкарыстоўвалі мясцовае насельніцтва. Старыя, жанчыны, дзяўчаты, дзеці дастаўлялі ўлёткі, зводкі, газеты, пераносілі акумулятары, лекі, перавязачны матэрыял, перавозілі ваеннапалонных, зброю, авіябомбы. Гэта заўсёды было спалучана з вялікай рызыкай. Пры няўдачы, неасцярожнасці, правале пагражала смерць. Часам выведнікам прыходзілася выконваць вельмі сур'ёзныя заданні.

Успамінае **Пятроўская Вера Іванаўна**: *"Я хадзіла ў выведку з Аленай Усцінаўнай .Грабліс. Першы раз у канцы красавіка 1943 г. нас паслалі даведацца аб прыбыцці войскаў СС, і куды яны трымаюць кірунак. Прыбыўшы ўг. Ліду мы зайшлі да маёй маці, якая нам сказала, што з раніцы частка з гэтых войскаў прайшла ў бок Баранавіч. У іх ліку 5 танкаў і 8 бронетранспарцёраў, прыкладна 300 немцаў. Для таго, каб высвятліць неўзаметку якія войскі пойдуць па шашы на Іўе, маці параіла нам пайсці раскідваць гной на агародзе каля гэтай шашы, што мы і зрабілі. Разам танкаў і бронетранспарцёраў налічылі 8 штук, 3 гарматы і каля 200 немцаў. Пасля чаго мы адразу рушылі ў атрад "Іскра", які стаяў на хутары каля в. Пятры. Па дарозе мы таксама даведаліся, што дадзеная калона рухаецца на в. Анацкі, што намі і было паведамлена ў атрад. Пасля гэтага атрад адышоў за р. Нёман, пакінуўшы толькі засаду.*



***Пятроўская Вера Іванаўна*** *1926 г.н., сувязная партызанскага атрада "Іскра" з канца 1942 г., з сакавіка 1943 выведніца.*

*Другі раз нас паслалі ў Ліду ў пачатку траўня 1943 г. на яўку да маёй сястры Васілеўскай А.І., якая жыла каля турмы па вул. Сыракомлі. Па заданні партызан, у той час працаваў у Лідзе паліцыянт Кудзі Яўген з в. Дакудава, які праз мяне часта перадаваў каштоўныя звесткі для партызан. Кожны месяц мне прыходзілася яго ўначы прывозіць у атрад, дзе ён сустракаўся толькі з Зямсковым і Дзеявым. Астатнія партызаны не павінны былі ведаць, што ён працуе на партызан.*



***Кудзі Я.І.***

*Яўгена Кудзі ў чымсьці западозрыў паліцэйскі-"шкурнік", ён баяўся правалу, таму прасіў або прыбраць паліцая-шкурніка або дазволіць яму пайсці ў атрад.*

*Прозвішча гэтага паліцая не памятаю, але ведаю, што ён паляк па-нацыянальнасці, яго сям'я была рэпрэсаваная і высланая ў Сібір, а ён па дарозе збег з цягніка. Яго імя было Антак або Алік. З прыходам немцаў ён уступіў у паліцыю і помсціў усім, хто спагадаў рускім.*

*Я гэтак жа мела яўку ў хірурга Бярылы* (Бірылы), *які працаваў у лякарні і забяспечваў партызан неабходнымі медыкаментамі. Для выканання дадзенага задання доктар Бярыла даў мне парашок.*

*Не даходзячы да кватэры сястры, сустрэла Кудзі Яўгена і дала знаць, каб ён прывёў здрадніка на кватэру да сястры. Калі Кудзі Я. і здраднік-паліцыянт прыйшлі на "гулянку да дзяўчынак" і трохі выпілі самагонкі, я дала знаць, каб Кудзі Я. вывеў пад добрапрыстойнай падставай здрадніка ненадоўга з кватэры. У гэты час я падсыпала парашок у шклянку паліцая. Пасля таго, як здраднік-паліцай выпіў гэтую шклянку з гарэлкай, то праз некаторы час заспяшаўся на дзяжурства ў турму.*

*Начаваць мы засталіся ў сястры. Пад раніцу Яўген прыйшоў на кватэру і паведаміў, што паліцыянта ўначы паралізавала, а раніцай ён сканаў."*

**Віннічак Вольга Якаўлеўна:** *"Увесну 1943 г. ув. Сяглы, дзе размяшчаўся першы партызанскі пост ад Ліды, у хаце гр. Сяглы я затрымала шпіёна. Было гэта так: седзячы ля акна я ўбачыла, як міма хат прайшоў*

*нейкі незнаёмы чалавек. Калі я папрасіла каменданта Дубаграя яго затрымаць, ён не зрабіў гэтага. Тады я выйшла на ганак з аўтаматам, які ўзяла ў яго, і затрымала гэтага чалавека. На ім была простая вясковая адзежа, але калі я яе зняла, пад ёй аказалася нямецкая форма. Яго, я, нікому не давяраючы, з дапамогай двух аўтаматчыкаў даставіла ў штаб атрада "Іскра". Што з ім зрабілі, не ведаю. Камандзір брыгады Васільеў вынес мне падзяку."*



***Віннічак Вольга Якаўлеўна,*** *1906 г.н., жыла на вул. Лётнай, маці 6 дзяцей, пераправіла да партызанаў 42 чалавекі, у красавіку 1943 г. з'ехала ў партызанскую зону.*

**Курылаў Х.**: *"На сувязь з падпольшчыкамі ў Ліду пасылалі Шута Сцяпана, Ярашэвіч Веру, Кучынскую Веру, Жукава Пятра. Зактыўных сувязных былі: Быстрыцкі з в. Моцевічы, Шут Сцяпан, Шут Сяргей, Курыла Мікалай".*

## 45. Урачыстая сустрэча 1-га траўня

У ноч перад 1 траўня 1943 г. група партызан з 10 чалавек на чале з Х. Зямсковым атрымала заданне падарваць цягнік, які ішоў на фронт з ваеннай тэхнікай і жывой сілай.

**Багатыроў М.М.:** *"Мы накіраваліся да ст. Гаўя. Падышлі да перагона Ліда-Гаўя, ацанілі становішча, зрабілі выведку, як лепш падысці да чыгуначнага палатна. Неўзаметку подкраўшыся, замініравалі ўчастак палатна і, схаваўшыся непадалёк, пачалі назіраць. Заўважылі цягнік. Ён падыходзіў да таго месца, дзе была міна. Ля доўгай вяроўкі, якая была працягнутая да штыра, сядзеў Хведар Зямскоў. Як толькі наблізіўся цягнік, Хведар тузануў за вяроўку, міна падарвалася, састаў пайшоў пад адхон. Было разбіта 26 вагонаў, выведзены з ладу паравоз, забіта 70 гітлераўцаў, якія накіроўваліся на фронт. Рух цягнікоў на гэтым участку быў затрыманы на некалькі гадзін. Немцы расцягвалі вагоны, выпраўлялі каляю. Партызаны вярнуліся ў размяшчэнне атрада. Гэтае выкананне задання было падарункам партызан да свята - Дня 1 траўня".*

1 траўня ў вёсцы Скаменны Бор, размешчанай пасярод Дакудаўскіх балотаў, прайшоў мітынг партызан і мясцовых жыхароў. На мітынгу прысутнічала лекар Люцыя Крыжаноўская з Ліды, у атрадзе партызаніла яе сястра.

7 траўня знішчаны 2-км адрэзак васьміправоднай тэлеграфна-тэлефоннай сувязі на шашэйнай дарозе Ліда-Навагрудак пад камандаваннем Дзёмушкіна М. Удзельнічалі: Арлюк З.І., Бердаўскі Г., Васянін Д., Віленскі І., Даньшын Б., Зыранаў Х., Кудземаў У., Мядзведзкі У., Аленчанка Ў., Паўлаў С., Рухлядаў А., Серабаба, Сіланцеў, Сіленка І., Фельдман Я., Цапялевіч, Шнэйдар С.

16 траўня падарвана электрастанцыя ў Іўі. Знішчаныя ўсе машыны, разбураныя сцены будынка. Пад камандаваннем Цалія Гінзбурга аперацыю правялі Уласаў У., Гінзбург М., Гумніц М., Кудзі М.

*(Працяг у наступным нумары.)*



***Камандаванне партызанскага атрада "Іскра"***

***Анатоль Кулеш***

# ЗАПІСАНА ПАД ДЫКТОЎКУ ЛЁСУ

## (Урыўкі з біяграфічнага нарысу "Пра час і пра сябе")

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

### ПА ДАРОЗЕ Ў ШКОЛУ

"Транспарт" выбраны – іду пешшу. Каб не "накручваць" лішнія кіламетры,сябры параілі мне спрастаць дарогу і тым самым крыху скараціць яе. У той час шлях на Дворышча пралягаў інакш, чым сёння. Сённяшняга адрэзка вуліцы Міцкевіча ад вуліцы Савецкай і далей на Раслякі не было. Трэба было ісці па Пастаўскай (зараз яе няма), затым налева праз раку Лідзейку, а выйшаўшы на шашу ісці да сённяшняга завода "Аграпраммаш", затым праз чыгуначны пераезд далей у бок вёскі Колышкі. Так віляць - час траціць. Таму мне параілі ісці не па шашы,а праз чыгуначны мост адразу да вёскі Малэйкаўшчына. Я так і зрабіў.

Дайшоўшы да дома Кулевічаў, я павярнуў налева і выйшаў да чыгункі. Побач з насыпам тут стаяў невялікі мураваны домік. І ў гэтага доміка ёсць свая незвычайная гісторыя. Ён належаў прыватнаму ўладальніку нейкаму Варонічу. У час вайны ў ім месцілася каманда па ахове чыгуначнага маста праз Лідзейку, якая складалася з некалькіх немцаў, а астатнія былі ўласаўцы. У чэрвені 1944 года, калі набліжаўся фронт, і была чутна артылерыйская кананада, уласаўцы перабілі сваіх фашысцкіх гаспадароў, і самі ўцяклі да партызан. Лёс іх невядомы. Не выключана, што гэта іх не выратавала ад пакарання. У той час яны заставаліся здраднікамі Радзімы.

Падняўшыся на насып чыгункі і падышоўшы да маста, я ўбачыў раскінуўшуюся перад сабой вёску Малэйкаўшчына. Прыземістыя драўляныя, у большай частцы крытыя саломай сялянскія хаты, былі раскіданы ад ракі да самай шашы, што ішла на Дворышча. Мне і ў галаву ў той час не магло прыйсці, што менавіта тут недзе жыве мая будучая палавіна. За насыпам на другім баку ракі стаяў шэры домік з мезанінам. Да 1939 года гэты прыгожы ва ўтульным садзе дом належаў дэпутату сейма Рэчы Паспалітай Брыльскаму. У 1940 годзе мясцовая савецкая ўлада ператварыла яго ў дом для псіхічна хворых. Пасля захопу Ліды немцамі ў 1941 годзе ўсіх іх разам з медперсаналам расстралялі.

Пасля гэты шлях я паўтараў многа-многа разоў.

Паміж ракой і ўскрайкам лесу ў шахматным парадку стаялі забудовы: жылыя памяшканні, гаспадарчыя збудаванні, а пры іх агароды, сады. Чуўся брэх сабак спевы пеўняў, кудахтанне курэй, а то і візг парасяці. Увогуле, чыста вясковая капэла.

У вёскі аказалася даволі цікавая гісторыя, якая пачынаецца ў далёкай мінуўшчыне. 1 жніўня 1518 года Ян Сцыпіён дэль Кампа з жонкаю Тарэзай з Хлябіцкіх, італьянскага паходжання, падпісалі кантракт аб пасяленні ў Беларусі піяраў і пасялілі іх у Воранаве. У 1756 годзе Ігнацы Сцыпіён дэль Кампа, падстараста ВКЛ і стараста Ліды, перасяліў піяраў з Воранава ў Ліду.

Карыстаючыся дазволам сойму на "набыццё вёскі" коштам не болей за 60 тыс. злотых. у 1778 годзе яны набылі ў Умястоўскіх за 27 тыс. зл. маёнтак Пастаўшчына. Маёнтак гэты знаходзіўся за некалькі кіламетраў ад Ліды, побач з Лідзейкай з левага боку дарогі на Дворышча. Так запісана ў дакуменце. Сёння - гэта вёска Малэйкаўшчына. Некаторыя тапаністы мяркуюць, што назва вёскі паходзіць ад кораня "мал"... "з дапамогаю суфіксаў". Магчыма яно і так.

Прайшоўшы праз вёску, міма хаты, дзе жыла мая будучая жонка Маргарыта, я выйшаў на шашу, збярошы пару кіламетраў дарогі і некалькі дзесяткаў хвілін часу, пацісую далей у зададзеным кірунку.

Дарога тут ішла праз невялікі лясок. А навокал хутаркі. Як аказалася, яны не зусім звычайныя. Гэта былыя сядзібы польскіх асаднікаў, якія ў 20-я гады мінулага стагоддзя атрымалі тут зямельныя надзелы і пасяліліся. Валодалі імі да восені 1939 года. А калі адбылося ўз'яднанне заходніх і ўсходніх абласцей Беларусі, асаднікаў вывезлі. Сярод іх былі нават вядомыя ў Польшчы асобы. Напрыклад, палкоўнік Арліцкі, домік якога захаваўся да сёння. Жыў у вёсцы адзін з удзельнікаў Другой Сусветнай вайны, прыняўшы першы бой з немцамі на памежнай заставе Вэстэрплата - Зыгмунт Даперала.

Усё пакуль незнаёмае, усё новае.

За Малэйкаўшчынай адкрылася вёска Колышкі. Яшчэ адна такая ж ціхая, з тыповымі забудовамі вёсачка, толькі кампактна прытуленая да галоўнай сваёй артэрыі – шашы Ліда -Тракелі. На дарожным знаку віднелася напісаная назва – "Колышкі".

Вёска, як аказалася, сваімі каранямі заходзіць у далёкае сярэдневечча. Аб паходжанні яе назвы бытуе легенда наступнага зместу. У 1506 годзе кароль Рэчы Паспалітай і князь ВКЛ Аляксандр Ягелончык рашыў правесці ў Лідзе паседжанне Літоўскага Сойму. Але гэта задумка яму не ўдалася па дзвюх прычынах. Першая: менавіта ў гэты час да горада Ліды падышлі орды крымскіх татараў начале з Біці-Менглі Гірэем і султанам Бурнашам. Навісла пагроза захопу імі горада. Трэба было прыняць меры для яго абароны. Другая: у чэрвені 1505 года проста ў зале паседжання ў Аляксандра здарыўся прыпадак, і ён аказаўся паралізаваным. Хвароба прагрэсавала і ў Лідзе дасягнула свайго піку. У

такіх умовах кароль вымушаны быў пакінуць Ліду і вярнуцца ў Вільню. Седзячы ў сядле на кані, кароль зусім аслабеў. Таму рыцары, якія суправаджалі караля, паклалі яго ў адмыслова зробленую калыску, прымацавалі яе паміж двума коньмі і такім чынам даставілі ў Вільню. Адсюль, быццам, і назва паселішча – "Калыска – Колышкі". Але гэта, бадай, толькі легенда.

Адразу за вёскай быў масток з бетону, перакінуты праз невялічкі ручэй пад назвай рэчка Дзірванка з дзівосна чыстай і празрыстай, як крышталь, вадою. Пачынаўся ён за некалькі кіламетраў ад вёскі ў суседнім лесе з невялікай крынічкі і ўпадаў паміж Малэйкашчынай і Колышкамі ў рэчку Лідзейку.

За вёскаю адкрываўся шырокі прастор, а сярод яго – двухпавярховы шэрага колеру з белымі вокнамі і бліскучай бляхай на даху будынак. Гэта і быў прадмет майго пошуку – школа.

Некалі школа знаходзілася ў вёсцы Колышкі. Але яна не адпавядала патрабаванням часу. Узнікла патрэба пабудаваць новую. Калі такое рашэнне было прынята, жыхары навакольных вёсак настойвалі, збудаваць будынак так, каб ён быў на аднолькавай адлегласці ад іншых вёсак: Колышак, Доўкняў, Цябаў, Верхліды.

**У ШКОЛЕ**

У школе мяне сустрэла прыбіральшчыца цёця Ксеня, якая жыла тут жа на другім паверсе ў школе. Яна мне сказала, што дырэктара шклы Валянціны Аляксандраўны Бокач дома няма, што яна паехала ў Ліду і, калі вернецца, не вядома. Мне нічога не заставалася, як вяртацца назад да сваіх знаёмых у горад. Тым не менш, я крыху паспеў пазнаёміцца са сваім новым месцам працы. Школа мне спадабалася: зручнае размяшчэнне вучэбных класаў, класы прасторныя, светлыя. Двор не быў яшчэ добраўпарадкаваны – адсутнічала агарожа. Побач са школай стаяў невялікі домік – у ім жыла дырэктар.

Калі загадчык РайАНА накіроўваў мяне працаваць у гэтую школу, папярэдзіў, што дырэктар, хоць і жанчына, але строгая і патрабавальная. У раёне карыстаецца дзелавым аўтарытэтам. Лічыцца здольным арганізатарам педагагічнага працэсу. Загадзя скажу - не схлусіў.

Быў канец ліпеня. Усе настаўнікі былі яшчэ ў адпусках. Мне ж трэба было недзе ўладкавацца на кватэру, а параду даць не было каму. На дапамогу прыйшла ўсё тая ж цёця Ксеня. Яна параіла пайсці да настаўніка - Сташэўскага Герасіма Пятровіча, што жыў непадалёку, і разам з ім схадзіць да аднаго гаспадара на хутар у бярозавым гаі. У яго да гэтага ўжо жыў адзін настаўнік, але яго за нейкія правіннасці аднойчы ноччу павезлі недзе "в места не столь отдалённые".

Настаўнік Герасім Пятровіч сустрэў мяне ветліва. Ахвотна згадзіўся пайсці са мной. Балазе, хутарок знаходзіўся мо за сто метраў ад сядзібы, дзе жыў ён. Пасля непрацяглай гутаркі, гаспадар даў згоду, і я з задавальненнем усталяваўся на новым месцы. Гаспадары, сяляне, мілыя добрыя людзі. Асабліва гаспадыня, без лішніх слоў пагадзілася прыняць на кватэру нават "са сталом", гэта значыць, што і сняданне, і абед, і вячэру згадзілася рыхтаваць сама. У вясковых умовах нічога лепшага і жадаць нельга. За ўсё разам я павінен быў плаціць штомесячна па 350 рублёў. Чыстая зарплата мая складала ўсяго 550-600 рублёў. У той час надта ж шмат было розных падаткаў: падаходны, халасяцкі па 6%, заём - 10%, камсамольскія ды прафсаюзныя ўзносы.

У прызначаны час я прыйшоў у школу як новы прызначаны настаўнік. Першае знаёмства з дырэктарам. Валянціна Аляксандраўна аказалася жанчынай бальзакаўскага ўзросту, прыемнай знешнасці, ветлівая, зусім не падобная на тую, якую мне апісвалі раней мае некаторыя новыя знаёмыя. Яна проста старалася, як магла, рабіць добра сваю справу. Пагутарыўшы, я атрымаў ад яе першае даручэнне: абсталяваць спартыўную пляцоўку, паколькі акрамя матэматыкі і фізікі я павінен быў весці і ўрокі фізкультуры. Задача аказалася для мяне невырашальнай: куды ні пайду – асадзі назад. Усе чакалі хабар, а дзе мне яго ўзяць, калі я сам быў без граша, як царкоўная мыш. Калі бярвенні і можна было здабыць у лясгасе, то даставіць іх на месца – немагчыма. Калгасаў тады яшчэ не было, а з аднаасобнікамі якая размова! Так я гэты спортгарадок і не пабудаваў. Не было яго некалькі гадоў і пасля мяне.

Жнівень для мяне ў тым годзе стаў своеасаблівым іспытам. Я ў той час вельмі шмат курыў. У вёсцы крамы не было. Па папяросы хадзіў у горад. Дарэчы, цыгарэт тады яшчэ не было. Былі папяросы "Беломорканал", "Нёман" - і даражэйшыя, і танейшыя, як, напрыклад, "Красная звёздочка", "Север", "Прибой". Вось я і вырашыў кінуць курыць. Што гэта такое, можа ўявіць толькі той, хто сам праз такі іспыт прайшоў. Першыя дні адчуваў сябе нязносна дрэнна: нерваваўся, не знаходзіў сабе месца. Усё хадзіў, нешта шукаў. Пасля пачаў спаць. Спаў цэлымі днямі і начамі. Ад сну аж распух. І ўсё ж такі пераадолеў сам сябе: кінуў курыць. І адразу адчуў прыліў сіл і добрага настрою.

Хутар гаспадара знаходзіўся ў прыгожым бярозавым гаі з прагалінамі-лужкамі. Асабліва прыгожым ён выглядаў ранняй вясною, калі зазеляneюць маладыя лісточкі. Тады зелень асабліва маляўнічая, ласкавая. І восенню, калі тыя ж лісточкі афрбоўваюцца ва ўсе колеры вясёлкі – жоўтыя, чырвоныя і іншыя.

Пасля работы я ішоў у гай збіраў там баравікі. Яны ў беразняках у адрозненне ад баравых бываюць жаўтавата-карычневыя, або проста белыя. Тым не менш, смак іх аднолькавы – цудоўны.

Прыносіў дахаты, гаспадыня іх чысціла і смажыла ў смятане: ежа царская!.

З вясны да восені чуўся хор птушак. Зімой завітвалі да самых забудоў зайцы. Вакол хлявоў увіхаліся хітрыя сарокі. Адным словам – вакол жывая прырода. Спакой і благадаць.

Сям'я гаспадара з ранку да вечара працавала ў полі – ён быў аднаасобнікам, даволі заможным селянінам, нягледзячы на тое, што любіў "закінуць за каўнер" чарачку-другую, і сам быў майстрам гэтай "вытворчасці". Галоўнае, быў працавіты і вельмі сумленны. Я з вялікай павагай успамінаю гэтых добрых,

шчодрых, бескарыслівых людзей. Толькі за што такіх, як яны, людзей саветы вывозілі да "белых мядзведзяў", уцяміць да сёння не магу.

Такім чынам, "якар быў кінуты, гавань знойдзена". "Плаванне" прадстаяла пачаць у верасні. Думкі і апаска не пакідала мяне ні на хвіліну. Як сустрэнуць мяне мае будучыя выхаванцы, іх бацькі і ўвогуле жыхары вёсак? І гэта зразумела. Трапіць з асяроддзя злачынцаў у асяроддзе даверлівых, шчырых, паслухмяных вясковых людзей было нечым незвычайным. Не раз задаваў сабе пытанне, ці гатовы я да такога выпрабавання? Ці змагу я навучыць гэтых дзетак чаму-небудзь ўвогуле? Ды ці мала яшчэ іншых думак вярцелася ў галаве. Я ж сам у той час вялікай адукацыяй не вызначаўся: сярэдняя школа і адзін год педагагічнай вучэльні, дзе вучылі нас галоўным чынам педагогіцы, псіхалогіі ды методыцы выкладання прадметаў у пачатковых класах. Як пісаў паэт: "І веды меў ён у адну столку і тых патрацію палавіну на поле гонячы скаціну".

Але чаму можна навучыцца такімі хуткімі тэмпамі? Ды і агульнае развіццё жадала быць лепшым, акрамя фізічнага. Адным словам, ні даць ні адняць – дзіця вайны". Недахопаў было – не злічыць. Усё гэта я ўсвядамляў, таму і трывожыўся. Стараўся ўцешыць сябе прымаўкай: "Не багі гаршкі абпальваюць". Мабыць, і правільна рабіў.

У другой палове жніўня ўсе настаўнікі вярнуліся з адпускоў. Пачалося знаёмства з "асабовым складам школы". Прыбылі і новапрызначаныя – Цвяткова Зоя Сямёнаўна, выкладчыца гісторыі, Ліхачова Алена Фёдараўна – выкладчыца геаграфіі і біялогіі, піянерважатая Яблонская Люба Іванаўна.

Зоя Сямёнаўна, дачка палкоўніка, толькі што вярнуўшагася з Карэі. І яна была там. Праўда, нам пра гэта не расказвала нічога і ніколі. Алена Фёдараўна Ліхачова, масіўная бландзінка з даволі грубымі рысамі твару і мужчынскім характарам - выпускніца Магілёўскага настаўніцкага інстытута была накіравана да нас у школу па размеркаванні. Ну, а маладзенькая і прыгожанькая, дробненькая Любачка толькі што скончыла сямігодку і райкамам камсамолу была накіравана на піянерскую работу.

Са старажылаў былі дырэктар Валянціна Аляксандраўна, завуч Маргарыта Іванаўна Станішэўская, якая з часам стала маёю жонкаю, сям'я Сташэўскіх Герасім і Вольга Мікалаеўна, настаўніцы пачатковых класаў Лабан Марыя Канстанцінаўна, Кароткіна Марыя Мікалаеўна і мая аднакурсніца па педвучылішчы Ядвіга Казіміраўна Сабалеўская. Вось і ўвесь склад. Як бачыце, ніводнага свабоднага мужчыны ў гэтым жаночым кветніку.

Сярод усіх жанчын сваім знешнім выглядам выдзялялася Зоя Сямёнаўна. Усё адпавядала прозвішчу – Цвяткова: невысокага росту, прапарцыянальна складзеная, прывабная фігура. Адкрыты з усмешкай твар. Вабіў іскрысты позірк адкрытых шэры хвачэй. Жыла яна ў горадзе (сёння на тэрыторыі "Сельмаша"), таму бацька часцяком прысылаў па яе машыну, чым мы таксама не супраць былі пакарыстацца. Усё гэта было пасля, а пакуль прадстаяла знаёмства.

Аказалася мая апаска была дарэмнай. Такіх, як я тут большасць. Не было паміж нас ніводнага з вышэйшай адукацыяй. Нават дырэктар яе не мела. А настаўнік пачатковых класаў Герасім Пятровіч да гэтага ўвогуле працаваў шафёрам.

Як ні круці, быў яўны недахоп педагагічных кадраў. І, як ні дзіўна, падрыхтоўка вучняў была даволі-такі высокая, на ўзроўні дзейных у той час праграм.

Адбылася тут сустрэча, якая стала лёсам. Гэта была выкладчыца рускай мовы і літаратуры, завуч школы. Маргарыта Іванаўна Станішэўская. Праз год нашага знаёмства мы пажаніліся. Усё ў ёй адпавядала польскаму паходжанню: ганаровае польскае прозвішча, што ў той час у вёсках заходніх абласцей было немалаважным, унушальная рослая фігура, інтэлігентная знешнасць, уменне трымацца ў калектыве, пісьменная руская мова. Увогуле – згустак годнасці.

Я тут скарыстаў слова "лёс" не выпадкова. Жыццё чалавека пачынаецца з нараджэння і для ўсіх ідзе па традыцыйна накатаннай дарозе набыцця жыццёва важных патрэбнасцяў: вучоба ў школе, пасільная праца ў сям'і і ў нейкай меры ў адносінах да грамадства. І толькі пазней усё значна ўскладняецца. Турботы не толькі пра сябе, але і пра сваіх блізкіх і пра людзей са свайго атачэння. Месца тваё ў гэтым грамадскім комплексе правоў, абавязкаў, магчымасцяў і ёсць твой лёс. У кожнага ён складваецца па-свойму, асабліва ў людзей таленавітых, мэтанакіраваных, тых, хто здольны захапляцца. У большасці ж усё зводзіцца да звычайных сямейных сувязяў. У адных усё складваецца ўдала, у іншых не вельмі. Як гаворыць народная мудрасць: шчаслівыя ўсе аднолькава, няшчасны кожны па-свойму. Не магу сам ацаніць, што выйшла ў нас. Але пражылі мы разам амаль пяцьдзесят гадоў, пакуль той самы лёс не разлучыў нас вось ужо амаль 10 гадоў таму. Нажылі дваіх дзяцей. Вырасцілі, далі адукацыю. зараз ужо стаў прадзедам – маю двухгадовага праўнучка Славаміра. Ёсць ужо дарослая ўнучка. Значыць, жыццё пражыў недарэмна, не пустацветам.

## КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ ШКОЛЫ

Амаль каля паўтара дзесятка гадоў школы тут не было. Для гэтай мэты многія гады прыходзілася арандаваць памяшканні ў мясцовых сялян. Школьны будынак быў пабудаваны напярэдадні Другой Сусветнай вайны, у 1937 годзе. У 2007 годзе яна адзначыла свой 70-ці гадовы юбілей. Гісторыя пабудовы, на мой погляд, павучальная. Ініцыятарам будоўлі быў войт Лідскай гміны Юзаф Герасімовіч. У 1936 годзе стварылі грамадскі камітэт, які заняўся арганізацыяй пабудовы: зборам сродкаў, нарыхтоўкай будаўнічых матэрыялаў, выбарам участка пад будоўлю. Частка грошай была сабрана сярод сялян вёсак Колышкі, Споркава, Верхліда, Доўкні, Цябы. Другую частку выдзеліла мясцовая ўлада з бюджэту гміны. Недастаючую суму пазычылі ў банку, за своечасовы зварот якой паручыліся Нікадзім Кордаш і Юзаф Дзякевіч.

Проста вырашылася пытанне аб месцы пабудовы. Паколькі школу павінны былі наведваць дзеці з



*60-гадовы юбілей Споркаўскай школы. Прэзідыюм урачыстага вечара. У цэнтры загадчык РайАНА Лапко, побачнам. старшыні райвыканкама Баранаў.*

названых вышэй вёсак, было вырашана будаваць каля галоўнай дарогі Ліда-Тракелі-Геранёны, паміж вёскамі Колышкі і Споркава. З часам вёска значна пашырылася і дайшла да самой школы, і зараз яна па праву называецца Споркаўская.

Завезлі на ўчастак будматэрыял – лес. Да апрацоўкі яго прыступіла брыгада, арганізаваная майстрам Півутам. Работу гэтую ў той час трэба было выконваць уручную: ачысціць ад кары, абчасаць і распілаваць на дошкі.

Перад закладкай падмурка ранняй вясной 1936 года склалі спіс тых, хто ахвяраваў грошы і прыняў актыўны ўдзел у арганізацыі і пабудове школы. Спіс быў надрукаваны залатымі літарамі і ўзначальваў яго войт Лідскай гміны Юзаф Герасімовіч. Спіс у капсуле замуравалі у адным з вуглоў падмурка будынка.

1 верасня 1937 года школа гасцінна адчыніла дзверы і прыняла сваіх першых вучняў. Адкрыццё школы для сяльчан было здарэннем эпахальным. Будынак двухпавярховы. Першы паверх займалі класныя пакоі і адмінстрацыйныя памяшканні: чатыры навучальныя класы, настаўніцкая, майстэрня.

Другі паверх быў адведзены пад памяшканне дырэктара школы. Кватэра дырэктара мела 4 пакоі: гасцінная, рабочы кабінет, спальня і кухня. Была невялікая кладоўка. У самым цэнтры знаходзілася даволі вялікіх памераў сталовая, якая ў патрэбны час магла быць пераўтворана ў канферэнцзалу ці залу прыёму гасцей..

Першым дырэктарам стаў былы настаўнік, які раней вёў заняткі ў вёсцы Колышкі, Андрэй Майхер. Над школай ажыццяўляў шэфства батальён 19-га артылерыйскага палка, што дыслакаваўся ў Лідзе. Батальён падараваў вучням і настаўнікам 6-ці лямпавы радыёпрыёмнік (на той час вельмі дарагі падарунак). Салдаты і афіцэры палка былі частымі гасцямі вучняў. Пасля далучэння заходніх абласцей Беларусі да Савецкага Саюза, у 1940 годзе, дырэктара школы А. Майхера і яго жонку, таксама настаўніцу, арыштавалі і пасадзілі ў турму. На яго месца прыслалі выкладчыка гімназіі Лера, яўрэя, які ў 1939 годзе ўцёк з Варшавы і пасяліўся ў Беларусі. Аднак, не знайшоўшы ніякіх улік ці злачынстваў, Майхера з жонкаю вызвалілі з турмы. Ім было дазволена працягваць працаваць настаўнікамі. У 1945 годзе Майхер з жонкаю Люцыяй, дзвюмя дочкамі Барбарай і Галінай і сынам Славікам выехаў у Польшчу і пасяліўся ў горадзе Кашалін. Там 16 сакавіка 1986 года ён памёр.

Вось сюды летам 1950 года я і прыбыў “сеяць добрае, разумнае, вечнае”.

На першым школьным педсавеце мне даручылі выкладанне матэматыкі, фізікі, фізкультуры, малявання і чарчэння.

Дырэктар школы сваім загадам прызначыла мяне класным кіраўніком 7-га класа. Клас налічваў каля 20-ці вучняў. Многія з іх былі пераросткі. Напрыклад, Юзік Хутны і Ядзя Кордаш былі толькі на чатыры гады маладзейшыя ад мяне. Нягледзячы на гэта, былі яны вельмі сціплыя, паслухмяныя і надзвычайна руплівыя. Большасць з іх пасля школы знайшла сваё месца ў жыцці. Браты Юзік і Тадэвуш Хутныя сталі геадэзістамі-тапографамі, Ядзя Кордаш - медыцынскай сястрой, Анэля Гурын, Іна Пукач, Карповіч - настаўнікамі пачатковых класаў, Каўчуга - тэхнікам стаматолагам. Тэхнічную адукацыю атрымалі Фелікс Гаўрон, Сургіневіч.

Праз гады з некаторымі з іх прыходзілася сустракацца. Сустрэчы гэтыя былі добразычлівымі, шчырымі. На тварах маіх былых выхаванцаў я бачыў радасныя ўсмешкі, і па-дзіцячы іскрыліся іх вочы.

Ужо з-за гэтага варта добрых слоў і ўспамінаў настаўніцкая праца, школа і яе выхаванцы.

## ПАХОД У ПАЛІТЫКУ

Школа ў заходніх абласцях Беларусі ў пачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя ўяўляла сабой не толькі, культурна-асветніцкую ўстанову. Мясцовыя ўлады – урадавыя і партыйныя – выкарыстоўвалі іх і ў іншых

мэтах. Ні адна палітычная кампанія, якая праводзілася ў вёсцы, не праходзіла без удзелу ў ёй настаўнікаў. З агідай узгадваю сёння бясконцыя рознага роду "пасядзелкі" – адкрытыя партыйныя сходы, сесіі сельскіх Саветаў, калгасныя справаздачна-выбарчыя і іншыя сходы, сходы калгаснікаў, даярак, свінарак і г.д. Іншы раз гэтыя, з дазволу сказаць, "мерапрыемствы" пераўтвараліся ў камедыйнае словаблуддзе кіраўнікоў рознага рангу і зацягваліся да паўночы. Таму што пачыналіся заўсёды пасля заняткаў. А пасля гэтага настаўнік ішоў дадому, рыхтаваўся да ўрокаў наступнага дня і назаўтра ранкам павінен быў сваечасова прыйсці на працу. А калі дадаць, што іншыя настаўнікі жылі на значнай адлегласці ад школы ці месца жыхарства, то стане зразумела, у што абарочваліся для яго гэтыя грамадскія абавязкі. Акрамя таго, калі стварылі калгасы, кожны настаўнік быў агітатарам на ферме, у брыгадзе, у свінарніку. І ад яго патрабавалі вынікаў у вытворчасці. Скажам, панізіліся ўдоі - вінаваты агітатар, не стала прывагі на свінаферме - пытанні да агітатара, настаўніка.

І якасць работы сельскага настаўніка, як правіла, ацэньвалася больш па тым, якую грамадскую работу ён выконвае, на колькі актыўна ён удзельнічаў у жыцці калгаса, саўгаса, брыгады, вёскі. Ці быў ён агітатарам, лектарам і г.д.

Узгадваецца адзін выпадак абуральнай цемнаты. Настаўнікі адной са школ з-за дрэннага зімовага надвор'я не прыйшлі на паседжанне сесіі сельскага Савета. Старшыня калгаса, што прысутнічаў на сесіі, прапанаваў "пазбавіць іх дыпломаў". І што вы думаеце? Сесія прыняла гэтую прапанову і пастанавіла: "За няяўку на сесію сельскага Савета без уважлівых прычын" пазбавіць настаўнікаў эннай школы дыпломаў". Усе дружна прагаласавалі "ЗА"!

Кожны, хто спрабаваў ухіліцца ад рознага роду бязглуздых даручэнняў падвяргаўся маральнаму, а іншы раз і адміністрацыйнаму ўціску. З камуністамі і камсамольцамі вялася іншая размова: іх паводзіны разглядаліся на партыйных ці камсамольскіх сходах, а то і на бюро райкамаў КП/б/Б ці ЛКСМБ.

Не адзін за падобныя ўчынкі атрымаў добры наганяй. Іншы раз выключалі з партыі ці камсамолу. А быць выключаным у той час азначала куды горш, чым не быць у гэтых арганізацыях увогуле. Можна было набыць кваліфікацыю "здрадніка справе партыі і народа". А чаго гэта магло каштаваць, здагадацца не цяжка. Хоць і не часта такое здаралася, але было.

Настаўнік, ці то сельскі, ці гарадскі, калі ён ахрысціў сваё дзіця па хрысціянскаму абраду, выганяўся са школы, "как падрывающий устоюи советской власти". Дазвалялася толькі ў гэтым сэнсе паказваць пальцам на тое, што на Захадзе існуе "забарона на прафесію".

Знаходзячыся пад такім пастаянным маральна-псіхалагічным і адміністрацыйным прэсам, настаўніку даводзілася маўкліва выконваць усе ўказанні і распараджэнні вышэйшых чыноўнікаў ад улады, нярэдка, недавукаў і проста непісьменных.

Адным словам, стваралася ўстойлівая зручная для ўлады і ўдушлівая для настаўніка атмасфера. Рэдка каму ўдавалася вырвацца з яе прыгнятальнага ўздзеяння. У такой сітуацыі аказваўся і аўтар гэтых радкоў.



***Настаўнік сельскай школы***

Калі пачыналася тая ці іншая палітычная кампанія і ствараліся "баявыя ўдарныя брыгады ўпаўнаважаных", на зямлі сельскай у межах вёсак Спорkаўшчына, Цябы, Верхліда, прыходзілася сустракаць іх ці дырэктару школы, ці мне, як прадстаўніку ад партыйнай арганізацыі і па рэкамендацыі партыйных і савецкіх органаў раёна, ну, і, канешне ж, удзельнічаць ва ўсіх праводзімых мерапрыемствах.

Калі быў створаны калгас імя Шверніка, мяне выбралі сакратаром калгаснай камсамольскай арганізацыі. Камсамольцаў з ліку калгаснікаў, натуральна, не было. Таму ў арганізацыю ўключалі ўсіх камсамольцаў-настаўнікаў. Паўстала задача ўцягваць у камсамол калгасную моладзь, але ахвотных не аказалася: яшчэ добра памяталі бандыцкія выхадкі Дураса і яму падобных, а кожнаму хацелася жыць.

З вялікай цяжкасцю ўдалося загітаваць 16-ці гадовую дзяўчыну Чэсю Сцефановіч, якая працавала бухгалтарам калгаса. Далей справа не пайшла. У сакавіку 1952 года мяне прымаюць кандыдатам у ВКП/б/. Цяжар грамадскіх даручэнняў, пры чым значна больш сур'ёзных, больш адказных, чым раней, узрос. Паколькі на кіраўнічыя пасады ў калгасе ахвочых было не знайсці – ніхто не хацеў, а мо баяліся – мне ў парадку "общественной нагрузки" а дакладней на "общественных началах и по поручению партийной организацыии" было даручана быць кладаўшчыком. У мае абавязкі ўваходзіла: "вечарам прыняць ад навaспечаных

калгаснікаў збожжа – "насенны фонд", а раніцай – выдаць на пасеў. На гэтай "ніве дзейнасці" прыйшлося сустрэцца з даволі правакацыйнай прапановай. Мудрыя, а больш хітрыя, вясковыя мужыкі ведалі, якое матэрыяльнае становішча сельскага настаўніка, тым больш маладога. Таму знаходзіліся такія, хто замест зерня для здачы ў калгас, прапанваў патаемна грошы, ці проста хабар. За гэта я павінен быў выпісаць квіток, што ён здаў паложаную яму норму. Чым бы гэта магло абярнуцца для мяне, вядома кожнаму. Хоць я і быў недасведчаны, малады, аднак на падобную спакусу не паддаўся.

Адпрацаваўшы некалькі гадзін на зернескладзе, ранкам бег у школу на ўрокі. Правёўшы іх, вяртаўся зноў туды. І так, пакуль не закончылася пасяўная. Дзеля справядлівасці скажу, што восенню за сваю "самаадданую працу" я атрымаў цэлы мяшок жыта. Спажыць яго з карысцю аднак не ўдалося. Як кажуць: Бог даў – Бог і ўзяў.

У кіраўнічых савецка-партыйных колах раёна мяне заўважылі, убачылі нейкія парасткі арганізатара, хаця наўрад ці калі-небудзь ў мяне яны былі на самай справе. А калі ў школе паявіўся тадышні міністр калгасаў і саўгасаў Пётр Захаравіч Калінін, мяне адрэкамендавалі як "подающего надежды комсомольскага вожака". Зрабіла гэта дырэктар школы Валянціна Аляксандраўна Бокач. Яе словы, ківаючы галавою, пацвердзілі прысутнічаўшы прадстаўнік райкама і сакратар партыйнай арганізацыі Мікалай Вісарыёнавіч Васільеў. Я быў абдораны адабральным позіркам высокага начальніка. А калі той адыходзіў, усім, у тым ліку і мне, паціснуў рукі, пажадаў поспехаў у працы і на сваёй "Пабедзе" паімчаўся далей на Дворышча.

І пайшло-паехала. Мой аўтарытэт пачаў расці, як на дражджах. Мяне пачалі запрашаць на рознага роду раённыя форумы, даручаць кіраваць грамадскімі арганізацыямі. Тады мне гэта нават вельмі лісліваіла - я вызначаўся чымсьці ад іншых, але хутка зразумеў, што не гэты аўтарытэт мне патрэбен, а па-сапраўднаму дзелавы.

Тым не менш, ужо летам 1951 года мне прапанавалі пасаду другога сакратара райкаму камсамолу і адначасова ўзначаліць аддзел прапаганды. Што гэта быў за час, шмат хто яшчэ памятае. У раёне поўным ходам ішла калектывізацыя аднаасобных гаспадарак у гаспадаркі калектыўныя – калгасы. Але гэта быў ужо не 1939 год. Што ўяўляюць сабой калгасы, сяляне добра ведалі. Таму, як маглі, супраціўляліся. Гатовы былі выконваць усе загады, выплачваць падаткі, здаваць нарыхтоўкі, абы толькі не ісці ў калгас. Адзін жыхар вёскі Споркава Гурын змагаўся супраць, як толькі мог. Усю яго зямлю забралі, сядзібу абрэзалі да самых вуглоў хаты. І ўсё ж такі не здаўся. Мяркую, што падобныя прыклады былі і ў іншых вёсках раёна. Але і ўлада не аслабляла націск. Ёй патрэбна была магчымасць у крытычны момант забраць у сяляніна ўсё без запытання і дазволу. Як гэта было ў час індустрыялізацыі і ў Айчынную вайну. Гэтая ідэя была закладзена ў самой сутнасці калектывізацыі ў зародку.

Каб дасягнуць свайго, савецкая прапаганда раскруціла міф аб "внутренних врагах, врагах коллективизации и, наконец, врагах народа". Вораг мроіўся за кожным вуглом, за кожным дрэвам, на любым хутары, не гаворачы ўжо пра дамы заможных сялян. Падазронасць была ўзведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі і шлях мой на "палітычны алімп" аказаўся даволі складаным. Не адзін падобны да мяне "претендент" скапыціўся аб раскіданыя на ім бачныя і нябачныя камені. Тым не менш падумалася, чаму б і не згадзіцца. Усё роўна з дня ў дзень прыходзілася выконваць гэтую няўдзячную работу і толькі ў прамежку хадзіць у школу і даваць урокі. Да таго ж, работа на такім узроўні мне здавалася цікавай. Многія сябры па-добраму зайздросцілі мне і нават прадказвалі вялікую будучыню. Першая гутарка па пытанні, быць ці не быць мне сакратаром ЛКСМБ, адбылася ў ліпені – жніўні /дату не памятаю/ 1951 года. Гэта была не гутарка, гэта быў форменны допыт двух высокапастаўленных у камсамоле функцянераў: першага сакратара Гродзенскага абкама камсамолу Аксёнава Аляксандра Нікіфаравіча будучага старшыні СМ БССР, і адказнага інструктара ЦК ЛКСМБ па Гродзенскай вобласці /прозвішча запамятаў/. Гутарка праходзіла вельмі своеасаблівa. Яна адбывалася пад перакрыжаваным агнём пытанняў з двух бакоў. Да сёння ў памяці маёй нярэдка паўстае жывая карціна той "атакі". У вялікім пакоі-кабінеце А. Н. Аксёнава, абсталяваным па тыпу партыйна-савецкага часу, стаяў вялікі дзвюхтумбавы стол. На стале – настольная лямпа, чымсьці падобная на тую, што стаяла у кабінеце "правадыра, настаўніка і сябра ўсіх народаў свету", тэлефонны апарат з ручкай, за якую трэба было спачатку пакруціць, каб кудысьці дазваніцца. На супрацьлеглым краі стала - чарнільны прыбор з рулькай для ручак і алоўкаў рознага колеру. Стол пакрыты тоўстым зялёнага колеру сукном. Каб зручней было пісаць, ляжала вялікага памеру шкло. Злева каля сцяны стаяла канапа, а каля стала два глыбокія, абшытыя чорным дзерманцінам /а можа скурай/ крэслы. Усё масіўнае дабротнае, як у Сабакевіча. Мне здаецца, што было ўсё гэта не дарэмна. Калі хто-небудзь садзіўся ў крэсла, выглядаў маленькім, бездапаможным. На ўражлівых людзей гэта рабіла адпаведны ўплыў. З імі і гаварыць было лягчэй. Але гэта толькі мой домысел. Дзверы з боку прыёмнай таксама абабіты чорным дзерманцінам, каб не чутно было ў прыёмнай, пра што ідзе размова ў кабінеце. У прыёмнай праз увесь час сакратарка стракатала на машынцы і заглядвала ў кабінет толькі тады, калі яе туды выклікалі званком.

А за вокнамі горад жыў сваім, незалежным ад усяго гэтага, жыццём. Вуліца Савецкая ў той час у Гродна была адной з цэнтральных. Рух па ёй быў даволі ажыўлены: хадзілі пешаходы, гулі сваімі гудкамі аўтамабілі. Іншы раз тарахцелі па бруку звычайныя сялянскія падводы. Увогуле, усё выглядала даволі прымітыўна, празаічна, але па-сапраўднаму. У такіх умовах, ізаляваны ад усяго знешняга свету, я трымаў "удары сваіх падкованных апанентаў". Сілы, як вы ўжо паспелі зразумець, былі далёка не роўныя. Мы былі ў розных вагавых катэгорыях: з аднаго боку звычайны сельскі

настаўнік. З другога – два масцітыя камсамольскія функцыянеры абласнога і рэспубліканскага маштабу, узброеныя ведамі “Кароткага курса гісторыі ВКП/б/”. Ды і сітуацыя аказалася не на маю карысць. У сакавіку 1951 года мяне прынялі кандыдатам у члены ВКП/б/. 30 красавіка выдалі кандыдацкую картку. І правесці майскія святы, я, натуральна, паехаў да бацькоў у вёску. Тут жа былі мае сябры дзяцінства і юнацтва. Як водзіцца, адзначылі падзею не з радавых у маім жыцці, пагулялі, паспявалі, паігралі хто на чым. Я, напрыклад, на мандаліне, іншыя на гітарах, балалайках. У нас калісьці быў нядрэнны дамарошчаны самадзейны ансамбль. І я пайшоў дамоў. Для мяне было традыцыяй з вясны да позняй восені спаць у гумне на сене.

Раніцаю прыйшла да мяне мая старэйшая сястра Надзя і з парога пытае:”Толя, ты дома?” Я адазваўся. А яна працягвае: “Аркашу арыштавалі”. А я ж толькі ўчора вечарам быў менавітаў яго дома. З ім, з ягонымі сёстрамі і іншымі хлопцамі і дзяўчатамі бавілі весела час.

Спачатку, спрасонку, я нічога не зразумеў: як арыштавалі? За што і хто? Пасля аказалася, што арыштавалі не толькі яго, але і ўсіх яго сяброў у Лідзе: Салдаценкава, вучня 10 класа чыгуначнай школы , А. Логвіна – вучня 6 ці 7 класа, Вінаградава, Параваева. Магчыма, яшчэ каго-небудзь. За шмат прайшоўшых гадоў многае забылася. Матыў арышту настолькі бязглузды і выдуманы, што і каментаваць яго было б яшчэ большай бязглуздасцю. Іх абвінавачвалі ў тым. што, быццам, яны падклалі пад трыбуну, на якой павінны былі стаяць кіраўнікі горада і раёна ў час майскай дэманстрацыі, міну, каб у гэты момант яе ўзарваць!!! Не выключаю, што былі і іншыя такія ж абсурдыя абвінавачванні. А повадам для арышту, як мне расказаў пасля вызвалення Аркаша Каштан, паслужыла вось што. Крыху ранейяны ўсе разам на чыгуначным вакзале праводзілі свайго сябра ў армію. Як робяць провады прызыўнікоў, вядома ўсім, і наўрад ці трэба тут распаўсюджвацца. Выпіўшы па чарцы ў забягалаўцы, што стаяла ў скверы побач з перонам, дзе і сёння стаіць падобнае прадпрыемства, толькі ў больш культурным выглядзе, Аркаша, які добра граў на гітары, узяў інструмент і яны заспявалі:

“… Жили двенадцать разбойников,
Жил атаман Кудияр.
Много разбойники пролили
Крови честных христиан.
Много добра понаграбили,
Многих убили в лесу…»

Не ведаю, была тут якая задума, ці не? Але асацыяцыі ў тадышніх сілавікоў былі развіты да інтуіцыйнасці. У той час Палітбюро ЦК ВКП/б/ складалася з 12 чалавек. Пасля былі выказаны іншыя версіі, быццам, сярод іх аказаўся правакатар і ўсіх іх “залажыў”. Адно мне добра вядома. Бунтарскі дух у галовах моладзі бродзіць спрадвеку, мо з часоў Жанны д’Арк, нягледзячы на ўсе забароны і рэпрэсіі. І правакатар, як усюды, сапраўды быў.

Так то яно так, а для мяне стала першым каменем на шляху “ў палітыку”. Усе пытанні, што задавалі мне паважаныя рэспектабельныя таварышы, кружыліся вакол гэтай падзеі. А як жа інакш? Я ж амаль кожнага з гэтых “злачынцаў” добра ведаў. З сястрой Аркадзя разам вучыліся ў школе ад першага класа. Разам заканчвалі педвучылішча і проста былі шчырымі сябрамі. Жылі ж мы ў адной вёсцы, што немалаважна. Спачатку былі простыя, нічога не значыўшыя, пытанні. А калі я сказаў, адкуль родам, тут і пасыпаліся пытанні зусім іншага зместу. Аказваецца, ім шмат што пра мяне было ўжо вядома. Змест пытанняў па сэнсу было, прыкладна, такое: як гэта ты, камсамолец, не ведаў нічога пра “дыверсійную дзейнасць сваіх знаёмых”? І так праз два дні. Толькі пасля таго, як я прыціснуты і ўціснуты ў масіўнае крэсла сказаў: “Калі вы лічыце мяне ў нечым вінаватым, выклікайце спецслужбу і хай яны разбяруцца і вырашаюць, як мне быць”, - абодва тут жа рэціраваліся і пачалі адзін і другі наперабой тлумачыць, што ні ў чым яны мяне не абвінавачваюць, ды толькі мне трэба быць “более бдительным”. На тым і разышліся. Дзякуй, выплацілі мне камандзіровачныя, бо ў мяне ўжо нічога ў кішэні не засталося. Стомлены фізічна, а больш маральна, я адправіўся дамоў, у сваю Споркаўшчыну, на мілы майму сэрцу хутарок непадалёку ад школы. Побач працякаў ручэй сярод зарасляў альхі, вярбы, івы, лазы і бярозы. У цяньку іх, на зялёным травяністым дыване можна было зусім нядрэнна адпачыць, аднавіць патрачаныя сілы. Там звычайна мясцовыя жыхары па начах восеннюю і вясной гналі самагонку. У летнія месяцы – рэдка, вельмі кароткая ноч.

Пэўна, няма ў чалавека лепшай якасці, чым здольнасць забываць. Прайшло некалькі месяцаў, і ўсё заціхла, знікла, як кашмарны сон. А калі пасля сустракаліся, па-сяброўску пацяскалі адін другому рукі. Усміхаліся, быццам, нічога і не было. Але гэта толькі здавалася. Тым часам “дамоклаў меч” завіс над маёй галавою, наровячы ў любую хвіліну зваліцца. Ды толькі пра гэта я нічога не ведаў. Такое здаралася не толькі са мной. Праз падобнае “чысцілішча” праходзілі ўсе, хто хоць чым-кольвечы быў блізкі да палітыкі ў той час. У кожным бачылі патэнцыяльнага шпіёна, дыверсанта, здрадніка. Адным словам –“ворага народа”. На гэты раз пранясло. Хлопцаў жа асудзілі на розныя тэрміны зняволення – ад 5 да 15 гадоў з утрыманнем у “працоўным лагеры ўзмоцненага ўтрымання”. Чаму я, нават, пасля такой зняважгі ў “чысцілішчы”, праз якое прайшлося прайсці, згадзіўся заняць гэты пост камсамольскага функцыянера? Адказ тут просты: прымусілі варункі, у якіх прыйшлося аказацца. Умовы жыцця і працы сельскага настаўніка нават зараз далёкія ад нармальных, а што гаварыць пра тыя часы! Да ўрокаў трэба было рыхтавацца пры святле смярдзючай газавай лямпы. Ні табе той бібліятэкі, ні кіно, ні нават канцэрт мастацкай самадзейнасці пагляддзець не ўдавалася. Выпісаныя газеты даставляліся 1-2 разы на тыдзень, а ў зімовыя месяцы і таго горш. У лазню трэба было ехаць ці ісці ў горад за 5-6 кіламетраў і вытрымаць чаргу даўжынёю ў цэлы выхадны дзень. Зімою ў школу прыходзілася брысці іншы раз праз гурбы снегу па самы пояс: сельскія ж дарогі ніхто і ніколі не чысціў, тым больш да хутароў. А ў горадзе яшчэ засталіся сябры, прыяцелі,

знаёмыя. Вечарам можна было пайсці ў клуб, у кіно, на танцы ў парку. Усё гэта і сыграла галоўную роль, чаму я, не гледзячы ні на што, вырашыў прыняць прапанову.

Прайшоў жнівень, верасень, пачаўся кастрычнік – з абкама ні гу-гу. Толькі 25 лістапада 1951 года адбылася камсамольская справаздачна-выбарчая канферэнцыя. Я быў на ёй дэлегатам. Канферэнцыя праходзіла ў знаёмым мне памяшканні – спартыўнай зале педвучылішча, якое два гады раней я скончыў. Дэлегаты аднагалосна выбралі мяне ў склад Лідскага РК ЛКСМБ. Пасля заканчэння канферэнцыі адбыўся арганізацыйны Пленум райкаму, на якім па прапанове першага сакратара РК КП/б/ Г.П. Турыка мяне выбіраюць другім сакратаром па прапагандзе. Прапанова была прынята аднагалосна. Гэта была мая першая сустрэча з такім высокім раённым кіраўніком.

Перад тым ён доўга і вельмі ўважліва разглядаў мяне, быццам, узгадваў: дзе ён мяне бачыў? А такое магло быць. У час навучання яшчэ ў школе, а меў я ўжо тады за 20 гадоў, я пазнаёміўся са студэнткай педвучылішча. Нават на групавым фотаздымку мы стаім ледзь не ў абдымку побач. Яна сапраўды мне падабалася. Высокая, статная, з мілым адкрытым тварам. Галаву пакрывала густая прыгожая прычоска чорных кучаравых валасоў, а адкрыты позірк цёмнашэрых вачэй дадаваў яшчэ больш прывабнасці. Аказалася, што гэта была яго дачка. Магчыма, ён і бачыў мяне на гэтым здымку.

На пасаду другога сакратара райкама ЛКСМБ мяне абралі аднагалосна. Раздаліся нават апладысменты. І гэта не было нечым надзвычайным. Тады пляскалі ў далоні з нагоды і без.

Ва ўладных структурах раней, ды мо і зараз, адукацыя не мела вырашальнага значэння ў прызначэнні таго ці іншага на якую-небудзь пасаду кіраўніка. Гэтым я не хачу сказаць, што сярод кіраўнікоў дзяржаўных і партыйных устаноў таго часу не было адукаваных, прыстойных, сціплых і сумленных работнікаў. Яны былі. Але, як заўсёды, знаходзіліся у цяні "больш актыўных і паспяховых". Людзей ідэальных, якія адпавядаюць усім патрабаванням чалавечай маралі, пэўна, ўвогуле не існуе ў свеце. Але ўзровень і наступствы ад іх кіраўнічых дзеянняў далёка неадназначныя. Шараговы грамадзянін сваімі заганамі, акрамя экстрэмальных выпадкаў, не можа паўплываць на лёс падобнага да сябе. У той жа час "человек государев" можа рабіць гэта што дзень і, нават, у кожную хвіліну. У гэтым і хаваецца небяспека. Са свайго досведу ведаю, што ў першыя пасляваенныя гады ў партыйных органах займалі пасады і працавалі іншы раз людзі непісьменныя з вузкім даляглядам. Напрыклад, пасаду загадчыка аддзела прапаганды РК КПБ /б/ займаў чалавек, які не меў нават сярэдняй адукацыі. Вось вам інфармацыя для роздуму.

Але нікому з іх не хацелася пакідаць наседжанае цёплае месца і чыноўніцкае крэсла. Шмат каму вельмі падабалася быць на віду. Любымі, дазволенымі і недазволенымі сродкамі стараліся выканаць дасланую дырэктыву зверху. Адсюль і ўсе грахі савецкай улады. Мой першы, як тады называлі, меў усяго няпоўную сярэднюю /7 класаў/ адукацыю. Што праўда, працаваць хацеў, і крыху нешта атрымлівалася. І дадзеныя для гэтага былі. Тым больш, што карыстаўся тымі ж самымі метадамі, што і ўсе: зман, хлусня, падмалёўка рэчаіснасці, асобных фактаў. Пасля таго, як я ўзышоў на камсамольскі "алімп раённага маштабу", пачалася другая серыя маіх прыгод, амаль з першага дня. Пра гэта крыху было ўжо сказана раней. Але змест гэтага раздзела ўспамінаў патрабуе паўтору. Перад тым, як прыйсці на работу ў райкам, я ажаніўся, не сказаўшы пра гэта нікому са сваіх кіраўнікоў. І паставіў усіх іх перад фактам. І гэта выклікала ў майго першага буру абурэння: чаму я нікому аб гэтым не сказаў і не папрасіў дазволу! А я лічыў і лічу, што гэта справа нават вельмі асабістая. І нічыё ўмяшанне ў яе недапушчальна, тым больш з боку якой бы там ні было адміністрацыі. Аказалася, я памыляўся. І калі я запрасіў свайго першага на вясельны вечар, ён мне сказаў: "Я прыеду. Але ты зрабі так, каб усе бачылі, што я зрабіў табе "одолжение"!!!

Прыйшлося прыняць ягоныя ўмовы, але рабіць тое, што ён патрабаваў, я не збіраўся. Прыехаў ён з жонкаю, пасядзеў, перакінуўся некалькімі словамі з братам маёй жонкі, падпалкоўнікам. Здавалася, маглі б знайсці агульную размову – абодва франтавікі, розніца толькі ў званні. Адзін падпалкоўнік, другі – лейтэнант. Хутка, як прыехаў, так і патарахцеў на райкамаўскім "Іжы-350". Ад гэтага матацыкла трэску было больш, чым карысці. Вось тут ён і падставіў мне першую падножку, гэтакі чыноўніцкі гамбіт. Пасля абрання сакратаром, я павінен быў быць зацверджаны на гэтай пасадзе на бюро АК ЛКСМБ, а затым і на бюро АК КП/б/Б – наменклатура. Але нічога з гэтага не выйшла. Будучы выкліканым у Гродна, я павінен быў быць запрошаны на бюро. Але нечакана мне сказалі: паседжанне бюро не будзе, едзь дадому. Мяне, натуральна, гэта вельмі здзівіла, але наводзіць нейкія даведкі не стаў. З тым і паехаў. Паўторны выклік не адбыўся. І віной таму была, як я пасля даведаўся, мая "несанкцыянаваная жаніцьба". У біяграфіі маёй жонкі знайшлі нейкі "кампрамат". Сёння я ведаю, у яе радаводзе ў гады рэпрэсій былі раскулачаны, рэпрэсаваны каля 100 чалавек! Але ж ёсць у той біяграфіі і іншыя радкі. У Вялікую Айчынную вайну з яе радні ў армію было прызвана 26 чалавек. Сем з іх загінулі. Брат маёй жонкі Павел Іванавіч Станішэўскі прайшоў усю вайну ад Курскай дугі да Берліна. Даслужыўся да палкоўніка, узнагароджаны пяцю ордэнамі і многімі медалямі. Дваюрадная сястра па бацькавай лініі Марыя Ільінічна Сянкевіч і Андрэй Станішэўскі ўдзельнічалі ў Мінскім падполлі і загінулі у канцэнтрацыйным лагеры Трасцянец пад Мінскам. Сама яна за шматгадовую бездакорную работу ў школе была адзначана трыма дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Тым не менш "першы" не пасаромеўся пасяброўску параіць: развядзіся, ці твая кар'ера кончылася. Я вырашыў "ахвяраваць" кар'еру.

Здавалася б, пытанне вычарпана да дна. Але не

для майго шэфа М.З.Я. Узброіўшыся выказваннем М. Горкага "если враг не здаётся, его уничтожают", рушыў далей з адкрытым забралам шукаць падтрымку свайму агалцеламу патрыятызму і вернасці партыі і вялікаму правадыру. Пайшоў на прыём да першага сакратара райкаму КП/б/Б Г.Ф. Турыку. Там ён выклаў свой новы "неаправяргальны" аргумент, які ўшчэнт павінен быў скампраментаваць мяне як камсамольскага работніка і кандыдата ў члены ВКП/б/: жаніўся з-за грошай! Я павінен быў ці абвергнуць ці прызнаць абсурднасць авінавачвання. Але ж гэта было само глупства і абвяргаць яго не хацелася. Сказаў толькі, што гэта кляўза. На тым і скончылася.

**У РАЙКАМЕ**

Перайшоўшы і ўладкаваўшыся на працы ў РК ЛКСМБ, пабачыў і адчуў шмат чаго новага. Трэба было занава прыстасоўвацца да іншых умоў жыцця і працы, да навакольнага атачэння, да людзей іншага грамадскага ўзроўню, да ўмоў і месца работы да свайго новага стаовішча.

Перш за ўсё прыйшлося прайсці праз усе кабінеты кіраўнічых асоб – ад першага да апошняга чыноўніка РК КП/б/Б. Усе яны нічым вогуле не адрозніваліся. Хіба толькі ўзростам былі іншы раз значна старэйшыя.

А што датычыцца іх адукацыі і выхаванасці, то яны не мелі нічога большага за пазухай, як і я. Але становішча абавязвала іх быць "на ўзроўні", а мяне адчуваць іхнюю "кіраўнічую ролю". Маральна для мяне, хлопца з вёскі, з якога яшчэ не выветрылася сялянскае паветра, зрабіць гэта ў адначассе было няпроста.

Надоўга запомніўся інтэр'ер кабінета першага сакратара РК КП/б/Б. На фоне іншых ён быў абсталяваны на той час раскошна. Мяне вельмі ўразіў не толькі яго вонкавы выгляд, але і той дух, што лунаў у ім. Усё было стандартнае для таго часу. Як я сёння бачу па тэлебачанні крамлёўскія ды іншыя кабінеты начальнікаў з даваенных гадоў – усё ішло адтуль.

Райкам КП/б/Б, а пасля КПБ, знаходзіўся ў той час у будынку па вуліцы Камсамольскай, да Першай Сусветнай вайны – Замкавай, у якім сёння месціцца раённая служба сацзабеспячэння. Некалі, да 1939 года, будынак належаў прыватнаму ўласніку Гурвічу.

Кабінет першага сакратара Г.П. Турыка месціўся на другім паверсе ў пакоі ад вуліцы злева ад уваходу. Такі ж кабінет справа займаў другі сакратар Міхаіл Максімавіч Арэф'еў. Трэцяму сакратару па прапагандзе Міхаілу Васільевічу Парцкевічу быў адведзены катушок з вокнамі на двор.

Інтэр'ер першага сакратара запомніўся вельмі добра. На падлозе прасторанага пакоя ляжаў вялікі (трафейны - у нас такі знайсці было ў той час немагчыма) барвовы дыван.

У зручным месцы ля вонкавай сцяны стаяў дзвюхтумбавы, па тыпу сабакевічавага, рабочы стол, накрыты тоўстым сукном зялёнага колеру. Мабыць, гэтае сукно ткалі ў адмысловых майстэрнях ці фабрыках для падобных кабінетаў. Толькі іншы раз чырвонага колеру. Злева на стале стаяла настольная лямпа, ні даць ні адняць, падобная да той, што стаяла на стале правадыра ўсіх народаў у Крамлі. Справа – два тэлефонныя апараты: адзін тыпу "Алё, барышня!". Прызначэнне другога не ведаю.

Тарцом да рабочага стала стаяў яшчэ адзін, за якім сядзелі ў час паседжання члены бюро райкаму.

Калі паходзіла паседжанне бюро райкаму КП/б/Б, на якім абмяркоўваліся нейкія пытанні работы партыйнай арганізацыі раёна, з гэтага кабінета выходзілі па-рознаму. Адны ішлі з высока паднятай галавою з цэшкай пад пахай, часцей з афіцэрскай планшэткай, поўныя гонару і годнасці. Іншыя хуценька прыгнуўшыся, пачырванеўшы да кончыкаў валасоў і выціраючы пот на лысіне ці твары, быццам там іх палажыўшы на канапу, добра адлупцавалі папругай. Бывалі і такія, хто ішоў, як апошняе ў печ усыпаўшы: мабыць, адабралі ў іх чыноўніцкае крэсла і пазбавілі ад пасады. Там ніхто не прытрымліваўся працоўнага заканадаўства. Тады гэтым законам вярцелі, як хацелі. Вельмі характэрным было выказванне ў той час раённага пракурора А.А. Роганава. Ён сказаў: "Ты дай мне чалавека, а абвінаваўчы артыкул я яму знайду". Даводзіўся план колькасці асуджаных. Падазронасць даходзіла да недарэчнасці. Аднойчы пачуў у адносінах да чалавека, што быў пад акупацыяй, а па вызваленні шчыра працаваў, выказванне адной з кіраўнічых асобаў: "Глядзі, як увіхаецца, замольвае, мабыць, грахі. Варта праверыць!!!" Клянуся Богам, такую страшную недарэчнасць прыйшлося пачуць.

Бюро складалася пераважна з былых франтавікоў, партызан і прадстаўнікоў сілавых структур - начальніка МГБ, пракурора. Міласці ад іх чакаць не прыходзілася. Дзейнічалі пад лозунгам: "Няма такіх крэпасцяў, якія бальшавікі не маглі б узяць". І ламалі, іншы раз зусім незаслужана, людзям лёсы. Рашэнне бюро абскарджанню не падлягала.

Каля сцяны насупраць стала першага сакратара радком стаялі звычайныя крэслы. І канешне ж, на сцяне – агромністы партрэт І.В. Сталіна ў ягонай звычайнай спартанскай вопратцы – фрэнч з дзвюмя зоркамі – медалямі Героя Сацыялістычнай Працы і Героя Савецкага Саюза. І больш нічога.

З яго ў гэтым сэнсе бралі прыклад гаспадары падобных кабінетаў. Першы і другі сакратары насілі строгія зялёнага колеру фрэнчы, галіфе і хромавыя са скрыпам боты. Боты рабілі на заказ і, каб яны скрыпелі, майстры-шаўцы паміж сцелькай і падэшвай адмыслова клалі берасту - бярозавую тонкую кару. Скрып быў такі, што шчымела ў зубах.

А ле ж мода… Георгій Піліпавіч зімой насіў белыя фетравыя буркі – паўвалёнкі-паўботы. Міхаіл Максімавіч – другі сакратар – сібірскія унты. Апошні бясконца курыў, прычым, рабіў гэта своеасабліва. Тытунёвую частку "Беламора" адрываў і ўстаўляў у мундштук. Характэрнай прыналежнасцю для яго быў афіцэрскі планшэт. З ім ён, здавалася, ніколі не разлучаўся. Толькі аднойчы прыйшлося перажыць з-за яго шок, калі ў адной вельмі пікантнай сітуацыі згубіў. Але назаўтра раннім ранкам паехаў на тое месца, дзе быў, і знайшоў страту.

Такім жа чынам паводзіў сябе і трэці сакратар – Міхаіл Васільевіч Працкевіч. Толькі больш сціпла. Заўсёды апранаў звычайную салдацкую гімнасцёрку, а замест скуранога паліто - звычайнае драпавае.

Нягледзячы на іхнюю здавалася б вонкавую непрыступнасць: негаваркія, без гумару - на самай справе яны былі дастаткова дабразычлівымі. Мець такі вонкавы імідж прымушала іх хутчэй за ўсё пасада. А можа гэта патрабаванне менталітэту асобы ў кіраўніцтве?

Падобныя рысы паводзін кіраўнічых асобаў праз час пераходзяць у звычку і застаюцца назаўсёды, нават тады, калі пакідаюць свае пасады. Такім чынам яны паводзяць сябе ў атачэнні, здавалася б, сваіх сяброў. Нездарма руская прымаўка гаворыць: "Привычка – вторая натура". Яны, як і мы ў той час, былі людзьмі існаваўшай сістэмы. І я з удзячнасцю ўзгадваю іх за тыя ўрокі жыцця, якія далі мне за нядоўгі час знаходжання больш-менш блізка да гэтай сістэмы. Больш глыбока аналізаваць работу партыйнага апарата не буду, таму што бачыў яе толькі звонку і не ведаю яе ўнутраннага механізму, зместу. А вонкавы выгляд часцяком заводзіць у зман. З Міхаілам Васільевічам я пазнаёміўся раней, яшчэ калі працаваў у сямігодцы ў вёсцы Спорkaўшчына. У той час ва ўстановах і на прадпрыемствах існавала так званая сістэма палітасветы. Ствараліся палітгурткі "па інтарэсах". У іх вывучаліся на "дабраахвотнай аснове" "Кароткі курс гісторыі ВКП/б/" і біяграфія І.В. Сталіна. Апошняя, як правіла, - у гуртках для моладзі. Кіравалі імі партыйныя і камсамольскія арганізацыі, а "выкладчыкамі" былі больш-менш адукаваныя члены партыі ці камсамолу. На жаль, у той час іх было вельмі мала. Таму праводзіць заняткі ў школах з настаўнікамі прыязджалі прапагандысты з раённых устаноў: райкам КП/б/Б, райкам ЛКСМБ ды іншых. У Спорkaўскую школу па нядзелях прыязджаў (прыходзіў) праводзіць заняткі менавіта трэці сакратар райкаму партыі па прапагандзе Міхаіл Васільевіч Працкевіч. Слухачамі гуртка былі настаўнікі Спорkaўскай, Гервенікскай сямігадовых і бліжэйшых пачатковых школаў.

Пасля заняткаў, а гэта бывала амаль кожны раз, я запрашаў Міхаіла Васільевіча да сябе на кватэру. Гасцінны гаспадар Вінцук ставіў на стол бутэльку добрай самагонкі (не сівухі, чыстай, як крышталь), гаспадыня – дамашнюю сялянскую закуску: каўбаску, шматок нарэзанага сала, стосік кумпячка, салёны гурочак – чым не далікатэсы! І пры чарцы вялі даверлівую размову. Не, мы не закранаді палітычныя тэмы нашага ўнутраннага жыцця.

Паверце, няма хіба лепшага сродку, каб бліжэй пазнаць чалавека, чым такія імправізаваныя сустрэчы. Міхаіл Васільевіч, нягледзячы на сваю знешнюю непрыступнасць, аказаўся на самай справе чалавекам шчырым і прыхільным. Падобнае прыходзілася адчуць і пры сустрэчах з іншымі партыйнымі кіраўнікамі. Больш за тое, у некаторых крытычных сітуацыях можна было знайсці падтрымку. Кажу гэта са свайго асабістага досведу. Неяк яшчэ ў сталінскія гады ў райкам партыі паступіў на мяне брудны данос. Маўляў, другі сакратар райкама камсамолу "звязаны з антысавецкім падполлем". Што гэта магло значыць, і якія наступствы маглі быць для мяне, здагадацца не цяжка. Але тут сыграла ратаўнічую ролю мудрасць маіх партыйных кіраўнікоў. Пагутарыўшы са мной, яны не далі ходу даносу "шчыруючых патрыётаў". Чым магло б закончыцца, калі б паклёп дайшоў да "тайнай паліцыі", вынік наўрад ці магчыма было б прадказаць. Там было дастаткова "майстроў, што ўмелі з мухі выдзьмуць слана, а з слановай косці выраблялі каштоўныя гузікі ў выглядзе зорачак на сваіх пагонах".

Змяніла Міхаіла Васільевіча на "пасадзе прапагандыста" загадчыца кабінета палітасветы Галіна Аляксандраўна Карповіч-Бандажэўская. Таксама чалавек абаяльны, разумны, адукаваны. Такія заняткі нам падабаліся не толькі тым, што мы нейкім чынам пашыралі свой светапогляд, а ўжо тым, што маглі сустрэцца і правесці некалькі часу ў сваім настаўніцкім асяроддзі. Працягваючы размову пра партыйных кіраўнікоў, хачу нагадаць адзін прачытаны мною тэзіс. Неяк яшчэ ў савецкія часы ў рукі трапіла мне адна прапагандысцка-ідэялагічная кніжка. Гартаючы яе, я сутыкнуўся з наступным выказваннем яе аўтара. Ён сцвярджаў, што ў кіраўніцтве разумныя, адукаваныя, таленавітыя, высока інтэлектуальныя людзі не абавязкова патрэбны. Такія няхай пішуць кніжкі, робяць вынаходствы, адкрыцці, ствараюць духоўныя каштоўнасці. Канешне ж, "пад чуткім, руплівым кіраўніцтвам партыі". У кіраўніцтве "патрэбны арганізатары, якія здольны выкарыстаць іх інтэлектуальны рэсурс да канца. Як у старажытнасці цар старажытнай Спарты Крыцій на заўвагу Сакрата аб ягонай адукацыі сказаў: "Калі б цар Спарты ўмеў чытаць, спартанцы яго выгналі б." Наколькі гэты тэзіс адпавядаў дадзенай канкрэтнай сітуацыі, сцвярджаць не бяруся. Хаця звонку выглядала менавіта так. Першы сакратар райкаму партыі Г.П. Турык меў акрамя партыйнай пачатковую адукацыю, другі, што курыраваў сельскую гаспадарку М.М. Арэф'яў – сярэднюю тэхнічна-сельскагаспадарчую, трэці па прапагандзе – М.В. Працкевіч вучыўся на завочным факультэце ў педагагічным інстытуце імя Горкага (зараз – педуніверсітэт імя Максіма Танка ў Менску). Іншыя мелі адукацыю не вышэй за сямігодку. Сярэдняя школа лічылася вяршыняй ведаў. Не адрозніваліся ў гэтым сэнсе і кіраўнікі дзяржаўных устаноў – ад райвыканкаму да сельскіх Саветаў. Памятаю аднаго з такіх старшынь сельсавета – Ёдку Аляксандра Іванавіча. Ён ледзь мог распісацца на якім-небудзь дакуменце, сем патоў пральецца, пакуль здзейсніць такі "рытуал". Такі быў у той час "адукацыйны расклад" у кіраўніцтве раёна. Праўда, ужо пачалося абнаўленне кадраў, пакуль што сціплае. На адказныя пасады прысылалі больш адукаваных і маладых, нярэдка з вышэйшай адукацыяй. Пераважна з вышэйшых партыйных школаў. Але такіх было мала. Іх не хапала ў краіне ўвогуле. Нядаўняя вайна і тут прайшлася сваім стальным каткам. Былыя старыя, але больш дасведчаныя ўжыцці кадры, зыходзілі са сваіх месцаў, уступаючых іх маладым. Такая замена не заўсёды адпавядала патрэбам. Час быў вельмі складаны. З аднаго боку яшчэ лунала ў паветры эйфарыя перамогі над лютым

ворагам. Знікла пагроза жыццю людзей, стагнаўшых пад акупацыяй чужаземцаў. Яны ўдыхнулі глыток свежага паветра свабоды. Ніхто не задумваўся, што гэта за свабода – нічога лепшага дасюль яны не бачылі, апроч небяспекі і пагрозы іх жыццю. Гэты натуральны ўзнёслы духоўны стан людзей умела выкарыстоўвала і падагравала савецка-партыйная прапаганда – праз газеты, радыё, публічныя лекцыі і г.д. Вакол толькі і чулася з развешаных па вуліцах радыёдынамікаў: "Богатырь герой народ советский славит Сталина отца", або "Едем мы из Берлина по дороге прямой, на попутных машинах едем с фронта домой" і іншыя. Усіх не пералічыць.

Слоў няма, здабытая цаною дзесяткаў мільёнаў жыццяў сваіх суайчыннікаў, Перамога павінна быць гонарам нацыі. Але ж не хлебам адзіным жыве чалавек. Для перамогі, - казаў грэчаскі філосаф Сакрат, - патрэбны перш за ўсё вораг. Ці не таму некаторыя сённяшнія ўплывовыя расійскія палітыкі так руплі ва стараюцца, як толькі могуць, стварыць абекты падобнага кшталту. Прычым, ворагамі становяцца тыя, хто ў свой час здабываў тую ж перамогу сваёй крывёй, а зараз ганарыцца ёю адна Расія: украінцы, грузіны, прыбалты, палякі. Дастаецца і нам - беларусам. Ужо паспелі і нам прыляпіць ярлык "пособников фашистов" у гады акупацыі. І гэта народу, які страціў у агні пажараў вайны амаль траціну даваеннай колькасці насельніцтва рэспублікі. Альбо вось яшчэ больш красамоўная статыстыка: кожныя дзве хвіліны ў Беларусі гінуў адзін чалавек! Беларускі народ касцямі сваіх суайчыннікаў выслаў сабе шлях да вызвалення.

Для іх гэта нічога не значыць.

Як казаў Казьма Пруткоў: "Балбатун падобны да маятніка: таго і другога трэба спыніць". Але хто гэта зробіць? Такіх пакуль не відаць. А мо так задумана?

Пашу прабачэння за такое асыяцыйнае адступленне.

З другога боку. Па вуліцах горада вельмі вальготна разгульвалі падпітыя былыя франтавікі. Чапаць такіх было рызыкоўна. Як сёння дэсантнікаў у іх "прафесійнае" свята. Па ўсіх вуліцах горада было мноства "п'яных кропак".

Пройдземся хаця б па вуліцы Перамогі: каля магазіна № 16 АРСа на рагу вуліц Чапаева і Перамогі стаяў ларок "Піва-воды" з гарэлкай. На рагу Перамогі і Ленінскай, дзе сёння кінатэатр "Юбілейны", на месцы сённяшняга "Дома гандлю" , на месцы "Дома быту", "Універсама", рэстарана "Эльдарада", ля ўваходу ў парк. Усюды пі, хоць заліся. І пілі. Па вуліцы Савецкай, пачынаючы ад замка і канчаючы пераездам, такіх кропак з выпіўкай і закускай было больш за дзесятак. Пілі мужчыны і жанчыны, дарослыя і падлеткі. Пілі за Сталіна, за Перамогу. Як сказаў некалі расійскі імператар Аляксандр II: "Голь на выдумкі хітра". Яшчэ адчувальна давалі аб сабе знаць наступствы вайны. У раёне дзейнічалі рознага кшталту і зместу антысавецкія падпольныя банды. Іх выпады супраць савецкай улады іншы раз былі даволі адчувальнымі. Нярэдка заканчваліся трагічна для прадстаўнікоў партыйна-савецка-камсамольскага актыву.

Узгадваецца такі выпадак. Інструктар райкаму КП/б/Б Дзюба (імя і імя па бацьку не памятаю), былы франтавік, паехаў у вёску Тракелі (тады гэта быў Лідскі раён) праводзіць нейкае мерапрыемства. Сабраў сход вяскоўцаў і вёў з імі гутарку. Тым часам нейкі "незнаёмы" зайшоў на падворак. Узяў яго ровар і пацiху паехаў у бок лесу. Дзюба абурыўся такім нахабствам, выбег з хаты і паімчаўся ўслед за ім. Той не ўцякаў. Даехаўшы да ўскрайку леса, спыніўся, злез з ровара. На пытанне, навошта ты ўзяў чужую рэч, спакойна адказаў: "Гэта твой ровар? Забірай". І, выняўшы з кішэні пісталет, ва ўпор выстраліў. Стралок з яго, відаць, быў нікудышны, бо нават з такой адлегласці не забіў, а толькі праніў. Сам уцёк, і след яго прастыў. Знайсці злачынцу не ўдалося. Не бяруся палічыць усе падобныя ахвяры адраджэння савецкай улады ў нашым раёне. Скажу толькі: шмат, нават вельмі шмат. Усім ім зараз стаіць помнік-абеліск каля праваслаўных могілак па вуліцы Савецкай насупраць "Сельмаша".

Восенню 1945 года ў вёсцы Кабыльнікі (зараз - Крыніцы) забілі ўсю сям'ю старшыні сельскага Савета Кухарава А.М. Яго разам з жонкай, падлеткам сынам і цёшчай запрасілі ў госці. А калі яны прыйшлі, хату акружылі і ўсіх забілі. Гэтае забойства стала вяршыняй цынічнага злачынства. Целы забітых схавалі ў хмызняках за вёскай. Пахавалі гэтыя ахвяры бандытызму напрыканцы вёскі Кабыльнікі. Там яны знаходзяцца па сённяшні дзень, насупраць адміністрацыйнага будынка эксперыментальнай базы "Ніва".

Былі і іншыя не менш жорсткія і цынічныя выпадкі. Тым часам ішла поўным ходам перабудова сельскай гаспадаркі на новы сацыялістычны лад – ствараліся калгасы і саўгасы. Вышэйшаму дзяржаўна-партыйнаму кіраўніцтву краіны здавалася, што "працэс" ідзе вельмі марудна. Было вырашана змяніць партыйнае кіраўніцтва раёна. Ад пасады першага сакратара РК КП/б/Б вызвалілі Георгія Піліпавіча Турыка і на яго месца прывезлі больш маладога, энергічнага, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Аляксандра Міхайлавіча Артамонава. Гэта таксама не высокаадукаваны партыйны функцыянер. Меў не больш за сярэднюю адукацыю. За шчырую працу па калектывізацыі раёна хутка быў накіраваны на вучобу у Вышэйшую рэспубліканскую партыйную школу. Назад ужо ў Ліду не вярнуўся. На фоне новага сакратара райкаму, Георгій Піліпавіч выглядаў больш лаяльным, спакойным,ураўнаважаным, узбагачаным значным жыццёвым досведам. Калі яго змянілі, усе супрацоўнікі райкаму, і не толькі, моўчкі шкадавалі і пацiху перашэптваліся паміж сабой. За зменай першага партыйнага кіраўніка раёна пачаліся іншыя і не толькі ў партапараце, але і ў райвыканкаме і іншых дзяржаўных установах. Працэс калектывізацыі набыў "патрэбныя тэмпы". Хутка ішло абагульненне маёмасці былых аднаасобнікаў: зямлі, хатняй жывёлы, сельскагаспадарчага інвентару і нават асобных пабудоў – гумнаў, свірнаў, абораў. А калі надышоў час жніва, пайшла бітва за абагульненне пасеянага яшчэ аднаасобна жыта. Перамога аказалася

на баку ўлады. Ці не рабаўніцтва гэта было?

Да чаго яно прывяло, можна меркаваць па наступным. Калі адразу пасля вызваленя на рынку можна было досыць танна купіць мяса на любы густ – свініну, ялавічыну, цяляціну, бараніну, субпрадукты, сялянскае масла і малако, то пасля стварэння калгасаў прылаўкі ў большасці апусцелі, а з часам і зусім былі зачынены. Калгаснікі з вёскі пацягнуліся ў горад па хлеб і іншыя прадукты харчавання. У магазінах пачалі ўзнікаць шматлікія чэргі. Бывала, калі своечасова не паспееш купіць хлеба, значыць застанешся без яго. Не той стала і якасць прадуктаў. Напрыклад, калі белы батон паляжыць хоць адны суткі, ім можна было забіваць у сценку цвікі.

Нам, абывацелям, тлумачылі гэтую ненармальную з'яву адсутнасцю кваліфікаваных кадраў у кіраўніцтве калгасамі. На пасады старшынь калгасаў пачалі прызначаць людзей з горада, якія іншы раз не здольны былі адрозніць сельгаскультуру ад пустазелля. Не часта, але такое задаралася. Затое, які рэвалюцыйны напор у іх быў!

Кіраўніцтва калгасаў стала калектыўным. Яно мела выгляд трохкутніка: старшыня, партарганізацыя, праўленне калгаса. У ім самы тупы кут быў адведзены праўленню. Усё рабілася па ўказцы з раёна: колькі і чаго пасеяць, калі пасеяць і калі сабраць, што дзяржаве аддаць, а што сабе пакінуць (бывала і нічога).

Самога калгасніка абмежавалі да жабрачага існавання. Ён меў права мець адну карову ды якоенебудзь свінчо і курыцу. І не больш. Затое, шмат стала начальства ў разліку на душу насельніцтва. Вось такі быў расклад падзей на пачатак 50-х гадоў ужо мінулага стагоддзя.

Работа ў райкаме была незнаёмая, умовы працы і атачэнне таксама. Трэба было да ўсяго прыстасоўвацца і прывыкаць. Пагутарыўшы з тымі работнікамі райкама, што паспелі ўжо адведаць яе смак, зразумеў – будзе нялёгка. Але ж не багі гаршкі апальваюць. Работа райкаму камсамолу будавалася пад кальку з работы вышэйшых партыйных і камсамольскіх органаў: праводзіліся пленумы, на якіх абмяркоўваліся праграмныя ў рабоце райкаму пытанні, прымаліся пастановы – кіраўніцтва да дзеяння; кожны чацвер засядала бюро райкаму, на якім абмяркоўваліся арганізацыйныя пытанні, прыём у камсамол, прымаліся рашэнні па бягучых справах. Астатнія пяць дзён тыдня прысвячаліся канцылярскай рабоцеі паездкам у раён. Для мяне, як сакратара па прапагандзе, вельмі важным было арганізаваць ідэялагічную работу – гурткі камсамольскай палітасветы па вывучэнні "Кароткага курса ВКП/б/", біяграфіі І.В. Сталіна; чытку лекцый для моладзі, арганізацыя спартыўных ды іншых мерапрыемстваў. Весці сярод моладзі антырэлігійную прапаганду. Арганізоўваць для лектараў і прапагандыстаў метадычныя семінары. Праз камсамольскія арганізацыі весці работу па падпісцы на перыядычныя выданні. Перш за ўсё на газеты "Сталинская молодёжь" і "Чырвоная змена".

Акрамя гэтага трэба было выконваць шматлікія партыйныя даручэнні. Часцей па арганізацыі работы ў новастворанных калгасах. Ды ці можна тут усё зараз пералічыць! Выконваць прыходзілася з вялікімі цяжкасцямі, са скрыпам. Шмат намаганняў было скіравана на стварэнне камсамольскіх арганізацый – "прывадных рамянёў партыі" – у калгасах. З гэтай мэтай у вёскі пасылаліся цэлыя групы агітатараў з камсамольцаў горада – заводаў, фабрык, дяржаўных і навучальных устаноў. Плацілі ім нават камандзіровачныя. Памятаю, як у адной з такіх груп агітатараў была піянерважатая СШ№3. дзяўчына-прыгажуня. Каля яе вясковыя хлопцы так і віліся. Дзе ж ты тут устрымаешся! Але ж і яна загітавала, бадай, толькі двух хлопцаў. Іншыя не зрабілі і таго. Не ішла калгасная моладзь у камсамол. І дзіўнага тут няма нічога. Юнакі і дзяўчаты вёскі не бачылі ў гэтым сэнсу. Акрамя таго яны баяліся: хто будзе ўступаць у той камсамол, калі існуе небяспека, што за гэта ноччу прыйдуць "лясныя госці" ды заб'юць. І такое здаралася. Але ў абкаме ЛКСМБ ніякай скідкі на гэта не рабілі. Памятаю, як з абкаму прыехаў інструктар Чарноў высвятляць, як ідзе работа ў гэтым кірунку. З'ездзілі з ім у адзін з калгасаў. А назаўтра абляцела горад вестка: забілі А. Стралкоўскага і салдат. На твары майго калегі адбілася непадробная трывога. Прысутнічалі на пахаванні. А назаўтра мой інструктар, нават не папярэдзіўшы райкам, даў дзёру дадому. Колькасны рост камсамольскіх арганізацый ішоў вельмі марудна. Уступалі ў камсамол, як той дзед Шчукар з "Поднятой целины" Шолахава, каб атрымаць якую-небудзь пасаду ў калгасным праўленні. Але такіх пасад было не так шмат, а моладзі было ў той час многа. Калгасныя камсамольскія арганізацыі атрымлівалі такі статус, калі ў ёй было не менш 3-х камсамольцаў. Таму ў іх запісвалі часцей тых, хто ў калгасе не працаваў і не меў да яго ніякага дачынення – сельскіх настаўнікаў, лекараў ФАПаў, іншы раз тых, хто быў прыпісаны ў вёсцы, а працаваў на заводзе ў Лідзе ці Бярозаўцы. Увогуле, існавала неразбярыха. Прыязджаў высвятляць сітуацыю па гэтым пытанні сам першы сакратар абкама камсамолу А.Н. Аксёнаў. Мы доўга з ім гутарылі. Не ўсё я яму расказваў з таго, што пішу сёння тут. Вядома, у Аляксандра Нікіфаравіча склалася далёка не вясёлкавае ўражанне. Мне ён нічога не сказаў, але было відаць, - адпаведныя высновы для сябе ён зрабіў. Апошні раз я сустракаўся з А. Н. Аксёнавым ранняй вясной 1953 года, калі ён ужо быў трэцім сакратаром ЦК ЛКСМБ. Ездзіў я ў ЦК са спрваздачай аб стварэнні яшчэ адной маладзёжнай арганізацыі – спартыўнага дабраахвотнага таварыства "Калгаснік". Тады ўсё рабілася "дабраахвотна-прымусова". Куды там да таварыстваў! Яшчэ няма сапраўдных калгасаў. Калгаснікам за працу няма чым плаціць. Атрымліваюць на працадні "грамулькі", а то і нічога. Заробак за год можна было прынесці пад пахай. А ўжо вышэйшае камсамольскае начальства і начальнікі ад спорту патрабуюць, каб яны пералічвалі грошы на рахунак спорткамітэту! Становішча было зразумелым для ўсіх. Тым не менш, ціск зверху быў страшэнны. І для такой уражлівай натуры, як мая, гэта дарма не прайшло. А ўлічваючы абставіны, аб якіх я ўжо расказаў вышэй, я нестаў размалёўваць ружовымі

фарбамі сітуацыю. Бо ў гэтым выпадку трэба было хлусіць. Рабіць такое я нехацеў. Справаздачы не атрымалася.

Не менш важным лічылася ідэялагічная работа: арганізацыя і правядзенне публічных лекцый на міжнародныя тэмы, тэмы ўнутранай палітыкі партыі і ўраду і іншыя. На першы погляд тут цяжкасці быць не павінна. Але ж у раёне ў той час не хапала для гэтага даволі адукаваных кадраў. Вышэйшая адукацыя была рэдкасцю. Больш за ўсё для гэтага выкарыстоўвалі мясцовых настаўнікаў, лекараў, некаторых спецыялістаў сельскай гаспадаркі. Нешта ўсё ж такі ўдавалася зрабіць. Выступленні лектараў суправаджаліся арганізацыяй вечароў адпачынку – выступленнямі калектываў мастацкай самадзейнасці, танцамі. Драматычныя гурткі пры хатах-чытальнях ставілі сцэнічныя пастаноўкі. У такім сэнсе, дзе не закраналася палітыка, справы ішлі куды лепш.

Не менш чатырох разоў у год (штоквартальна) прыходзілася займацца падпіскай на перыядычныя выданні. І зноў такі не без праблем. Не хацелі людзі вёскі выпісваць газеты. А хто хацеў, той грошай не меў. Падпісчыкаў было не багата. А тыражы газет раслі, за імі раслі і планы падпіскі. Скокам-бокам неяк удавалася выканаць гэты план. У час кампаніі мабілізоўвалася ўсё, што толькі было магчыма, абы толькі выканаць злашчаснае заданне.

З дня на дзень з Гродна паступалі тэлеграмы, тэлефонныя званкі, якія папярэджвалі аб адказнасці за зрыў падпіскі. Справаздачы аб яе ходзе прыходзілася даваць амаль кожны дзень. Іншы раз позна вечарам выклікалі на вузел сувязі і там арганізоўвалі так званыя "селектарныя нарады". Сядзяць сабе ў кабінеце вышэйшыя чыноўнікі ад партыі і камсамолу праз гучнагаварыцель выклікаюць каго-небудзь з раённых аддзелаў прапаганды райкамаў партыі ці сакратара райкаму камсамолу і пытаюць, як ідзе выкананне плану падпіскі. Тым часам звяраюць дадзеныя са сваімі, што ляжаць на стале. Барані Бог каму-небудзь паспрабаваць ашукаць! Тады ўжо дадуць чосу, што мала не падасца. Пытанні падпіскі і распаўсюджання перыядычных выданняў не раз абмяркоўваліся на паседжаннях бюро. Ды што толку: у людзей у вёсцы грошай няма, а іншыя проста не хочуць ні выпісваць, ні чытаць.

Быў у раёне адзін начальнік паштовага аддзялення – Ганчарскага, В.В. Казлоў (Казёл), у якога план падпіскі выконваўся і нават перавыконваўся, як у казцы. Сакрэт гэтага фенамену ўдалося разгадаць толькі праз значны час, калі я ўжо пакінуў сцены свайго былога райкамаўскага кабінета. Аказалася ўсё адбывалася праз нейкую рэлігійную арганізацыю, святаром якой ён быў.

Разглядаліся на паседжаннях бюро райкаму іншы раз вельмі далікатныя і нават лёсавызначальныя для іншых пытанні. Гэта ж быў пачатак 50-х, да 1953 года. Хто жыў у той час, памятае і ведае, пра што ідзе гаворка. Усё яшчэ вышуквалі, выкрывалі "здраднікаў і ворагаў народа". Бывала, сёння сустрэнешся з якім-небудзь з работнікаў дзяржаўнай установы, а назаўтра ён знік як "здраднік". Такое здарылася, напрыклад, са старшынём Ганчарскага сельсавета К.

У раённы аддзел МГБ паступіў "дакумент", быццам, адзін з дырэктароў школ раёна Н. у гады акупацыі вучыўся ў немецкай школе і ўдзельнічаў у адной з фашысцкіх арганізацый. Нам было загадана абмеркаваць на бюро ягоную "асабістую справу" і выключыць з радоў ВЛКСМ. Ніякіх дакументаў аб яго злачыннай дзейнасці нам нават не паказалі. Мы дзейнічалі пад лозунгам: "Партия сказала надо, комсомол ответил есть!" – выключылі хлопца з камсамолу. А што для яго гэта значыла? З пасады дырэктара яго вызвалілі. Маглі пасадзіць у турму, але гэтага не зрабілі. Правялі допыт і перавялі працаваць настаўнікам у іншую школу. Як мне падалося, гэта быў брудны данос аднаго з яго калегаў, які вельмі хацеў узыйсці на дырэктарскі трон. Ён і быў першапачаткова прызначаны на гэтую пасаду, але толькі на некаторы час.

Паўсюдна вялася так званая антырэлігійная прапаганда. Парушэнне "камсамольскай дысцыпліны" ў гэтым кірунку каралася выключна строга. Можна было не толькі страціць пасаду, але і быць пазбаўленым права займацца надалей сваёй прафесіяй. Напрыклад, працаваць настаўнікам. Падобнае можна разглядаць, як забарону на прафесію. Тым не менш такія "парушэнні" здараліся. Сёння тыя, хто у той час быў гатовы зняць стружку з парушальніка антырэлігійнага "табу", цалуюць выпешчаныя ручкі святарам, ходзяць у хвасце за імі са свечкамі даўжынёй у метр. Калі бачыш зараз усё такое, дзіву даешся.

Настаўнікі адной са школ раёна К. "без дазволу" камсамольскай арганізацыі, але пад націскам бацькоў, узялі і ахрысцілі сваю народжаную дзяўчынку. Што тут пачалося! Паводзіны настаўнікаў абмяркавалі на сходзе камсамольскай арганізацыі. Сваё рашэнне перадалі ў райкам на разгляд бюро. Самога настаўніка з шэрагаў ВЛКСМ не выключылі. Чаму, не буду спыняцца. Затое выключылі жонку, маці народжанага немаўляці. Яна вымушана была пакінуць працу ў школе.

Прыходзілася разглядаць і іншыя, надзвычай дэлікатныя пытанні. Напрыклад, адносіны паміж жонкай і мужам і наадварот. Каб разглядаць падобнае, патрэбен вялікі жыццёвы досвед. У нас яго не было. Мы еклі з пляча, не разабраўшыся, што робім, кіруючыся чыста пачуццямі ды эмоцыямі. Не хапала разважлівасці і ведаў пры рашэнні і іншых пытанняў. А іх было, хоць адбаўляй.

У райкам з іншых устаноў і арганізацый паступалі рознага роду паперы: з аддзелаў культуры і спорту райвыканкаму, каітэту ДАСААФ, Чырвонага Крыжа і Паўмесяца. І ў кожнай з іх нешта прасілі, патрабавалі, чакалі дапамогі. Райкам жа мог дапамагчы ў чым-небудзь альбо арганізацыйна, альбо звычайнай парадай.

Нам здавалася, што робім шмат. І гэта праўда. Але наша праца не давала той аддачы, на якую мы разлічвалі, і якой ад нас чакалі. Хоць стараліся ўсе з пафасам, камсамольскім задорам і напорам. Пісаліся разумныя пастановы, рэкамендацыі, праводзіліся іншыя арганізаваныя мерапрыемствы. Выказваліся ўзнёслыя патрыятычныя прамовы. А сапраўднага выніку ўсё не было. Ва ўсіх справаздачах прыходзілася выкарыстоўваць вельмі шмат ружовай фарбы. Мы і самі хутка сталі верыць у тое, што пісалі. Чаму? На мой асабісты погляд,

каб пасеў узышоў і даў свае парасткі, трэба добра падрыхтаваць для яго глебу. У нашым выпадку – спрыяльныя ўмовы. А іх у нас не было. Мы недзе хутка беглі без аглядкі, здавалася, жадаючы адарвацца ад свайго цені. Таму і зрабілі менш, чым маглі. Ды і работу нашу не ўсе ўспрымалі належным чынам. Вось такія незайздросныя старонкі мне прыйшлося запісаць у сваю біяграфію. Было і іншае. Мы не былі выключэннем. Усе недзе спяшаліся. Па-чапаеўску: наперад і толькі наперад. Калі заб'юць, і то падай галавой ўперад. Не паспеўшы замацаваць адно, хапаліся за другое. У выніку бывала разваль валася дасягнутае, і не дасягала мэты новае. Таму сёння маем тое, што маем. Не магу абысці адзін для мяне вельмі непрыемны выпадак. Быў 1952 год. У вёсцы ўсё яшчэ працягвалася калектывізацыя. Створаныя калгасы і калгасамі назваць было нельга. Пасевы, уборка і іншыя сельгасработы праводзіліся пад "чуткім кіраўніцтвам" партыйных органаў раёна. У вёску накіроўвалі, падобна да прадатрадаў у час ваеннага камунізму, атрады ўпаўнаважаных з ліку савецка-партыйнага актыву. Пасылалі без разбору – разумее што-кольвечы гэты прадстаўнік дзяржавы ў сельскай гаспадарцы ці не. На гэтую тэму ў народзе хадзіла шмат розных анекдотаў. Прыходзілася бываць з такімі даручэннямі і мне. У той час я ўжо быў членам КПСС. Накіравалі мяне ў толькі што створаны калгас у вёсцы Мігуны былога Тракельскага сельскага Савета. Дабірацца да "пункта прызначэння" было няпроста. Арганізаванага транспарту не было. Прыходзілася карыстацца "папуткамі" альбо хадзіць пешшу. На гэты раз прыйшлося пазнаць і адно, і другое.

Прыйшоўшы на месца, перш-наперш адшукаў "старшыню калгаса". Сустрэў ён мяне ветліва, запрасіў у хату. На стол паставіў бутэльку самагонкі ды сялянскай закускі. Селі, пагутарылі. Я і кажу, што трэба, пакуль цёплае сухое надвор'е спрые палявым работам, старацца хутчэй закончыць веснавы сеў ды пасадзіць бульбу. Старшыня са мной пагаджаецца, падліваючы "вогненнай вады" ў чаркі. Я ведаў, што гэта за край – Тракельскі сельсавет, там ужо не адзін партработнік стаў ахвярай "начных ваяўнікоў", таму прапановы гаспадара прымаў вельмі асцярожна. Да таго ж павінен быў выканаць партыйнае даручэнне. Усталі з-за стала і пайшлі "арганізоўваць працу калгаснікаў". Бачу, мой гасцінны гаспадар бярэ сахор і накіроўваецца ў хлеў выкідаць і ладаваць на воз гной. Не збіраўся ён везці яго на калгаснае поле – на свой прысядзібны ўчастак. Калі я зрабіў яму заўвагу, ён як кінецца на мяне з сахаром, я ледзь паспеў ухіліцца. Без малага не аказаўся нанізаным на гэты чатырохзубы "шампур". Той "свой удзел у арганізацыі працы ў калгасе" не магу без уздрыгвання ўспамінаць нават сёння, больш за 50 год пасля.

Не ведаю, у каго хапіла б мужнасці ў адзіноце ўступіць у адзінаборства з раз'юшаным зверам у глыбокай глухой, забытай Богам і людзьмі вёсцы. Мне не заставалася нічога іншага, як рэцціравацца. І я, як кажуць, пайшоў, "нясолана хлябаўшы".

"Атрады ўпаўнаважаных" нічога, акрамя шкоды, не прыносілі. У іх работнікі партыйна-савецкага апарата толькі разбэшчваліся. Замест выканання сваіх прамых службовых абавязкаў, сядзелі бязвыездна ў вёсках, прыязджаючы дамоў толькі для таго, каб схадзіць у лазню ці атрымаць прызначаную зарплату на сапраўдным месцы працы.

Алеж, каб былі толькі гэтыя знешнія цяжкасці ў працы. На жаль, былі і ўнутраныя, і першая з іх - згадваны ўжо, мой шмат паважаны шэф. Крыві і нерваў ён папсаваў мне шмат і адчувальна. Аднойчы восеньскім вечарам па ўсім горадзе патухла святло, працавалі тады да 10 гадзін вечара. Газавую лямпу запальваць не хацелася, і мы сядзелі папоцемку ўдваіх. Я ўзяў ды сказаў, што вельмі цяжка наладзіць работу палітгурткоў у калгасах і нават у некаторых установах ажыццяўляць падпіску на газеты. Ніхто не хоча ўступаць у камсамол. І што мне хацелася б зараз працаваць дзе-небудзь у вясковай школе і г.д. Гэта была сяброўская, даверлівая размова. І які я быў здзіўлены, калі на адным з Пленумаў АК ЛКСМБ тадышні першы сакратар А. Н. Аксёнаў, выступаючы перад членамі пленума абкама і сакратарамі райкамаў, выклаў гэтую размову з высокай трыбуны ва ўсіх падрабязнасцях з адпаведнай інтэрпрэтацыяй. Быццам, нехта запісаў гутарку на магнітафонную стужку. Дарэчы, у той час пра магнітафон можна было толькі марыць. Сядзеўшы побач са мной мой Міхал Захаравіч затузаўся на крэсле, як той вуж на вуглях. Дзявацца не было куды. Відаць, дзесьці ў далёкім кутку свядомасці прачнулася кропелька сумлення, і ён сказаў: гэта я яму расказаў. Можна было не казаць – усё і так было ясна. Чалавек я даверлівы, уражлівы і лёгкаранімы. На жаль, недастаткова валявы. Таму, пэўна, ясна, як і наколькі магло паўплываць усё падобнае на мой маральна-псіхалагічны стан, на адно-



***З сынам. 1955 г.***

сіны да работы, як адбілася ўвогуле на паводзінах. Можа паказацца, што гэта дробязь, нічога не значыўшы і не варты ўвагі эпізод з жыцця аднаго асобна ўзятага індывідыюма. Магчыма. Але ўзята як эпізод толькі "краюшка гнязда" палітычнай сістэмы таго часу. І я далёка не ўпэўнены, што дзесьці не было падобнага. У тыя прыснапамятныя часы Паўлікаў Марозавых было хоць адбаўляй. Менш было Матросавых, гатовыя грудзямі закрыць рот, вывяргаючым гнусную хлусню і паклёп на сумленных людзей. І ім, на жаль, верылі. Відаць фашысцкі ідэёлаг гітлераўскай Германіі доктар Гебельс добра ведаў псіхалогію чалавека, калі казаў: "Чым неверагодней хлусня, тым больш ёй вераць". (Выказванне, магчым не даслоўнае, але сэнс такі). Не памятаю з якога выпадку, у адным са сваіх выступленняў І. В. Сталін казаў: "Калі на чалавека пастаянна казаць: свіння, свіння, свіння - у канцы канцоў ён захрукае".

Такі паўсядзёны псіхалагічны ціск не кожны можа вытрымаць. Былі і такія, хто пад уплывам прад'яўленых абві навачванняў (хай сабе і наскрозь прасякнутых хлуснёй), пераконваў сам сябе, што ён сапраўды пераступіў "ідэялагічную мяжу дазволенага". І яны сыходзілі са сцэны ў небыццё. Алеі гэта ўдавалася не ўсім. Пайсці па асабістым жаданні з выбарнай пасады – партыйнай ці камамольскай, савецкай – можна было двума шляхамі: здзейсніць злачынства ці калі цябе не выбяруць на наступны тэрмін. Другі шлях – гэта той жа першы. Трэба, каб усе паверылі ў тое, што ты не адпавядаеш свайму прызначэнню, і тады цябе не выбяруць. А чаго гэта каштавала пасля…

Нават калі я пакінуў сваю пасаду ў камсамоле мой "благодетель" у спакоі мяне не пакінуў. Перад тым, як мне ўладкавацца на педагагічную работу, пазваніў загадчыку РайАНА А.Н. Шакалаву і "выказаў сваю асабістую нязгоду" аб прызначэнні мяне настаўнікам адной са школ раёна. Рабіў гэта як "член бюро РК КПБ". На шчасце, Аляксандр Нікіфаравіч на гэтую заяву "члена бюро РК КПБ" толькі ўхмыльнуўся і прызначыў мяне настаўнікам Шайбакоўскай школы, дзе ўжо працавала мая жонка. Так закончыўся мой паход у палітыку і ўзыходжанне на высокі камсамольскі алімп.

Калі ў 1967 годзе мяне хацелі паслаць на вучобу ў Рэспубліканскую ВПШ у Менску, з аднаго боку мне хацелася, а з другога боязна было, што зноў прыйдзецца прайсці падобнае "чысцілішча на прыгоднасць"? Верх узяло апошняе -адмовіўся ісці.

Сёння, вяртаючыся думкамі ў тыя часы, сам сабе прызнаюся, што ўсё, што здарылася, павінна было здарыцца. Я, бадай, не быў гатовы там быць з-за розных акалічнасцяў. Але чаму прыйшлося прайсці праз такі бруд? Ці нельга было інакш? Ці захаваў я пасля ўсяго пачуцці крыўды ці, крый Божа, помсты? Не! І яшчэ раз не!

Хоць я тут і расставіў акцэнты больш на адмоўных момантах свайго становішча ў "элите уездного масштаба", было, аднак, нямала і станоўчага, што аказалася карысным у будучыні. За два гады свайго сакратарства я больш шчыльна наблізіўся да грамадскага і палітычнага жыцця не толькі раёна, вобласці, але і рэспублікі. Глыбей пазнаў ягоны стан і змест. Сам у чымсьці прымаў удзел. Больш кантрасна ўбачыў станоўчае і адмоўнае. Былі вакол мяне людзі іншага пакрою: разумныя, дабразычлівыя, спачувальныя, гатовыя прыйсці на дапамогу ў любы момант. Не ўсе ж былі з Алтая. У гэтым сэнсе не магу не ўзгадаць з удзячнасцю трэцяга сакратара РК КП/б/Б-КПСС Міхаіла Васільевіча Працкевіча, занава прызначанага загадчыка аддзела прапаганды РК КП/б/Б М.Я. Дадзькова, загадчыкаў аддзела партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый Івана Сцяпанавіча Бандажэўскага, А. А. Лук'янава, які абараніў мяне ад вельмі небяспечных наступстваў з-за чарговага паклёпу "ура-патрыётаў". Вялікую маральную падтрымку атрымліваў ад загадчыцы кабінета палітасветы Галіны Аляксандараўны Карповіч – Бандажэўскай. Не магу не сказаць словы ўдзячнасці сваім супрацоўнікам РК ЛКСМБ А. П. Зюлінай, Н. Меркуль. Ды ці ўсіх пералічыш.

Акрамя таго, прыйшлося сустрэцца з многімі людзьмі, імёны якіх упісаны вялікімі літарамі ў нашу гісторыю. Перш за ўсё гэта тадышні першы сакратар ЦК ЛКСМБ, Герой Савецкага Саюза, партызан Вялікай Айчыннай вайны, Пётр Міронавіч Машэраў, міністр сельскай гаспадаркі Беларусі Пётр Захаравіч Калінін, выдатны паэт Беларусі Максім Танк (Яўген Скурко) і інш.

Удзельнічаючы ў рознага рода абласных, рэспубліканскіх форумах, нарадах, канферэнцыях, семінарах я значна пашырыў свой палітычны і грамадскі далягляд. Усё гэта пасля пайшло мне на карысць.

Такі нялёгкі і трывожны час прыйшлося пражыць і перажыць. Сёння, аглядваючыся назад, задаю сабе адно і тое ж пытанне: а ці нельга было інакш, ці не было іншага шляху перабудовы нашага грамадскага жыцця на іншы лад? Без лішніх ахвяр. Сёння мы ставім ім помнікі і абеліскі, ускладаем вянкі і кветкі, выказваем словы ўдзячнасці, паўтараючы словы Буравесніка рэвалюцыі – Горкага: "Безумству храбрых поём мы песню".

## КРАЯЗНАЎЧАЯ РАБОТА

Шмат гадоў я прысвяціў краязнаўству. Свой удзел у краязнаўчай рабоце я падзяліў бы на тры перыяды: знаёмства з родным краем у дзіцячыя і школьныя гады, у час збору матэрыялаў для напісання дыпломнай работы пры заканчэнні геаграфічнага аддзялення фізіка-геаграфічнага факультэта Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта на тэму "Фізіка-геаграфічная характарыстыка Лідскага раёна" і ў час работы пазаштатным экскурсаводам Лідскага бюро падарожжаў і экскурсій.

Калі ў першым і другім выпадках займаўся выключна знаёмствам і вывучэннем прыроднага наваколля, то ў апошні час прысвяціў гэтую работу цалкам вывучэнню гісторыі і мінуўшчыны свайго горада і раёна, этнічным даследванням і культуры.

У выніку шмат матэрыялаў апублікаваў у рэспубліканскіх, абласных і мясцовых перыядычных выданнях: "Советская Белоруссия","Краязнаўчая газета","Белорусская нива",часопісе "Роднае слова"; у абласной газеце "Гродненская правда". Канешне ж, больш за ўсё было надрукавана ў нашай раёнцы -

"Лідская газета". Некалькі матэрыялаў надрукавала прыватная мясцовая газета "Принёманские вести". На прыканцы мінулага года артыкул пра нашага земляка, вялікага польскамоўнага паэта Адама Міцкевіча, памясціў на сваіх старонках польскі часопіс '"Гонец крэсовы" ("Крэсавы кур'ер"). Зараз падрыхтаваны да друку вялікі матэрыял, прысвечаны паэту, на тэму "Адам Міцкевіч і яго жанчыны".

Некаторыя надрукаваныя артыкулы ў "Лідскай газеце" і "Принёманских вестях" былі выстаўлены на конкурс журналістаў Беларусі Пасольствам Рэчы Паспалітай у Беларусі і ў "Белорусской ниве". Дзве з іх атрымалі Дыплом Пасольства РП і Падзяку Міністэрства культуры РБ адпаведна.

Працуючы настаўнікам геаграфіі ў школах горада.склаў фізіка-геаграфічны атлас раёна. У яго змест увайшлі фізіка-геаграфічная, геолага-геамарфалагічная карты, геалагічны разрэз і комплексны геамарфалагічны і раслінны профіль тэрыторыі раёна. Склаў гіпсаметрычную крывую рэльефу Лідскага раёна. Па шматгадовых дадзеных назіранняў за надвор'ем склаў комплексны графік кліматычных элементаў - сярэдніх. мінімальных і максімальных тэмператур, колькасці выпаўшых ападкаў на працягу года, вышыні Сонца над гарызонтам і працягласць дня і ночы. Быў ахарактарызаваны рэжым рэк: Нёмана, Дзітвы, Лідзейкі.

Нарэшце была выдана кніжка пад назвай "Горад Ліда: гісторыя, легенда, факты"- папулярны гісторыка-геаграфічны нарыс. Нягледзячы на некаторыя недахопы, кніжка, бадай, паклала пачатак актыўнаму развіццю краязнаўства ў горадзе.

Зараз нарыс грунтоўна перапрацаваны. Напісаны ў іншым кантэксце. У яго ўнесены значныя папраўкі, дапаўненні, удакладненні, выпраўлены дапушчаныя ў першым выданні хібы і памылкі. Акрамя гэтага, напісаны асобныя замалёўкі з асабістага жыццёвага досведу, якія ўвайшлі ў аўтабіяграфічны нарыс "Пра час і пра сябе". Нарыс цесна звязаны з біяграфічнымі момантамі і палітычнымі падзеямі.што адбываліся на Лідчыне, і ў якіх нават прыходзілася прымаць нейкі ўдзел. Усе яны абгрунтаваны адпаведнымі дакументамі.




*Кніга А. Куляша, 1994 г., наклад 4000 ас.*

Адным вывучэннем роднага краю не абмяжоўваўся. У 80 -я гады мінулага стагоддзя зведаў шмат мясцін былога Савецкага Сагоза: ад карэльскіх блакітных азёр і цёмна-хвойных лясоў да раскошных пальм і розадэндронаў у Крыме і на Каўказе; ад граніц Польшчы з Германіяй і Чэхаславакіяй на захадзе да данскіх і прыволжскіх стэпаў і да самой Волгі на ўсходзе. Шмат цікавага і незабыўнага назбіралася і захавалася ў памяці да сёння.

Непаўторны след застаўся ад наведвання Кранштадта і Севастопаля, Брэста і Валгаграда. Уразіла сваёй сціпласцю і непаўторнай маляўнічасцю лецішча рускага генерала, шведа па паходжанні, а дзяржаўнага дзеяча Фінляндыі - Карла Манергейма, са знакамітай ягонай абарончай лініяй на Карэльскім перашыйку. Такое ж ураджанне засталося ад знаёмства з дачай Маршала Савецкага Саюза Г.К. Жукава ў Сасноўцы па Рублёўскай шашы пад Масквой. Незабыўным застанецца наведванне Мемарыялу на Мамаевым Кургане ў Валгаградзе.

Назаўсёды застануцца ў памяці наведванні сядзібы знакамітага рускага мастака І.Я. Рэпіна ў Рэпіне (Куокала) і дома-музея М.А. Астроўскага, аўтара шырока вядомага рамана "Как закалялась сталь" у Сочы, пахаванняў С. Ясеніна і У. Высоцкага на Ваганькаўскіх могілках у Маскве, копіі крамлёўскага кабінета Леніна у музеі Узброенных Сіл СССР у Маскве і шмат іншага.

Скарбонка ведаў запоўнена да краёў. Ды толькі з часам без ужытку яна пачынае апаражняцца.

Хіба не ведалі добра сваю справу нашы продкі, калі казалі: "Калі за ўсё жыццё ты не здзейсніў ніводнага падарожжа, не можаш лічыць сябе інтэлігентным чалавекам"?

Мне пашчасцілася здзейсніць некалькі кароткатэрміновых вандровак. Найбольш цікавымі і пазнавальнымі былі: падарожжы па Прыбалтыцы - ад Таліна да Калінінграда на тэрыторыі былога СССР і далей па узбярэжжы Польшчы ад Гданьска да самага мыса на паўвостраве Хэль; па рацэ Дон, па данскіх і прыволжскіх стэпах да самай Волгі, давялося праходзіць на цеплаходзе "Мусаргскі" шлюзы Волга-Данскога канала; захапляльным быў пад'ём на хрыбет Каўказа да самага ледавіка, цікава было бачыць, як з маленькіх кропелек вады пачынаецца бурная горная рака Ардон. Захапляльна праехаць па Польшчы праз гарады Беласток, Варшаву, Познань, старажытны Кракаў, Закапане, Гданьск, Гдыню, Сопат; любавацца ландшафтамі Балтыйскага мора, Мазавецкімі раўнінамі і гарамі Карпаты і асабліва цудоўным горным возерам у Татрах - Марское Вока; пабываць на Вэстарплятэ, дзе адбыўся першы бой Другой Сусветнай вайны; пабываць каля

дома былога прэзідэнта Польшчы Леха Валенсы ў Гданьску і пабачыць шмат іншых цікавых мясцін.

Ніколі не забуду гарады вайсковай славы - Кранштадт, Севастопаль, Валгаград, Брэст.

Шмат падарожнічаў па Беларусі: Белавежская пушча, возера Нарач, старажытныя гарады Навагрудак, Гродна, сталіца краіны Мінск, усе абласныя гарады. Канешне, засталіся яшчэ і белыя плямы ў маёй краязнаўчай працы.

**ТАМ ЗА БУГАМ - СЯБРЫ**

Шмат стагоддзяў жывуць побач два этнічна блізкія адзін да другога народы - беларусы і палякі. Нямала агульнагаў іх гісторыі, культуры, мовах, абрадах, традыцыях.

Між тым, адносіны паміж імі на працягу значнага гістарычнага часу складаліся вельмі няроўна. Былі перыяды, калі яны развіваліся прыязна, але бывалі і такія, калі інакш, як варожымі, іх не назавеш. Узнікалі войны, якія нічога акрамя гора людскога ды разбурэнняў, не прыносілі ні адным, ні другім. Усходняя мудрасць гаворыць: “Увесь свет любіць проста, але паспрабуй палюбіць суседа”.

Першая спроба прыпыніць гэтае бессэнсавае супрацьстаянне было пачата ў гады панавання ў ВКЛ заснавальніка Ліды вялікага князя Гедзіміна і Уладзіслава Лакетака - караля Польшчы. З гэтай мэтай паміж уладарамі адной і другой дзяржаў была заключана дамоўленнасць аб жаніцьбе іх нашчадкаў - каралевіча Казіміра, будучага караля Польшчы Казіміра Вялікага, з дачкой Гедзіміна - князёўнай Алдонай. 30 красавіка 1325 года кракаўскі біскуп Нанкер ахрысціў Алдону, даўшы ёй новае імя Ганна. 16 кастрычніка пятнаццацігадовыя каралевіч Казімір і літоўская князёўна Ганна-Алдона сталі на шлюбным кіліме насуперак волі сваіх сэрцаў па дамоўленнасці бацькоў.

З гэтай нагоды Гедзімін вярнуў Польшчы захопленныя ў ранейшых войнах землі і палонных. А Уладзіслаў Лакетак увёў у сваёй краіне новы ордэн Белага Арла, які да сёння з’яўляецца высокай дзяржаўнай узнагародай Рэчы Паспалітай.

28 чэрвеня 1328 года Гедзімін і Уладзіслаў Лакетак падпісалі паміж сабой абарончы саюз.

Ад шлюбу Алдоны і Казіміра засталіся дзве дачкі - Эльжбета і Кунегунда. На жаль, пра іх лёс гісторыя маўчыць.

Казімір, нягледзячы на прыгажосць маладой ліцвінкі, не любіў Алдону. Яшчэ больш не любіла яе свякроў, наравістая.ганарлівая каралева Ядвіга. Шлюб аказаўся непрацяглым: 26 траўня 1339 года ва ўзросце 29 гадоў Алдона загадкава памерла. Але нягледзячы на гэта, паміж ВКЛ і Польшчай устанавіліся больш-менш добрасуседскія адносіны. Прыпыніліся войны і набегі, пачаліся эканамічныя і культурныя сувязі. Канфрантацыя паміж дзяржавамі зноў аднавілася, калі польскі кароль Жыгімонт II Аўгуст задумаў далучыць аўтаномнае ВКЛ да Польшчы,.заключыўшы аб’яднаўчую ўнію. Літоўская шляхта, як магла, супраціўлялася падпісанню гэтага нераўнапраўнага дакумента на працягу многіх гадоў. Але сілы аказаліся далёка няроўнымі, і сойм ВКЛ быў вымушаны 1 ліпеня 1569 года заключыць унію дзвюх дзяржаў у горадзе Люблін, з-за чаго яна атрымала назву Люблінскай.

Дабіўшыся свайго Жыгімонт Аўгуст быў вельмі ўзрушаны і ўзрадаваны. Пасля складзенай прысягі, нягледзячы на непагадзь з громам, маланкамі і праліўны дождж, сеў на каня і рушыў у замкавы касцёл святога Станіслава. “Там свайму трыадзінаму Богу ў час вялікага набажэнства са слязамі на вачах спяваў хвалу і дзякаваў. Загадаў усім спяваць “Хвалім цябе.Божа” I сам спяваў... Так скончыўся гэты дзень.” *(П. Ясяніца. Польшча Ягелонаў. т. I, стар. 203. Варшава. I967. Пераклад з польскай мовы аўтара).*

Яшчэ ў 1564 годзе Жыгімонт II Аўгуст адмовіўся займаць у спадчыну княжацкі трон ВКЛ. З падпісаннем Люблінскай уніі ў карэннай Польшчы і ў Княстве Літоўскім пачалі выбіраць адзінага караля. Дзяржава стала называцца Рэччу Паспалітай. Падпісанне Люблінскай уніі паміж Польшчай і ВКЛ праследавала чыста палітычныя мэты і на стасункі звычайных людзей мала ў чым паўплывала. У гэтую пору, роўна як і ў іншыя, усе непаразуменні і сутыкненні паміж імі адбываліся на тле адносін паміж Рэччу Паспалітай і Расійскай дзяржавай.

Згуртаванне і аб’яднанне беларускага і польскага



***Харугва паўстання 1863-64 гг. З архіву А. Кулеша.***

народаў адбылося ў часы падзелаў Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстра-Венгрыяй у 1772-1795 гадах. Са зброяй у руках беларусы, палякі і ўкраінцы адстойвалі свае правы на незалежнасць супраць прыгнёту іншаземцаў. Сведчаннем таму можа служыць сялянскае паўстанне 1863-64 гадоў супраць панавання Расіі пад трыадзіным сцягам - Арла, Пагоні і Архангела. Гэта толькі дзве гістарычныя вехі ў развіцці суседскіх адносін паміж беларусамі і палякамі.

Дваццатае стагоддзе унесла ў гэтыя стасункі шмат даволі змрочных барваў. Згодна з падпісаным Версальскім мірным дагаворам, які падсумаваў вынікі Першай Сусветнай вайны, Польшча пасля паўтарастагадовага прыгнёту і акупацыі Расіяй, Прусіяй і Аўстра-Венгрыяй атрымала і 11 лістапада 1918 года абвясціла сваю незалежнасць.

Яшчэ да гэтага 23 сакавіка 1917 года, прыкладна праз месяц пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі, першы Часовы ўрад Расіі, які ўзначальваў князь Львоў, прыняў Дэкларацыю аб прызнанні права Польшчы на самавызначэнне і незалежнасць.

Годам пазней, 29 жніўня 1918 года, ленінскі СНК РСФСР на чале з У.І. Ульянавым (Леніным) прыняў "Дэкларацыю аб ануляванні дагавораў паміж Расіяй, Прусіяй і Аустра-Венгрыяй аб падзеле Рэчы Паспалітай.

Аднак усе гэтыя дакументы не вырашылі галоўнай задачы - пытання граніц адроджанай Польскай дзяржавы. Польшча дабівалася, каб яе граніцы былі ўзноўлены і вызначаны па межах, якія існавалі да падзелаў. На што Расія з уласцівымі ёй імперскімі амбіцыямі катэгарычна не пагаджалася. На гэтай падставе паміж Савецкай Расіяй і Польшчай узніклі гарачыя спрэчкі, якія выліліся ў адкрыты ваенны канфлікт. Была ў гэтым і другая суб'ектыўная прычына, аб якой можа быць іншая гаворка. Аднак, нягледзячы на гэта, 18 сакавіка 1921 года ў сталіцы Латвіі горадзе Рызе быў, нарэшце падпісаны прэлімінарны мірны дагавор.

Гістарычны досвед паказаў, што суседзяў, як бацькоў, не выбіраюць. Што нам лёсам наканавана жыць паміж сабой у згодзе, прязні і дружбе. Іншага шляху да поспеху ў эканамічным і культурным развіцці абодвух народаў не існуе.

Паступова стасункі Польшчы з Савецкай Расіяй, а разам і з Беларуссю, пачалі станоўча нармалізоўвацца. Быў падпісаны цэлы шэраг дамоўленасцяў аб добрасуседстве і супрацоўніцтве. Наладзіліся дыпламатычныя адносіны. Узнікла патрэба наладзіць сяброўскія адносіны і ўсебаковыя сувязі грамадскасці краін. Тым больш, што Беларусь у выніку Рыжскага дагавора была падзелена на дзве часткі, адна з якіх - заходняя - аказалася пад уладай Рэчы Паспалітай. З абодвух бакоў пачалі ствараццa дабраахвотныя грамадскія арганізацыі дружбы і культурнай сувязі паміх народамі Беларусі і Польшчы.

У 1924 годзе ствараецца "Таварыства культурных сувязяў Савецкай Беларусі з заграніцай". Ля яго вытокаў сталі такія вядомыя грамадскія дзеячы, як Якуб Колас, Янка Купала, Цішка Гартны, Міхась Чарот і іншыя. Работу "Таварыства" спыніла Другая Сусветная вайна. Пасля вайны яго дзейнасць была адноўлена зноў.

У 1958 годзе ствараецца "Таварыства Беларусь-Полыпча". Яго назва "Таварыства савецка-польскай дружбы" была ўхвалена на рэспубліканскай канферэнцыі ў снежні 1978 года, на якой аўтару пашчасціла прысутнічаць. Многія гады Беларускае аддзяленне яго ўзначальваў Народны паэт Беларусі, Герой Сацыялістычнай працы Максім Танк (Яўген Іванавіч Скурко).

Дату стварэння гэтай арганізацыі ў Лідзе ўстанавіць немагчыма. Адно добра вядома: упершыню яна была створана ў колішняй школе-інтэрнаце. Калі мне прыйшлося ў 1962 годзе пачаць працу ў якасці настаўніка гэтай навучальнай установы, "Таварыства" ўжо існавала. У кастрычніку 1966 года адбыўся справаздачна-выбарчы сход супрацоўнікаў школы, на якім мяне выбралі яго старшынём. У склад праўлення "Таварыства" ўвайшлі: А.Ф. Кулеш - старшыня, А.С. Мазоўка - намеснік старшыні, члены - К.М. Грыбаедава, Л.І. Гурэнцьева, А.П. Шнейдар.





*Анатоль Кулеш з групамі польскіх турыстаў у Вільні і Менску*

INSTYTUT POLSKI

IP

Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь
і Польскі інстытут у Мінску
маюць гонар запрасіць

Спадара/Спадарыню ..........

на ўрачыстае падвядзенне вынікаў VI конкурсу журналістаў
**“Польшча - прыязная суседка Беларусі”**
і прэзентацыю кнігі **“Нарыс гісторыі Польскай Дзяржавы і Народа. X-XXI стст.”**,
якія адбудуцца 23 снежня з 18.00 да 20.00 у рэстаране
“Гасціны Двор” (вул. Савецкая, 17).

R.S.V.P.
288 23 13

***Запрашэнне на падвядзенне вынікаў конкурсу “Польшча - прыязная суседка Беларусі”.***

***Падзячны ліст ад амбасады Польшчы.***

яводства з грамадскасцю Польшчы. Ладзіліся сустрэчы пісьменнікаў і паэтаў Польшчы і Беларусі ў час правядзення дэкады польскай літаратуры. У Лідскім доме афіцэраў адбыўся канцэрт калектыва самадзейнасці з Беластока. Праводзіліся сустрэчы настаўнікаў Ліды і Беласточчыны. Такая сустрэча адбылася з настаўнікамі сярэдняй школы № 11. Абменьваліся дэлегацыямі рабочых і службоўцаў прадпрыемстваў і ўстаноў, групамі турыстаў і спартыўнымі калектывамі. Беларусь, у тым ліку Ліду, наведала шмат турыстаў з Польшчы. Асабліва ў 1988-89 гадах. Мне, як пазаштатнаму экскурсаводу, давялося суправаджаць гэтыя групы ў гарады: Гродна, Навагрудак, акрамя Ліды, у Вільню і Трокі. Шмат турыстаў з Ліды наведала Польшчу.

Нягледзячы на не такі вялікі ўклад у работу, Галоўнае ўпраўленне “Таварыства польска-савецкай дружбы” ў Варшаве палічыла годным узнагародзіць мяне “Залатым ганаровым знакам Таварыства польска-савецкай дружбы” (1974).

Сам я асабіста ўдзельнічаў у некалькіх турах конкурсу беларускіх журналістаў на тэму “Польшча - прыязная суседка Беларусі”, абвешчанага Пасольствам Рэчы Паспалітай у Беларусі. Стаў дыпламантам другой заахвочвальнай прэміі,

Арганізацыі “Таварыства савецка-польскай дружбы” дзейнічалі на шклозаводзе “Нёман” у Бярозаўцы. Завод меў цесныя вытворчыя і культурныя сувязі з такім жа заводам у Беластоку. Рабочыя Беластоцкага завода бывалі частымі гасцямі ў Бярозаўцы, як і Бярозаўскія шклодувы ў Беластоку. Група рабочых з Беластоцкай гуты адпачывалія ў завадскім прафілакторыі ў Бярозаўцы. Гэтую групу давялося суправаджаць на экскурсію ў сталіцу Беларусі - Горад-герой Менск (на здымку).

Былa створана такая арганізацыя і на аўтарамонтным заводзе. Ініцыятарам яе стварэння быў колішні дырэктар завода Ю.Д. Дулуб.

У канцы 80-х -- пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя дзейнасць арганізацыі замерла. Яна існуе сёння намінальна і ўзначальвае яе былы рэдактар “Лідскай газеты” Жалкоўскі Аляксандр Васільевіч.

28 кастрычніка таго ж года адбылася абласная канферэнцыя, на якой прысутнічаў старшыня Прэзідыюма “Рэспубліканскага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі” Віталь Сцяпанавіч Смірноў. Да гэтага ён шмат гадоў працаваў у прадстаўніцтве БССР у ААН у Нью-Ёрку. А ўвогуле, там ён правёў 40 гадоў свайго жыцця.

У траўні 1967 года на гарадскім устаноўчым сходзе мяне выбралі старшынём Лідскага гарадскога аддзялення “Таварыства савецка-польскай дружбы”. На гэтай пасадзе я адпрацаваў 17 гадоў.

Хваліцца не буду, што шмат зрабіў у гэтай якасці. Праца вялася ў плане гаркаму КПБ. Летам 1967 года была арганізавана сустрэча рабочых і службоўцаў Ліды ў прыгранічнай зоне на тэрыторыі Беластоцкага ва-

# Вясна прыйшла, але...

***60 гадоў з дня нараджэння Р.М. Жалезнага***



***Падпалкоўнік Жалезны Р.М.***

**ЖАЛЕЗНЫ** Рыгор Мікалаевіч (17.11.1947 - 14.04.2006) нарадзіўся ў в. Курылаўка Лебядзінскага раёна Сумской вобласці. Вучыўся ў Курылаўскай ПШ (1954-58), Туганскай васьмігадовай школе (1958-62), Буймерскай СШ (1962-65). З адзнакай скончыў Харкаўскую вайсковую авіяцыйна-тэхнічную вучэльню па спецыяльнасці "Эксплуатацыя і рамонт лятальных апаратаў і рухавікоў да іх". Служыў авіяцыйным тэхнікам у 515 знішчальным авіяпалку 11 гвардзейскай зад (1968-71), авіяцыйным тэхнікам і памочнікам начальніка штаба ў 188 знішчальным авіяпалку ТуркВА (1971-73), памочнікам начальніка штаба авіябазы (1973-76) і 115 гвардзейскага знішчальнага авіяпалка ТуркВА (1976-80), старэйшым афіцэрам аддзела кадраў 40-ой агульнавайсковай арміі (12.02.1980-17.04.1981), памочнікам начальніка аддзела кадраў (1981-85) і начальнікам аддзялення кадраў (1985-86) Першай гвардзейскай авіядывізіі ЧБВА, начальнікам аддзялення кадраў 239 знішчальнай авіядывізіі (1986-91), старэйшым афіцэрам аддзела кадраў 23 паветранай арміі. Тэхнік-лейтэнант (1968), старэйшы тэхнік -лейтэнант і старэйшы лейтэнант (1971), капітан (1974), маёр (1980), падпалкоўнік (1986). У 1992 г., праслужыўшы 26 гадоў і 8 месяцаў, звольніўся з войска па стане здароўя - ішэмічная хвароба сэрца, мігацельная арытмія. Узнагароджаны 9 медалямі, у тым ліку медалямі "За бездакорную службу" трох ступеняў і медалём "Воіну-інтэрнацыяналісту ад удзячнага афганскага народа". Падчас службы завочна скончыў гістарычны факультэт Таджыкскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

У 1994-2005 гг. дырэктар Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Пахаваны ў Лідзе на могілках "Зосіна".

*"Мяккі, добры, рэдкай інтэлігентнасці чалавек, калекцыянер, фотааматар. Ён не быў тым, каго завуць ваеннай костачкай, аўтамат у яго руках на фатаграфіі глядзіцца, як прыкрая выпадковаць. Велізарны адбітак на яго наклала вайна ў Афганістане. Ён са слязамі на вачах успамінаў людзей, з якімі развітаўся на афганскай зямлі. Там загінуў яго брат Антон Мікалаевіч - камандзір мінамётнай батарэі. Самыя цёплыя ўспаміны ў яго былі звязаныя з універсітэтам, ён з захапленнем успамінаў сваіх настаўнікаў і памятаў усе іспытныя пытанні.*

*Гады, калі Рыгор Мікалаевіч дырэктарстваваў, былі для музея не самымі лепшымі. Музей выселілі з сабора, аб'ядналі з мастацкай галярэяй у будынку, які патрабаваў тэрміновага рамонту. Рамонт і рэканструкцыі праводзіліся паволі, па меры паступлення грошай. Сітуацыя стала невыноснай, калі пацёк дах і паднялася паркетная падлога ў выставачнай зале. Ён нічога не мог змяніць, глядзець на яго было балюча.*

*У "Лідскім летапісцы" Рыгор Мікалаевіч адзначыўся шырокім, выдатна дакументаваным артыкулам "Марыя Навіцкая і першая жаночая гімназія". Матэрыялы для артыкула ён выявіў у нацыянальным архіве Літвы. Гэта была першая сур'ёзная публікацыя аб адукацыі на Лідчыне.*

***В. Сліўкін.***

*Нават сёння, праз два гады пасля смерці Рыгора Мікалаевіча не магу сабе ўявіць, што гэтага выдатнага, адкрытага, добрага і глыбока пристойнага чалавека няма больш з намі.*

*Памятаю апошнюю сустрэчу з ім. Увайшоў у фондасховішча. Як заўсёды, ветліва прывітаўся. Пацікавіўся нашымі справамі, праблемамі, поспехамі. Як заўсёды, пажартавалі. Я пацікавілася: "Мусіць, зараз у Вас досыць часу на асабістыя інтарэсы: фатаграфію, збор грыбоў, паездкі ў лес". Адказаў з усмешкай: "Наступіць вясна, вось тады і займуся сваімі захапленнямі. Зараз дапамагаю жонцы па гаспадарцы, стараюся быць карысным у хаце".*

*Але вось наступіла і наступная вясна... Ён мог яшчэ жыць ды жыць і зрабіць шмат карыснага.*

***Г. Драб.***



***Дырэктар музея Р. М. Жалезны ў Лідскім замку***

# Ён любіў перспектыву

***Здымкі Рыгора Жалезнага***

Рыгор Жалезны любіў фатаграфаваць дарогі і рэкі, часта адны і тыя ж. І фатаграфафаў ён іх як бы заўсёды аднолькава: сам нібы станавіўся ў пачатку ці канцы і здымаў зямны або водны шлях, які ці то пачынаецца, ці то заканчваецца недзе там за кадрам. І ў гэтым ёсць свая філасофія. Чалавек ад нараджэння да скону знаходзіцца ў дарозе. Нейкі час ён у пачатку, кожная дарога для яго будучыня, але не паспеў агля-нуцца, і ўсе дарогі ўжо ў мінулым, чалавек глядзіць на іх, як на ўжо пройдзенае, пражытае.

Іншая справа, як гэтыя дарогі і рэкі ўспрыма-юцца на здымках Рыгора Жалезнага. Глядзіш на дарогу, і здаецца, што ты ўяе пачатку, дарога ідзе ад цябе. Глядзіш на рэчку, і здаецца, што ты ў канцы, рэчка бяжыць да цябе. А яднае гэтыя здымкі адно: усе яны зроблены па прынцыпу адлюстравання перспектывы, яны фіксуюць рух, хаця на здымках, як бы нічога рухомага няма. Нічога рухомага, а рух ёсць. На здымках рухаецца час. Глянуў-шы на кожную дарогу, можна дакладна сказаць, праз колькі хвілін ты будзеш там, ці там, праз колькі хвілін пяшком, праз колькі на ровары. А глянуўшы на кожную рэчку, таксама не цяжка ўгадаць, за колькі да цябе даплы-ве асенні лісток, які ўпадзе з дрэва зоў жа недзе там.

Рыгор Жалезны фатаграфаваў перспектыву і любіў перспектыву. Любіў да канца.

**На здымках:** Алея паўночнаамерыканскай акацыі ў Гарнях;

Дарога па вуліцы Наскова ў Паўднёвым гарадку.







Дарога па вуліцы Наскова ў Паўднёвым гарадку.



Дарога па вуліцы Наскова ў Паўднёвым гарадку.

*Музеі Лідчыны*

# Бердаўскі гістарычна-краязнаўчы народны музей



Пытанне, як выхаваць вучня ў сучасных умовах, калі ў грамадстве рашуча мяняецца спосаб жыцця, як пераадолець у асяроддзі падлеткаў страту патрыятызму, хвалюе педагогаў. Задача фармавання грамадзянскай сталасці школьнікаў, пачуцця нацыянальнай самасвядомасці, палітычнай і маральнай адказнасці ніколі не стаяла так востра, як цяпер. Для вырашэння яе неабходны кардынальна новы падыход, які адпавядаў бы сучасным сацыяльна-эканамічным і духоўным умовам нашага жыцця.

Відавочна, што выхаванне грамадзяніна разглядаецца сёння як адзін з кірункаў нацыянальнага адраджэння, рэстаўрацыі агульначалавечых каштоўнасцяў. Асэнсаванне пачуцця прыналежнасці да супольнасці грамадзян сваёй Радзімы, безумоўна, дапаможа зарыентавацца ў барацьбе поглядаў, ідэй, характэрных для сучаснага грамадства. Яно будзе садзейнічаць пераадоленню сярод падрастаючага пакалення забыцця патрыятычных пачуццяў, праяўлення бездухоўнасці.

Школьнаму музею належыць важнае месца ў выхаванні вучнёўскай моладзі, забеспячэнні захаванасці каштоўнасцяў гісторыі, культуры, прыроды, а таксама ў пашырэнні сярод вучняў ведаў пра значныя падзеі мінуўшчыны і сучаснасці.

Дзякуючы музею, педагагічныя работнікі праз канкрэтныя матэрыялы і факты ўплываюць на фармаванне светапогляду вучняў, выхоўваюць у іх такія якасці, як патрыятызм, грамадзянскі абавязак, адказнасць.

Ідэя стварыць школьны музей з'явілася ў сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя. І, магчыма, гэтая ідэя засталася б марай, каб не дапамога яе ўвасобіць у жыццё былы старшыня калгаса "Бердаўка", руплівы гаспадарнік, сапраўдны патрыёт нашай Бацькаўшчыны Каранюк Аляксандр Аляксандравіч. Гэта ён праявіў зацікаўленасць, ініцыяваў некалькі паездак у музеі гарадоў Ліды, Гародні, вёскі Камянюкі, што ў Белавежскай пушчы, і Гудзевічы Мастоўскага раёна. Мы атрымалі метадычную дапамогу ад навуковых супрацоўнікаў Лідскага музея і кансультацыю вядомага беларускага краязнаўца Алеся Белакоза.

Пад музей вырашылі прыстасаваць адно з памяшканняў старой школы, а да гэтага дом польскага асадніка. Калгас выдзеліў сродкі, рабочых, аплаціў працу мастака-афармляльніка. Паралельна з гэтым вучні школы і настаўнікі вялі збор экспанатаў па гісторыі і этнаграфіі нашага краю.

Галоўная задача, якая ставілася перад педагагічным і вучнёўскім калектывам, – па крупінцы сабраць расцярушаную часам гістарычную і духоўную спадчыну і захаваць яе для будучых пакаленняў.

Крыніцы збору матэрыялаў для музея былі вельмі розныя, асноўная з іх - сістэматычны збор матэрыялаў па абранай тэматыцы, які ажыццяўляўся праз сістэму заданняў падчас вучобы, правядзення экспедыцый, вандровак, экскурсій, сустрэч, шляхам перапіскі з арганізацыямі, асобнымі людзьмі.

Рашэнне аб адкрыцці музея прымалася педагагічным саветам школы 20 траўня 1989 года.

Музей складаецца з шасці экспазіцыйных залаў агульнай плошчай 145 $м^2$. У ім захоўваецца 2,5 тысячы экспанатаў асноўнага і дапаможнага фонду, многія з якіх уяўляюць гістарычную, прыродазнаўчую і навуковую каштоўнасць. Гэта прадметы працы і абіходу, кераміка, адзенне нашых продкаў, старадаўняя мэбля, рэшткі зброі часоў вайны, кнігі з аўтографамі аўтараў, шматлікія дакументы і фотаздымкі, публікацыі ў газетах і часопісах, матэрыялы перапіскі.

Збор экспанатаў для музея вёўся з сярэдзіны 80-х гг. XX стагоддзя па вёсках Бердаўскага, Дакудаўскага, Беліцкага, Пескаўскага і Ліпнішскага сельсаветаў Лідскага і Іўеўскага раёнаў. Ёсць экспанаты з Гомеля, Слуцка і нават з Эстоніі.

У музеі прадстаўлены наступныя экспазіцыі:

1. Першабытнаабшчынны лад на Лідчыне.
2. Месца Лідчыны ў ВКЛ і РП.
3. Маёнтак "Бердаўка".
4. Жыццё і побыт беларускага сялянства з канца XIX ст. да 50-х гг. XX ст.
5. Вялікая Айчынная вайна ў нашым краі.
6. Калгас "Бердаўка".
7. Флора і фаўна раёна.
8. Славутыя землякі.
9. Гісторыя школы.

Кожны экспанат – гэта гісторыя жыцця нашых продкаў. Музейная экспазіцыя пабудавана на аснове спалучэння тэматычнага, сістэматычнага і ансамблевага метадаў.

Так, напрыклад, тэматычная экспазіцыя "Першабытнаабшчынны лад на Лідчыне" падпарадкавана храналагічнаму прынцыпу і адлюстроўваецца ў дыялектычным развіцці. У ёй экспазіцыйныя комплексы аб'яднаныя ў тэмы і раздзелы.

Сістэматычная экспазіцыя дазваляе дэманстраваць калекцыю аднародных прадметаў. Так, калекцыя археалагічных знаходак дэманструецца ў адпаведнасці з навуковай сістэматыкай, прынятай у археалогіі.

У ансамблевай экспазіцыі захоўваюцца ці ўзнаўляюцца на дакументальнай аснове абставіны, звязаныя з гістарычнымі падзеямі, культурай, побытам народа, дзейнасцю выдатнай асобы. Менавіта гэты метад выкарыстаны пры афармленні экспазіцыі "Жыццё і побыт беларусаў у канцы XIX -сярэдзіне XX ст.ст", "Апошні ўладальнік маёнтка "Бердаўка" А.С. Дамбавецкі", "Лідчына ў гады Вялікай Айчыннай вайны".

У музеі вядзецца дакладная ўліковая дакументацыя (інвентарная кніга, акты прыёму музейных рэчаў, вопісы прадметаў, якія ўзяты на ўлік дзяржаўным музеем, навуковыя пашпарты, картатэка).

У арганізацыі работы музея актыўны ўдзел прымаюць вучні. Асноўную частку працы ажыццяўляе актыў. Але да працы абавязкова прыцягваюцца вучні, якія неўходзяць у яго лік.

Педагагічнае кіраўніцтва работай актыву музея ажыццяўляе настаўнік, які прызначаны загадам дырэктара школы. Педагог-кіраўнік перадае свой досвед, вучыць арганізацыйнаму майстэрству, дапамагае лектарам і экскурсаводам у распрацоўцы і правядзенні лекцый, экскурсій, арганізацыі масавых мерапрыемстваў, афармленні экспазіцый музея.

Работу музея арганізуе Рада, якая складаецца з пяці сектараў: пошукавага, перапіскі, экскурсійнага, фондавага, афармiцельскага. У склад Рады музея ўваходзяць, як вучні, так і настаўнікі, і ўсе яны аб'яднаны ў клуб "Спадчына". Рада музея невялікая, што дазваляе лёгкаёю кіраваць, аператыўна разглядаць тыя ці іншыя пытанні. У Радзе музея ёсць адказныя за асобныя кірункі дзейнасці.

Сектар пошукавай працы займаецца камплектаваннем фондаў, распрацоўкай маршрутаў вандровак і экспедыцый, арганізацыяй заняткаў па вывучэнні методыкі выяўлення і збору помнікаў гісторыі, культуры, прыроды, іх апісанне, запіс успамінаў, апавяданняў і г.д. Сектар перапіскі наладжвае і вядзе перапіску з установамі, арганізацыямі, музеямі, выпускнікамі школы, з цікавымі людзьмі. Фондавы сектар вядзе ўлік дакументацыі, арганізуе захаванне помнікаў гісторыі, культуры, прыроды, кантроль за рэжымамі захавання. Сектар экскурсійнай работы распрацоўвае і праводзіць агляды, тэматычныя экскурсіі, вучэбныя экскурсіі па прадметах школьнай праграмы. Афармiцельскі сектар займаецца распрацоўкай новых экспазіцый, адборам экспанатаў, падрыхтоўкай этыкетажу, афармленнем і мантажом экспазіцый для музея і выстаў.

З актывам музея вядзецца пастаянная праца па іх падрыхтоўцы. Рыхтуюцца і абмяркоўваюцца матэрыялы для экскурсаводаў, праводзяцца сустрэчы з навуковымі супрацоўнікамі Лідскага музея, арганізуюцца экскурсіі ў музеі гарадоў Гародні, Менска, Навагрудка, Міра, Нясвіжа, Полацка. Сябры Рады музея прымалі ўдзел у шматлікіх раённых, абласных, рэспубліканскіх і міжнародных семінарах па краязнаўстве, музейнай справе. Праводзіліся сустрэчы з вядомымі навукоўцамі, паэтамі і пісьменнікамі Беларусі. Так, напрыклад, актыў музея ўдзельнічаў у навукова-практычнай канферэнцыі "Гістарычныя і філалагічныя навукі як сродак фармавання нацыянальнай самасвядомасці" з запрашэннем галоўных рэдактараў "Гістарычнага часопіса" Васіля Кушнера, часопіса "Роднае слова" Міхася Шавыркіна, рэдактара "Лідскага летапісца" Станіслава Судніка, гісторыка Паўла Лойкі. Цікавымі і запамінальнымі былі выступленні супрацоўнікаў Нацыянальнай Акадэміі Навук РБ Яраслава Звяругі, Міхася Чарняўскага і Вадзіма Лакізы. Актыў музея і вучні школы даведаліся пра археалагічныя помнікі Лідчыны, пазнаёміліся з некаторымі знаходкамі,

праблемамі археалагічнай навукі. Актыў музея меў магчымасць праслухаць выступленне знакамітага беларускага этнографа Янкі Крука па тэме ”Абрады і звычаі беларусаў”, сустрэцца з беларускімі паэтамі Рыгорам Барадуліным, Міхасём Скоблам, Уладзімірам Клімовічам, Данутай Бічэль, пісьменнікам Уладзімірам Арловым, беларускімі бардамі Зміцерам Бартосікам, Алесем Камоцкім, Алесем Мельнікам і Андрэем Хадановічам, навукоўцам-педагогам Пшэмыславам Фенрыхам з Польшчы, прадстаўнікамі беларускай дыяспары з Вільні.

Рада музея сумесна з сябрамі клуба “Спадчына” ў рамках Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі “Наш край” праводзіць вялікую пошукава-даследчую і асветніцкую працу. Так, у 1997, 1999, 2000 і 2004 гадах арганізоўваўся і праводзіўся летнік “Юны археолаг і этнограф“, удзельнікі якога пад кіраўніцтвам супрацоўнікаў Нацыянальнай Акадэміі Навук кандыдатаў гістарычных навук Вадзіма Лакізы і Яраслава Звяругі здзяйснялі паверхневыя зборы і раскопкі археалагічных помнікаў у раёне вёскі Дакудава, курганнага магільніка ля вёскі Касоўшчына, адкрылі і абследавалі невядомы курганны магільнік ля вёскі Сцеркава, даследавалі пясчаную дзюну ў пойме ракі Дзітва каля вёскі Даржы, дзе знаходзілася майстэрня першабытнага чалавека па вырабу крамянёвых прыладаў працы. Частка знаходак пасля апрацоўкі супрацоўнікамі НАН РБ перададзена Бердаўскаму музею. Рэгулярна здзяйсняюцца этнаграфічныя экспедыцыі па вёсках Бердаўскага, Дакудаўскага і Ліпнішскага сельсаветаў, у час якіх вядзецца збор этнаграфічных экспанатаў, праводзіцца запіс абрадаў, звычаяў, легендаў мясцовасці. Апошняя вандроўка дапамагла нам пазнаёміцца з планіроўкай беларускага мястэчка Ліпнішкі, пабываць на месцы бітвы паўстанцаў 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі з расійскімі войскамі каля вёскі Сураж Іўеўскага раёна, дазволіла зафатаграфаваць капліцу, што ўстаноўлена на полі бітвы ў памяць аб палеглых паўстанцах.

У розныя гады вялася перапіска з ваеннымі, партыйнымі, дзяржаўнымі архівамі і музеямі. Дзякуючы гэтай працы знойдзены многія сваякі воінаў, што загінулі падчас мінулай вайны і пахаваны ў брацкай магілеў парку вёскі Бердаўка. Вельмі цікавы матэрыял пра апошняга ўладальніка маёнтка “Бердаўка” губернатара Магілёўскай губерні А.С.Дамбавецкага, атрыманы з Магілёўскага гісторыка-краязнаўчага музея.

Змястоўны матэрыял аб канфесійным складзе насельніцтва вёсак сённяшняга Бердаўскага сельсавета канца XIX – пачатку XX стагоддзяў сабраў выпускнік нашай школы, былы прарэктар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта кандыдат гістарычных навук М.В. Васілючак. Маюцца трывалыя сувязі з Нацыянальнай Акадэміяй Навук РБ. Вядзецца перапіска з супрацоўнікамі Акадэміі, для музея перададзены кнігі з аўтографамі аўтараў.

На базе музея праводзяцца школьныя, раённыя і абласныя семінары па краязнаўстве і музейнай справе. Матэрыялы музея дазваляюць больш змястоўна і цікава праводзіць урокі гісторыі, літаратуры, геаграфіі, біялогіі, пазакласныя выхаваўчыя мерапрыемствы. Вельмі шмат урокаў у музеі праводзяць выкладчыкі гісторыі 5-11 класаў і настаўнікі пачатковых класаў па прадмеце “Мая Радзіма– Беларусь”. Дзякуючы багатым матэрыялам, што маюцца ў музеі, яны дабіваюцца высокай выніковасці засваення вучэбнага матэрыялу.

Сярод вучняў школы праводзяцца конкурсы па этнаграфіі краю, па гісторыі вёскі, гісторыі калгаса, школы. Арганізоўваюцца фальклорна-абрадавыя святы ”Калядкі”, ”Вячоркі”. У пачатку навучальнага года кожны клас атрымлівае заданне на збор матэрыялаў аб ветэранах вайны і працы, аб людзях, што пакінулі свой след на нашай зямлі. Сабраныя і афармленыя матэрыялы затым перадаюцца ў музей. Рада музея сумесна з дырэкцыяй школы распрацоўвае маршруты паходаў па цікавых мясцінах, звязаных з гісторыяй нашай Бацькаўшчыны. Гэта і наведванне прамысловых прадпрыемстваў, музеяў, і археалагічныя разведкі, раскопкі, і этнаграфічныя вандроўкі.

У траўні 2005 года сябры клуба ”Спадчына” і актыў музея арганізавалі прэзентацыю творчасці мастака, скульптара і паэта, выпускніка Бердаўскай сярэдняй школы Рычарда Грушы. Вучні, бацькі і настаўнікі змаглі пазнаёміцца з творчасцю нашага таленавітага земляка, наведалі выставу карцін, праслухалі песні на яго вершы. Рычард Баляслававіч прадэманстраваў дзве свае апошнія працы – мемарыяльныя шыльды людзям, што пакінулі след на Бердаўскай зямлі: уладальніку маёнтка “Бердаўка”, беларускаму краязнаўцу Дамбавецкаму А.С. і былому старшыні калгаса, у перыяд кіраўніцтва якога быў адбудаваны пасёлак Бердаўка, Каранюку А.А. Мемарыяльная дошка А.С. Дамбавецкаму адкрыта сёлета на палацы.

18 год музей працуе на грамадскіх пачатках на даволі высокім арганізацыйным і навуковым узроўні ў навукова-асветніцкай, збіральніцкай, фондава-захаваўчай, папулярызатарскай і культурна-выхаваўчай рабоце.

Штогод музей наведвае ў сярэднім больш за тысячу чалавек. Гэта вучні не толькі нашай школы, але суседніх сельскіх, а таксама гарадскіх школ, дарослыя людзі з розных мясцін нашай краіны.

У штогадовым плане работы музея імкнёмся адлюстраваць розныя бакі сваёй дзейнасці. Наш музей будзе развівацца. Плануецца адкрыццё новых экспазіцый, збор экспанатаў, сустрэчы з цікавымі людзьмі, вандроўкі па нашым краі, археалагічныя раскопкі, семінары. Сёння, калі вялікая ўвага надаецца турызму, мы збіраемся ўключыць наведванне музея ў экскурсійны маршрут. Будзем займацца добраўпарадкаваннем тэрыторыі парку, абазначэннем месцаў размяшчэння гаспадарчых пабудоў маёнтка.

Чакаем новых гасцей і наведвальнікаў.

Праца педкалектыву школы і актыву музея адзначана граматамі, дыпломамі і каштоўнымі падарункамі. Так, у 2000 годзе школа заняла 1 месца ў краіне на лепшую вясковую школу па нацыянальна–культурным адраджэнні, у 2001 годзе ўдзельнічалі ў абласным

конкурсе відэафільмаў "Гарады і мястэчкі Гарадзеншчыны", дзе наш відэафільм "Ёсць куток на зямлі…" правёску Бердаўку заняў 1 месца, у 2002 годзе гістарычны гурток стаў дыпламантам IV фестываля нацыянальных культур, у 2004 годзе сябры клуба "Спадчына" за дапамогу ў правядзенні археа-лагічных раскопкаў былі ўзнагароджаны Пахвальнай граматай Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук РБ, 17 чэрвеня 2005 года рашэннем калегіі ўпраўлення культуры Гарадзенскага аблвыканкаму гістарычна-краязнаўчаму музею Бердаўскай СШ прысвоена званне "Народны музей", у 2006 годзе музей узнагароджаны Дыпломам за перамогу ў рэспубліканскім конкурсе краязнаўчых музеяў устаноў адукацыі па тэме: "Даследчая дзейнасць і навуковыя дасягненні сучаснага музея ўстановы адукацыі".

Наяўнасць у школе музея дазваляе глыбей вывучыць і асэнсаваць гісторыю, культуру ў мэтах развіцця інтэлектуальных, маральных, культурных і творчых магчымасцяў вучняў, выхоўваць у іх нацыянальную самасвядомасць, далучаць іх да нацыянальнай і агульначалавечай культуры, удзельнічаць ва ўдасканаленні вучэбна-выхаваўчай работы, праводзіць культурна-асветніцкую працу сярод вучняў, бацькоў, насельніцтва.

***Анатоль Крупа.***

## *Бердаўскі музей. Экспазіцыя "Жыццё і побыт беларускага сялянства з канца XIX ст. да 50-х гг. XX ст."*









*Жыццё пачынаецца ад печы*















*У добрага гаспадара павінна быць усё.*

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**Выдавец Зміцер Колас, г. Менск, выдаў кнігу Леаніда Маракова “Ахвяры і карнікі”, 440 ст. Наклад 100 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Кнігазбор”, г. Менск, выйшла кніга Вольгі Іпатавай “Свабода да апошняга дыхання”, 184 ст. Наклад 500 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшла кніга “Гарадзея”. Укладальнікі А.С. Бруй, Л.П. Качаноўскі, С.П. Самуэль. 192 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**



**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшаў 4-ты том энцыклапедыі “Гарады і вёскі Беларусі”. “Брэсцкая вобласць. Кніга ІІ” 608 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Медзісонт”, г. Менск, выйшла кніга Вольгі Грыцук “Мы стваралі сваюБеларусь”, 256 ст. Наклад 500 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларусь”, г. Менск, выйшла кніга Зінаіды Дудзюк “Кола Сварога”, 296 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Сучасная школа”, г. Менск, выйшаў вучэбны дапаможнік “Гісторыя Беларусі ў кантэксце сусветных цывілізацый”, 480 ст. Наклад 750 асобнікаў.**



***Куточак старой Ліды з новай водакалонкай (вул. Кірава).***
*Здымак Ігара Пешахонава.*